# КАЛОСЬСЕ

Літаратурна-навуковы часапіс

*КНІЖКА 1 (10)*



ВІЛЬНЯ 1937 ГОД

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2**

Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.

Часапіс выходзіць раз у тры месяцы

## Зьмест кніжкі 1 (10) „Калосься“



Белар. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 1 (10)** **1937 г.** **Год III**

* * *

*„Калосьсе“ пачынае трэці год свайго існаваньня. Усяго гэтага часапісу выйшла ўжо за два гады 9 кніжак: у першым годзе 4, а ў другім — 5. З гэтага бачым, што часапіс наш нятолькі выканаў намечаны плян, бо-ж ёсьць ён квартальнікам, але яшчэ выканаў яго з надвыжкай.*

*Што-ж жджэ нас далей, прынамсі ў сёлетнім бягучым годзе? Датрымаем слова свайму беларускаму грамадзянству, ці не? Трудна даць пэўны адказ на гэтае пытаньне. Час пражываем неспакойны, трывожны й трудна нам варажыць аб далейшым лёсе „Калосься“. Трудна й непатрэбна. Скажам толькі агулам, што за працу й у гэтым годзе бяромся з энэргіяй, запалам і з поўнай сьведамасьцяй грамадзкай адказнасьці, а як нам наша праца ўдасца, — гэта залежа ад адносінаў да нас нашага грамадзянства й ад тых варункаў, у якіх мы прымушаны валачы сваё існаваньне.*

*Аб мэтах „Калосься“ рэдакцыя ў кніжцы 1 з 1935 г. пісала:*

*„Мэтай „Калосься“ будзе гуртаваць усіх нашых паэтаў, пісьменьнікаў, а так-жа культурных і навуковых працаўнікоў, старэйшых і малодшых, дзеля супольнае позытыўнае працы на ніве роднае культуры. Адначасна з гэтым „Калосьсе“ будзе будзіць ініцыятыву да новых пачынаньняў, узгадоўваць маладыя літаратурныя сілы, ськіроўваючы ў найбольш адпаведным кірунку іхнія заінтэрасаваньні. Ставячы сабе так шырокія мэты, Рэдакцыя будзе старацца, каб наш часапіс меў характар агульна-беларускі і рэпрэзэнтаваў, па магчымасьці, усе віды літаратурнае творчасьці і тыя галіны навукі, якія зьвязаны беспасярэдна з беларускім адраджэньнем (артыкулы з галіны беларускае літаратуры, мовы, мастацтва, гісторыі, этнографіі і інш.).*

*Дзеля большага контакту з літаратурна-навуковым рухам наагул, у часапісе будзе зьвяртацца вялікая ўвага на рэцэнзіі літаратурных твораў і навуковых працаў, а так-жа на справаздачы з навуковага й літаратурнага беларускага жыцьця".*

*Узноў-жа аб гэтым самым у кніжцы 1, 1936 г. у ўступным рэдакцыйным артыкуле між іншым чытаем:*

*„Мэтай-жа нашай ёсьць: гуртаваць беларускія літаратурныя і навуковыя сілы, друкаваць іх творы і такім чынам прычыняцца да тварэньня беларускай культуры і пашыраць яе ў шырокія слаі нашага грамадзянства й народу. Робім-жа мы гэта, бо сьвята верым, што культура народу — найгалаўнейшая падстава лепшага ягонага заўтра".*

*Вось-жа запытайма цяпер, ці споўнілі мы хоць часткова тое, што намецілі ў гэтых мэтах нашага часапісу? Бязумоўна так. Лепшыя паэтычныя творы маладых беларускіх паэтаў, цэлы рад артыкулаў з беларусаведы, навуковыя зацемкі, рэцэнзіі і інш. — усё гэта гавора сапраўды аб тым, што „Калосьсе" сваё заданьне ў меру сваіх сіл дагэтуль споўніла.*

*А што-ж далей? Дужа проста. Далей дарога працёртая і простая. І далей пойдзем раз намечаным шляхам служэньня беларускай культуры і шляхам тварэньня яе.*

*Ідэовыя рамы нашага часапісу шырокія й усім, хто хоча прыслужыцца беларускай народнай культуры, часапіс гэты даступны.*

*Дык супольнымі сіламі да супольнай мэты!..*

*РЭД. КАЛЕГІЯ*



## Паэт

Сьвет гарыць... Патаёмна й адкрыта
Йдзе змаганьне .. Ня ўспомніць нязгод.
А над сьветам маною спавітым
Восень жоўта цьвіце, як што год.

Ты, паэце, ня відзіш пажару
Там, далёк... Ты — благі барацьбіт.
Ўсей душою у восенных чарах
Лічыш вершаў разбуджаны рытм.

Блескі сонца сачыш на аўсяньні,
Сінім змрокам малюеш палі.
Для цябе ненавісьці й змаганьні
Гдзесь за межы жыцьця адплылі!

---

## Зімой

Абтрасьлі, разнясьлі па начах вятругі
Няжывое, пажоўклае лісьце бярэзін.
Шкляным пылам іскрыцца мароз на гальлі,
Беліць далі пустыя і мутныя сьнежань.

Замест ржавых паўтонаў асеньніх гадзін
Навакола паўсонная, белая пустка,
Ды над вострымі вежамі цёмных хваін
Шэра-сініх нябёсаў зімовая хустка.

Што зіма — я ня гледзячы, ведаю й так,
Бо ў душы маёй дзіўная мова маўчаньня.
Першы сьнег, раньні змрок мне даюцца узнак:
Кожны крок да жыцьця і спыняюць, і гоняць.

Не хачу я й ня ўмею пяяці зіме,
Красаваці на шыбах зімовай шыпшынай,
Пакуль холад зімовы саўсім не сатне
Мае думкі й парывы апошнія спыніць.

І жыву я зімой толькі тым, што было.
Йду між пальцамі золата восені сыпаць
І ў дадзелым маўчаньні гальля бяз лістоў
Слухаць шуму жаўцеючых, восенных ліпаў.

1936 г.

* * *

Не ў царкоўцы малітвай, сьвянчонай вадой, —
Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін, я пушчы пяю залатой,
Разумею палёў васільковых размовы.

Да мяне ня мутною вадой каляін
Падыходзіць вясна і ня сьнегам счарнелым, —
Мне сьмяецца яна жоўтым пухам вярбін,
Яснай жаўранка песьняй з палёў зарунелых.

Не сьпякотаю лета глядзіць мне у твар
І ня бурамі цьвет абівае з чарэсьняў, —
Каласістая ніва, адвечны пясьняр
Залатыя, гарачыя зносіць мне песьні.

Мне ня жаліцца восень у дробных дажджох,
У гнілых туманох на размоклым загоне, —
Мне яна павучыньне пляце ў лазьнякох
Жоўтым сном на ціхое кладзецца аржоньне.

А зіма не завеяй брыдзе на мяне,
Не сьляпою мяцеліцай сыпле у вочы, —
Над сьнягамі, на сінім нябёс палатне
Распаляе яна брылянцістыя ночы.

І заўсёды, заўсёды паганскай жудой
Маё сэрца сьціскаецца ночай зімовай.
Не ў царкоўцы малітвай, сьвянчонай вадой, —
Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

1936 г.

*НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА*



## НА БРУКУ

Хутка дзень заплюшчыў вочы галубыя
І над местам ночка косы разгарнула.
З песьняй чэша вецер валасы сівыя,
Вецер вольнакрылы, вецер-валацуга.

Бляск лятарняў вее шоўкаваю стужкай'
Сьцеле на каменьні чорных ценяў латы.
І людзей нямала сярод шумных вуліц,
Паплылі вясёла ў кіны, у тэатры.

Безработна з дзецем, быццам ліст сарваны,
Жоўтая ў лахмоцьці пад сьцяной сядзела,
Галаву схіліла ніжэй, як прад панам,
Хіба можа болей есьці не хацела?

І ніхто ня бачыў, як цішком сканала,
Ды нашто галодным заглядаць у вочы!
Толькі потым вецер скавытаў нямала
Сярод неспакойнай і васеньняй ночы.

* * *

Хоць адарваўшыся песьня з грудзей
Можа і сумна чагось зазьвініць —
Яж-бы хацела душу распаліць,
Песьняй гартоўнаю біць весялей.

Толькі ня знаю, чаму за вакном
Плакалі ветры у полі ўсю ноч,
Хтось праз завею паплёўся упроч,—
Пэўна ад голаду з дому уцёк.

Эх, за работай, за хлебам у сьвет,
А сілы шмат у руках маладых!
Ды невясёла праходзяць гады...
Зноў сыпле сьнегам у вочы мяцель.

Многа, ах, многа бяз хлеба людзей!
Голад адважна у вочы глядзіць.
І адарваўшыся песьня з грудзей
Часам і сумна чагось зазьвініць.

*НІНА ТАРАС*

* * *

Поле... межы — струны.
Ніўкі — палатно.
Рэзка вецер сумны
Б'ецца у вакно.

Ні куста, ні дрэўца;
Поле, як далонь.
Ціхі сум у сэрцы, —
Сум васеньніх дзён.

Дажывае вёска
Дзень сваей пары.
Заўтра на палоскі
Прыйдуць хутары.

Разьбягуцца хаты
У прастор, у сінь.
Будзе там араты
Сумаваць адзін.

Два гактары хутар—
Разгарніся тут!...
Ой па вёсках крута,
Сее хтосьці бунт.

* * *

Прыдарожная бярозка
Ціха з ветрам гутарыла.
— Тут была калісьці вёска
Каля рэчкі над абрывам.

Каласістыя палоскі,
Красаваліся васількамі
І хадзіла гора ў вёсцы
Сьлед у сьлед за мужыкамі.

Адшумелі каля стрэхаў
Вербы, клёны і бярозкі —
Ночкай цёмнаю прыехаў
Госьць няпрошаны у вёску.

І трывогай задрыжэлі,
І асіны, і таполі,
Распаўзьліся і паселі
Хаты шэрыя па полі.

Папаўзло і гора сьледам
У прастор палёў шырокіх
І вісіць зімой і летам
Сум над хатай адзінокай...

Беднасьць... гора... сум з бядою
Жылі ў вёсцы дружна, дружна.
А цяпер паўзе па полі
Іх удвойчы за лапцюжным.

Толькі я тут пры дарожцы
Адзінокая сумую.
І тужу з зарой па вёсцы, —
Памінаючы старую.



## МЯЦЕЛЬ

Над палямі заснуўшай Краіны
Разгуляліся з сьнягамі вятры,
Замяцелілі бельлю даліны,
Карагодам пайшлі па гары.

І да вёскі з палёвых прастораў
Белагрывы нясецца прыбой.
З вішняком каля плоту заспорыў
І затрос саламянай страхой.

Лебядзіным крылом замахала
Падляцеўшы да вокан мяцель
І галодным ваўком засьпявала
Разаслаўшы ля ганку пасьцель.

Замяла усе сьцежкі і вулкі,
Наламала вярбовых галін,
Пабывала у кожным затулку
Пахаваўшы пад гурбамі тын.

Паднялася, як полым да хмараў,
Ў шыр і даль па прасторах мяцель
І гараць вёскі белым пажарам —
І гараць, ды ня могуць згарэць.

27.II.37.

* * *

Закрыў акно я шчыльна — шчыльненька,
Глядзець на сьвет — больш сіл няма.
Над вёскай дзень — як над магільнікам.
Паўзе маркота і туга.

На дне душы — лісьцё апаўшае.
Шуршаць пражытых дзён лісты
І бачу зноў даўно завяўшыя,
І мук, і радасьці сьляды.

На нова меру шлях мной пройдзены
З сяўнёй зьвінячых зёран-слоў,
І сэнс жыцьця, здаецца, знойдзены —
На вагу дум кідаю зноў.

Ізноў трывогай і пытаньнямі
Да краю поўная душа.
На песьні, песьні мае раньнія
Кладзецца сум, як цень крыжа.

*МІХАСЬ МАШАРА*

## БУДЗЕ БУРА!

Навалілася ноч чорнахмарая з захаду,
Тнуць нажамі маланкі прастор,
Пад пярунам загуў, застагнаў лес ўвесь ахатам —
І патухлі агоньчыкі зор.

Будзе бура начой! Цемра — гразь непралазная
І духота і дурачы чад.
Зашапталі дубы нешта важнае, важнае —
Прытаіліся купіны хат.

*С. ХМАРА*

* * *

І сустрэнь мяне, о поле, шыр-прасторамі,
прыгарні і ўскалышы... Каб думы цёмныя
вараньнём над галавою ня кружыліся,
не палохалі... Няхай вецер вячэрні
іх падхопіць і нясе у далі,
на лугі... Хай па гушчах лесу
іх пагубяць, расьцярушаць змрокі...
няхай душу гордую разьверне
ніва родная перада мною —
душу, ўзрытую мукаю глыбокай,
а маўклівую — маўклівую да болі!..
Няхай водгаласы склічуцца бяздомныя
і спаўюцца хай задумаю нямою,
аж пакуль на вёску, на курганьне
чорную накіне ноч завесу...

Мо сасьніцца мне, што з поля віхры ўзьбіліся,
цемру чорную раскалыхалі —
з пад сярмягаў можа бурна ўстане
песьня —
расхвалюецца разорамі
пад лапцямі, пад нагамі босымі —
і яшчэ раз прывітае мяне поле
каласамі,
сталі звонам...
і пракосамі!...

1936.

*А. БЯРОЗКА*



# Крыўда

I.

Змагаліся з васеньнім ветрам прыдарожныя голыя бярозы. Нібы дзівуючыся яго зьлюшчым парывам ківалі моўчкі галовамі, ды размахвалі як рукамі доўгімі галінамі. Вецер гнаў па дарозе, як стада дзікіх галубоў, падсмажаны восеньню жоўты ліст. Падымаўся ён над слупам дарожнага пылу — разьвітваўся, апошні раз можа, з сваімі радзімымі галінкамі, каб апаўшы зноў да долу — пакінуць існаваць.

Шэраю воўнаю парасло калісь васільковае неба. Вечарэла. Па дарозе з мястэчка, напіраючы на вецер расхрыстанымі грудзьмі, ішоў чалавек.

Падзёртая, мясцамі палатаная сярмяжка, расхілялася поламі, ловячы ды прыціскаючы да голых грудзей кавалкі сьцюдзёнага ветру. Хто ведае, можа спачувала гаспадару дзюравая, як яго доля, сярмяжка, можа душна было гэтым упалым высахшым грудзям... — „Што? — праіграў.. Судзіцца захацеў са мною — ды я цябе разую, разьдзену — голага пушчу"... Гэтыя словы выціскалі з галавы Мацея ўсе іншыя думкі, здавалася, што і вецер сьвішча ў вушы гэтыя самыя балючыя словы. Прыслухоўваўся: „Разу-ую"...—тоненька пішчэлі тэлефонныя драты. Безсэнсоўна пазіраў на ногі — ачадзелыя мазгі скукульваліся ў галаве, адмаўляліся глыбей развражаць. — Не — на нагах яшчэ віднеліся ўбогія атопкі лапцёў... — Ну што-ж, разуй! Многа карысьці будзеш мець, прагавітая морда! Ха, ха, ха! неяк горка, злацешліва, быццам наносячы гэтым сьмехам сьмяротны ўдар свайму ворагу, — зарагатаў Мацей. Крыўда падступала да горла — душыла... Бараніўся, заціскаючы ў кулак, брудныя з глыбокім пісаком на адным пальцы рукі. — „Эх, сястра, сястрычка... губіш мяне, дзяцей маіх жабракамі робіш... Не, — яна менш вінна — гэта ён"... Апраўдваў Мацей сястру, робячы сабе хоць гэтым нейкую палёгку. — Ён, гэты кульгавы чорт! Мацею зноў намацалася вачыма судовая заля. Судзьдзя неяк грозна пазіраў на яго — можа дзівіўся, скуль мог чалавек дастаць такую вопратку — падзёртую, запэцканую, а лапці... — Дзяцей кармлю! — дзеці галодныя, есьці няма чаго! — хацелася крыкнуць Мацею на ўсю залю, апраўдацца перад гэтым пытлівым злым паглядам судзьдзі — кінуць яму проста ў вочы свой дакор, сваю бяду, са злосьцю. Чуў пасьля, як праз сон, прыгавар: „Палавіна зямлі і будынкаў, якімі карыстаўся Мацей Падбіты, пераходзіць як уласнасьць сястры Барбары Кумпяк"! Хацеў крыкнуць: „Ня дам! Яна гэта... ён гэта з рызыкі... яму ёсьць што жорці, яго дзеці сытыя, адзетыя"... Шукаў вачыма спогаду навакол, — людзі апусьціўшы галовы стаялі моўчкі. І паказалася Мацею, што стыдна ім усім стала, што гэтак несправядліва пакрыўдзілі яго.

Толькі партрэты са сьцяны, з нейкімі вусатымі людзьмі глядзелі грозна, як і судзьдзя, на Мацея. Выйшаўшы з суду, бачыў, як праціскаўся да яго швагер. — Ага... — думаў Мацей—сумленьне загаварыла, шкада стала... Бо і што-ж тут дзяліць — два гэктарыкі ўсяго маю — кароўка ды конік, ды нейкая кульгавая качка, як раз во, як гэты — што чыкілдае да мяне,—ужо троха весялей падбадзёрыўшыся думаў Мацей.

— Ну што-ж! — не хацеў бяз суда абыйсьціся, па дабру, пасуседзку — ўрэшце — пашвагроўску, дык вось і маеш... — загаварыў хрыплым, грудным голасам швагер і далей наступаючы на Мацея ўжо крычаў словы, якія праз усю дарогу калолі яго, зьдзекаваліся над ім сваёю нагласьцяй. Яшчэ ўспомнілася, як рыжыя, рэдкія, нібы пасаджаныя валасіны на барадзе — стырчэлі кожная па сабе, як на вожыку шпількі; падтрасаліся ў такту грозных слоў швагра. Далей ня памятаў добра... Злосьць і сьлёзы крыўды не далі яму нічога сказаць. Здаецца хацеў махануць кулаком у гэтую праклятую бараду — выламаць апошні зуб, што клыком пароў дзесь пад верхнюю губу. Нехта за руку адцягнуў яго.

II.

Позна ўвечары дабрыў Мацей да парогу свае старэнькае хаты. Азірнуўся. — „Хіба ўжо ведаюць тут пра маю крыўду“ — падумаў.

Шчэрачы падазроныя вочы, пустэчай глядзела на яго з-за вуглоў ноч. Трэба было абмяркаваць, як вытлумачыць жонцы усё, каб не нарабіла раптоўна лямэнту, перапужае дзяцей... Прысеў у падпавеці. За старою, прыліпшай да зямлі адрынай, нешта у гэтым глухім ветры ніто сьмяялася, ніто плакала. — „Можа гэта доля мая так скавыча“... І чамусьці прыйшоў яму да галавы зусім забыты абразок пераж ытага. Хадзіў ён тады на сплаў — гналі да Нёмна па сваёй рэчцы плыты. Была раньняя вясна. Па палёх віднеліся яшчэ белыя плямы, у перамешку з жоўтымі пралталінамі. У змроку вечара берагі паабапал рэчкі выглядалі вялізнай пярэстай каровай. Праз увесь дзень марасіў дожджык. Прамокшыя, галодныя, зьмерзшыя—меліся ўжо прыстаць на начлег. Мацей рыхтаваў тарноўку. Плыт меліся браць на артоль,*) бо былі ў чыстым полі, ня было ніякага дрэўка, каб затарнаваць іншым спосабам. Раптам з галавы плыта пачуў сіплы голас свайго таварыша: „Сюды“! Не прабег Мацей і дзьвёх лавак, пачуў як са стукам штосьці затрашчэла і зноў той самы голас крыкнуў: „Уцякай — ратуйся“! Ведаў Мацей, што гэта знача, — плыт наскочыў на падводны камень. Пачало крыжаваць лаўкі, рваць ужвы, у гэткіх выпадках бывае і сьмерць. Бачыў,

*) Даўгі завостраны кол з прывязанай тарноўкай, вылезшы на бераг; гэты кол трымаючы стырчма чапляе за зямлю, паступова стрымоўваючы плыт.



як таварыш яго кінуўся ў ваду... Сьцюдзёная рэчка прыняла і Мацея ў свае ня вельмі мілыя абняцьці. Выплылі на бераг. Вада ўсё яшчэ друзгатала, падкідала на сваіх ўсьпененых грудзёх, як трэску, грамоздкі плыт. Цешылася з свае перамогі, сьмяялася над мізэрнымі людзьмі плытнікамі, што выплюнула іх, як крошкі, на бераг. Сернічкі намоклі, агню было разьвясьці немагчыма.

Разважалі, што рабіць — да вёскі ня блізка... У гэты самы мамэнт, дзесь далёка, далёка, але выразна, пры ціхім вечары пачуў Мацей, як сумны, але відаць малады яшчэ мужчынскі голас пяяў: „Эх ты до-оля, мая до-оля, дзеж ты ро-одная мая-я“! Далей чамусьці перарваўшы на хвіліну канчаў: „Адгукніся, пацеш ду-ушу гарамыкі ратая-я“... Надыходзячая ноч прыглушыла хутка рэха апошніх слоў, толькі ў душы Мацея гэты ўрывак песьні пакінуў глыбокі сьлед. Няма ведама, ці доўга Мацей сядзеў-бы адзін з сваім пераглядам мінулага горкага жыцьця, але голас пад яго вакном вывеў з задумы: „На сходку! — дзе гаспадар“? — Няма яшчэ, — пачуўся ў адказ жывы дзіцячы галасок.

Відаць ня спалі яшчэ, чакалі і дзеткі яго. Вясёлая ўсьмешка радасьці забегала па дзіцячых тварыках: „Татка, татулька прыйшоў. Татка, цукерку... Татка, мне булачку! А ты мне абяцаў гармонічак купіць“... Яны не пераж ывалі йшчэ гора, хаця і бачылі, адчувалі заўсёды яго. Лепяталі танцуючы весела навакола бацькі. Сабраў усіх, пагладзіў па галоўках. За сэрца цікнула штосьці гарачымі абцюгамі. Ціхая балючая радасьць гледзючы на дзяцей варушылася дзесь у глыбіні душы.—„Ну, як суд?“ — запытала жонка. Маўчаў панура зьвесіўшы над сталом галаву. Зразумела ўсё... Ня пытала больш. У блядым васковым твары на мамэнт заіграў румянец. Перажывала моўчкі. Прытуляла да грудзей малыша, а на лахмаценькую яго галоўку адна за другой падалі матчыны сьлёзы.

III.

Солтыс, чалавек у сярэдніх гадох, адчыніў сход.

— Папярэджваю грамадзян зараньня, мне каб быў на сходзе парадак, не рабіць галасу.

— Ты глядзі, Прахор, скуль у яго гэткі начальніцкі і выгляд узяўся, эх — мор-рда!... — Ціха там, калі хто мае сказаць, можаце гаварыць моцна, шэптаў мне каб ня было, а перадусім трэба прасіць слова! Дык вось ёсьць такі наказ з воласьці, каб сабраць на фундуш дзяржаўнае абароны па два кілі з гэктара жыта, хто ня мае жыта — хай плаціць грашыма, бо... — Што бо? — гавары, нас пужаць няма чаго. Напужаныя. Што я дам, галава твая міністэрская, сам-жа ведаеш — купляю...— Тут прымусу няма, даецца з добрае волі, але... — Дагаварвай, пане сол-

тыс, дагаварвай. Мікіта бач разявіў рот па самыя вушы, выскажы ты яму, што ў цябе пад гэтымі *„бо“* ды *„але“* захована!

— От, ня ведаеце, — навінчвае гайку, выслужываецца. — Я-б нават даў, — адазваўся з-за печы стары Цімох, пазычыў-бы, а даў-бы — можа падатак даравалі-б... — Ха, ха, ха, — загуло як у пчаліным вульлі ў солтысавай цеснаватай хаце. — Дзядзька Цімох сказане заўсёды.

— Ціха! Няма чаго тут жартаў строіць, парадачны чалавек гэтак ня скажа, хто мае што сказаць, хай просіць слова, а то — аштрафую...— Пане солтыс, прашу слова,— азваўся з клінаватай, пасярэбранай барадой былы царскі чыноўнік.

— Гаспада! Мамэнт „очень“ важны. Я тут вам „декламировать“ падробна ня стану, — скажу только адно: за царом бацюшкай „всякое сопротивление власти“...

— Даволі, даволі, ратуйце ката, кот душыцца ад слёз! — Дзядзька, дзядзенька, павошта гэтак жаласьліва гаварыў. — Ты Мітры ня сьлінь, таксама-ж з цябе баба. — Не магу, браткі, за самае сэрца шарпануў, дальбог не магу, запомніў я яго грэшны зусім, аж тут раптам: „цар бацюшка“... Усё нутро распаліла...— Ха, ха, ха і бізунчык пэўне спомніў — што?... — Ціха! Ці ўрэшце вы лічыцеся з солтысам, ці не? Больш паўтараць ня буду. Я бачу — якраз усе тыя, хто зусім ня плаціць падаткаў, да каго так любіць часта заглянуць сэквэстратар, адмаўляюцца даць дапамогу — так і запішам... Пішы, браце, пішы — папера не пачырванее. — Пане солтыс, трэба разьбірацца, хто ня хоча, а хто... Го, го, абразіў солтыс чалавека, то-ж Кумпяк можа заплаціць, павінен на'т барышу паставіць — ён сяньня швагра асудзіў. Нарасьце на Кумпяку яшчэ трохі сала. Смактануў крыві з чалавека.—Пакінь, Рыгор,— памылку маеш — крыві ён не смактануў, бо ў Мацея яе няма, — сухі як шкілет, — шпіку з касьцей, можа быць, — праўда Мацей! — Браткі загінуць прыдзецца — пакрыўдзіў ён маіх дзяцей... аб сабе я не гавару... вытрымаю можа да тае пары, каб памсьціцца... Хай ня думае, жывадзёр, — вешацца не пайду... Браткі, дзяцей шкада — пяцёра... чым яны вінныя? Галодныя сядзяць. Кароўку маю — прадаць трэба —прасудзіў... Браткі, ня дайце дзецям загінуць.—Сорам, Кумпяк, — ці палезе табе ў пражорнае горла кавалак хлеба, — чуеш, што твой швагер гаворыць! Сорам, нашоў у каго... — Хлопцы. Грамадзяне, дайце сказаць... — Эх ты юдаш! Грамадзяне, прашу слова. — У солтыса прасі, а то абразіцца... Солтыс чалавек ня наш, а хто яго выбіраў, хай той просіць слова. Ціха! — дайце Пятруку „рэч“ махнуць. — Гавары! — Хлопцы, я сваю ахвяру на першы раз, што з мяне належыцца, як сказаў наш пан солтыс, па дзьве кілі жыта з гэктара, даю, як дапамогу Мацеевым дзецям...

У хаце солтыса запанавала цішыня. З натоўпу выляцеў нечы раптоўны цяжкі ўздох. Мацей затуліўшы далоньмі вочы, згорблены, прыціснуты відавочным цяжарам, сядзеў у парозе. Хітрыя вочы солтыса раз стрэльнуўшы



злосьцю ў прамоўцу, уткнуліся зноў у разложаныя на стале паперы. Мамэнт быў напружаны. Пятрук гаварыў далей:—Да гэтага яшчэ дадаю ад сябе кошык бульбы і паўгарца круп. Заўтра, Мацей, можаш прыйсьці па сваё належнае. — Брава, Пятрук! Вось дык сказануў, я гэта ўвесь час думаў, бадай цябе — вырваў нібы з вуснаў словы, — я таксама даю...— І я!— І я! — пасыпаліся з натоўпу выкрыкі. — Пятро, запішы ўсіх, хто дае дапамогу Мацею... — Не, гэта зробіць солтыс. Гэта рэч грамадзкая і ён мусіць зрабіць! Пане солтыс, запішы... — А вы багацеі, што-ж маўчыцё? Шкада бульбы кошык даць...паску-уды!—Не чапай іх, Рыгор, яны ўжо няхай даюць у другое месца — крыўды ня будзе, бо неяк і сорам ім было-б зьліцца з—„пралетайламі“, як яны нас называюць. Урэшце азваўся Мацей: Браткі... хачу падзякаваць вам усім, хто... — Пакінь, Мацей, падрастуць дзеці, яны падзякуюць, можа наша табе дапамога паслужыць прыкладам для многіх, як трэба ратавацца, каб жыць, а не загінуць... Няма нам на каго спадзявацца — пакінь...

Неяк загадкова скрыпелі дзьверы солтысавай хаты, выпушчаючы па некалькі чалавек са сходу людзей. Сьцюдзёны васеньні вецер выскакваў раптоўна з-за вугла ды выдзьмухваў з вопраткі несенае з хаты цяпло, пасьля мкнуўся дзесьці ізноў з сіплівым сьвістам хаваючыся ў цёмным бяздоньні. Пахла глухою поўначчу.

*МІХАСЬ ВАСІЛЁК*

* * *

Я пытаўся у варожкі
Пра сьцяжынкі, пра дарожкі—
Да цябе.
Я пытаўся у варожкі,
Ці кахаеш ты хоць трошкі
Ты — мяне.
І сказала мне варожка,
Кінь пытацца пра дарожкі —
Да яе.
На сьцяжынках, на дарожках
Не сумуюць яе вочкі
Па табе.

Не сядзі ты познай ночкай
Пад акном.
І ня снуй ты думкі горкай
Палыном.
Не глядзі у даль нямую —
У змрока-муць.
Што прайшло, таго ніколі
Не вярнуць.

*М. МАШАРА*

# НАРАЧ
**(Частка пятая)**

1.

Сосны зялёныя,
шумныя сосны!
Тонуць у небе густыя вяршыны.
Ў ночы сасновыя дзіўныя кросны
ткуць па азёрнай ўсхвалёванай сіні.

Вецер з шырокіх паднебных аселіц
хмары, як сена, зграбае у копы.
Сьпяць баравыя забытыя тропы,
чорныя пацеркі ліча яленец...

Вочы памые зара — чараўніца,
поглядам спаліць крылатыя бровы,
доўга тады дагараюць зарніцы
мокрай расою на шышках сасновых...

— — — — — — — — — —

Берагам цягнуцца хаты — палацы,
шыбамі топяцца ў сініх азёрах;
ясна глядзяць на далёкія горы
нівы у золаце сонца гарачым.

Неба пасьцілкаю сьцеле далёка
шэрую долю і зрэбныя вёскі,
ціхі магільнік стары, адзінокі
з вечна сумуючай вербай, бярозкай...

Людзі жывуць у палацах другія, —
хлеба ў іх досыць і хлеб без мяккіны —
глыбака ўгрызьліся ў плечы Краіны,
ўпіліся п'яўкамі ў рукі худыя.

Толькі затое ўвесь бераг рыбацкі
летам і восеньню мыецца потам,
мыецца горка сьлязамі сіротаў,
плечы мазоліць век лямкай батрацкай.

Нават і песьні там іншыя, неяк, —
звоняць яны сіратліва над полем,
сумна хвалююцца скаргай жалеяк, —
можа сумуюць па шчасьці, па волі?

Толькі часамі падымуцца горда,
сьлёзы атросшы, другія напевы;
поўныя сілы, размаху і гневу
бунтам ударацць жывыя акорды...



2.

Выйшлі...
Праз межы і поле
з вёсламі, з сеткамі бурна ішлі...
з берагу кагарак стада
ціха паднялася,
зьнікла
ў далі...
Лодкі ярцелі спусьцілі.
— Сьмела ў дарогу!
— Шчасьлівы палоў!
— Помніце: хлеб ужо выйшаў... —
сыпнуў тлум жменяй густых галасоў. —

З Нарачы выплыла сонца;
шэрыя лодкі на сонца плылі;
біліся хвалі аб вёслы
і пераліўна і шумна цьвілі.
З берагу бабы і дзеці,
гурбай на бераг прыйшлі старыкі, —
з вёсламі, з вілами вёска. —
Вочы спрагнёна глядзяць з пад рукі.
— Што...
другі бераг...
ня выплыў...
— вёска нічога ня зробіць адна.. —
Сінія хвалі шапочаць...
Сьціснула за грудзі тлум цішыня.
Моцна вачамі сівымі
ўпіўся у бераг далёкі Сымон...
Сінь безгранічная ўсюды...
Пеніцца хваляў сівы перазвон...
— Кагаркі можа...
ці лодкі?...
Гатаўскі, бачыце, бераг ажыў! —
Бліснулі радасьцю вочы,
быццам на твары
хтось сонца разьліў.

— — — — — — — — — —

Люблю твае, Нарач, затокі і тоні,
як вецер густыя туманы разьвесіць,
ці пена срабрыста на хвалях зазвоніць
цалуючы зоры, калышучы месяц.

Люблю, калі ў сонцы гарацць пазалотай
раскінуўшы сінія хваляў палотны,
ці шэрымі днямі сумуеш маркотна
з рыбацкаю песьняй,з зялёным чаротам.

Люблю твае буры, твае навальніцы, —
ў іх чую, як ў песьнях, жыцьцё маладое...
і хочыцца блізка грудзьмі прытуліцца
да чорных ад гневу магучых прыбояў.

3.

З прыстані, лукам мінаючы востраў,
на перарэз рыбаком,
лодка маторная пеніцца востра, —
птушкай ляціць на пралом.

Шырака стадам згуртованым, шэрым
лодкі плывуць рыбакоў.
Бурна шуміць разшумеўшыся бераг
морам людзкіх галасоў:

—Рана-ткі сяньня прачнуліся, гады!
— Бачыш,—ляціць вартаўнік...
— Трэба было-б яму плечы пагладзіць
лодку загнаўшы ў трысьнік...

З возера вецер прынёс адгалосы.
— Эх, закіпела ў далі!...
— Вернуцца сяньня. . . . . .
— Вёслы ў работу пайшлі!

З вёскі, ў сярмязе расхрыстанай, шэрай,
быццам варона ляцеў
полем да возера солтыс Цяцера.
— Рыбы відаць захацеў!?

—Што там? Кажы! Чаго ліхам прыпёрся?..
— Ў вёсцы стражнікаў шмат!...
І галасы, быццам жнівам калосься,
зрэзаў нахлынуўшы град...

Возера толькі калышыцца шумна,
б'ецца у бераг, шуміць.
— Бачыш, ідуць ярыною, праз гумны...—
будзе з дзесятак . . . . .

Змоўклі... Цясьней толькі плечы зьліліся,
глянулі . . . . . ў твар.
Сяньня вазёры, відаць, паднялiся
бурай аддаць за удар!



— Хто вас тут склікаў?
— Ніхто, прыйшлі самі...
— Слухайце, вы, рыбакі!
Сеткі аддайце!. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сымон

Ты нас ня страш, ды яшчэ ты за молад,
не напужаеш . . . . . . . . . .
тых, што ўжо бачылі войны і голад,
тых, што жывуць палыном.

. . . . . . . . . . . . . . . . .
тлум ускалыхнуўся, замёр. —
Можа вам зсечанай соснай дарогу
загараджу да азёр!...

Грышка

Не, не табе, стары, з імі спрачацца,
лезьці грудзямі на іх!
Хопе . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
сілаў у нас маладых!

Рыбачка

Сьвет завязалі галодным сіротам! —
Чым мы накормім дзяцей?!
Доўга і так бядавалі гаротна!
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Тлум пахіснуўся, як мора жывое,
з мейсца пайшлі рыбакі
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шырака сьцелецца возера шумна,
іскрыцца пенай, гарыць. —
Сінімі ўзмахамі вецер на струнах
песьняй зялёнай зьвініць.

Сонца ліецца ў далі пазалотай,
тлее начлежным агнём,
дзень дагарае за сінім чаротам
кагаркі белым крылом.

4.

Запелі дзяўчаты
і ў лесе сасоньнік,
на прызьбе пад хатай
заліўся гармонік.
„Ой жыта я жала“...—
і песьня, як золак,
напевам вясёлым
збудзіла цымбалы.
Праз межы, загоны
ў даль рэха няслося,
дзе звонам зялёным
зьвінела калосьсе.

Аб чым струны пелі?
Ёсьць песьняў нямала!—
і вёска мяцеліць
пад гоман цымбалаў. —
Аб тым, што мо' ў полі
сумуе рабіна,
варожа дзяўчына
з калосься аб долі...
І струны гавораць,
то пеняць віхураю
аб нашых вазёрах
ўзбунтованых бурай.

Тацяна

Што-ж, пэўна ня жыць нам,
я ведаю, разам
і сяньня у жытнім
калосьсі дзяразай
сум грудзі сплятае.
Ты хутка пакінеш
азёраў краіну, —
цябе ўжо шукаюць...
Мо прыйдуць на зьмену
другія тут людзі
і кагарку пэўна
сваю ты забудзеш...

Грышка

Хтось ходзе за намі, —
я даўна ўжо чую. —



Хтось ходзе начамі
і днямі пільнуе...
Свой, пэўна, вясковы...
Нічога, Тацяна,
ня возьмуць за танна
рыбацкіх галоваў!
Адно толькі горай,
што раніцай сіняй
цябе і азёры
я мушу пакінуць.

Мо' сьцежкаю польнай
з шляхоў Беларусі
калі-небудзь вольным
да вас я вярнуся.
Вярнуся па шчасьце, —
ды можа за позна —
як серп на барознах
снапы будзе класьці.
Прыйду — не пазнаеш.
Успомню сустрэчу,
успомню, таварыш,
пра сяньняшні вечар.

Я зроднены з тымі,
што век жывуць працай,
што ўсталі стальнымі
радамі змагацца.
І дзе заўтра лягу,—
ня ведаю сяньня, —
ці вып'ю сьвітаньня
вясеньнюю брагу...
З тугою ня трэба
ісьці у жыцьцё нам!...
Глянь — сыпецца з неба
зара цьветабоем! —

Залоцяцца хваляў
густыя пакосы,
а цені ўсё далей
зжынаюць калосьсе.
На бераг пакаты
схіліўся сасоньнік,
цалуе гармонік
дзесь песьню дзяўчатаў.
А вёска мяцеліць
і рэха ноч цешыць;
палотны аселіц
расой беліць месяц.

5.

Як стада спуджаных коняй,
вецер таптаў капытамі
ночы ваўністую цень,
рваўся туды, дзе за азёрныя гоні
з вечарам сінім адходзе з вёсак саломенных дзень.
Заснулі зморана хаты,
толькі ў таку не заснулі...

Грышка

Што, ужо сьпіш ты, Прахор?
Доўгая ноч...
Пагаварыць-бы нам варта...
Неяк шкада пакідаць мне Нарач і вёску і бор...

Прахор

Вось ноч!...
Ўсё брэшуць сабакі.
Вецер на сена залазіць, рве з узгалоў'я пласты;
спаць не дае, ходзе і поўзае ракам...
Кажыш: ня сьпіцца?—Ня думай. Хутка засьнеш тады ты...
Можа нарве непагоду.
Чуеш, як шчытам калоціць?Ноч завывае, як воўк.
Рана зьбіраешся выйсьці?

Грышка

Рана, яшчэ да усходу...
Што-ж абарваў, не гаворыш,—неяк раптоўна ты змоўк?
А я ўсё пра азёры
думаю. Прыдзецца можа брацца нярас за калкі,
каб адагнаць сілай рыбацкае гора,
каб ня ўпушчала у грудзі болей стальныя клыкі!..
А ты, Прахор?... Можа дрэміш?

Прахор

Не. Гавары!...

Неспакойна вецер па хустках бяроз
крыльлем шуміць, зораў арпуючы семя.
Цягне мядзьведзіца ценяў кудлатых абоз...

6.

Вартаўнік

Але і цёмна!

Месяц, як камень апаў на азёрнае дно.
Хіба ўжо поўнач
даўна мінула... Зара, быццам певень крылом,



хутка па стрэхах
спудзіўшы цені начныя зазвоне.
Дрэвы, як вехі,
чорныя мераць заснуўшыя гоні.

Першы стражнік

Добра ты помніш?
Нас толькі не завядзі у другое гумно...

Іван

Я, пан, як польны
заяц, так ведаю, дзе які лубіну сноп —
кожную хату...
Гэта зямлянка Рыгора старога...
Чорныя латы
вецер саломы разнёс па дарогах.
Далей Сымонаў
плот хату гнілую ад ветру плячамі падпёр...
Далей загоны...
Вось і гумно... Не адзін пэўна ён... з ім Прахор...

Другі стражнік

Што-ж затрымаўся?
Першы раз... посьле набудзеш ты гарту.
Можа спужаўся?

Іван

Думаю, з вамі ісьці мне ня варта.
Каб і было што...
Я сваё скончыў, пайду...

Трэці стражнік

Так, ты можаш... Ідзі!...

Іван

Пойдзеце проста.
Сяньня ўсё вецер, пан, вецер заглуша адзін...
Толькі азёры
выплясnуць сінюю раніцу бодра,
дзень на разоры
вынясе золак, расплёскае з вёдраў.
Вёска устане,
схопіцца пэўна . . . . . . . . . . . .
Але Тацяна?...
Міласьць зарой адцьвіце мо' і перагарыць...

Вось яе хата...
Посьле зайду... Нехта крыкнуў здаецца...
Можа з кудлатай
вербай так вецер шуміць?... Пэўна вецер...
— — — — — — — — — —

Тацяна

Тата, ня сьпіш можа, тата?
Крокі пад вокнамі чуеш цяжкія?..
Сяньня сабакі на вёсцы
безперастанку ўсё выюць і выюць...

Сымон

Можа ваўкі падыйшлі дзе.
Возера з ветрам удужкі ўзялося?
Сьпі! Зараз хутка устанем.
Можа табе гэта толькі здалося?

Тацяна

Я лепей выйду і гляну, —
толькі ускіну на плечы вось хустку...

Сымон

Сьпі, бо нічога ня ўбачыш...
Сьпіць яшчэ вёска, на вуліцы пуста...
Выйшла... Ня сьпіцца ей нешта.
Мо' і замоцна шуміць сяньня Нарач...
добра ня чую...

І хрыпла
сон пакаціўся па дошчатых нарах.

7

Тацяна

Што тут? Гумно адчынена... сена
вецер мо' ўсё паскідаў гэта з вышкаў...
Пэўна хтось быў тут.
Грышка, пара уставаць!... Грышка!!.
Грышка!!! —

Шумнымі ўзмахамі крыльля
вецер ударыў у твар і далёка
дзесь зашумелі
з крыкам сасонкі ў бары над затокай.—

— Грышка!...



Іван

Тацяна!.. Больш ён ня прыйдзе...
Можа ня верыш?—Пайшоў на гасьцінец
разам з Прахорам.
Слухай, Тацяна: цябе ён пакінуў,
болей ня прыйдзе, ня прыйдзе!..

Тацяна

Але чаго ты прыплёўся?

Іван

Я?... блізка
быў тут... із справай...
посьле пачуў, як ты клікала Грышку...

Тацяна

Не! ня трымай! Пусьці!

Іван

Эх, як птушка
вырвалася, паляцела. Ей-богу,
пэўна падыме
сонную вёску, арцелі на ногі...
Трэба хавацца, ўжо днее...

Невадам чорным зьбірае ноч зоры...
цягне на захад,
з ветрам на захад
у даль,
за вазёры...

— — — — — — — — — —

Гэта ня бура калоце лясы.
Быццам пажарам у шэрую муць
з рэйкі сарваўшыся звон—галасы:
б'юць, б'юць
і б'юць,
быццам у грудзі ўбіваючы цьвек.
Востра, як ножам крылаты узмах
вёску
і вецер
і ноч перасек.

Роіцца тлум рыбакоў. Бусакі
вырасьлі лесам асеньнім ў гару;
меднай трывогі — агні языкі
ліжуць зару...
— Што, чаго звоняць? — нясецца з далі.
— Дзе іх пагналі?
— Хто бачыў?... Куды?!
— Трактам кабыльніцкім іх павялі!...
Звонам Тацяна калыша народ.
Часам здаецца ей: людзі маўчаць,
ў грудзі ліецца гарачы усход,
сьлёзы зьвіняць...
Бурнымі хвалямі ў поле з сяла
выплеснуў грозны рыбацкі натоўп —
чорная хмара зямлёй паплыла...
Ў сонцы пажарам гарацць трысьнікі;
ветры загоны азёраў аруць,
толькі трывогі стальныя клыкі
рвуць
даль,
зару.

*(Канец часткі пятай).*

Вільня, 5.XI. 1936 г.



# Мастацтва

Студэнт мастацтва Яканюк сядзеў на высокім услончыку ў сваім пролетарскім атэлье. Прыжмуранымі вачыма пазіраў у вакно. Шэрыя зьмрокі не давалі працаваць. Яны цёмнай патакай пакрывалі абразы, разьвешаныя на сьценах. Мастак нярухома сядзеў. Яго сілуэт быў падобны да статуі: змучаны падарожны супачыў на прыдарожным камні. Здавалася, мастак драмаў. Ён, аднак, далей маляваў. Там, на фоне шэрых дамоў, што паўзьлі геомэтрычнымі лініямі ў вакно, укладаліся неяк асабліва колеры, застыгалі плямамі й рассыпаліся ў зрочны пыл. Там жыў яго вобраз.

Яна! Адно слова. Але ў ім столькі незразумелае красы. Столькі сіняга неба. Столькі вясеньняе зелені. Вось, як-бы абсыпаны ён цьветам яблынным, стаіць на зары свайго расьцьвету, зьбліжаецца да разуменьня нейкае тайніцы жыцьця і мастацтва. Як-бы ішоў і спаткаў некага. І, здаецца, убачыў новыя далі, павабныя й прасьветлыя. Звычайная гісторыя, і выткалася яна такімі-ж шоўкавымі зрокамі. Адноўчы.

Наняў ён, студэнт Яканюк, пакой. Гаспадыня — сама-ж і дамаўласьніца. Мае каўбасьню ў партэры. Няцікавая баба. Таўстая, засаленая. А пакой — таксама няцікавы. Такая проста недарэчнасьць. Падвал — не падвал — сырая развваліна. Адно, што спадабалася — вокны. Вялікія вокны. Удзень—сонца напіцца. А вечарамі — вялікія сінія шторы. А за домам — сад. Выбегчы крыху — абрыў. Пяе места ўвечар, і раскацістымі гармонікамі адбіваюцца недзе ў хмарах — гулкія рэхі.

У каўбасьню часам забяжыць мастак. Каўбаскі некалькі дэкаў. На дэкі купляе. Пры ўваходзе заўсёды пры дзьверах забражджыць шалястунчыкам званок. За прылаўкам — гаспадыня таўстая, а ля яе дачку часта бачыў. Маладая такая, прыгожая — лятуценьне! І неяк іх вочы спаткаліся і ўпала ад іх блеску іскрачка ў сэрца. Кожны раз, як прыходзіў, яна чырванела сьпеючай вішняй.

— Мама, не фатыгуйцеся — казала. — Я сама...

Можа й няцікавыя гэта былі словы, але мастаку яны пераліваліся крынічна. Дый ён ня чуў, а бачыў. Ня цікавіла яго добрая перавага, якую, нібы ласку, давала, зьнімаючы лоўка з нажа нарэзы каўбасы. Раскідаліся пышна сьветлым лёнам валасы яе, туманіліся ў попеле яе вочы іскрамі, падымаліся й ападалі хваляй яе грудзі дзявочыя. Замуціўся сон мастака, і шалясьцелі думкі ў цішыні. Прыходзіла яна ў снох, прыходзіла з цёмнай далечы, асьвячала сьветазарнай яснасьцю. І бліжэй, і бліжэй ён быў да мастацтва.

Звычайная гісторыя...

Пасьля ён ня стрываў. Зазваніў раз шалястунчык — званочак. Яна была адна! І ня памятаваў, ці сказаў ён, ці падумаў голасна:

— Я-б хацеў вас намаляваць. —

Загарэліся словы. Спалохаўся — ці споўніцца сон. —

— Ці дазволіце... Я-б вас вельмі прасіў... Вы-б добра выйшлі — дадаў.

Заірдзелася, як звычайна, сьпеючай вішняй і нясьмела прамовіла:

— Я спытаюся мамы. —

Пачуў усю прыкрасьць яе словаў. Нялоўка стаяў, калі важыла нейкаму кліенту. Такі марудны здаваўся ён сваімі рухамі, такі нязносны пытаньнямі.

— А гэта, выбачайце, колькі каштуе? — і пальцам торкаў у пакрыўное шкло. Не сьпяшаючыся, абрахоўваў, дзяліў цану на дэкі, паволі, так паволі, як-бы ён меў прад сабой 1000 гадоў жыцьця.

Назаўтра яна прыйшла да яго. Ціхенька пастукала і ўвайшла ў пакой. Шоўкам шалясьцела яе сукенка. Шэлест зялёных лістоў за вакном? Мастак пачуў павеў вясны ў сваёй маўклівай кельі.

— Ведаеце, мама не пазволіла. Але я прыйшла. Сказала, што йду да прыяцелькі.—

Засаромілася, апусьціла вочы.

Мастак зьбянтэжыўся. Але хутка мальбэрт стаяў на мейсцы. Ніколі так не працавала рука, ніколі так ня жмурыў вочы. У галаве лёгка кружылася, нечага дрыжала цела, а пэндзаль нэрвова стукаў.

Ужо сьцямнела, і ў пакоі ляглі сьветлымі кацянятамі водсьветы вуліцы, і партрэты ўрасьлі ў муры сьценаў. А мастак нярухома ўсё сядзеў. Думкі цягнуліся павольна неразрыўнай ніткай.

— Старыя мастакі, пэўне, ведалі нейкія асаблівыя мешаніны хварбаў. Прыпамятаваў старыя абразы ў Беларускім Музэі.

— А для яе валасоў не хапае нейкай хварбы.—

Як у поэта часам слова не хапае. —

Шэрая раніца — матавае шкло. Мастак абшукаў усе кішэні. Ані паламанага грошыка! Схапіў шапку і выйшаў на вуліцу. Ужо дзевяць. А ў дзесяць павінна прыйсьці яна. У каго-б тут раздабыць грошы? Вуліцы ідуць насустрэч мастаку, думкі выстуківаюць прозьвішчы знаёмых.

—Ага!Удава—дохтарша яшчэ вінавата за партрэт.Можа там.—

Жорсткім пяском сыпнулі словы служанкі.

— Пані няма ўдому. — Выехалі на вёску.—

Аслупеў.

— Выбачайце, а ці не пакінулі?...Я — не—нічога. Што-ж? Пастаяў на сходах, глянуў у пралёт паваротаў і, раздумываючы, пачаў саскоўзвацца пастудэнцку на парэнчы.

А мінуты бягуць хуткім маршам. О, ужо палавіна дзесятай. Зараз дзесяць гадзін. І яна прыйдзе. Пабачыць — яго няма. Разгневаецца за неакуратнасьць. І разьвеецца яго сон.



Антон, стары унівэрсытэцкі сторaж, пазычыў залатоўку. Ён неяк зразумела пабацькаўску ўсьміхнуўся і сказаў:

— Ведама, трэба жыць. А панок мне аддасьць, вядома.

О, Антон добры чалавек. Памятнік паставіць такому чалавеку.

Пот ліў градам з мастака, калі прыйшоў. Кінуў шапку, выцер пот рукавом. А можа ўжо была? — Заблукалася пытаньне. Але разводзіў хварбу, дамешваў. Спрабаваў на палатне. Цяпер, здаецца, залаціста раскінуцца валасы. Мастак адыйшоўся, трымаючы на вялікім пальцы кружок з хварбамі. Прыжмурыў вочы. З палатна сьмяялася да яго прыветна дзяўчына. Ён назаве абраз — Вясна. На выстаўцы — першае мейсца. Слова. Напружаная праца. Парыж! Оювр!

І калі так думаў, паволі адчыніліся дзьверы і ў пакой увалілася таўстая каўбасьніца. Яна зьмерыла мастака пагардлівым поглядам і абрывіста, задыхаючыся, сказала:

— Дачка мая ня прыйдзе вам тут выкрыўляцца. Яна з „парадачнай" сям'і, і вы выкіньце з галавы свае рамансы. Я не дапушчу, каб маю дачку псавалі розныя там студэнты.

— Але-ж я... — хацеў апраўдацца.

— Вы — нічога — абураная абарвала гаспадыня. Голас яе падымаўся вышэйшымі нотамі.—Я не хачу толькі скандалу падымаць. Дачку шкадую. Але хай яшчэ раз паўторыцца гэта — у паліцыю пайду, у унівэрсытэт пайду. — Каўбасьніца, цяжка дыхаючы (у яе была астма), выйшла. Дзьверы захлопнуліся, а яшчэ чуў абрыўкі цішэючага крыку. Мастак, як стаяў, так і сеў на ложку. І доўга сядзеў нярухомы, акамянеўшы.

— Падслухала, сьцерва! — злосна, з сыкам прашаптаў ён.

Думкі плылі абрыўкамі. І чамусь успомнілася яму, як ён, яшчэ на першым годзе, ня маючы грошы на білет, ехаў на паравозе з машыністам у родную Слонімшчыну. Вось ён стаіць, у парваным пальце, на пэроне. Машыніст пушчае дым з папіросы й сьмяючыся пытаецца:

— А маеш легітымацыю?

І нашто так цярпеў, нашто недаядаў! — Мастацтва! Чорт вазьмі! Мастацтва! Мальбэрт сумна стукаў ад удараў пэндзля. А ў мастака ўсё больш нарастала злосьць і праклёны калолі палатно. Хутка з партрэту зрабілася нейкая мазьня, як сьвежыя соты. Кінуў палатно ў кут. Зморана, ізноў сеў.

— Каўбасьніца! Цьфу! — Чорт! Халера! Мяшчанства!—лаяўся мастак і, седзячы, тупа глядзеў у падлогу.

Вечарам яна прыйшла да мастака. Ня стукалася, як раней. Ціха падыйшла да яго ложка, дзе ён ляжаў. Правяла рукой па чупрыне і спытала:

— Ты гневаешся на мяне? —

Мастак шырака разчыніў вочы й ня ведаў, што сказаць.

*М. ДАЛЬНЫ*

# Н І В А.

Прысьв. ЯКУБУ КОЛАСУ

*Была ніва несчасьліва,*
*ў сонцы млела, дзірванела.*
*Людцы плакалі сардэчна,*
*Наракалі векавечна —*
*Сын зямлі кляў ніву ўласну.*

*Дзеці бедныя — галодны,*
*Браты родныя — нязгодны;*
*Сонца вельмі неласкава,*
*Доля-шэльма няцікава —*
*Людзі ўпалі ў роспач страшну...*

*Эх, панура сьвішча бура;*
*Град ляскоча, выбіць хоча*
*ўсё насеньне, ўсё карэньне —*
*ўсю надзею Адраджэньня —*
*Гэй, Краіна ўся загіне!...*

*Так ня будзе — знайце, людзі!*
*Бо зярняткі з зямлі-Маткі*
*Сталі ўсходзіць. Слава, слава!*
*Сьвеціць сонейка ласкава —*
*Радасьць йдзець па ўсей Краіне.*

*Чуем голас: „Вырас КОЛАС!“*
*На Купальле плывуць хвалі:*
*Гдзе загон быў зьдзірванелы,—*
*Цьвіце КОЛАС скорасьпелы,—*
*Ураджай вялікі будзе!*

*Вецер дыша, ўжо калыша*
*КОЛАС важкі, зернем цяжкі:*
*Шуміць КОЛАС, аж іграе,*
*Салавей уторыць ў гаі —*
*Зьвесялелі сумны людзі.*

*Сонца — ясна — ў цень заходзе;*
*Бура — страшна... не зашкодзе!*
*Завыў вецер, віхор сілен:*
*Жыве КОЛАС, хоць прыхілен—*
*Пара буйны КОЛАС жаці.*

*Як на небе зоркі ясны,*
*Як на ніве кветкі красны, —*
*Так разсыпалісь дзяўчаты,*
*Хлопцы з імі. Плён багаты!*
*Жніво — бітву пачынаці!*

—о—



*Блішчаць росы, сьвецяць косы;*
*Каса звоніць, серп гамоніць —*
*Жыта, жыта!...*

—о—

*Мілы Божа, радзі збожа!*
*Каб мы з песьняй жыта жалі—*
*Сьвет красою чаравалі.*
*Каб на тым пустым папары*
*Расьлі Танкі і Машары;*
*Каб Наталкі і Бярозкі,*
*Васількі, як Божы сьлёзкі —*
*Нова буйна ПАДКАЛОСЬСЕ—*
*Расьцьвіло і налілося,*
*І зрадзіла плён паважны.*
*Хай жывуць!...*

ВІНЦУК АДВАЖНЫ

Вільня. 13.XII.1936.

---

# НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

*Твая душа сатканая*
*З вясёлак і зарніц,*
*і песьнямі скупаная —*
*вадой сямі крыніц.*

*У чарах дум замкнутая,—*
*дзе лёг дарожны шлях, —*
*цьвіціш пахучай рутаю*
*гарыш у верасах.*

*З душою заваражанай*
*Спакоем і красой —*
*Ты песьню сваю кожную*
*Даеш людзям жывой.*

*Хоць Ты і адарваная*
*Цяпер ад нас жыцьцём;*
*Ты з намі расьпяная —*
*Душой і пачуцьцём.*

*Дачка Радзімы шчырая,*
*і там ў сям'і чужой*
*Ты служыш звонкай ліраю*
*Краіне Маладой!*

М. МАШАРА

*Студзень. 1937*

# НАШЫ ШЛЯХІ

**Прысьвячаю НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ**

*Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі.*
*На аднэй чуеш крок, на другой—шум трысьця...*
*Не спаткаліся тут між палёў, між разорамі,*
*ня сустрэцца ім на пяшчаным парозе жыцьця.*
*Будзе сонца гарэць...*
*Паясом слуцкім песьня Твая мо' рассьцеліцца.*
*Наша — будзе чарнець, як чарнее рубцамі далонь,*
*там, дзе вецер калосьсямі будзе шумець і мяцеліцца,*
*дзе на нівах бяз меж палыхне ураджаю агонь.*
*Сяньня песьня Твая расьцьвіла зачарованай казкаю, —*
*а мы казак так даўна ня чулі ў жыцьці! —*
*ўсё ідзём каляінай нікім не пратоптанай, гразкаю;*
*нам ня можна вярнуцца, а трэба наперад ісьці!*
*Нашу песьню няраз грызьлі голад з сухотамі,*
*ня было нават ранаў калі загаіць.*
*Станавіліся, ведай, на грудзі падкутымі ботамі*
*і чужынец-гандляр, а найгорш гэта юды свае...*
*І калі,*
*сонцам новых надзей*
*прыглядаемся выраю,*
*лічым сілы свае жывыя і тых, што ляглі, —*
*для нас дарага слова гарачае, шчырае,*
*як зярнё для шчарнелых далоняў зямлі.*
*Любіш край за бярозы, за месяц, за восені дзіўныя,*
*а тымбольш яго нам як скажы ня любіць?*
*калі нівы і рэкі, палотны азёр пераліўныя,*
*калі песьні, што б'юць жывой сілай крыніц, —*
*нам гавораць аб долі сярмяжнай аратага*
*і адкуль на нас хмары плывуць і плылі,*
*дзе ляжаць нашы сілы, надзеі віхурамі зжатыя,*
*кольк пóту і сьлёз мае кожная грудка зямлі...*
*Дзіўна песьні Твае расьцьвітаюць*
*далёка сузор'ямі,*
*над другімі палямі яны сіратліва мігцяць,*
*і там'' яны пэўна над роднымі сяньня разорамі*
*асыпаюцца*
*золатам восені,*
*асыпаюцца шумам трысьця...*

*М. ТАНК*

Вільня, 25.І.37.



# На паэтычнай вышыні
*(Аб творчасьці Натальлі Арсеньневай)*

Асноўныя рысы творчасьці Натальлі Арсеньневай выдзяляюць яе спасярод іншых сучасных беларускіх паэтаў, як пясьнярку сусім індывідуальную, з сваеасаблівым паэтыцкім сьветаадчуваньнем, із спэцыфічнымі асаблівасьцямі артызму. Дзякуючы характару свайго таленту, а часткова мо' і абставінам аб'ектыўным, якія яе змусілі жыць далёка ад Бацькаўшчыны, не змагла яна ўліцца ў агульнае русло сучаснай беларускай паэзіі, апяваючай адраджэньне народу, ягонае змаганьне за свае правы, але пайшла ўласнай дарогай літаратурнае творчасьці, даючы ў ей перавагу праблемам чыста эстэтычным. Гэтую сваю апрычонасьць і розьніцу ад агульнага характару сучаснай беларускай паэзіі моцна падчыркнула і сама аўтарка ў вадным з найнавейшых вершаў п. н. *Маладым паэтам.* Грамадзкім матывам, пераважаючым у творчасьці нашых паэтаў, іхняй бунтарнасьці і магутным прызывам да барацьбы проціўстаўляе яна свой уласны паэтыцкі сьвет, сьвет чыстае красы:

Мае дні над аржоньнем цьвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыньнем,
і зьвіняць алавяным, асеньнім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Я, як жоўтая восень, стаю над жыцьцём
і гляджу на яго, хоць наўкола змаганьне.
Мае вершы — над сонным балотам трысьцё,
мгла сівая асеньняга раньня.

Ня шырокім размахам пачуцьцяў і парываў, не магутнай дынамікай бунту й барацьбы адзначаецца творчасьць Арсеньневай, але яна носіць на сабе адпячатак мяккага і нязвычайна чулага лірызму, падхварбаванага ноткай сумнай настраёвасьці, часамі радасных захапленьняў. Характэрна, што лірызм гэты вельмі рэдка зьяўляецца абстракцыйным, але ён грунтуецца перадусім на фоне апісаньняў прыроды ў розным яе стане і праявах. Беларуская прырода, як крыніца паэтыцкага натхненьня, выступае так шырака і амаль што поўнаўладна ў творчасьці нашай пясьняркі, што нават яе даволі многія рэфлексыйныя вершы, у якіх асаблівa часта разважае аб людзкім шчасьці, аб мэце жыцьця і інш., зьяўляюцца нічым іншым, як толькі рэфлексам захапленьняў характвом прыроды. Урэшце і патрыётычныя матывы ў Арсеньневай конкрэтызуюцца на матар'яле прыродаапісальным, як глыбокае каханьне роднага краю. Гэтыя апошнія даволі выразна выступаюць у аддзеле вершаў *Родны край,* зьмешчаным у зборніку „Пад сінім небам."

Звычайна абраз прыроды, вельмі містэрна адмаляваны, выклікае ў душы пясьняркі глыбокія перажываньні, родзіць цэ-

лую гаму разнастайных пачуцьцяў. Гэтак напрыклад жоўта залатая восень, якой паэтка найбольш прысьвячае ўвагі з усіх пораў году, родзіць у ей пачуцьцё ціхага суму і тугі за няведамым шчасьцем; абраз сярэбранае ночы і яе заваро жанага супакою напаўняе душу вялікай асалодай; а вясна сваей жыватворчай сілай выклікае звычайна мноства высокіх парываў да паўніні жыцьця, як гэта можна абсэрваваць у адрыўку верша *Ішла вясна:*

І дрыжэлі знаёмыя струны ў душы,
пазабытыя ў часе зімовай цішы,
і хацелася нейдзе ірвацца, ляцець,
і хацелася крыльлі птушыныя мець, —
і хацелася сонца абняць, цалаваць,
і пяяць, і пяяць, і пяяць, і пяяць, —
бо йшчэ раз за маіх пералётных гадоў
йшла вясна ў зеляніне палёў!

Даволі часта абраз прыроды із перажываньнямі і пачуцьцямі аўтаркі творыць у вершы г. зв. тэматычны паралелізм, вельмі характэрны для народнае песьні.

Трэба моцна падчыркнуць, што паэтыцкі падход Арсеньневай да прыроды, гэтай багатай крыніцы натхненьня ўва ўсей паэзіі наагул, ёсьць своеасаблівы, значна іншы, чымся ў многіх нешых паэтаў. Мала таго, што абразы прыроды зьяўляюцца ў яе прасякнутыя чулым лірызмам, бо й наагул рэдка які паэт патрапіць глыбей не зарэагаваць на яе чар і хараство. Характэрна тое, што на прыроду рэагуе яна амаль выключна з эстэтычнага гледзішча, бачучы ў яе праявах найвышэйшае хараство:

Для мяне ня мутною вадой каляін
надыходзіць вясна і ня сьнегам счарнелым, —
мне сьмяецца яна жоўтым пухам вярбін,
яснай песьняй жаўронка ў палёх зарунелых.—

кажа яна ў вадным з найнавейшых сваіх вершаў, і далей:

Мне ня жаліцца восень у дробных дажджох,
у гнілых туманох на размоклым загоне, —
мне яна павучыньне прадзе ў лазьняхох,
жоўтым сном на ціхое кладзецца аржоньне.

Гэтак сама лета і зіма прадстаўляюцца ў яе багатым паэтыцкім выбражэньні поўнымі ўзапраўднай красы. Апроч гэтага прыроду паэтка ў вялікай меры ўвасабляе, прадстаўляючы яе як жывы твор, здольны разумець і адчуваць.

У абразох і зьявах прыроды паэтка вычувае багатае затоенае жыцьцё, зусім іншы сьвет, прыгожы і шчасьлівы, які назвала некалі „Пад сінім небам“ і ахрысьціла гэтым назовам першы зборнік сваіх вершаў. Яна стараецца ўцячы ад шэрага штодзеннага жыцьця ў створаны ў сваім выбражэньні сьвет прыроды і зрадніцца з ім. Загледжаная ў чароўны заход сонца і маляўнічую ігру калёраў, яна кажа:

Я хачу на мінуту забыцца аб горы
і глядзець, як у ружавым захаду моры



Косы бледнага сонца сплялісь.
Я памерці хачу вось такою парою,
хваляй сонца залітая ўся залатою,
Каб і слоў тых ня чуць: „прабудзісь!“

І вось гэтае ізаляваньне ад запраўднага жыцьця і стварэньне ў сваіх мроях іншага сьвету, лепшага і прыгажэйшага, ёсьць вельмі характэрнай асаблівасьцяй паэтыцкага сьветаразуменьня Арсеньневай. Але адначасна гэтая перавага паэтыцкай абстракцыі над рэальным жыцьцём, а так-жа ўспомненае ўжо звужэньне тэматыкі яе твораў і адсутнасьць у іх матываў змаганьня і барацьбы на карысьць чыста мастацкіх праблемаў могуць шмат каму выдавацца, як люксус, які гучыць дысанансам у нашыя жорсткія часы. Паколькі гэты закід можна паставіць творам нашай пясьняркі, калі падыходзіць да іх з гледзішча ўтылітарнага, патолькі з гледзішча чыста літаратурнага зьяўляюцца яны беззаганнымі. Ды ўрэшце маюць яны, — хоць пасрэдна—і вялікую грамадзкую вартасьць, бо як трапна зазначыў наш паэт-эстэтык Максім Багдановіч, што ўжо сама эстэтычная эмоцыя ад красы, выяўленай у творы, узварушае нас, родзіць бадзёрасьць і веру ў будучыню і пабуджае да творчае працы. А творы Арсеньневай, якія адзначаюцца высокім артызмам і ўзапраўднай красой, поўнасьцю адказваюць успомненым вымаганьням.

Дык дзе-ж урэшце хаваецца сакрэт артызму творчасьці Арсеньневай, якая захоплівае нас красой, чаруе містэрнымі абразамі, песьціць нашае вуха дзіўнаю музыкай гукаў?

Як ведама, нашая штодзенная мова, якая спаўняе чыста камунікатыўныя функцыі, бо служыць узаемнаму паразуменьню людзей, зьяўляецца нязвычайна бедная, каб можна было ў ей канкрэтна выразіць усе найглыбейшыя пачуцьці і плястычна адмаляваць усе абразы, выкліканыя ў буйным выбражэньні мастака. Кожны паэт перамагае гэтыя труднасьці такім спосабам, што адпаведна арганізуе свой слоўнікавы матарыял, творачы розныя мастацкія прыёмы і надаючы ім адпаведнае эмоцыянальнае адценьне. Такім спосабам у кожнага культурнага народу, апрача розных дыялектаў і жаргонаў, якія складаюцца на мову шырокіх масаў, і апрача мовы кніжнай, літаратурнай, якой паслугоўваецца інтэлігенцыя, існуе так-жа і г. зв. мова паэтыцкая, ужываная выключна ў паэзіі. Характэрнай асаблівасьцяй апошняй зьяўляецца тое, што яна, пры помачы адпаведнай арганізацыі слоўнікавага матарыялу, мае ў літаратурным творы тыя ці іншыя артыстычныя функцыі, стараецца выклікаць эстэтычныя перажываньні. Вартасьць мастацкіх прыёмаў, твораных на аснове языковага матарыялу, у вялікай меры залежыць ад іх новасьці, арыгінальнасьці і нязвычайнасьці. Дзеля гэтага кожны паэт, карыстаючыся з дасюлешняй паэтыцкай мовы, стараецца ўсьцяж яе разьвіваць і дасканаліць, дадаючы ей тыя ці іншыя індывідуальныя асаблівасьці, узалежненыя ад розных артыстычных мэтаў.

Вось-жа ў гэтай галіне зьяўляецца Арсеньнева ўзапраўднай артысткай і тут іменна крыецца глыбіня ейнага таленту. З пасярод многіх мастацкіх прыёмаў зьвяртае яна асаблівую ўвагу на паэтыцкае апрацаваньне і ўпарадкаваньне языковага матарыялу, надаючы яму заўсёды выразныя артыстычныя функцыі. Рэзультат з гэтага такі, што, калі ўважна ўслухацца ў яе вершы, то ня знойдзем мы ў іх амаль ніводнае строфкі, якая-б так ці йначай не прамаўляла да нашага пачуцьця і не выклікала адпаведнага настрою. У галіне мастацкага дасканаленьня мовы асаблівы нацiск кладзе паэтка на падбор такіх гукаў, якія сваей музыкай суладна гарманізуюць із зьместам верша. Гэтак напрыклад яна любуецца ў плаўных і найбольш прыемных для вуха гуках, як *ль, н* і падобныя; часта ўжывае злучэньне іх у групы тыпу ар*жоньне*, зьмярка*ньне*, змага*ньне*, асе*ньні* і г. д., якія адказваюць нязвычайна мяккаму і далікатнаму характару ейнага лірызму, сьпеўнасьці і мілагучнасьці яе рытмікі. Калі выразіцца мэтафорычна, то, дзякуючы ўспомненым асаблівасьцям, верш Арсеньневай ня чытаецца, але паважна плыве і пераліваецца багацьцем нязвычайна далікатных і суладных тонаў і гукаў.

Трэба прызнаць, што аўтарка працуе над мастацкім вырабленьнем сваей мовы і ўсьцяж бывае незадаволенай з асягнутых рэзультатаў. Гэтак, калі ей, загледжанай у чароўны абраз захаду сонца, „хочыцца выліцца песьняй,“ яна сьцьвярджае, што мучыць яе пачуцьцё нямочы:

Бо ўсе словы здаюцца малымі,
ўсе ня тыя, што выцьвісьці хочуць.

Але яна верыць, што з часам апануе ўсе паэтыцкія магчымасьці мовы і зможа тады найпрыгажэй выразіць усё тое, што толькі выабразіць у сваей багатай паэтыцкай фантазіі. Гэтак заяўляе паэтка ў вадным з найпрыгажэйшых сваіх вершаў п. н. *Лебядзіная песьня.*

Але прыйдзе мой дзень і знайду я патрэбныя словы,
словы тыя, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе.
Буду ўмеці чмялямі гусьці ў раззалочаным цьвеце ліповым
і шаўковай шасьцець асакой на зялёнай блiскучай вадзе.
— — — — — — — — — — — — — — —
Раскажу аб мяцеліцах ночных, няспаных да раньня гадзінаў,
аб спакою васеньніх зьмярканьняў і яснасьці сплаканых зор.
А ўсе словы злучу я у песьню прыпевам нязвыклым, адзіным,
а ўсе песьні ў адзін — бесканечна-магутны акорд.

Побач з вялікай мілагучнасьцю творчасьці Арсеньневай, у вялікай меры зарысоўваецца так-жа і яе вобразнасьць. Найбагатшыя мастацкія прыёмы, ужываныя дзеля вобразнасьці і плястычнасьці, мэтафары, іграюць у творах Арсеньневай адну з найпаважнейшых роляў. Цікава зацеміць, што паколькі ў ранейшых вершах опэруе паэтка мэтафорыкай пераважна традыцыйнай, патолькі ў вершах навейшых творыць яна больш сьмелыя й арыгінальныя мэтафары, што бязумоўна трэба ўважаць, як поступ.



Вельмі цікава, што мэтафорыка Арсеньневай, як у некаторай меры і Танка, зьяўляецца пераважна аснаванай на матарыяле з жыцьця беларускай вёскі, што таксама надае яе творам спэцыфічны адпячатак. Вось некулькі прыкладаў: „Старыя вербы над рэчкай пранікамі пяраць па шэрай воднай палатніне,“ альбо: „Мокрым пласконьнем туманы ляжаць,“ „А над шляхам іх цёмным, нізінным белы месяц бліскучым нарогам ноч парэжа на скібы — гадзіны,“ альбо ўрэшце: „Чырвоны блеск асеньні захад праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць“... Цемра „клубком разблытаецца шэрым, павісьне зрэб‘ем нечасаным над лесам сьцішаным, над намі.“

Такога роду мэтафорыка павялічвае беларускую народную стыхію ў творах Арсеньневай, з другога-ж боку — дзякуючы сваей навасьці й нязвычайнасьці — выразна канкрэтызуе абраз, робіць яго пукатым і плястычным. Нярэдка вобразнасьць паэткі вызначаецца так-жа й малярскімі эфэктамі. Гэтак яе ўлюбленая восень зьяўляецца заўсёды жоўта-залатая, неба вечна ў яе сіняе, захад сонца ярка чырвоны, ноч сярэбраная і г. п. Гэтак вельмі плястычна, але і ня менш маляўніча выглядае абраз усходу сонца ў наступных радкох паэмкі *Шчасьце:*

Сонца усходзіць... Зьбялеўшыя зоры
тонуць у ружавым полымі—моры,
ў чырвань малююцца соснаў вяршыны,
ружавай робіцца мгла над лагчынай.
У лесе паўцёмна. Ільлёвыя змрокі
ў гушчы хаваюцца соснаў высокіх.

Каб закончыць гэты кароткі агляд лірычнай творчасьці Арсеньневай, трэба ўспомніць яшчэ і аб тэхніцы яе вершаў, якія з гэтага гледзішча заслугоўваюць на вялікае прызнаньне. Паэтка, здабыўшы багатую літаратурную культуру, усебакова і старанна працуе над сваімі творамі. Дзеля гэтага ў яе вершах мы ня знойдзем ані шурпатасьцяў, ані наіўнасьці, якіх, нажаль, ня могуць высьцерагчыся многія іншыя нашы паэты,

Некалькі слоў спэцыяльнае ўвагі трэба прысьвяціць кароткім эпіцкім паэмкам Арсеньневай у цыклю *Зачараваны кут.* Паколькі ў яе лірычных вершах пераважаючай тэматыкай была прырода, патолькі тут ёсьць ёй — народная творчасьць. Вельмі характэрна, што паэтка ў успомненым цыклю адкрывае толькі пануры і мёртвы сьвет народнай фантастыкі, любуецца яго таёмнасьцю і жудой. Такі падыход да народнае крыніцы часткова гарманізуе з яе ўцяканьнем ад рэальнага жыцьця ў абстракцыйны сьвет характва, так характэрнае ў лірычных вершах.

Фабула гэтых паэмаў звычайна няшмат мае супольнага з народнымі матывамі, а ў большасьці зьяўляецца ўласнасьцю пясьняркі. Пераважна справа выглядае так, што аўтарка апіраецца на адным альбо некулькі матывах з народных казак і легендаў, а ў далейшым разьвівае іх самастойна і дапаўняе ўласнымі канцэпцыямі, але робіць гэта так, што кожны, хто ня знае добра

народнае творчасьці, будзе ўважаць іх за фольклёрыстычныя „par excelence.“ Гэтую артыстычную містыфікацыю асягвае паэтка галоўным чынам нязвычайна мастацкім насьлядаваньнем стылю народнае творчасьці. І ў гэтай галіне зьяўляецца яна нестраўнанай артысткай, што патрапіць з даволі агранічанага матарыялу снаваць розныя ўзоры, захварбоўваць іх глыбокай эмоцыянальнасьцю, выклікаць настраёвыя й музыкальныя эфэкты. Залежна ад розных артыстычных мэтаў, часамі стыль народнае творчасьці шырака ўдасканалівае, падносіць яго на высокую артыстычную вышыню пры адначасным захаваньні тыповых народных асаблівасьцяў, часамі-ж зьніжаецца да артыстычнага прымітывізму народнае песьні, як гэта можна бачыць у наступным фрагмэнце галашэньня ўтопленіцы ў творы *Балотніца:*

Ой, цяжкая мая доля горкая,
загубілі мяне вочы ясныя,
вочы ясныя, косы доўгія,
сэрца вольнае ды гарачае.
Загубіла я сваю моладасьць.
Веру страціла, сілы страціла,
а адна была з сваім сэрцэйкам,
з маладой душой, што хацела жыць.
Не сьпякло мяне ясна сонейка,
не зламаў віхор у васеньню ноч,—
загубіў мяне чарнабрывы мой,
жартаваў, гуляў з маладой душой,
жартаваў, гуляў, а пасьля пайшоў,
а я плакала, залівалася!

У іншым творы гэтага цыклю — *Лебядзінае возера,* паэтка вельмі ўдала насьледуе стыль і сьпеўную рытміку былінаў.

Апрача гэтага творы з цыклю „Зачараваны кут“ адзначаюцца цікавай, глыбока абдуманай і артыстычна ўдалай композыцыяй. Асабліва гэта адносіцца да паэмак *Балотніца, Зорка, Шчасьце, Вясельле,* перадусім-жа да *Лебядзінага возера,* як твору з багацейшай і даволі скомплікаванай фабулай. Знаходзім у ім аж тры аснаўныя вузлы фабулы: 1. Любоў Алёнкі з князем. 2. Нешчасьлівая любоў Данілы да Алёнкі і вынікаючыя з гэтага непаразуменьні з князем. 3. Жыцьцё белых лебядзеў і адносіны да іх людзей, што становіць у творы элемэнт фантастычны. Усё гэта пясьнярка містэрна скампанавала і павязала, што ўспомненыя, як-бы асобныя сюжэты узаемна зазубляюцца і даюць артыстычную цэласьць. Зьяўляецца гэта яркім доказам, што Арсеньнева, паводле свайго характару лірычная пясьнярка, мае таксама вялікія здольнасьці эпічныя і можа яшчэ ў гэтым кірунку шырака выявіць і разьвіць свой талент.

На падставе гэтага кароткага і, зразумела-ж, вельмі агульнага агляду творчасьці Натальлі Арсеньневай, прадстаўляецца нам яна, як пясьнярка з першарадным паэтыцкім талентам, як вялікая артыстка слова. І хаця ізалявалася яна амаль поўнасьцю ад грамадзкіх матываў, так актуальных у сяньняшнім нашым жыцьці, і агранічылася да даволі вузкага прасьцягу сюжэтаў, то аднак яе значэньне для беларускае літаратуры аграмаднае. Дзякуючы нязвычайна далікатнаму таленту і асаблівай чуласьці на хараство, беларускую мову паднесла яна на высокую роўню, шырака ўдасканаліла і спрэцызавала стыль паэтыцкае творчасьці, як чыста-лірычнай, так і лірычна-эпічнай, а так-жа асягнула вялікія рэзультаты ў галіне мастацкага выкарыстаньня фольклёру.

У сучасны мамэнт, як было ўжо сказана, Арсеньнева робіць вялікія поступы ў кірунку адсьвяжэньня свайго таленту шляхам зьбліжэньня да новых, больш сучасных формаў паэтыцкае творчасьці, а так-жа праектуе большыя літаратурныя композыцыі, з эпіцкім падкладам, аснаваныя на фольклёры. Гэтыя спробы й праекты астаецца толькі прывітаць і пажадаць шырокай іх рэалізацыі, бо ўсё тое, што творыць яе вялікі талент, займае ў нашай сучаснай літаратуры адно з найбольш пачэсных месцаў.

*К. Бруевіч*

# Францішак Скарына на грунце унівэрсытэцкага жыцьця у Падуі

Старыя унівэрсытэты ў Заходняй Эўропе жылі так самастойна, што былі быццам дзяржавай у дзяржаве. Дзеля гэтага і рабілі аграмадны ўплыў на масы студэнцкай моладзі, узгадоўваючы так ейны нутраны сьвет, як і вонкавае жыцьцё. І гэта ёсьць прычынай, дзеля чаго справа зразуменьня асобы Францішка Скарыны вымагае ад нас ня толькі магчыма дакладнага знаёмства ягонай біографіі і хронолёгіі, але так-жа пластычнага сабе прадстаўленьня вялікага Палачаніна на грунце студэнцкай рэчаіснасьці ў Падуі.

За правадніка ў гэтым артыкуле бяром сабе ведамага знаўцу гуманізму, прафэсара кракаўскага унівэрсытэту, д-ра Станіслава Віндакевіча (сяньня жывец), каторы многа архівальных студыяў і не адну падарож пасьвяціў іменна гісторыі ўнівэрсытэту ў Падуі з ягоным уплывам на паўночна-усходнія землі.

Паводле праф. Віндакевіча, развой і расьцьвет Падуі быў гэнэтычна неабаснаваны, аднак такі шыбкі і прыгожы, што заслугоўвае, каб яго назваць фэномэнам. „Падобна як на небе бываюць хвіліны хмарныя і пагодныя, так і ў гісторыі чалавецтва ёсьць пэрыяды, як ноч цёмныя, і як дзень ясныя. Сярод вотхлані падымаецца раптам заслона. Асьветленыя праменьнямі ста сонцаў, на раскошнай ніве гісторыі паказуюцца шэрагі геніяў: борацца, штурмуюць, даказываюць цудаў. Заслона ападае. Зноў панура і страшна. Хто грае прад намі гэтую камэдыю жыцьця, Бог ці натура, вось пытаньне“ (Др. Ст. Віндакевіч. Падуа 1891 бач. 5—6). Такога выбуху гейзара, як Падуа, ня дасца прычынна вывесьці ні з эвалюцыі хрысьціянскага духу, ні з выгасаючых

аганькоў гінучага аканчальна паганства, ні з рэакцыі на церазмерны схолястыцызм, ані ўрэшце з тагачасных клічаў поступу. Усё гэта можа вытлумачыць толькі тую ці іншую драбніцу ўспомненага фэномэну, які як нявыясьненае зьявішча пяройдзе сам у гісторыю цывілізацыі чалавецтва.

Адроджаная цывілізацыя, раней як Скарына прыбыў у Падую студыяваць, агарнула ўжо полымем усю Заходнюю Эўропу. Характарызавалі яе дзьве рэчы: была ў роўнай ступені кніжнай, як артыстычнай, з літаратуры клясычнай бяручы „творчую матэрыю мысьлі і імкненьняў веку“ (6). Гэты сваеасаблівы шал дайшоў да свайго найвышэйшага пункту ў XVI ст. у Падуі. Бо ціж ня быў гэта сапраўды сьвяты і багаслаўлены шал, які агарнуў тутака імення душу Скарыны, бяручы яго ўжо на цэлае жыцьцё ў палон якжаж новай і труднай тады ідэі пісьменства і друкарства ў роднай мове? Менш ідзе нават аб тое, кім быў Скарына: добра уроджаны але зьбяднелы шляхціц з даўнейшага беларускага роду, ці славутны мешчанін гораду Полацка, або ўрэшце працавіты селянін з падполацкіх ваколіц. У кожным выпадку мусела захапіць яго да вялікага чыну адносна вялікая прычына, вялікая гістарычная плынь, *furor sacer*, з якім чалавек XVI ст. пасьвяціўся раз выбранай ідэі. Гэты высокі палёт Падуі быў аднак, як сяньня дасьледжана, магчымы да зрэалізаваньня дзеля таго толькі, што бліскае нам праз Скарыну гэтае унівэрсытэцкае места *Padova* было тады багатае грашмі. „Грошы ёсьць талізманам поступу. Падуа распараджалася фантастычнаграмадным бюджэтам у 65—75 тысячаў флёрэнаў“ (6—7), што пазваляла ей згуртаваць паўтары сотні знамянітых прафэсараў ува ўсіх галінах веды, стварыць абшырныя выкладовыя залі, залажыць багатыя бібліятэкі і габінэты, першы батанічны агарод, прыкладны анатамічны інстытут... Нічога тады дзіўнага ў тым, што Італія стварыла ў гэным пэрыядзе новую цывілізацыю і дыктавала моду цэламу сьвету. І на землях беларускіх ведамыя тады былі напр.: вэнэцкія лютні, вэнэцкія люстэркі, вэнэцкія аправы, вокны, палашы, лямпіёны, вэнэцкія аксаміты і т.д. і т.д. Ня што іншае, як Вэнэцыя, выконываючы сваю гістарычную праграму „зрабіла з Падуі наперад цэнтральны унівэрсытэт вэнэцкі (1458), пасьля італіянскі, і ўрэшце эўрапэйскі“ (8). Усе падуанскія студэнты атрымліваюць ад ураду многа каштоўных прывілеяў, палёгак і звальненьняў ад мыт і аплатаў, моладзіж беднай і здольнай адчынены насьцяж 11 бурсаў! Быць можа, што ў адной з іх пражываў Скарына ці іншыя яго землякі. З такім размахам Падуі магла канкураваць адна Балёнія, гуртуючая моладзь дзеля студыяў кананічнага права.

У якім віры жыцьця і ў якой атмосфэры апынуўся ў Падуі Скарына, сьведчыць тое, што тады, пакольві можна палічыць, іматрыкулявалася тутака нешта 36 тысяч студэнтаў (16 тысяч чужаземцаў і 20 тысяч італіянцаў), згэтуль 26 тысяч праўнікаў і 10 тысяч мэдыкаў. Кагож тут ня было? Разам было 21 нацыяў. „Сярод рознакалёрнай масы тутэйшых вучняў бачым Грэка і *Русіна* (падчыркн. наша), Андалюзца і Шкота...“ (9). Кожны з іх сьпяшаўся *proficiscens in Italiam studii gratia*, не зважаючы на далёкую і няраз рызыкоўную падарож.

З увагі на тое, што шмат Русінаў і Літвіноў пападала ў падуанскі унівэрсытэцкі *album* з этыкетай польскай, ня ёсьць нам абыякава, колькі палякоў іматрыкулявалася ў Падуі у XVI ст. Вось-жа было іх нешта 1800, прыгэтым у дзесяць разоў болей студыявала права, як мэдыцыну.

Ёсьць студэнцкія апісаньні, што адмалёўваюць выгляд Падуі, калі да яе пад'яжджалася. Вось што ў трэцяй асобе піша адзін у сваім *itinerarium*. ,,Урэшце стануў перад Падуай. Пабачыў яе ў раньнім сонцы, цудоўна распаложаную, як гурыска, на мяккай пасьцелі вінаграду; тапалі і цыпарысы аздабляюць ейнае ложа, а лёгкі вецярок прыносе запах красак і насалоды.

Гэта-ж сапраўды жыцьцё, якога жадаю, а як маю грошы, чамуж мне з яго не скарыстаць?“ (12). Гэтак ці падобна мог думаць сын паўночнага Полацку, калі ў сваей пазаальпэйскай падарожы першы раз вітаў зрокам і сэрцам *Padova dotta*.

А як выглядаў падуанскі студэнт? Як дапушчальна апранаўся Францішак Скарына? Падуанскі студэнт, гэта тып тагачаснага элеганта. У панчошках да кален і шоўкавай сарочцы ахінуўшыся лёгка аксамітным плашчам, абшытым футрам, ідзе сабе па вуліцах Падуі гібка і з вяліка-мяшчанскай самапэўнасьцю, маючы пад рукою бліскучую шпаду. На галаве абведзены калёрным шнурам мяккі і высокі капялюх, ад якога адстае прэтэнсыянальна некалькі пёраў; на шыі бела-сьнежная крыза, што ў карунках набірае далікатных і мяккіх контураў, а адусюль залятае запах пэрфум і піжмы, з хустачкі, рукавічак, вусікаў і валасоў... Дык жыцьцё тут кіпела магутна, даючы міліённыя праявы як заўсёды сумныя і вясёлыя. Гэтае жыцьцё мела нікаторыя характэрыстычныя рысы, якіх прамаўчаць нельга, а імення, што было вельмі інтэлігентнае і вельмі разнастайнае“ (12—13). Ведама, найлепей матарыяльна меліся ў Падуі сыны вялікіх паноў з беларускіх земляў, напр. Радзівіллы, Сапегі і іншыя магнаты з усходніх рубяжоў і паўночных старон, што ехалі сюды ці то на студыі (*addiscendae linguae Italicae gratia*), ці то ў купальні (*cauza recuperandae valetudinis)*, што былі блізка Падуі. Стольні тут іх прыяжджала, што аж паўстала *contubernium* ці *hospitium Polonorum* (14), у каторым ні адзін напэўна Беларус і Літвін пабываў. Падуа магла хваліцца, што тут вучылася „нешта з шэсьць папежаў, некалькі каралёў і князёў, шмат вучоных і павадыроў“ (15), а сярод іх Баторы і Капэрнік, таксама пазьнейшы жмудзкі біскуп Юры Альбініус (1538), менш ведамы як лацінскі паэт.

„Годным увагі зьяўляецца наплыў у Падую студэнтаў і дзеля таго, што тэрыторыяльна сягае вельмі далёка. Ужо Ажэхоўскі кажа, што многа шляхты з Чырвонай Русі ехала ў 1549 г. на унівэрсытэты заальпійскія; а ў мэтрыцы нацыянальнай

прыналежнасьці знаходзім імёны, якія самым толькі гукам прыпамінаюць цёмныя літоўскія лясы або задуманыя пабярэжжы Жмудзі. Кіняшко, Копэць, Сапоцько*) мусіць першы раз тады паказываюцца на картах унівэрсытэцкіх мэтрыкулаў, і з над Адрыятыку перавозяць у Бацькаўшчыну зерне вялікай цывілізацыі, каторую бязсумлеву не маглі агарнуць, але каторая іх імёнам дадае блеску не малой навасьці. Адначасна спасярод малапольскай і *рускай* (падч. наша) шляхты выдзяляюцца індывідуальнасьці, каторыя сяньня яшчэ зьдзіўляюць. Такія прозьвішчы, як Возачэнскі, Окрэнгліцкі, Мышчынскі, Міцкіцкі, Чолханскі гучаць нясвойска ў вушах гісторыка цывілізацыі. З якіх куткоў яны выйшлі, якім спосабам вырваліся з самотных сядзіб сваіх, да каторых дагэтуль ніхто не дайшоў, апрача толькі каралеўскага камісара ці голасу пабудкі на Татара, вось новае пытаньне пад развагу" (25). Часьць падуанчыкаў, калі гэта былі праўнікі, працавала посьле ў заграннічнай дыплёмацыі, часьць варачалася ў край і абымала становішчы гарадзкіх пісараў і судзьдзяў. У ліку гэтых паводле жаролаў знаходзіцца нейкі А. Станкевіч (1595). Падуанчыкамі былі: Літоўскі падскарбі Крыштоф Нарушэвіч (1588), які адзначаўся вялікай сумленнасьцяй, далей віленскі войскі Ян Абрагамовіч (1598), ведамы аўтар брашуры „Думка Літвіна аб таннай куплі збожжа а дарагой продажы"(1595), урэшце маршалак шляхты вілкамерскага павету — Раецкі, пазьнейшы камісар дзеля пагранічных курляндзкіх спраў, уканцы маршалак літоўскага трыбуналу. Такіх людзей выдала Падуа, якая нам дала Скарыну.

Дзеля таго аднак, што вялікі Палачанін вучыўся ў Падуі мэдыцынскіх навук, зьвернем асобную ўвагу на іх ровень у тамашнім унівэрсытэце. Падуа ў XVI стагодзьдзі мела асабліва добра пастаўленыя студыі мэдыцынскія (і праўныя), пры гэтым у гэтай галіне быў новы кірунак, паводле якога „мэдыцына пасуваецца наперад ня колькасьцю камэнтараў, але лікам умела дасьледжаных зьявішчаў" (32). І тадыж паявіліся аматары. Гэткую на паказ лекцыю анатоміі знаходзім увечненую ў аднаго з тагачасных маляроў.

Падуанская мэдыцына мела ў XVI ст. чарод выбітных прафэсараў. Праф. Віндакевіч прывёў чарод прозьвішчаў, якіх тут не пералічаем, бо адносяцца пераважна ўжо да другой палавіны XVI ст., калі Скарына быў ужо ў іншым месцы. Сярод падуанскіх практыкаў пераважалі галеністыя, г. зн. тыя, што трымаліся „старасьвецкага тэксту з некарысьцяй для навукі і досьледаў" (37). Інтэрэсаваліся ў Падуі нават нашым палескім каўтуном, пэўнеж не бяз нашага учасьця, прычым прафэсар Гэркулес Саксонія побач з іншымі трымя аўтарамі выдаў так-жа расправу: *De plica quam Poloni gwozdziec, Roxolani colthunum vocant liber. Potaviae* 1601. Гэтая праца была свайго роду адказам на пытаньне што да прычын і азначэньня беларускай хваробы каўтуна, пытаньне, пастаўленае мэдычнай калегіяй у Падуі, міла спатканае прызнаньнем і ветлівай просьбай, з якой у гэтай справе да яе зьвярнуліся з далёкай Сармацыі. Сьведчыць гэта аб непараўнальна—высокай навуковай плоднасьці італіянскай літаратуры, каторую тады ўсё інтэрэсавала. Падуанская студыя здабыла такім спосабам значную як на той час папулярнасьць, а сьвядоцтвам гэтага будзе тое, што незадоўга па 1501 г. *„прыехаў у гэтае места адзін Беларус з Полацка* (падч. наша). Ёсьць гэта сьляды вельмі глыбака сягаючага ўплыву, каторы ацаніць прынамсі агульна будзе неадрэчы" (39).

*) Пазьней былі тут Пётра Косьцюшко і Давід Міцкевіч ex Magno Ducato Lituanicae.



„Нашым мэдыкам таго часу — піша праф. Віндакевіч — нельга не адмовіць добрай волі, калі зьвернем увагу на тое, што былі гэта ўбольшасьці сыны мяшчан ці мужыкоў, каторым выезд у Падую быў ужо ахвярай, а цэлае жыцьцё прадстаўлялася як заўсёдная барацьба за быт і адначасна барацьба з забабонам.

Прыгледзьмася-ж гэнаму абскурантызму, каторы ляжыць глыбака на дне нашай астралёгіі; прыгледзьмася-ж пашыраньню парацэльзызму*) ў Польшчы, сьвядоцтвам якога ёсьць як Твардоўскі, так і той забабон у каралеўскім розуме Жыгімонта Аўгуста. (Ведама, што розум гэтага апошняга Ягайлавіча хоць не ў адной справе рашаў як трэба, не перашкаджаў яму зусім займацца ў каралеўскім замку выкліканьнем ценяў памёршай Барбары). І раптам гэта ўсё зьнікае. Хто гэтую перамену даканаў? Пэўнеж, польскія мэдыкі і прыроднікі. А што не даканалі ўсяго, што не ператварылі народ запаленцаў і містыкаў (?) у народ цьвярозых мысьліцеляў, гэта што іншае. Але падумайма, што тады Падуа дала нам толькі 50 лекараў, што Балёнія дала нам другіх стольці-ж, значыцца прадукцыя краю (?) ад Карпат да *Балтыку, Дзьвіны* (падч. наша) і Чорнага мора налічала у XVI в. аднаго лекара ўгод — а ў гэтай цыфры пабачым страшную праўду" (45—46).

Наогул падуанскія мэдыкі адзначаліся грамадзкім заінтэрэсаваньнем і займаліся апроч мэдыцыны часта іншымі галінамі веды, што былі ў бацькаўшчыне занядбаныя. Так ляўрэат Францішак Скарына (1512 натуральна ў Падуі *via* Вільня-Кракаў) не займаўся ўжо цалкам мэдыцынай, а ўвесь пасьвяціўся справе перакладу біблії на беларускую мову. Што ў гэтым кіравала імі прадусім любоў свайго народу, роднага краю і народнай гісторыі — гэта здаецца зусім ясным..., (дык) мала зьвярнуць увагу на навуковыя ўплывы Падуі, але трэба так-жа дакрануцца глыбейшых праблемаў народнага жыцьця і гісторыі" (46—47). Дык і Скарына, як і падуанчык Ян Замойскі, мог сказаць: ***Patavium virum me fecit.***

*) Парацэльзус стварыў дактрыну, што зьяўляецца камбінацыяй тэозофіі і мэдыцыны.

Каб лепей зразумець, як *doctor medicinae* Скарына стаўся ідэёвым перакладчыкам на беларускую мову біблії і праз гэта стаўся бацькам беларускага пісьменства, трэба ведаць, што кожны студэнт у Падуі, праўнік, мэдык, ці тэолёг, пачынаў адукацыю слухаючы выкладаў даваных з катэдры *humanitatis*, як называлася тады філёлёгія клясычная. У XVI в. уважалі яе за „божства стагодзьдзя“ (48), якое найлепей разьвівае і маральна паляпшае чалавека, родзіць у яго артыстычныя асьпірацыі і прыемна завяршае ўсякую спэцыяльную адукацыю. Чалавецтва ў XVI в. іменна стаяла на пераломе, „ідучы ад агульнай культуры да культураў нацыянальных, ад духоўнай да сьвецкай — ад касьцельнай да дзяржаўнай...“ (49), філёлёгія-ж сілай фактаў стаецца проціўвагай уніфікуючай культуры сярэднявечча з яе неграніčаным манаполем лаціны. Тымбольш цяжка было Скарыне не адчуць на сабе гэтага ўплыву, калі іменна „на італіянскіх унівэрсытэтах існавалі адна ці дзьве катэдры філёлёгіі, прычэпленыя да мэдычнага ўнівэрсытэту“ (там-жа). Прыгожа сьведчыць аб шырокім уплыве гэтай катэдры філёлёгіі ў Падуі, што выўчыла Яна Ласіцкага (1560), аўтара мітолёгічных і фольклёрыстычных распраў аб жмудзкіх багох і *аб вясельных звычаях у ўсходніх Славян,* Яна Пятроўскага (1567—1569), *сымпатычнага карэспандэнта з пад Пскова і аўтара дыяруша аб маскоўскай вайне,* Базыля Гіацынта, аўтара *Panegiricus in excidium Polocenze (Pat.* 1580) і інш. Дадаваць ня трэба, што ў такім акадэміцкім асяродзьдзі, як Падуа, хапала так-жа аўтараў модных тады эпіграмаў, гумарыстаў, лютністаў...

Падуанскія студэнты чужаземцы, навучыўшыся італіянскай мовы, гаварылі са сваімі таварышамі паіталіянску. Найагульнейшы падзел студыюючай моладзі быў на *цітрамонтанаў* (Італіянцы, Гішпанцы) *і ўльтрамонтанаў* (рэшта, дык і Беларусы).

Сільную партыю на ўнівэрсытэце налічалі Немцы, каторыя *per fas et nefas* уцягвалі ў сваё таварыства славянскія народнасьці і дзеля гэтага бралі сабе заўсёды кіраўніцтва ў прадстаўніцтве чэскай нацыі, якая паводле статуту была перад Палякамі. Палякі ізноў ненавідзелі сардэчна Немцаў і ад найдаўнейшых часоў вялі з імі заўзятую барацьбу. Дзеля гэтага нічога дзіўнага, што дуэлі і „студэнцкія бойкі характэрызуюць XVI ст.“ (90). Напр. у 1592 г. Немцы зачапілі нейкага Літвіна, калі гэты глядзеў з вакна на вуліцу, і йзноў пачалася бойка. Гэткіх і ім падобных сутычак было тут вельмі многа часам дзеля глупства, што трудна зразумець. Пэўне-ж і *vino padovano* таксама мела ўплыў на маладыя галовы. Толькі паступова культура адраджэньня, і далей уплывы салёну і сэнтымэнталізму злагодзілі гэты дзікі шал да боек, а так-жа абыякавасьць да пралеву братняй крыві.



* * *

З прыемнасьцю падчырківаем тут зычлівыя, а як-жа рэдка спатыканыя ў польскіх вучоных, об'ектыўныя навуковыя адносіны праф. Ст. Віндакевіча да асобы і народнасьці Францішка Скарыны, каторага ўсюды і заўсёды, і нават у 1891 г., калі беларускі народ быў яшчэ ў поўным летаргу, называе бяз ніякіх засьцярог Беларусам і народныя асьпірацыі каторага добра разумее і трапна ацэнівае.

*А. САЛАДУХ*

## Паўстаньне і значэньне гарадзішчаў — гарадоў у Паўдзённа-Усходняў Беларусі
### (г. зв. Чорнай Русі)

Адным з найцікавейшых разьдзелаў у антропо-геаграфіі зьяўляецца асадніцтва. Дазваляе яно зразумець, дзеля чаго чалавек будуе сваю асаду ў тым, а ня ў іншым месцы. Пазваляе ўняць ў пэўныя формы тое, што называем інстынктам асядленьня.

Чалавек шукае для сябе найбольш прыдатных варункаў да пасяленьня. Мэтаю пасяленьня ёсьць атрыманьне ўсяго таго, што зьяўляецца неабходным для жыцьця людзкой адзінкі, як гідраграфія, шырокія даліны, ураджайныя глебы, старыя дарогі і гасьцінцы. Гэта атракцыйныя дзейнікі для людзей, шукаючых лепшых умоў да жыцьця.

У залежнасьці ад характару і рознасьці антраполёгічнай розных людзкіх групаў паўстаюць таксама рознага роду асадніцкія тыпы.

Іншыя асады будуць стэпавых Туркмэнаў, а іншыя аседлых земляробскіх Славянаў.

Славянскае асадніцтва ўжо апісалі старадаўныя хронікары, а ў навейшыя часы найлепш дасьледавалі яго нямецкія вучоныя Піпэр, Ратцэль і інш.

У гэтым артыкуле ня будзем затрымліваціа над асадніцтвам агулам, бо шмат трэба было-б на гэта пасьвяціць месца. Мы затрымаемся толькі над гарадамі.

Гарады (папольску „Grody“*) гэта даўней абаронныя месцы распаложаныя ў пунктах з натуры сваей абаронных: на рэчных рукавох, у балотах, над берагамі вазёраў, на вяршынах гораў і ўзгоркаў і т. п. Гэтыя гарадзішчы-гарады звычайна былі акружаны валам і равом.

Людзі ў часе войнаў у гарадзішчах-гарадох абараняліся ад ворага і хавалі там сваю маемасьць. У мірныя часы там адбываліся нарады, сходы, вечы.

*) Гарадзішчы былі ў прадгістарычным часе (польск. grodziska).

Першабытныя людзі, мала абзнаёмленыя із спосабамі штучнай абароннасьці, затое тым лепш умелі знайсьці месца дзеля натуральнай абароны. Гарадзішчы Славяне зналі ўжо ад найдаўнейшых часаў. Гэтак званая Чорная Русь была папросту засеена абароннымі пунктамі, што вынікала з яе тополёгіі і падзеяў гістарычных. Гарадзішчы на Беларусі існавалі ўжо нават перад наездам Нарманаў. Варажская экспансія натыкалася на сільны адпор Славянаў, якія бараніліся ў гарадох-гарадзішчах. Пад аслонай гарадоў разьвівалася асадніцтва. Насельніцтва ў месцах небясьпечных выстаўляла форпосты, а за імі, пад іх абаронай, нясла свае забудаваньні. Архэолёгічныя досьледы даказываюць, што ад найдаўнейшых часаў была моцная лучнасьць (гарадзішчаў) гарадоў з асадніцтвам. Побач з руінамі гарадзішчаў знаходзяцца заўсёды сьляды людзкіх магільнікаў.

Вёскі распаложаныя блізка такіх крэпасьцяў у першую чаргу карысталіся абароннасьцяй чым іншыя вёскі далейшыя. А дзякуючы свайму палажэньню, у спэцыяльна выбраных пунктах гэтыя вёскі былі як-бы празначаны дзеля разьвіцьця і разросту ў большыя і мацнейшыя адзінкі г. з. гарады. І на некаторыя з іх перайшоў даўнейшы назоў „горад“. Гарады г. зв. Чорнай Русі, параськіданыя сярод лясоў, былі вогнішчамі, якія гуртавалі каля сябе асадніцтва.

Значэньне гэтых свайго роду крэпасьцяў для асадніцтва будзе тым большае, калі возьмем пад увагу іх ролю ў разьвіцьці камунікацыі.

Людзі ў першабытную пару падарожнічалі ў умовах вельмі цяжкіх. Дрыгвяныя балоты, ручаі, палімы перашкаджалі дужа часта абладаваным вазом пасоўвацца наперад. Трэба было расьцярэбліваць або абмінаць пушчы спатыканыя на шляху, *насыпаць грэблі, будаваць масты.* Былі змушаны трымацца праложаных праходаў, бо йнакш у непраходных тапелішчах лёгка было загразнуць, або трапіць у пастку ворага.

Дзеля гэтага вандроўныя шляхі мелі аграмаднае значэньне.

Ведаем добра, што найбольш істотным ў паняцьці дарогі павінна быць яе бясьпечнасьць. Такіх дарог, якія мелі значэньне нятолькі камунікацыйнае, але і стратэгічнае, трэба было сьцерагчы. Гэтую ролю выконывалі гарады-старажніцы.

Вышэй успомненыя ўзгляды да некаторай меры аб'ясьняюць, дзеля чаго з разбудаванымі гарадамі распаложаны ўздоўж спэцыяльных лініяў нп. Вільня, Ліда, Наваградак, Мір, Несьвеж, Клецк, Пінск, або: Берасьць, Слонім, Несьвеж, Слуцк, Глуск і г. д. Гэта лініі старых камунікацыйных артэрыяў і стыхійнай калянізацыйнай экспансіі.

Сустракаем таксама гарады ўздоўж рэк. Разумеем цяпер іх сэнс. Дзеля таго, што рака была нятолькі карміцелькай, ня толькі шляхам, якім ішло асадніцтва, але і дарогай, якой праходзілі купцы, а таксама і варожыя навалы чужынцаў, — значэньне гарадоў надрэчных зразумелае: зьяўляюцца яны стражніцамі, пільнуючымі пераходаў. Напр. Слонім, Клецк, Слуцк, Глуск, або: Пінск, Тураў, Петрыкаў, Мозыр выконывалі сваю адвечную задачу на Прыпяці.



Праф. Г. Ловмяньскі*) падае, што да XIII в. на Чорнай Русі ня было асобнага княства, затое ведамыя былі гарады-стражніцы, як завязь арганізацыі.

На ўмацаваных месцах з бегам часу былі будаваны дзеравяныя, аблепленыя глінай замкі. У гэтых замках жылі князі. Яны ступянёва арганізавалі насельніцтва, якое шукала ў іх абароны і апекі, гэтым падпарадкавалі яго цалком пад сваё панаваньне. Такім чынам з часам паўстаў г. зв. двор з абаронным замкам і аграмаднымі абшарамі зямлі і валасьці з жыхарамі цалком залежнымі ад пана-валадара замку, якія плацілі падаткі, а таксама былі забавязаны да абароны граніц, маемасьці і дарог.

Пры замках звычайна адбываліся таргі; кружылі тут купцы з заморскімі таварамі. І гэта спрыяла таму, што людзі ахвотна пасяляліся блізка замкаў.

Пачало пасяляцца насельніцтва землябробскае і іншае пры замках, але на такіх эканамічных умовах (як кажа праф. Кутшэба), на якіх пасялялася ў вёсках. Такім чынам на г. зв. прыгарадзьдзі паўставалі пачаткі местаў (гарадоў). Спачатку былі гэта малыя мястэчкі, якіх насельніцтва ня розьнілася ад насельніцтва вясковага; гэтае насельніцтва займалася землябробствам, рамяслом і гандлем. У залежнасьці ад спрыяючых варункаў, з гэтых мястэчак вытварыліся контуры вялікіх местаў. З гэтага бачым яшчэ адну ролю гарадзішчаў: зьяўляюцца яны асяродкамі няраз магутных гарадоў. Усе большыя гарады на г. зв. Чорнай Русі маюць такі пачатак.

Дзеля гэтага, знаходжаньне гарадзішча, або развалінаў замку мае аграмаднае значэньне для дасьледчыка гарадзкога асадніцтва. Гэта дае ключ для многіх праблемаў урбаністыкі.

Замкі выканалі аграмадную ролю колёнізацыйную. Літоўская экспансія апіралася толькі на гарадох-замках.

Падаўчыя акты, тэстамэнты і фундацыі сьведчаць аб тым, што літоўскія вяльможы трымалі ў сваіх руках маемасьць належачую да Беларусаў. Плян колёнізацыйны вялікіх князёў літоўскіх згары быў абдуманы: паўстаюць вялікія беларускія пасёлкі, належачыя да Літвіноў.

Родзіцца (як кажа праф. Ловмяньскі) экспансія гаспадарчая на Русь элемэнту памешчыцка-рыцарскага.

Літоўскія кунігасы-князі здабываюць становішчы князёў у беларускіх гарадох. Такая была роля гарадоў пры колёнізацыі літоўскай.

Гэтак паўставалі гарады ў Беларусі і такую, як бачым, выконывалі ролю ў мінуўшчыне.

*АЛЬДОНА ПЯЦЮКЕВІЧ*

Вільня, дн. 5.II.1937 г.

*) Studja nad początkami społeczeństwa i państwa Litewskiego.

# Р. Шырма і беларуская песьня ў Вільні

Няма, хіба, у Вільні аніводнага музыкальнага чалавека, які-б ня быў, хоць павярхоўна, азнаёмлены з беларускай песьняй. А яшчэ гэтак нядаўна, менш, можа, як дзесятак гадоў таму, беларуская народная музычная творчасьць была для большасьці культурнага грамадзянства нечым зусім нязнаным.

Бязсумлеву, мы зьяўляемся сьведкамі мамэнту, калі беларуская народная музыка вырушае на здабыцьцё сьвету. Няма людзей музыкальных, якія беларускай песьні ня любяць, ёсьць тольکі такія, што яе ня ведаюць; хто раз з ёю пазнаёміцца, астанецца на ўсё жыцьцё пад уплывам яе чару. Гэта відаць яскрава на прыкладах такіх кампазытараў, як Грэчанінаў і Галкоўскі.

Што ж змушае музыкальны сьвет зацікавіцца нашай песьняй, у чым яе найвялікшае хараство, на чым палягаюць яе вартасьці і значэньне? Трудна адказаць на ўсе гэтыя пытаньні, так, як трудна ў словах сфармулаваць паняцьці хараства і эстэтыкі.

У часы, калі „ўсе песьні ўжо перажыты, усе мэлёдыі перайграны," калі кампазытары ня шукаюць ужо амаль новых мэлёдый здаваліваючыся, часта, чыста тэхнічнай — аркестровай, галасавой, рытмічнай, нават, апрацоўкай старых мэлёдый, — раптам беларуская народная песьня ўносіць у сусьветны музычны фонд" нязьлічанае багацьце сваёй мэлёдыкі, мэлёдыкі арыгінальнай, але ня эксцэнтрычнай, простай, але ня прымітыўнай. У той час, калі кампазытары, шукаючы новых рытмаў, заблуталіся ў вульгарных эфэктах сымфонічнай рытмікі, беларуская народная песьня дэмонструе зьдзіўленаму музыкальнаму сьвету сваю багатую арыгінальную рытміку, вольную, амаль, ад сынкопаў, натуральна выплываючую з самой мэлёдыі.

Дзіўным цяпер здаецца, што скарбы беларускай народнай песьні аж да апошніх часоў ляжалі нявыкарыстанымі. Праўда, ведамы гадоў 40—50 таму назад хор Славянскага меў у сваім рэпэртуары дзьве ці тры беларускія песьні („Ці ня дудка мая," "Чаму-ж мне ня пець," „Ня лісточанькі шумяць"), але глыбей беларускай песьняй Славянскі заняўшыся прадусім музыкай вялікa-расейскай не зацікавіўся.

Толькі ў пару адраджэнскага беларускага руху асабліва пасьля вайны пайшла ў гару беларуская музыка. Ня будзем гэтым разам вырысоўваць у ва усей шырыні гэты рух, будзем гаварыць толькі аб самым бліжэйшым да нас, — гэта аб Вільні і тут на першае мейсца мы павінны паставіць імя грамадзяніна Грыгора Рамановіча Шырмы.

Гэта ён езьдзячы па беларускіх вёсках сабраў і запісаў некалькі сот беларускіх мэлёдый. Гэта ён сваім запалам і захапленьнем так зацікавіў беларускай песьняй ня толькі вядомага віленскага кампазытара К. М. Галкоўскага, але нават і ўсесьветнай славы расейскага кампазытара А. П. Грэчанінава, які жыве ў Парыжу. Гэта ён стварыў, і пры тым бяз усякіх матэрыяльных дапамог, цудоўны беларускі Хор у Вільні.

І вось дзякуючы гэтаму рэдкаму культурнаму працаўніку, цяпер пазнаёміцца з беларускай народнай песьняй досыць лёгка; маем ужо некалькі багатых зборнікаў, маем такіх гарманізатараў, як Грэчанінаў і Галкоўскі, маем у Вільні цудоўны Хор гр. Р. Шырмы. Грэчанінавым і Галкоўскім гарманізаваны ужо сотні беларускіх песьняў, сотні іх навучыўся і прапяяў Хор Шырмы.

Вялікую і ахвярную працу вядзе гр. Шырма з сваім Хорам, папулярызуючы беларускую народную песьню. Паціху, бяз крыку і рэклямы, працуюць Шырма і яго Хор, але працуюць старанна, плянова, перадумана. І толькі нямногія з слухачоў, захапляючыся на канцэрце нязвычайнай згоднасьцю і дакладнасьцю выкананьня, высока мастацкай апрацоўкай твораў, цудоўнай па выразнасьці і пачуцьцю дыкцыяй, уяўляюць сабе, якая цяжкая і напружаная праца ўсяго Хору і яго кіраўніка мусіла папярэдзіць канцэртнае выступленьне.

Віленскае музыкальнае грамадзянства, як беларускае, так і польскае і расейскае, належна ацаняе мастацкую вартасьць Хору Шырмы і выконываных ім твораў. Незразумелым зьяўляецца толькі становішча ў справе беларускай музыкі Віленскага Радыё. Праўда, Радыё часам дае магчымасьць сваім слухачом праслухаць беларускія песьні ў выкананьні Хору Шырмы, але вельмі рэдка, і то выключна ў г. зв. „літаратурных аўдыцыях,"як іх музычную ілюстрацыю, а не ў самастойных канцэртах.

Словаў „беларусы і беларускі" пры гэтым старанна унікаюць. Каго хочуць ашукаць?

Апошнімі часамі ў польскай прэсе раздаецца шмат галасоў за тым, каб Радыё большую ўвагу зьвярнула на аўдыцыі для вёскі, а ў іх ліку — і на народную музыку. Радыё выразна стараецца гэтыя жаданьні споўніць. Але няўжо кіраўнікі Радыё думаюць, што розныя полькі выконываныя на гармоніцы, з прысьвістываньнем, п'янымі галасамі і з п'янымі выкрыкамі, — гэта і ёсьць народная музыка? Такое, прынамсі, уражаньне мае той, хто слухае „audycje dla wsi", „audycje dla poborowych."

Як-жа далёкая ад п'яных выкрыкаў беларуская народная музыкальная творчасьць! Да беларускіх музыкальных народных твораў трэба падыходзіць так сама паважна, як да твораў найвялікшых кампазытараў і тады хараство іх выступіць магутна і яскрава. Выкананьне на 1-шы дзень каталіцкага Ражства чатырмя п'янымі галасамі, да таго яшчэ унісонам, беларускіх калядак — гэта *абраза Хараства.*

А калі тыдзень, больш-менш, пазьней, пяяў калядкі Хор Шырмы, калі хвалі радыё па ўсёй зямлі разьнесьлі гукі чароўнай мэлёдыі, гэта было сьвята музыкі: беларускі народ укладаў у агульна-людзкі музычны скарб свой багаты ўдзел.

*В. Багдановіч*

# ПЕСЬНЯ КУЛІКОЎ

*Пахне дзёгцем,*
*потам,*
*рыжаю аўчынай;*
*цішыня у хаце згорбленай, старой,*
*ды гарыць памалу ноч з даўгой лучынай*
*сьцелючы сасновым дымам і смалой...*
*Часам вецер дрэвы зачапіўшы гужам*
*доўга іх пілуе месяца сярпом*
*і снуе на плоце*
*белы, сьнежны кужаль,*
*з доўгай сьнежнай песьняй за сьляпым вакном.*
*У печы дымна дровы мокрыя пылаюць,*
*зайцамі кладуцца цені па сьцяне.*
*Пеніцца сярдзіта, — бульба закіпае*
*сьнежнаю завеяй*
*ў чорным сагане.*

*— Ну, садзіся з намі! —*
*дзед стары гавора*
*і акраец хлеба чорнага кладзе. —*
*Наарпуе сьнегу, бы мяккіны горы,*
*не праедзеш полем з дровамі нідзе...*
*Сам відаць далёкі...*
*не з блізкіх аколіц,*
*не з пад нашых пэўна саламяных стрэх...*
*Ды апранен слаба, — недзе зьмерзьнеш ў полі, —*
*хоць на лаве цесна, пэрасьпі начлег!*
*Бачыш: у нас голад,*
*людзі жывуць бедна,*
*хлеб на стол кладзецца толькі для гасьцей...*
*Можа хопіць бульбы з дзён асеньніх медных*
*да вясны, да першых з вырaю гусей...*

*Час такі нядобры. З першых дзён марозу*
*моладзі нямала з вёскі узялі.*
*Шмат раз ужо пэўна*
*шэрыя бярозы*
*сьлед іх з белым ветрам*
*ў полі замялі...*
*Хочыцца вучыцца ў мове сваей роднай,*
*лезьлі, дамагаліся грудзьмі...*
*Я ўжо хутка лягу*
*пад сасной зялёнай —*
*што, скажы мне, будзе з нашымі дзяцьмі? —*



*У кутку, на нарах, на старую кніжку*
*ціхі шопат льецца*
*і чупрынаў бель;*
*сумна з маладзіцай над малой калыскай*
*ўсхліпывае песьняй*
*белая мяцель.*

*—Сьпі, засьні, маленькі...*

*— Што, мужык на працы?..—*
*Кажыш, далі роўна яму дзесяць год?!*

*— ...сьпі, засьні саколік...*

*А дажджом гарачым*
*сыпецца ў калыску з вачэй горкі пот...*

*— Я, стары, таксама з пад страхі сялянскай,*
*быў і там, дзе сяньня твой гарує сын...*
*Шмат сьлядоў пакінуў на дарогах гразкіх,*
*на скрыпучых струнах*
*белых палазін...*

*— ...Сьпі, засьні, маленькі, родненькі саколік!..*
*Ну ня плач, мой добры!..*
*Слухай: ля ракі*
*не мяцель галосіць на заснуўшым полі,*
*а ў імгле зблудзілі пэўна кулікі...*

*І стары ўздымае выцвіўшыя вочы.*

*— Ну, кажы, ці доўга гэта будзе так?*
*Сеіць усё сеім —*
*з рана да паўночы, —*
*каб на нашых нівах красаваўся мак.*
*А у нас ўсё цёмна, толькі час ад часу*
*блісьне калі сонца паміж нашых стрэх,*
*ды сядзім ў паўголад над галодным квасам,*
*нашы сьцежкі ў полі*
*замятае сьнег...*
*Кажыш — ужо хутка выпрастаем плечы, —*
*кажыш аб шырэйшых нівах,*
*аб вясьне.*
*Вось і я, здаецца, вылез-бы з-за печы, —*
*хай пакліча толькі моладзь і мяне. —*

*Прыйдуць дні другія. Эх, сівы ты сокал!*
*пэўна сын твой рана прынясе зару, —*
*і хацеў-бы моцна, каб з сяўні шырокай*
*ты тады засеіў нашу Беларусь.*

*Праўда, сяньня цяжка нам і нашым песьням,*
*ворагі капаюць шмат*
*глыбокіх ям,*
*але сяньня з косаў мы сьціраем плесьні*
*і загоім заўтра кожны знак і шрам.*
*Праз вякі балюча ботамі тапталі*
*нашу мову, нівы і зары усход.*
*Але ужо годзе!*
*Шэрымі мурамі*
*ня стрымаць сталёвы*
*сонечны*
*паход!*

*За разьбітай шыбай плача вецер суха,*
*рвуцца пражы ніткі, ў'юцца на калкі...*

*— ...сьпі, засьні, маленькі...*
*ці мо' лепш паслухай,*
*як ў імгле зблудзіўшы плачуць кулікі...*

*Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,*
*цішыня у хаце згорбленай, старой;*
*ціха дагарае ноч з доўгай лучынай*
*сьцелючы сасновым дымам і смалой.*
*Пад разьлівы песьні хмарыць сон гарачы...*

*— ...сьпі, засьні мой добры...*
*слухай... з над ракі...*

*Ды і мне здаецца, што ў імгле, няйначай,*
*не мяцель, а плачуць*
*недзе*
*кулікі...*)*

**М. ТАНК**

Вільня, 12.XII.1936.

*) Верш гэты прысьвечаны Дню Беларускай Культуры.



# НА ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## 13.XII.1936 г.

*Праз цемру, імглу, бездарожжа,*
*цягнуліся нашы гады;*
*пад бурай, віхрамі і дождажам*
*расьлі і мацнелі рады.*

*Рады нашых шэрых герояў,*
*што сонца у песьнях нясуць,*
*што ў цемры — сьвятлянай душою,*
*як сьветачам чысьцяць наш пуць.*

*Што роднае слова, як зёрны,*
*кідаюць у душы братоў*
*і словам іх будзяць і кормяць,*
*як хлебам зьвінячых палёў.*

*Я сёньня ім песьню складаю,*
*пра чын іх ахвярны пяю*
*і птушкай крылатай па краю*
*пушчу гэту песьню маю.*

*Шырокае поле і далі,*
*прастор палатняных дарог —*
*напеў гэты ім калыхалі*
*пад коўдрай вяковых зьнямог.*

*Запраўды было тут пагана,*
*і цёмна, і жутка кругом;*
*душа жыла птушкай спужанай,*
*жыцьцё было — вечным ярмом.*

*Старыя курганы былінай*
*няраз яшчэ будуць цьвісьці,*
*як чорнае гора крапівай,*
*расло у прыгонным жыцьці.*

*Тут шчасьце цьвіло толькі ў ночы,*
*купальскаю кветкай ў бары,*
*дарма падымаліся вочы,*
*шукаючы ў небе зары.*

*Маўчала і неба, і зоры...*
*маўчаў анямеўшы прастор;*
*нядоля была прыгаворам*
*і ткала праклядьцця узор.*

*Тут сумна пляліся дарожкі*
*між ніў залацістых палёў,*
*пляліся ад вёскі, да вёскі,*
*як доля, як лёс мужыкоў.*

*Ішлі па іх сумныя жнеі*
*на панскі загон працаваць;*
*ад песьняў тужлівых нямелі*
*палі, пералескі і гаць.*

*Ды песьні цягучага болю*
*замкнутых ня ўзрушылі воч;*
*на душах ляжала няволя,*
*на вочах зьнямога і ноч.*

*Цягнуліся моўчкі нямыя,*
*як слота у восень гады,*
*з жабрацкаю песьняй сьляпыя*
*блудзілі па вёсках дзяды.*

*Але нарадзілісь Лявоны,*
*з бунтарным агнём у душы,*
*і зорамі палкія словы*
*пачалі лунаць у цішы.*

*І песьню другую зложылі,*
*зайгралі на струнах другіх —*
*і радасьць, і сум абудзілі —*
*тугу і парывы жывых.*

*Прывет Вам сяўцы неразвонаў,*
*прывет Вам ад вёсак і ніў! —*
*за шчырае, роднае слова —*
*за чын і ахвярны парыў.*

*М. МАШАРА*



# Дзень Беларускай Культуры ў Вільні

Да памятных дзён з беларускага культурна-грамадзкага жыцьця ў Вільні трэба залічыць „Дзень беларускай культуры", урачыста адсьвяткаваны 13-га сьнежня 1936 г. Трэба жадаць, каб гэты дзень стаўся пачаткам прыгожай традыцыі ладжаньня гэткіх імпрэз кожны год. Думка наладжаньня гэтага асаблівага нацыянальнага сьвята паўстала ў віленскіх беларусаў у сувязі з праектаваным адзначаньні юбілеяў беларускіх культурна-грамадзкіх арганізацыяў і устаноў, а так-жа асоб, што сваей працай прычыніліся да развою беларускага культурнага будаўніцтва. І так у мінулым 1936 г. прыпалі юбілеі: — 15-я ўгодкі Таварыства Беларускай Школы, 10-я Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, 15-я Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча, 10-я Беларускай Друкарні ім. Францішка Скарыны, юбілеі паэтаў: 30-я ўгодкі літаратурнай дзейнасьці народнага паэта Якуба Коласа, 20-я гадаўшчына сьмерці паэткі Цёткі, 10-я ўгодкі сьмерці Казімера Сваяка. Юбілеяў, як бачымо, сабралося. Практычныя мамэнты, матарыяльная ўбогасьць беларускага грамадзянства, а так-жа ідэова-маральныя дзейнікі прамаўлялі за тым, каб калі ня ўсе гэныя юбілеі, то некаторыя, адзначыць разам, адначасова і супольна. Арганізатарамі гэткага супольнага сьвяткаваньня і афіцыяльна адказнымі за яго мелі быць Бел. Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускай Школы. Нажаль да рэалізацыі гэткай прыгожай канцэпцыі не дайшло... Знайшліся працаўнікі... Сьвяткаваньне адбылося з гледзішча арганізацыйнага ў другой канцэпцыі. Рэпрэзэнтанты незалежнага беларускага грамадзянства — староньнікі супольнага сьвяткаваньня—ўтварылі спэцыяльны Камітэт Сьвяткаваньня, які і наладзіў сьвяткаваньне пад назовам „Дзень Беларускай Культуры".

Урачыстая акадэмія адбылася ў гасьціннай залі літоўскай гімназіі імяні Вітаўта Вялікага, пры вуліцы Дамброўскага № 5, запоўненай народам. На подыюм, пад гістарычнай беларускай Пагоняй, засеў за прэзыдыяльным сталом Камітэт Сьвяткаваньня ў складзе: С. Паўловіч, Кс. А. Станкевіч, М. Машара, М. Танк, Р. Шырма, А. Клімовіч, П. Сяргіевіч, Я. Шутовіч і М. Канцэлярчык. Акадэмію адчыніў адказны кіраўнік ейны інж. А. Клімовіч.

Праграма акадэміі з увагі на об'ектыўныя перашкоды агранічылася да ўступнога слова — прамовы Кс. Адама Станкевіча, прывітаньняў і вокальнага канцэрту — выступленьняў Хору грам. Р. Шырмы і сьпеву саліста-тэнара Міхала Забэйды-Суміцкага.

## Прамова

Кс. А. Станкевіч на пачатку сваей прамовы прадставіў агульны зьмест паняцьця культуры. — „У ім — кажа прамоўца — скрыта ўсё тое, што так бязупынна і прагавіта здабывае і твора душа чалавека, усё тое, што азначае вартасьць і імкненьні

жыцьця людзкога. Навука, літаратура, мастацтва, музыка, рэлігія, а так-жа датасаваньне гэтага ўсяго да жыцьця чалавечага, каб яно было радасным, каб мела сэнс свой і каб было дастойным чалавека — ўсё гэта разам узятае крыецца пад гэным магічным назовам: культура.“ — І спыніўшыся крыху ў агульных словах на творчых пладох душы людзкой, на падарожных шляхох культуры чалавечай, якія давялі — „ад іскры, выкрашанай з камяня аж да іскры электрычнай і да этэрычных фаляў радыёвых, ад сьвечкі ці газьніцы аж да раскошных электрычных лямпіёнаў, ад простай народнай песьні аж да вялікіх паэматаў і аж да сымфоніі музычнай, ад вузкага, тупога й нявольніцкага фэтышызму аж да бязбрэжнага, вольнага і глыбокага монотэізму, ад прымітыўнага ражна дзеравянага аж да скомплікаванага трактара, ад жыцьця стадовага, дзікога і поўнага соцыяльных супярэчнасьцяў і крыўдаў аж да сучасных грамадзянстваў, апёртых на вольнасьці і грамадзкай справядлівасьці“ — прамоўца схарактарызаваў розныя віды культур даўнейшых і культуру сяньняшняй пары: — „Гісторыя знае розныя віды культуры залежна ад эпохі, расы, нацыі, клясы, ад адзінак, якія яе твораць, ад таго ўрэшце асяродзьдзя, у якім грамадзянства якое ці адзінка прабывае. Гісторыя знае культуры рэлігійныя, у якіх галоўным матывам і характарам творства чалавека ёсьць рэлігія, знае так-жа гісторыя культуру капіталістычную, буржуазную, якая мае характар пэўнай выключнасьці, недаступнасьці для шырокіх масаў, якая мае характар свайго роду клясавасьці... сяньня культура шукае сабе новых шляхоў, новых дарог...—яны ідуць у кірунку праблемы нацыянальнай і адначасна соцыяльнай. Вызваленьне прыгнечаных нацыяў і соцыяльных клясаў — гэта галоўныя мэты сучаснага грамадзянства, а дзеля таго ў гэтым кірунку адбываецца і культурнае творства сяньняшняга чалавека.“ —

Аднак старыя культуры ня ўміраюць цалком: — „Вартасьці агульна-людзкія і вечныя, якія ёсьць у кожнай культуры, астаюцца назаўсёды... І сяньняшняя культура, якая творыцца пад знакам нацыі і соцыяльнай праблемы — іменна зьяўляецца гэнай новай вартасьцяй для ўсяго чалавецтва.“ —

Далей прамоўца спыніўся на агульнай агаворцы прычыны і ўплываў на старую беларускую культуру культур візантыйскай і лацінскай, адзначыў расьцьвет старой беларускай культуры ў XVI в., яе клясавы, баярскі характар, прычыну яе занападу і прыступіў да агаворкі ролі романтызму XIX в. для беларускага народу і яго культуры.

Пад уплывам романтызму тварылася новая беларуская культура і беларускі рэнэсанс, які паводле прамоўцы пачаўся нядаўна, бо найбольш 45 год таму — ад часу выхаду ў сьвет „Беларускай Дудкі“ Багушэвіча, з ейным клічам: „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі“.

Рэнэсанс беларускі ўжо шмат чаго даканаў: — „Сяньня ўжо ўва ўсіх галінах жыцьця беларусы працуюць на ніве роднай



культуры і часта цалком паважныя пакідаюць вынікі гэтай працы. Ужо беларусы сяньня могуць пахваліцца здабычамі ў навуцы, у мастацкай літаратуры, у музыцы, у мастацтве агулам. Праўда, у некаторых галінах культурнага творства мы яшчэ толькі ў пачатку, у некаторых яшчэ дабіліся нямнога, але затое ў некаторых асягнулі пункты роўныя з народамі старых культураў. Гэткімі культурнымі асягненьнямі можам мы пахваліцца ў паэзіі. Нашыя вялікія песьняры Янка Купала, Якуб Колас і інш. сьмела могуць раўняцца з вялікімі клясыкамі эўрапэйскіх народаў. Сілы і ўзоры для свайго культурнага творства беларусы чэрпаюць з народных крыніц.“ —

Канчаючы сваю глыбока прадуманую, зьместоўную і сынтэтычную прамову, Кс. А. Станкевіч падчыркнуў значэньне для беларусаў „Дня Беларускай Культуры“ — гэтага сьвята беларускага творчага духа.

А сьвята гэтае мае значэньне і з гледзішча практычнага і агульнага, прынцыповага, а так-жа з гледзішча карысьцяў з увагі на іншыя народы: 1. У 1936 г. прыпадалі юбілеі некаторых беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў і устаноў і асоб: — „Вось-жа дзень беларускай культуры — кажа Кс. Станкевіч, — які сяньня сьвяткуем, мае сваей мэтай адзначыць ня толькі здабычы беларускай культуры агулам, але так-жа і гэтыя ўсе... сёлетнія юбілеі.“ 2. — „Гэтае сьвята дае магчымасьць углыбіцца ў тайніцу культуры агулам, лепш пазнаць яе чарадзейскія вартасьці і запаліцца да далейшай творчай культурнай працы.“ — 3. — „Нішто так ня зближае народаў між сабой, як узаемнае пазнаньне культурных цэннасьцяў кожнага з іх“. —

Апошнія словы прыгожай прамовы Кс. Станкевіча былі пажаданьнямі, каб Дзень Беларускай Культуры быў пачаткам сьвяткаваньня гэткіх дзён кожнага году.

## Прывітаньні

Віталі Беларусаў з нагоды іхняй вялікай урачыстасьці прадстаўнікі братніх народаў: — ад украінцаў — прадстаўнік Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі пасол Троян, ад Літоўцаў— дырэктар Шыкшніс. Першы ў моцных і сардэчных словах выразіў нязьменнасьць добрых адносінаў між Украінцамі і Беларусамі, падчыркнуў вялікія вартасьці беларускай культуры для тварца гэтай культуры — беларускага народу — і ягоных вызвольных імкненьняў, — а так-жа для агульна-людзкай справы, і для украінскага народу ў асобнасьці. — У канцы прамоўца зычыў памыснага далейшага развою беларускага народу на шляху культурнага будаўніцтва. — Дырэктар Шыксніс падчыркнуў гістарычны факт супольнасьці старой культуры Беларусаў і Літоўцаў у мінуўшчыне, — у пару Вялікага Княства Літоўска-Беларускага, — і выразіў пажаданьне, каб новая беларуская культура, якой тварцамі на грунце літаратуры зьяўляюцца Купала

і Колас, памысна разьвівалася, прысвайваючы вартасьці і агульналюдзкай культуры.

Тэлеграфна і пісьменна віталі віленскіх беларусаў — беларусы з краю і з-заграніцы (Бэрлін, Рыга, Коўна, Прага).

## Канцэрт

Выражэньнем вартасьцяў беларускай культуры, паказам вышыняў беларускага творчага духа ў галіне музычна-вакальнага мастацтва быў канцэрт. Арганізатары, лічучыся з вонкавымі перашкодамі, далі нявінны паводле свайго зьместу рэпэртуар — многа народных мэлёдыйных песень і песень з свабоднай музычнай творчасьці на словы нашых паэтаў. Канцэрт складаўся з трох частак. Пад кіраўніцтвам слаўнага рэгента і няўтомнага беларускага культурнага дзеяча грам. Р. Шырмы ведамы ягоны Беларускі Хор выканаў першыя дзьве часткі: у першай кантату К. Галкоўскага на словы М. Танка, народныя песьні: „А мне трудненька“ — К. Галкоўскага, „Зялён гай“ — А. Грэчанінава, „А ў полі вярба“ — А. Сьвешнікава, „Па саду хаджу“ — К. Галкоўскага, „Кукавала зязюлька“ — А. Грэчанінава і песьню „Вясна“, муз. К. Галкоўскага, словы М. Васілька, а ў другой частцы: — бадзёрую песьню „Усе разам“, муз. М. Анцава, словы Я. Купалы, народную „Ой гыля, гыля гусі вадою“ — А. Грэчанінава і цудоўную сюіту „Каханьне“ (дзесяць народных песьняў) праф. К. Галкоўскага.

Беларуская песьня, дзякуючы артыстычнаму выкананьню Хору, пры дасканальным акампаньямэнце праф. К. Галкоўскага, асягнула вышыні хараства. Запоўненая слухачамі (больш паўтысячы) аўдыторыя была зачараваная і свой энтузіязм і задаваленьне з перажываных эстэтычных эмоцыяў выражала бурнымі воплескамі ў чэсьць выканаўцаў.

Трэцюю і апошнюю частку канцэрту запойніла выступленьне солё артыста міланскай і пазнанскай опэры Міхала Забэйды-Суміцкага. Гэты высокай клясы эўрапэйскі артыст-чарадзей пры акампаньямэнце праф. К. Галкоўскага выканаў папулярна-апрацаваныя А. Грэчанінавым чатыры беларускія народныя песьні: „Ляціць сарока“, „Конь бяжыць“, „Шчука-рыба ў моры“, „Ой, рана куры запелі“ і з свабоднай творчасьці чатыры рамансы: тры на словы Я. Купалы: „Ты прыйдзі“, муз. Чуркіна, „Лета“ — муз. Аладава, і „Абнімі ты мяне“ — муз. К. Галкоўскага і адзін на словы Ясакара: „Ці грэх цябе любіць“ — муз. К. Галкоўскага.

Артыст цудоўна перадаў, як народныя песьні, так і песьні з свабоднай творчасьці. Слухачы, дзякуючы вялікім здольнасьцям артыста, здаецца першы раз яшчэ ў Вільні адчулі чар і хараство беларускай песьні, выкананай солё. Зачараваная заля хвалявала. Бурным авацыям ня было канца. Беларуская моладзь, поўная захапленьня, абнясла на канчатак артыста па залі.



Канцэрт пакінуў па сабе моцныя, незабыўныя ўражаньні.

Аб „Дню Беларускай Культуры“ шырока пісала прэса.

Віленскія расейскія газэты — „Русское Слово“ і „Наше Время“ ў № 297 з дня 18.XII.36 г., даючы добрую ацэну выступленьняў Хору і Міхала Забэйды-Суміцкага, вось што напісала:

„Хору Шырмы ўдалося паказаць свае артыстычныя дасягненьні і нязвычайнае багацьце беларускай народнай музычнай творчасьці. Гэты хор, бяз сумліву, адзін з лепшых (калі не найлепшы) з віленскіх хораў. Трудна сказаць, што болей захапляе слухача, цудоўныя галасы харыстых ці зьдзіўляючая дасканальнасьць апрацоўкі, нязвычайная пранікаючая душу (пронікновенная) глыбіня трактоўкі выкананых твораў. Немагчыма сказаць, якая з песень найболей спадабалася слухачом: кожная ў выкананьні хорам была маленькім шэдэўрам.

Надта спадабаўся публіцы артыст опэры, тэнар М. Забэйда-Суміцкі. Прыгожы, мяккі і чысты голас, шляхотная, культурная манера сьпеву, — вось галоўныя дастоінствы артыста.

Шкада, што шырокая публіка надта рэдка можа знаёміцца з беларускай музыкай“.

А вось голас жыдоўскай прэсы. У справаздачы з беларускай урачыстасьці, „Вільнэр Тог“ з дня 16.XII.1936 г., № 287 напісана:

...„Калі афіцыяльная частка, як відаць з даволі важных прычын, адбывалася як-бы на палавіну адчыненым ротам, то канцэртны аддзел быў дадзены ўсім сэрцам: чаго не дагаварылі, тое дапялі. Беларускія народныя песьні расказалі аб беларускім народзе, аб яго душы, цярпеньнях, радасьцях больш, як гэта маглі-бы сказаць найдаўжэйшыя прамовы.

Тэксты вялікіх беларускіх песьняроў Купалы, Ясакара і маладых віленскіх паэтаў М. Танка, М. Васілька, ясна гаварылі за сябе, як высака стаіць беларуская культура і літаратура.

Хор Шырмы прыемна слухаць. Чатыры дзесяткі хлапцоў і дзяўчат, кіраваныя ўмелай і чулай рукой дырыгента вельмі добра сьпеты. Іх ціхае pianissimo разыходзіцца, як бальзам па ўсім целе...

Апошнюю частку канцэрту выпаўніў саліст М. Забэйда-Суміцкі. Гэты артыст мае лірычны тэнар і так прыгожа пяяў, што публіка на руках вынесла яго на залю і доўга рабіла яму авацыі“.

Прыхільныя водгукі знаходзяцца на бачынах і іншай прэсы — украінскай, літоўскай і польскай.

Сапраўды, „Дзень Беларускай Культуры“ быў вялікім сьвятам артыстычных дасягненьняў беларускага творчага духа ў галіне музыкі і песьні, быў радасьцю і беларускаю нацыянальнаю гордасьцю.

*Я. Ш.*

# КНІГАПІС

*Mikolas Biržiška* — „Chodkevičiai,“ „Chodzka,“ „Chominskiai“, Kaunas 1936.

Гэта адбіткі з Літоўскай Энцыклёпэдыі, якая цяпер выдаецца ў Коўне. Аб Хадкевічах і аб Ходзькаx артыкулы зьмешчаны на 14 бачынах, а аб Хамінскіх на 7. Фармат адбітак: 25×17. Тэкст разьмешчаны ў дзьве шпальты.

Усе гэтыя артыкулы праф. М. Біржышка апрацаваў вычэрпываючa, дужа падрабязна й безстаронна. Ён заўсёды зазначае, хто з асобаў гэных трох родаў з кім найбольш быў зьвязаны: з літоўцамі, беларусамі ці ўкраінцамі, зазначаючы адначасна дадатнюю й адʼёмную гэтых асоб дзейнасьць. Так напрыклад аб Рыгоры Хадкевічу ў адбітцы зазначана, што ён шырока праводзіў прасьветную сярод беларусаў акцыю, што прыняў уцёкшых з Масквы друкароў: Івана Фёдарава і, быўшага друкара Скарыны, беларуса Пятра Мсьціслаўца, што й сам заложыў у Заблудаве друкарню, у якой надрукаваў у беларускай мове Эвангельле, Псалтыр, Апостал. Узноў-жа гаворачы аб родзе Хамінскіх, праф. М. Б. падчырківае прыязныя да беларусаў адносіны наймаладзейшага з гэтага роду Людвіка Хамінскага, сучаснага культурнага польскага дзеяча ў Вільні, зазначаючы адначасна, што яшчэ прад вайной у Альшэве, Лынтупскай воласьці (двор Хамінскіх), за часоў бацькі Людвіка была заложана польская школа, каб польшчыць беларускіх дзяцей.

Беларускі гісторык, дасьледываючы мінуўшчыну свайго народу, і спатыкаючыся ўсьцяж з дзейнасьцяй Хадкевічаў, Ходзькаў і Хамінскіх, у працы праф. М. Біржышкі можа знайсьці шмат чаго сабе патрэбнага.

Род Хадкевічаў выводзіцца з XIII ст. З іх М. Б. апісаў 16 асоб.

Род Ходзькаў ведамы ўжо ў XIV ст. У адбітках апісана 14 асоб.

Першы Хамінскі (Федзька) ведамы ў 15 ст. З гэтых М. Б. апісаў — некаторых дужа коратка — 17 асоб.

*Ад. Ст.*

*Хведар Ільляшэвіч:* **Захварбаваныя вершы. Вільня 1936. Бач. 30.**

Новы зборнічак вершаў Хведара Ільляшэвіча даволі старанна і прыгожа выданы, які нядаўна паявіўся з друку пад вышэйуспомненым назовам, зьяўляецца вельмі паважным зьявішчам у творчасьці нашага маладога паэта.

З пасярод сучаснай беларускай паэзіі ярка выдзяляецца творчасьць Ільляшэвіча ўжо сваей тэматыкай, акая амаль выключна зьяўляецца аснаванай на матывах мяшчанскіх і інтэлігенцкіх. Вясковая, салянская стыхія, дамінуючая ў іншых нашых паэтаў, агранічываецца ў Ільляшэвіча да стылістычных прыёмаў, як прыраўнаньняў, мэтафараў і інш., якія паэт часта будуе на матарыяле, узятым з вясковага жыцьця. Гэтак побач з такімі зваротамі, характэрнымі для паэзіі мяшчанска-інтэлігенцкай, як: „У небе хмары ўюцца *афішамі*, „Завесіў дожджык на тварах *траур*,“ „Ціха імжыць вечар *бэнгальскімі агнямі* ў тумане,“ „На *клявішах* вялізных дамоў“ і г. п., розныя зьявы ці прадметы з месцавага жыцьця любіць аўтар апісываць пры помачы прыраўнаньня ці замены іх зьявамі і прадметамі з сялянскага асяродзьдзя. І так мястовыя аўтабусы прадстаўляюцца ў выбражэньні паэта, як „сена вазы,“ шэрыя, гарадзкія вуліцы — як „рыжыя іржышчы,“ панурай восеньню „маячаць ў дыме вуліц—*копы жыта*—плачкі,“ а вясною „вершы *квецьцем чаромхі* беласьнежныя электры гнуць“ і г. д. Трэба адцеміць, што гэты вясковы элемэнт у мэтафарах Ільляшэвіча вельмі ярка адрозьніваецца ад агульнага мястовага фону яго вершаў, выразна конкрэтызуе абраз, што з гледзішча артыстычнага ёсьць вельмі ўдалым і пажаданым.

Але нятолькі тэматыкай адрозьніваюцца вершы Ільляшэвіча ад агульнага характару сучаснай нашай паэзіі. Паколькі гэтая апошняя вызначаецца нязвычайна глыбокай эмоцыянальнасьцю — ад мяккіх і далікатных пачуцьцяў (прыкладам Арсеньнева) аж да магутнай дынамікі бунту (Танк, Машара і інш.) — патолькі спакойны, зраўнаважаны верш Ільляшэвіча вельмі рэдка прамаўляе да нашай пачуцьцёвасьці. І ў тых, праўда нямногіх прыпадках, калі аўтар не стараецца нястачы эмоцыянальнасьці замяніць іншымі эстэтычнымі вартасьцямі, ня менш важнымі за першыя, верш ягоны робіцца сухі і „прозаічны,“ што бязумоўна трэба ўважаць за паважную загану.

Але, на шчасьце, як я ўжо зацеміў, такія прыпадкі зьяўляюцца рэдкімі. Вершы Ільляшэвіча, пераважна пазбаўленыя пачуцьцёвасьці, вельмі моцна прамаўляюць да нас містэрнай вобразнасьцю, часамі дзеюць на наш слух цікавай і глыбока ўматываванай артыстычна рытмікай. Абразы ягоныя нязвычайна фрагмэнтарычныя й згушчаныя, але, дзякуючы вялікай мэтафорычнасьці стылю, зьяўляюцца выразнымі, плястычнымі, якія ярка зарысоўваюцца ў нашым выбражэньні і выклікаюць адпаведны настрой. Гэтак абраз асеньняга неба малюе аўтар усяго двамя радкамі:

Неба — сіні плякат —
серабрыстымі ніткамі выткала восень

але абраз гэты, дзякуючы ўдалым мэтафарам, ёсьць пукаты і маляўнічы, і калі-б гэтак поўна нарысаваць яго мовай звычайнай, простай, трэба было-б патраціць аж некульні строфак. Вось-жа гэтая эканомія слоў і фрагмэнтарычнасьць зьяўляюцца ў паэзіі вельмі важнай рысай, бо яна пры чытаньні твору пабуджае нашае выбражэньне да працы з мэтай поўнага адтварэньня абраза. Нярэдка так-жа паслугоўваецца Ільляшэвіч эфэктамі руху, як гэта можна асабліва бачыць у вершах „У небе зоркі — папя-

роскі,“ „Цягнікі і станцыі,“ альбо ў наступным абразе мястовага вечара:

Гмахі плывуць у блакітныя змрокі,
быццам у прыстань на ноч караблі —
рушылі цені вячорныя ў скокі,
зоркі да дахаў бліжэй падплылі.

Наагул элемэнт руху грае адну з найважнейшых роляў у Ільляшэвічавай творчасьці, які ў ладнай меры асягваецца пры помачы адпаведнай рытмікі. Гэтак вышэйзацытаваная строфка сьмелым і больш менш роўнамерным рытмам із спэцыяльна сільнымі націскамі ў прыраўнаньні да складоў ненацісканых выклікае ўражаньне роўнамерна адрывістага руху — адплываньня гмахаў „у блакітныя змрокі,“ скокаў вячорных ценяў і падплываньня зорак да дахаў. Ўзноў-жа ў успомненым вершы „Цягнікі і станцыі“ адпаведная рытмічная форма выражае бег цягніка, як можна гэта абсэрваваць у наступным фрагмэнце:

Ў гэтай далі сонечнай —
калыхацца сьпевамі —
птушкай лёгкакрылаю ў небасхіле млець.
Ў гэтай далі сонечнай —
каласамі сьпелымі —
сінім летнім вечарам ціха шапацець.

Гэтак усе мастацкія прыёмы, ужываныя ў вершах Ільляшэвіча, як композыцыя, стыль, рытміка і інш., не зьяўляюцца ўсяго толькі вонкавымі „прычэпкамі“, як у творах многіх іншых паэтаў, але ўсе яны іграюць у творы выразныя артыстычныя функцыі, служаць тым ці іншым артыстычным мэтам. Сьведчыць гэта аб мастацкіх здольнасьцях і высокай артыстычнай культуры нашага маладога пясьняра. Але адначасна гэтая вялікая функцыянальнасьць мастацкіх прыёмаў Ільляшэвіча, фрагмэнтарычнасьць і згушчанасьць яго абразоў, мэтафорычнасьць мовы зьяўляюцца прычынай, што творы яго ёсьць „незразумелыя“.

Уявіўшы сабе неабходнасьць культурнага поступу роўналежна з іншымі народамі, Ільляшэвіч не павінен зьнеахвочывацца тым, што многія наракаюць на „незразумеласьць“ яго вершаў, а йсьці вытрывала й консэквэнтна выбраным шляхам. Апошні зборнічак яго вершаў, які, у прыраўнаньні да двух папярэдніх зборнікаў („Веснапесьні“ 1929 і „Зорным шляхам“ 1932), ёсьць вялікім крокам наперад, сьведчыць, што зьяўляецца ён на правільнай дарозе і зможа прынесьці вялікую карысьць для беларускай літаратуры. Астаецца толькі пажадаць, каб, побач із дасюлешнімі позытыўнымі вартасьцямі сваей творчасьці, стараўся ён у далейшым зьвярнуць большую ўвагу на эмоцыянальны яе падклад і расшырыць круг яе сюжэтаў, шырэй ахопліваючы жыцьцё вёскі і грамадзкія патрэбы народу, бо якраз гэтыя асаблівасьці зьяўляюцца найбольш блізкімі і дарагімі для беларускага чытача.

*Я. В—іч*



# ХРОНІКА

═ Віленскі ваявода ў студні месяцы зачыніў Т-ва Беларускай Школы і Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Урады т-ваў зламжылі Міністру Унутраных спраў скаргі.

═ Надчым працуюць нашыя паэты? Максім Танк кончыў дня 3.II. паэму „Нарач“. Паэма складаецца з сямёх частак, з якіх пяць першых ужо надрукаваны ў нашым часапісе. Гэта першы том паэмы. Паэт праектуе напісаньне другога і трэцяга тому. Напісаная паэма „Нарач“ ёсьць багатым укладам у беларускую мастацкую літаратуру, і займае ў ёй адно з першых месц. Цяпер паэт выканчывае прозаічнае апавяданьне і рыхтуе да друку другі зборнік вершаў — першы „На этапах“, як ведама, улады сканфіскавалі; адначасна-ж працуе паэт над новай паэмай, сюжэт якой узяты з сялянскага жыцьця.—Натальля Арсеньнева прырыхтавала да друку новы зборнік вершаў і паэм п. н. „Жоўтая восень“ і цяпер працуе над паэмамі з цыклю „Зачараваны Кут“, гдзе выкарыстаны будзе беларускі народны фольклёр. — Міхась Машара прыгатаваў да друку новы зборнік вершаў п. н. „З пад стрэх саламяных“. — Хвёдар Ільляшэвіч працуе над раманам „Туман“. Том першы раману ўжо скончаны. Гэты-ж аўтар выдаў нядаўна зборнічак сваіх вершаў п. н. „Захварбаваныя вершы“, а цяпер мае выдаць асобным зборнікам свае апавяданьні. — Ніна Тарас, наймалодшая з многа абяцаючым талентам паэтка, піша дробныя вершы, працуе таксама над даўжэйшай паэмай.

═ 17-га студня сёлета адбыўся ў Вільні аўтарскі вечар Натальлі Арсеньневай. Кароткі агляд паэтыцкай творчасьці Арсеньневай даў др. Ст. Станкевіч а сама аўтарка прачытала чарод новых сваіх вершаў. Пасьля Вечару адбылася „літаратурная гарбатка“ — скромнае прыняцьце для паэткі. Вечар і „гарбатку“ арганізавалі Беларускі Студэнцкі Саюз і Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.

═ Літаратурныя пятніцы. У апошнім квартале м. г. і ў пачатку бягучага году ў памешканьні рэд. „Калосься“ адбылося дванаццаць літаратурных зборак, г. зв. „літаратурных пятніц“. Зборкі арганізаваны нашым часапісам. У праграму зборак уходзілі: чытаньне рукапісных і друкаваных твораў нашых паэтаў і пісьменьнікаў, дыскусія над імі і агаворка праблемаў з літаратуразнаўства.

═ Ведамы кампазытар К. Галкоўскі апрацаваў апошнім часам на мяшаны хор багатыя і цікавыя з боку музычнага і даступныя для невялікіх хораў чатыры беларускія народныя песьні: „Там пад гаем зеляненькім“, „Ой, маці, маці“, „Пайшла дзяўчынка ў лес за грыбамі“ і „Ой, чумача, чумача“. Мэлёдыі і тэксты гэтых песень запісаў наш слаўны рэгент Р. Шырма ў в в. Шакуны і Кацёлкі, Пружанскага пав.

═ У Беларускім Навуковым Таварыстве 22 студня адбылося першае пасьля калядных сьвятаў паседжаньне Літаратурна-Мастацкае Сэкцыі. На паседжаньне была запрошана, як госьць, паэтка Н. Арсеньнева, каторая прыехала на нейкі час пагасьціць у Вільню.

Старшыня Сэкцыі др. Ст. Станкевіч зрабіў даклад аб найнавейшай творчасьці паэткі. У сувязі з закранутымі дакладчыкам пытаньнямі разьвярнулася цікавая дыскусія аб арганічнай сувязі, якая існуе паміж стылем і тэматыкай паэзіі і індывідуальнасьцяй аўтара. Абгаворана была такжа вялікая мастацкая вартасьць народнае паэзіі. У дыскусіі выступалі паэты — Арсеньнева і Максім Танк.

На заканчэньне Танк прачытаў з рукапісу V, VI і пачатак VII-ае часткі сваей паэмы „Нарач“.

Учасьнікі паседжаньня на памятку аб гасьцяваньні Н. Арсеньневай сфатаграфаваліся разам з ёю.

═ Прывезеныя дырэктарам Беларускага Музэю памяткі з XII стагодзьдзя з Давід-Гарадка выстаўлены ў Музэі дзеля публічнага агляду. Тутака ёсьць чапкі глінянага судзьдзя і скураныя туфлі, знойдзеныя ў княжых трунах. Туфлі зрэканструаваў (на рысунку) беларускі мастак П. Сергіевіч.

═ За 1936 год лічба асоб, аглядаўшых Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, дайшла блізу паўтары тысячы (точна: 1494), у тым — 64 экскурсіі. У леташнім годзе былі толькі 903 асобы, у тым — 42 экскурсіі.

═ 28.II у залі гімназіі Жыгімонта Аўгуста ў Вільні адбыўся вечар песьні. Аб беларускай народнай песьні рэфэрат прачытаў гр. Цытовіч. Пад ягоным кіраўніцтвам хор вучаніц з гімназіі Арэшчыхі і вучняў з правасл. духоўн. сэмінарыі прапяяў, пераважна унісоно, беларускія народн. песьні з цыклю „нарачанскіх".

═ 3-га сакавіка ў залі беларускай гімназіі ў Вільні адбыўся канцэрт-вечар, арганізаваны Агульна-Школьнай Радай гімназіі. Праграма канцэрту: беларускія народныя песьні ў выкананьні хору гр. Р. Шырмы, вязанка беларускіх мэлёдыяў у выкананьні духовай гімназіяльнай аркестры, стылізаваныя беларускія народныя танцы — „Лявоніха", „Юрачка" і „Чарот", выкананыя пад кіраўніцтвам мгра Я. Хвораста, балет вучаніц I клясы гімназіі і інш.

═ Дзеля ўшанаваньня памяці вялікага паэта А. С. Пушкіна з нагоды 100-годзьдзя ад дня яго сьмерці, супрацоўнікі нашага часапісу 14.III зарганізавалі вечар, на якім праф. В. В. Багдановіч прачытаў рэфэрат, паэт М. Танк прачытаў свае пераклады вершаў Пушкіна на бел. мову, а мгр. Я. Хворост прадэкляметаваў вершы паэта ў арыгінале.

—о—

═ 6-га лютага беларуская калёнія ў Варшаве зарганізавала ў будынку фільгармоніі канцэрт-вечарыну. У праграме канцэрту — бел. песьні.

═ 27.II.37 у варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прапяяных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія.

—о—

═ А. Ц. Грэчанінаў у Рызе. Праездам з Францыі ў Фінляндыю і Швэцыю, 3.III затрымаўся на некалькі дзён у сталіцы Латвіі, Рызе, слаўны на ўвесь сьвет і заслужаны для беларускага музычнага творства кампазытар А. Ц. Грэчанінаў. 5.III адбыўся тамака ягоны аўтарскі канцэрт. Сярод выкананых твораў была і беларуская народная песьня „Зязюлька", якая сабрала найбольш воплескаў. Беларусы ня могучы кампазытара прывітаць у сваей грамадзе, пайшлі на канцэрт і там гэта зрабілі ахвяроўваючы публічна кампазытару букет кветак і памастацку аздоблены беларускім арнамантам адрыс з подпісамі рыскіх беларусаў. Арнамант і літары на адрысе намаляваў беларускі мастак П. Мірановіч.

—о—

═ Беларускае арганізаванае жыцьцё ў Літве.—„Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве" — заснавана 5.II.1932 г. у Коўне. Аддзелы Т-ва ў правінцыі: 1) Бразэльскі, існуе ад 1932 г. (чэрвень), 2) Еўеўскі (Еў'е) ад 1933 г. (люты), 3) Гільвянскі ад 1933 г. (люты), 4) Мерычскі—1933 г. (верасень), 5) Лункіскі — 1934 г. (студзень). У Коўне пры Т-ве існуе з 1932 г. жаночы аддзел. Т-ва мае тэатр і хор. У 1933 г. 1.IX пры Т-ве быў заснаваны дзіцячы сад. Дзякуючы недахопу сродкаў, сад праіснаваў толькі паўтара года.

Ад 1932 г. існуе „Беларускі Народны Унівэрсытэт". Абшар дзейнасьці — ўся дзяржава. Пры Т-ве ёсьць таксама маленькая бібліятэка беларускіх кніжак. Т-ва рабіла спробы адчыненьня беларускіх школаў на правінцыі, аднак без пажаданага выніку, з прычын ад Т-ва незалежных.

Наагул, трэба адзначыць, што становішча бел. культурна - нацыянальнай справы ў Літве фактычна куды горшае, чым можна было б думаць выходзячы з факту існаваньня ўсіх успомненых установаў. Гэтага дзьве прычыны: 1) Адсутнасьць сродкаў і 2) недахоп культурных працаўнікоў.

Так ад дня заснаваньня Т-ва да 1.I.1936 г. агульны прыход Т-ва налічаў — 11.158 літаў 73 цэнты. Выдаткі за той-жа пэрыяд — 13.194 літы 29 цэнтаў.

Сяньня, агульны лік сяброў Т-ва — 518 чал. Даволі вялікі працэнт з гэтага ліку, зьяўляюцца сябрамі толькі намінальна.

Найбольш дае рэальнай працы Тэатр пры Т-ве. Так, у 1935 г. ім было пастаўлена: 12 спэктакляў у Коўне, 2 — у Еў'і, 1 — у Мусьніках, 1 — у Багасловішках, 1 — у Мерычах, 1 — у Лампержах.

З другіх бел. арганізацыяў у Літве існуюць: „Беларускі Цэнтр у Літве" і „Беларускі Нацыянальны Камітэт". Апошняя, г. ё. „Б.Н.К." ёсьць фактычна прадстаўніцтвам, якое выбіраецца на год пры „агульных бел. зьездах Літвы". Гэта новая ўстанова. Да гэтага часу дзейнасьці сваей яшчэ амаль не праявіла. Мэта ўтварэньня „Б.Н.К — абслугоўваць тыя інтарэсы бел. грамадзянства Літвы, якія не ўваходзяць у межы працы Беларускага Культ.-Асьветнага Т-ва, чыста культурнай арганізацыі.

„Беларускі Цэнтр у Літве" — старая арганізацыя (існуе, здаецца, ужо з 1923 г.). Мэта — згрупаваць усю бел. інтэлігенцыю дзеля нацыянальнага і палітычнага самавыхаваньня, прапаганды бел. думкі сярод літоўскага ды й іншага грамадзянства, літоўска - беларускае супрацоўніцтва. З прычын існуючай варожасьці паміж „Б. Ц." і „Т-вам", а таксама і „БНК" гэтая арганізацыя („БЦ") таксама цяпер існуе толькі намінальна. Ніякай грамадзкай працы не праводзе. Лік сяброў дужа абмежаваны.

—о—

═ 25-цігодзьзе заклада дзінаў вышэйшай школы на Беларусі. У кастрычніку месяцу 1936 г. мінула 25 год ад дня адчыненьня на Беларусі вышэйшай школы: 27 кастрычніка 1911 г. у Віцебску адбылося „скромное, но знаменательное и великое не только для Витебской губ., но и для всего Белорусского Края торжество открытия Витебского Отделения Московского Археологического Института". („Витеб. Губ. Вед." 1911 г. № 238).

Пытаньне аб адчыненьні вышэйшай школы на тэрыторыі Беларусі падымалася ў друку яшчэ ў 1903 г. Потым яно абмяркоўвалася ў мястовых і земскіх установах Беларусі, дайшло да дзяржаўнай думы, да рады міністраў. Праектавалася тады адчыніць унівэрсытэт і сельска-гаспадарчы інстытут, але розныя перашкоды не далі зьдзейсьніцца гэтым плянам.

І вось тады Віцебская вучоная архіўная камісія зварочваецца ў Маскоўскі Археолёгічны Інстытут з просьбай наладзіць у Віцебску чытаньне курсу лекцыяў інстытуту. Просьба гэта знайшла поўнае спачуваньне Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту і яго дырэктара А. І. Успенскага, які сам некалькі разоў прыяжджаў у Віцебск для высьвятленьня гэтага пытаньня. Справа пайшла з такім пасьпехам, што 27 кастрычніка 1911 г. адбылося ўрачыстае адчыненьне Віцебскага Аддзелу, а на другі дзень пачаліся занядкі больш чым пры 80 слухачох; былі гэта, галоўным чынам, вучыцялі і чыноўнікі, якія цікавіліся старыной.

Як сам інстытут, так і аддзел яго ў Віцебску мелі два факультэты — архэолёгічны і архэографічны.

Лекцыі ў Віцебскім Аддзеле Маск. Арх. Інст. чыталіся, пераважна, пэрыядычна прыяжджаючымі з Масквы прафэсарамі інстытуту; з мясцовых сілаў чытаў лекцыі ведамы беларускі гісторык А. П. Сапуноў на катэдры беларускай гісторыі і старадаўнасьцяў.

Для назіраньня Віцебскім Аддзелам Інстытуту, у якасьці прарэктара яго, быў пастаўлены ў 1917 г. праф. Б. Р. Брэжго, які добра быў знаёмы з Беларускім Краем. (Б. Р. Брэжго ад 1925 г. жыве ў Латвіі, у м. Дзьвінску, дзе прадаўжае сваю навуковую працу: за гэты час выйшла з друку больш 50 яго навуковых працаў).

Надыйшоўшая сусьветная вайна не магла не адбіцца як на ходзе лекцыяў у Аддзеле інстытуту, так і на ліку яго слухачоў. У канцы 1916—1917 акад. году ў ім налічывалася ўсяго 38 чалавек. Але ад 1917 г. лік слухачоў пачаў узрастаць. Так, у 1917-18 акад. г. іх ужо было 69 чалавек. На 1 студня 1921 г. лік слухачоў дайшоў да 482 чалавек. Тлумачыцца гэта тым, што 1 лістапада 1918 г. інстытут быў перафар-

маваны з увядзеньнем у ім, па унівэрсытэцкаму прыкладу, чатырохгадовага курсу.

Паміж тым наезды з Масквы прафэсуры для чытаньня лекцыяў усё рабіліся больш цяжкімі. Таму апрача А. П. Сапунова і Б. Р. Брэжго, былі з мясцовых сілаў дапушчаны да чытаньня лекцыяў падгатаваныя Маск. Арх. Інст. навуковыя супрацоўнікі: — В. В. Дабравольскі, В. Мялешко, І. П. Фурман і А. О. Шлюбскі; былі ў гэтыя часы скамплектаваны бібліятэка, налічваючая да 36000 тамоў, музэй, габінэты — этнаграфічны, старадаўніх кніг, рукапісаў і г.д.

Але такая карысная праца Віцебскага Аддзелу Інстытуту ня доўга цягнулася: 30 чэрвеня 1922 г. была выдадзена пастанова аб ліквідацыі археолёгічных інстытутаў. У сувязі з гэтым зьліквідаваны быў Аддзел Маск. Арх. Інст. у Віцебску. Уся маемасьць яго была перададзена вышэйшаму пэдагогічнаму інстытуту ў Віцебску, а архіўныя матарыялы былі перададзены Віцебскаму аддзелу цэнтр. дзяржаўнага архіву Беларусі

Так скончыла сваё 11-цігадовае існаваньне карысная вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі.

---

— Беларускія паэты і кампазытары БССР працуюць над стварэньнем 6 арыгінальных беларускіх опэр і аднаго балету.

— Фольклёрнай Камісіяй Акадэміі Навук БССР, як ведама, у мінулым годзе быў праведзены конкурс на лепшага зьбіральніка фольклёру. У конкурсе брала ўчасьце 183 зьбіральнікі. Прыслалі яны больш 15.000 запісаў дарэвалюцыйнага і сучаснага фольклёру.

— У 1936 г. у БССР зарганізаваны 76 раённых архіваў. Цэнтральнае архіўнае кіраўніцтва БССР, дзеля паляпшэньня утрыманьня і захаваньня архіўных матарыялаў, арганізуе раённыя нарады дзелаводаў і сакратароў устаноў.

— Ведамы мастак БССР Юры Майсеевіч Пэн згінуў трагічнай сьмерцяй на 80 годзе жыцьця ў канцы лютага ў Віцебску. Мастак нацыянальнасьці жыдоўскай. Сюжэт сваіх абразоў браў мастак пераважна з жыцьця жыдоўскай беднаты. Многа стварыў таксама пэйзажных абразоў. Мастак пакінуў багатую спадчыну — больш 800 глыбока рэалістычных твораў.

— У Маскве пачаліся заняткі дзяржаўнага ансамблю народных танцаў СССР. Мэта заняткаў — стварыць высокамастацкія ўзоры народнага танцу. З беларускіх танцаў пакульшто выбраны: „Лявоніха", „Крыжачок" і „Юрачка".

— Беларускі Інстытут пераліваньня крыві ў Менску сьвяткуе 5-годзьдзе свайго існаваньня. За кароткі час існаваньня, Інстытут арганізаваў у раённых цэнтрах БССР 20 філіяў. Працаўнікі Інстытуту выдалі 60 навуковых прац. Да юбілею выданы зборнік 20 прац — на тэмы пераліваньня і захворваньняў крыві.

— За заслугі ў галіне тэатральнага мастацтва артыстцы тэатру опэры і балету Л. П. Александроўскай Соўнарком БССР надаў годнасьць заслужанай артысткі БССР.

— Сэсія Акадэміі Навук БССР адбылася ў Менску 23—26.І, з учасьцем 150 акадэмікаў, прафэсараў і навуковых работнікаў. Сэсія выслухала справаздаўчыя даклады з дзейнасьці акадэміі ў 1936 г. і даклады аб плянах дзейнасьці ў 1937 г. Прызнана за нездавальняючую дзейнасьць Інстытутаў гісторыі і літаратуры і мастацтва. Неадменны сакратар і сябра прэзыдыюму акадэміі, дырэктар інстытуту гісторыі акад. Шчарбакоў рашэньнем сэсіі зволънены са становішча.

— Соўнарком БССР у сваей спэцыяльнай пастанове аб разьвіцьці краезнаўчай і музэйнай справы ў БССР адзначае, што краезнаўчыя арганізацыі не спраўляліся з заданьнямі вывучэньня вытворчых сіл і прыродных багацьцяў БССР і не ўцягнулі ў краезнаўчую працу шырокіх працоўных масаў. Краезнаўчыя арганізацыі маюць быць пабудаваны паводле новай сыстэмы.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Рэдактар-выдавец: Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

*Хведар Ільляшэвіч* — **Захварбаваныя вершы.** Вільня 1936.
*Mykolas Biržyška* — **Chodzka.** Коўна 1936.
„ „ **Chodkevičiai.** Коўна 1936.
„ „ **Chominskiai.** Коўна 1936.
*Іван Огієнко* — **Наука про рідномовні обов'язкі.** Жоўква 1936.
*Навуковае Т-ва ім. Шэвчэнкі* — **Праці географічної комісії,** вып. 1. Львоў 1935.
**Записки чина св. Василія Великого,** т. VI. Львоў 1935.
**Ateneum Wileńskie.** Вільня 1936.
**Квартальник Вістника,** кн. 1. Львоў 1937.
**Рідна Мова,** ч. 1, 2. Варшава 1937.
**Назустріч,** ч. 1, 2, 3, 4, 5, 6. Львоў 1937.
**Вістник,** кн. 1, 2. 3. Львоў 1937.

---

### Ад Рэдакцыі:

Рэдакцыя ня мае ў сябе кніжкі першай „Калосься" з 1936 г. (усе экзэмпляры разыйшліся), дзеля чаго ня можа яе выслаць патрабуючым. Зварачваемся да В. П. Чытачоў з просьбай: калі хто можа, хай прышле нам першую кніжку „Калосься" з 1936 г. Узамен атрымае адзін экзэмпляр або два, (калі захоча) іншай кніжкі— з тых, што выйшлі з друку, ці з тых, што выйдуць.

---

КАЛОСЬСЕ
БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

Кніжка 2 (11) 1937 г. Год III

## У туманох вішнёвых

Уракпі, матуля, сына твайго людзі,
уракпі загоны і палі,
як ў зялёны кужаль убіралі грудзі
шэрыя бярозы, тапалі.

Уракпі і вочы сінія Краіны,
і кудлатай руні дываны, —
хтось рукой мазольнай сеючы закінуў
залатыя шолахі вясны.

Сяньня не памогуць лекі ад урокаў,
ні твае малітвы да зары, —
не засну, як даўна, зрэбнаю паўноччу,
сінякрылым рэхам у бары.

Нават пад курганам чуў-бы звон далёкі,
як напевы песьняў каласяць тугой,
як скрыпяць калёсы ў полі адзінока
поўныя сялянскаю бядой.

Вось спачну мо‘ трохі ў туманох вішнёвых
затапіўшы вочы мокрыя ў зару
і далей пайду я праз лясы, дубровы
журавініць песьняй Беларусь.

*МАКСІМ ТАНК*

Вільня, 6.IV 37.

# Начамі чорнымі

1

Душу ў жабрачай торбе замыкаю,
жаданьні ўсе атручаны тугой.
Трывогу, радасьць, смутак і адчаі —
усё аддам Краіне маладой.

Зьбіраю словы чыстыя, як пэрлы,
і вострыя, як дзіды і мячы.
Пайду ў паход з дружынай гэтай вернай,
на бой — за справу гінучай душы.

На сьцежках — страхам ноч... і плачуць совы.
Балюча тнуць вятры адкрыты твар.
Са мной-жа моц зьнішчаючага слова,
і праўды дух, — і творчай песьні чар.

2

Начамі чорнымі па Краю,
з жабрачай торбай валакусь
і сьпячым вёскам сказы баю,
сьвітаньню песьнямі малюсь.

Адны завуць мяне прыблудай,
другія лірнікам сваім,
а я чакаю сьветлых цудаў,
ад яркіх зор і млечных ніў.

З зямлёй гутору на растаньні
вякамі топтаных дарог
і моцна веру у сьвітаньне,
у праўду сьветлых перамог.

Зямля ўздыхае так глыбока
і ветры словамі плывуць:
— на сьмерць вялі усіх прарокаў,
а дух і думы іх жывуць.

Душу ключамі не адчынеш,
ня зьнішчыш нажам і агнём
і толькі спадчынай пакінеш,
як спадкам браў яе з жыцьцём.

3

Па Краю цёмнымі начамі
брысьці асуджан лёсам я.
З жабрачай торбай за плячамі
між суму соннага жыцьця.



Тугу жаданьнем пагасіўшы,
агнём пявуча-звонкіх слоў,
як сьветач сэрца запаліўшы,
брыду да іншых берагоў.

Мінаю хаты, нівы, сёлы —
напевам сум іх калышу;
вучуся сум пяяць вясёла, —
вясёлай быць — вучу душу.

На гэту ціш начы нямую,
на гэты сон жывых кругом,
пасеяць чары слоў прабую, —
сваю душу ўдыхнуць жыцьцём.

Я веру зорам вельмі шчыра,
калі так гутару з сабой,
як птушка рушыўшы на вырай,
адна — між небам і зямлёй.

І зоры часта мне варожаць,
што сонца ёсьць! Што там відаць,
як дзень ўстае, як сон прыгожы,
што там агні, агні — гарацъ!

4

З жабрачай торбаю ня страшна,
хто вышаў ноччу у паход.
У сэрцы страхам — дзень ўчарашні,
а думы — зорны карагод.

У заўтра шлях... і марш упарта
шагоў нястрыманых зьвініць.
У небе зоры — сьветлай вартай
і вера ў дзень ў душы гарыць.

Краіна мар і сьветлых ценяў, —
якіх ня знойдзеш тут сьлядоў
ад мук, няволі і цярпеньняў
да чыну сьмелых бунтароў.

Шляхі варагаў і Баторых,
магілкі шведаў і татар.
Ты шмат каму была падпорай —
шмат хто пляваў табе у твар.

А сяньня тулішся жабрачкай
у чыстым полі пад мяжой,
грызе душу агонь гарачы
і між сясьцёр — сталіш чужой.

Твой верны сын абдзёрты й босы,
брыдзе ад вёскі да сяла,
і немач чорная у косы
каўтун нанова запляла.

5

Мяне хтось кінуў на выгнаньне,
начамі чорнымі блудзіць,
маліцца песьнямі сьвітаньню
і сьпячых волатаў будзіць.

Брыду сьлядамі каляінаў
па цёмнай спадчыне гадоў
і ліст спалоханай асіны
зьвініць над пусткаю палёў.

Аеры шэпчуцца з чаротам
над люстрам соннае ракі,
танцуюць цені карагодам,
дзе крыжам сходзяцца шляхі.

Галосіць каня над руччамі,
з балот крынічучай вады,
і ўюцца гады пад нагамі —
у багне топяцца сьляды.

А я брыду усьцяж наперад,
надзею ў сэрцы калышу,
дайсьці на той сьвятляны бераг,
ці згінуць ночай на крыжу.

6

Начамі чорнымі дарогай
таёмна бродзіць страх нямы
і як атрутаю трывогай
душу напоўнілі гады.

На сьвеце дзень зьмяняе вечар,
ўстае за ноччу раньне зноў,
і толькі тут начой адвечнай
лягла цямра на шыр палёў.

Начой нядоля над старонкай,
як мара чорная вісіць
і тут блудзіць, брысьці ў пацёмку
асуджан кожны, хто ня сьпіць.

Блудзіць з надзеяй на сьвітаньне
між сонных хат і сумных ніў,
брысьці туды да зорнай тайны,
дзе новы дзень ўстае ў вагні.



Народ мой сьпіць закляты Богам,
вартуе сьмерць яго душу,
ня раз рабілі тут Галгофу
і расьпіналі на крыжу.

Вякі, вякі — нямой Краіны
і палыновы, горкі лёс,
я вашу спадчыну пакінуў
і адракаюся ад сьлёз.

Начамі чорнымі упарта,
за крокам крок — цягну паход;
зарою сьвеціць — вера ў заўтра—
у раньня сьветлага прыход.

7

Замест сьлёз — у торбе песьні,
сама рука шукае струн.
Брыду да сонечнай прадвесьні,
я — валачобнік і вяшчун.

Начамі чорнымі сягоньня
на сьцежках многа блудзіць нас.
Усе зыйдзёмся на загоне,
дзе зоры ткуць слуцкі паяс.

Няхай сатруць гады аблічча,
ня згасіць вольных дум жыцьцё
і на вялікай пераклічцы
мяне ня вылучыць ніхто.

З жабрачай торбаю зьяўлюся
з пацёмку пройдзеных дарог.
Душу і песьні — Беларусі,
а торбу кіну за парог.

Таболы, 28.III.37.

*МІХАСЬ МАШАРА*

## Князёўна

У чыстым полі пад белай бярозаю
сонцам спаленаю, нецьвярозаю
тры дарожанькі стужкаю сьцеляцца
белым пылам уполудні беляцца.

А адна з іх ідзе у хваёвы бор,
а другая ідзе на зялёны лог,
на зялёны лог, у пахучы стог,
а астатняя йдзе да сівых вазёр,
да сівых вазёр, на князёвы двор.

Тэй дарогай брылі гусьляры-песьняры,
што сьпяваючы йдуць праз палі, праз бары.

У іх жоўтыя гусьлі кляновыя,
і іх струны зьвінячыя, сьпеўныя,
галасочкі разгульныя, пэўныя,
словы сэрцу блізкія, а новыя.

Засьпявайце-ж вы нам, гусьляры-песьняры,
аб вазёрах, аб княжым дубовым двары!

— Сталі ў белым пылу ...Надумляюцца...
струнаў лоўкай рукой дакранаюцца...

---

— „На крутым берагу, над імглою вазёр
а й харошы-ж быў той князёвы двор:

Сьцены моцныя ў князя, дубовыя,
стрэхі белыя, ўсё ясянёвыя,
ў птушкі, ў кветкі ўсяляк выразаныя,
густа вохрай рудой маляваныя.
Ў ганках княжых слупочкі тачоныя,
а замкі у дзьвярох залачоныя.
Так, багаты, харошы князёвы двор!
Дзе ні глянеш — парадак, дастатак, прастор...
Ўправа глянеш — зара разгараецца,
ўлева — месяц з расы абтрасаецца,
зьзяе-сьвеціць нац нівамі яснымі
серабранымі й белымі пасмамі.
Азірнешся назад — ночка чорная,
ночка чорная, пушчы узгорныя.
Ўвышы — зоры ціхія, гаручыя
а ўнізе — дык вазёры бліскучыя.

Так, багаты й харошы князёвы двор!
Дзе ні глянеш — парадак, дастатак, прастор...
Аднаго ў ім няма — згоды, шчасьцейка,
што гняздо ў'е пад стрэшкай, як ластаўка...



* * *

Злы й пануры ад раньня да вечара
ходзіць князь-пан і хмурыцца нечага,
ня вітаецца з жонкай прыгожаю,
(паміж імі маўчаньне варожае),
ня гуляе з дачушкай адзінаю
ані раньняй, ні позьняй гадзінаю.

Сумна й цяжка пад стольлю дубоваю.
Быццам нехта каменьні пудовыя
ўсім на плечы наклаў пазгінаныя.
Бы вароны на поле ўзаранае,
жалі-злыдні зьляцеліcь там нейкія
з горкай песьняй — адвечнай жалейкаю.

---

Красна, красна каліна ў садочку,
а красьней яе княжава дочка.
Па двары, па дубовым хадзіла, —
на ўвесь двор ясным сонцам сьвяціла.
Пад акенцам вясною гуляла, —
салавейкай малой сакатала,
заляцалася шэраю птушкай...
але князю ня люба дачушка!

Звалі князева дзецейка Славаю.
І сапраўды ўдалась яна слаўнаю:
белы тварык, сама сінявокая...
не дзяціныя вочы, глыбокія.
Часта Слава з пытаньнем нясказаным
на людзей ускідала... Ды зьвязаны
кожны быў у двары, быццам чарамі.
Мо' й ці ведаў хто з чэлядзі старае,
чаму ў белых харомінах княжавых
кожны нудзіцца, быццам зьняважаны,
чаму князь па барох дзесь цягаецца,
ўсё палюе і дому чураецца,
а княгіня над тонкімі кроснамі
сьлёзы лье, быццам неба увосені?

Эх, дзяўчынкай ціхой, невясёлаю
вырастала дачушка князёвая.
Мела сэрца й галоўку гарачыя,
ня гуляла у гульні дзіцячыя.

А любіла яна сонца яснае,
сонца яснае, захады красныя,
бор сівы і зялёны, а ночамі
блеск вазёраў, зарой раззалочаных.

Там, адна над вірамі бяздоннымі
яна часта сядзела, бы сонная.
У ваду пазірала зялёную
з нейкай дзіўнай жудой забабоннаю.
І здавалася ёй, засыпаючы,
што вазёры з ёй быццам вітаюцца,
нешта шэпчуць чароўнае, дзіўнае,
залатое, як звон пераліўнае,
што бяруць яе хвалі разгульныя,
песьцяць, туляць павольную, люляюць...
І плыве яна з белаю пенаю
у краіну як сонца праменную.

---

Сумна, цяжка у князевых хорамах,
ды ідзе яшчэ горшае горанька.

Абярнулася гора бяздольнае
шэрай птушкай, зязюлькаю вольнаю,
сьлёзы, дзеткі яго — салавейкамі,
узьнялісь вятругой — сухавейкаю.

Прыляцелі ў князёвы садочак,
пад акенцам паселі ў радочак,
шэрым крыльлем балонкі разьбілі,
ды княгініну зорку згасілі...

* * *

Разгараецца вечар над хвойнікам...
Сьцеле ён залатыя настольнікі,
ручнікі, паясы жоўтатканыя
на вазёрныя хвалі рахманыя.
А ў двары плач стаіць, разьлягаецца,
бо княгіня з жыцьцём разлучаецца...

* * *

Эх, даўненька была яна хворая,
ўжо ня крыла палотны вузорамі.
Ткаці кінула кросны бялёвыя,
падтыкаці іх ніткай шаўковаю,
ахінуўшыся футрай баброваю
ўсё на сонцы сядзела, ды грэлася,
як калінавы цьвет забялелася.

І чаго толькі ёй не рабілі!
Ведзьмароў-знахароў прывадзілі,
а шапталі-ж яны, замаўлялі,
з трох крыніцаў ваду падавалі,



травы-зельле зьбіралі, сушылі,
тройчы ў ступах таўклі ды крышылі...
Дымам сінім курылі і горкім
ведзьмары-знахары і знахоркі...

Не далі сілы зельля пякучыя,
словы моцныя, словы гаручыя.
Відзяць знахары, — з сьмерцяй ня біціся, —
пачалі яны прочкі прасіціся.

Кажуць:—„едзьце па князя, канчаецца..."
(А пан-князь, ён ня дома, цягаецца
па лясох, ды палюе з грамадаю
верных слугаў вясёлай, зараднаю).

---

Дзе шукаць яго, князя? Гушчарамі
бор разлёгся кругом ды імшарамі...
Яшчэ нечысьць якая прывяжацца
проціў ночы, у лесе, ня кажачы...
Эх, па праўдзе, між князем — княгіняю
ўжо даўно няма згоды радзімае.
А няма паміж імі каханьніца, —
непатрэбна цяпер разьвітаньніца.

---

Гасьне яснае сонца над хвойнікам...
Залатым расшываным настольнікам
па пакоі княгініным сьцеліцца.
Над дубоваю лавай мяцеліцца
дробны пыл... і у косы зьвіваецца...
а княгіня з жыцьцём разлучаецца.

—„Шмат жыцьця я пры вас перамерыла",
(так прашчаецца з слугамі вернымі)
—„выбачайце-ж мне, людцы каханыя,
калі часам вас крыўдзіла, ганіла.
У далёкую йду я пуцінaчку.
Даглядайце-ж маю сіраціначку.

— Ой, дачушка мая, мая беленькая,
маё яблычка — недасьпелінка.
Я й насіла цябе й парадзіла,
ночкай цёмнай, асеньняй ня спала,
ўсё, дачушка, цябе калыхала,
сьвечку ярага воску паліла,
табе шчасьця і долі прасіла.
Колькі-ж сьлёзаў у цёмныя ночы
мае ясныя вылілі вочы,
як над хворай табою сядзела,
на гарачыя шчочкі глядзела.

валаскі залатыя пясьціла,
тваё дробнае целка туліла
ды сачыла ...ці сэрцайка б'ецца.
Ўсё, усё аддала-бы, здаецца,
каб магла ты галоўку падняці,
прытамней усьміхнуцца да маці..

Гасьне сонца, над лесам залоціцца...
Месяц белы ўстае над алешнікам...
Скора, дзеткі, й мая душа грэшная
сіняй зоркай у неба пакоціцца...
Ты яшчэ, мая дочка, маленькая,
ты ня знаеш жыцьця, залаценькая.

Ды каму-ж перад сьмерцяй адкрыюся?
Быццам крот я ў душы сваёй рыюся,
на сьвятло, так як крот пяскі ўзрытыя, —
выкідаю я дні пераржытыя.

Ой, вы дні мае горкія, сумныя...
Ты, дачушка, дзіця неразумнае,
але знай, з чаго маці, канаючы,
табе, зорцы малой, спавядаецца:
гэта-ж, дзеткі, й маёй было згубаю —
— Ня йдзі замуж, ня йдзі за нялюбага!

Лепш з зялёнай вадой заручыцися,
як з нялюбым чужынцам злучыцися.
. . . . . . . . . . . . . .

Была некалі й я весялушкаю,
ў бацькі-маткі каханай дачушкаю.
Ані сьлёзаў ня знала, ні горачка,
быццам тая праменная зорачка:
ўстаўшы з сонцам вясьнянымі ранкамі,
зачынала я кросны вясьнянкамі,
з разьліўнымі, вясёлымі сьпеўкамі
ўлетку жала з служанкамі-дзеўкамі...
Ды, далі мяне замуж, дзяўчыначку
за чужога гасьця, на чужыначку.

Скора, дзеткі мае, казка кажацца,
ды ня скора жыцьцё наша вяжацца.

Вось, гадок ці мо' два патужыла я,
аж цябе дачакалася, мілая
(ды к каму ужо гора прылашчыцца —
у няшчасьце абернецца й шчасьцейка).

Твайму бацьку ўсё сына жадалася.
На'т імя яму ўжо выбіралася:



Усеславам меў звацца саколічак,
слаўным панам меў быць над ваколіцай.
Да мяне стаў ён, муж, ціхі, ласкавы,
ўсё, бывала, чырвонцамі бразгае.
Кажа: „сыну, насьледніку, спадчына"...
і сьмяецца... А сэрцайка матчына,
бы пад сонцам вясеньнім тапілася...
Аж тут, дочанька, ты нарадзілася...

Лёгка, дзеткі мае, казка кажацца,
ды ня лёгка жыцьцё наша вяжацца.

Вось тады я й пазнала, галубанька,
гнеў, пагарду й зьнявагу нялюбага.

Ня зірнуў на цябе ён, нявінную.
Зачыніўся ў пакоі гасьцінныя,
цэлы дзень там праседзіў, а ночаю
конна ў пушчу паехаў урочную.
Не хацела я, жалем зьвязаная,
пры сабе затрымаць некаханага.
Мала ўжо яго посьле і бачыла...
Вось... цябе гадавала і няньчыла...
Эх, пад князевай стольлю дубоваю
ўжо ніколі ня чулась здароваю,
а цяпер... і саўсім занядужала.
Паміраю ўдавою замужняю,
пакідаю цябе, сіраціначку,
бы у полі у чыстым каліначку.

Ломіць вецер каліначку, дзецейка,
яе сушыць гарачае лецейка,
пярунамі... б'юць буры грымотныя...
Дзюбам... птушкі... дзяўбуць пералётныя...

Ўсё ёй, беднай сіротанцы, згубаю...
Ня йдзі... дзеткі... ня йдзі... за нялюбага...

Так сказала княгіня й схінулася,
уздыхнула, уся здрыганулася...
З белай лавы высока засланае
адыйшла у дарогу нязнаную.

З'ехаў пан-князь з вясёлай дружынаю,
патужылі яны над княгіняю
й пахавалі яе за вазёрамі
ў чыстым полі пад небам, пад зорамі.
І курган над княгіняй насыпалі,
абсадзілі зялёнымі ліпамі.

Будуць ліпы вясной красаваці, —
аб дачушцы-сіротцы сьпяваці.

Будуць ліпы увосень жаўцеці, —
аб дачушцы-сіротцы шасьцеці,
а узімку, як сьцішацца ў белі, —
над магілкай галіны пасьцеляць.

---

Скора, людцы мае, казка кажацца,
ды ня скора жыцьцё наша вяжацца.

Ткаўшы ў хораме кросны бялёвыя,
аж і вырасла дочка князёвая.
Хоць сіроткай хавалася горкаю —
разгарэлася яснаю зоркаю.
Белай, кволай лілейкай-купаваю
па сьвятліцах па бацькавых плавае.

Пачаў князь-пан дачцы прыглядаціся,
на яе харaство дзіваваціся...
(— „Што харошая, справа ня новая.
Кроў мая-ж гэта, пэўне, князёвая".)
Стаў хадзіць у сьвятліцу дзявочую,
слухаць гуд верацён пазалочаных,
стаў рабоце дзяўчат прыглядаціся,
жартаваці з князёўнай, сьмяяціся.
— „Эх, ня даў мне лёс сына — насьледніка,
але й ты у мяне не пасьледняя,
удалася ты бацьку князёўнаю,
белаліцай, высокаю, роўнаю.
Пашукаем багатага пана мы
за барамі для дочкі каханае.
Будзем, дзеткі, вясельле гуляці,
мёд чырвоны каўшамі стаўляці,
маем, маем мы чым пахваліціся,
будуць з нас яшчэ людзі дзівіціся!"

Гэтак кажа князь, ходзіць... спыняецца,
кроснаў белых, гладкіх датыкаецца.
А князёўна маўчыць, ня ўсьміхаецца,
ў вочы бацькавы дзіўна ўзіраецца.
Нейк жудасна князю на‘т зробіцца.
Нейк жонка-княгіня прыпомніцца.
Яе вочы спакойныя, сінія,
круглы тварык дзяцінны княгініны...
Замаўчыць ён, нярады, ды згорбіцца,
на дварэ ўжо затое усходзіцца,
як уніз зыйдзе ў службы дваровыя!
Толькі стукаюць боты казловыя!

---



Але так у жыцьці ўжо здараецца,
што бацькоўская воля спаўняецца.

Пад вясну князь сабраў слугаў-лёкаяў
і сабраўся ў дарогу далёкую.
Ад‘яжджаючы, пояс завязываў,
так дачцы паслухмянай наказываў:

— „Будзеш ты тут цяпер гаспадыняю
над людзьмі, над худобай, над скрынямі,
не хачу, каб з нас людзі сьмяяліся, —
а хачу каб нізенька схіляліся.
Дык вучыся, дачка, гаспадарыці,
можа скора замужжа нам здарыцца."—

Разьвітаўся князь з дочкай нясьмелаю
і паехаў дарогаю белаю.
Ня было яго доўга... Ўжо ранкамі
ўсё паветра зьвінела вясьнянкамі,
ўжо рунелі палі й сіняй параю
сонна дыхалі пушчы прастарыя,
ўжо цьвілі вербалозы й ляшчыньнікі
над мутною вадою нізіннаю,
й цэлы дзень над зямелькаю шчыраю
гусі й качкі ляцелі із выраю...
Аж раз позным і месячным вечарам
у двары усхадзіліся нечага.
Шум узьняўся, агні запаліліся,
кажуць, — князь прыяжджае... Схапіліся
і жанкі і дачушка князёвая!
Чуе сэрцайка, будзе штось новае,
так і гнецца, як верба зламаная.
Эх ты долячка, доля нязнаная!
Ўжо ня раз ты з нас, людцаў, сьмяялася,
адмяніці жыцьцё абяцалася,
штосьці лепшае даці манілася.
Эх, накпілася посьле, накпілася...

* * *

Князь вярнуўся вясёлы, здаволены.
Уздыхнулі людцы паднявольныя:
рэдка відзелі ўсьмешку пагодную.
на твары князя (пана нягоднага).
Прывітаўся князь з дочкаю ласкава,
ды, каб доўга тут з ёю ня цацкацца, —
аб'явіў, што яна ўжо прысватана
за вялікага пана, багатага.

---

Скора, людцы мае, казка кажацца,
ды ня скора жыцьцё наша вяжацца.

Зацьвілі ў лесе дзічкі ружовыя, —
плача, жаліцца дочка князёвая.
Ў дзень прыгожы, адчаем атручаны
адбыліся у князя заручыны.

Малады, праўда, быў ваяводаю
і за княжай пасватаўся згодаю,
але сам быў... таўсты і расхрыстаны...
Яго вочы мутныя, нячыстыя
так князёўне ціхой прыглядаліся,
што яна ўся крывёй аблівалася.
Дык ці-ж дзіва, што ночкай маёваю
сьлёзна плача дачушка князёвая.
Так аднача ў жыцьці ўжо здараецца,
што бацькоўская воля спаўняецца.
Ў сянаваньне, вось неяк нядзелячкай,
пачалося у князя вясельлейка.

---

— Ўзьвейцесь ветры з-за пушчы сасновае,
— разьнясіце пясочкі жвіровыя,
— разбудзіце вы родную матачку,
— хай устане, хай прыдзе у хатачку
— на адзін, на кароткі часочак,
— аддаць замуж сіротаньку-дочку!

Ня ўздымаюцца з пушчаў і з нетраў
сухавейныя буйныя ветры,
не разносяць сыпучы пясочак
з над заплюшчаных матчыных вочак.

Ой, ня ўстане, ня ўстане матуля
на вясельныя песьні ды гулі,
ой ня прыйдзе дачку выпраўляці
на пасад... Не парадзіць дзіцяці
як з нялюбым, чужым, некаханым
заручацца на лёс той нязнаны.

Цісьне матку — сырая зямліца,
зелянее над ёю травіца,
ў вечнай цемры магільнае ночы
ўжо ня відзяць жыцьця яе вочы...

Зачынайце-ж вы, людцы, вясельлейка
княжай дочкі прыгожае, беленькай.

* * *

Ой відаць, ой відаці ад раніцы,
што сірочае йдзе баляваньніца...



Мо' у князя двары немяцёныя,
можа госьці ў яго засмучоныя,
мо' сталы у яго незасланыя,
мо' мяды залатыя ня п'яныя?

— Не, й сьвятліцы у князя мяцёныя,
ой, і госьці у князя вясёлыя.
Плача толькі, сьлязьмі заліваецца,
срэбнай рыбкай на лёдзе кідаецца
маладая дачушка князёвая,
заплятаючы косы шаўковыя.
Чуе Слава музыку вясельную,
чуе крыкі разгульныя, хмельныя,
відзіць вочы мутныя і п'яныя
ваяводы свайго некаханага...
Зараз прыйдуць лябёдачкі-жоначкі,
прыбяруць у шаўкі, у кароначкі,
возьмуць, возьмуць за рукі, за белыя,
павядуць няжывую, самлелую
да гасьцей у хароміны новыя,
ды пасадзяць на лавы дубовыя.
Побач сядзе з нявестаю збуджанай
ён, чырвоны, таўсты, ёй прысуджаны,
будзе „горка“ крычаць ...цалавацца...

Ой, ляцець, ратавацца... Схавацця
хоць куды: ці ў бары непраходныя,
ці ў дрыгву балацяную, зводную.
Ў сьвет жабрачкай сыйсьці абарванаю, —
бы далей ад яго, некаханага!

— „Помні, ягадка, дочка-галубанька,
ня йдзі замуж, ня йдзі за нялюбага“.

* * *

А быў вечар крывёю расплёсканы
над князёвай сялібай, над вёскаю,
над барамі сівымі і хмурнымі,
над вазёрнымі хвалямі бурнымі.
Бегла Слава рудымі пракосамі
ўніз, а вецер трапаў яе косамі,
цалаваў яе вочы мяцежныя,
слаў пад ногі трысьцё прыбярэжнае.
І спынілась князёўна над хвалямі...
Эх, адна з сваймі крыўдамі, жалямі
на ўсім сьвеце яна апынулася.
А ўсё матчына мова ёй чулася:
— „Ня йдзі замуж, дзіця, за нялюбага,
не на тое цябе я галубіла,

лепш з зялёнай вадой заручыціся,
як з нялюбым навекі злучыціся".

А вада сяньня ...б'ецца і пеніцца...
Дзе-ж князёўна спачне, дзе падзенецца?
Як вада, яна ўся ўсхваляваная.
Перад ёю — глыбіна нязнаная,
а за ёй — княжы двор над узгоркамі,
некаханы жаніх, доля горкая...

Азірнулася Слава... Раскінула
рукі шырака... Ў возера рынула,—
заручылася з хваляю чорнаю
ночкай цёмнай, вятранай, бяззорнаю...

* * *

І ляжыць яна там, знаць, шчасьлівая —
над ёй возера ходзіць шумлівае,
штось ёй шэпча чароўнае, дзіўнае,
залатое, як звон пераліўнае
Як дзіця, яе хвалі разгульныя
песьцяць, туляць павольную, люляюць,
засыпаюць пяскамі бялёнымі,
асакой заплятаюць зялёнаю...

---

Годзе-ж вам, гусьляры, хлопцы вольныя
сьмерць князёўны пяяці бяздольнае.

Ў чыстым полі пад белай бярозаю,
сонцам спаленаю, нецьвярозаю
тры дарожанькі стужкаю сьцеляцца,
белым пылам уполудні беляцца.
Йдзіце-ж, людцы, ураньні, увечары
ў сьвет шырокі пуцінай намечанай.
Грайце звонка у гусьлі кляновыя,
бійце ў струны зьвінячыя, сьпеўныя,
галасамі разгульнымі, пэўнымі
пейце песьні старыя і новыя.

Праз лагі, праз ніў'я разараныя,
йдзіце долі шукаці нязнанае!

1937.

*НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА*

---



# На ростані

1.

У гэты зорны вечар пяялі молада гукі аркестру. Клікалі кудысь — здабываць сьвет. У вокнах вялікай гімназіяльнай залі цьвілі халоднымі рожамі водблескі рэфлектара. А ў музыку ўпляталіся званочкі. З усіх лекцыяў сабраліся яны й весела разьзьвінеліся шумам маладых галасоў. Як-бы сьветлай раніцай траўнёвай гімназіяльны сторож у пустых калідорах выконваў на званкох нейкую вясёлую вясеньнюю мэлёдыю.

Замятухай ішоў вечар. Усьмешкі, нары, заля, вагні — усё плыло, рухалася, круцілася ў нейкім ап'яняючым шуме.

І нечага жаль было Ніне ў гэтай радасьці. Прыемна-больна мітусіліся ўспаміны. Імглістыя, і сонечныя, і маразяныя раніцы, калі сьпяшалася яна ў школу. Ступенькі гімназіяльных шырокіх сходаў спатыкалі яе, беглі й шуршэлі то жвірова, то шоўкава... Паўзы — калі прыемна пахлі й беласьнежна - ярка бялелі язьміны на гімназіяльным панадворку.

Вечар ішоў замятухай. А ад некаторых калегаў чуваць было хмелем, і погляды іх то завострана-калючыя, то расплыўчата-шырокія. І ў сьвятлеючай сіні вечару чуўся холад растаньня.

З вучыцялямі Ніна танцавала. І з калегамі. Уважна, сурёзна, з нейкім асаблівым мастацтвам ступала пружка, дробна, то плаўна кружылася матылём.

— Як-жа-ж там закон Бойль-Мар'ётта?
— Я... гм... яшчэ вучуся танцаваць...

Гукі сыпаліся вясеньнімі абрывамі, шумелі каласамі ў непагоду, перагукваліся зязюлькамі ў сасоньніку.

— Бывай, Гімназія!

У гэны зорны вечар Ніне апошні раз падалі калегі пальто. Жартавалі, сьмяяліся, абяцалі, што —

— Будзем пісаць!
— Яшчэ пабачымся!
— А ўлетку ровэрамі!

Сама ня ведала, ці радасна ёй, ці сумна. Здавалася, уцякла-б дый расплакалася. Здавалася, недзе крыўся на дне боль нявымоўны й туга сардэчная.

Зашпіляла пальто.
— А можа я, Ніначка?
— А можа я?
І сьмяяліся молада-весела.

У гэты зорны вечар закруціліся, замітульжылі вагні, і сходы, і твары і ўпалі недзе ў процьму, адплыла ў галубую даль рань маладых дзён. А яшчэ гучыць у вушшу пявучымі зовамі вальс, яшчэ мігаюць, здаецца, худыя, далікатныя плечыкі Ніны між параў пад ясна-сонечным сьвятлом лямпіёнаў.

2.

Праводзіў Ніну студэнт Сьцяпан Пракапеня. Але куды ісьці? Рана-рана прыймчыцца цягнік з даляў, прынясе ў места ружовы расьсьвет і забярэ Ніну ў родную вёску. Пагутарыць хочацца. Расьцьвілі ўжо каштаны ў садзе й прыемна-мядова расплываюцца над ракой.

Холадна ўсё-ж ноччу ў гарадзкім садзе. Селі на лаўцы. Сьцяпан абставіў каўнер плашча, зьвесіў нейк нязручна галаву, глядзеў у суценьне алеяў. Шкло ад акуляраў выглядала буйнай сьлязой, зьвісшай над вокам.

— Значыцца ты, Ніна, да хаты?

Сказаў, і нейк дзіўна загучэлі словы. Здавалася, гэта лісьці шапталі, ня ён. Было нешта яшчэ ў гэтых словах, было нейкае цяпло, нейкая ласка. — Гудзеў горад, недзе кіпела, бурліла жыцьцё, у гудкох станцыйных, у далёкіх рэхах, у далятаючых хвалях шуму.

А Ніну чакаюць соткі, мо' тысячы шэрых дзён, поўных вытрываласьці, зацятасьці ў штодзеннасьці беспрасьветнай.

— Можа калі прыеду...

А цяпер на вёску едзе Ніна, у цішыню бязмоўную...

— Так, на вёсцы няцікава...

— Але можна жыць і працаваць. І трэба.

Вёска... Маленьк я хаткі — грыбкі старыя. Цесна. Душна. Потна. Махорачны дым і кашаль. А Ніна ўжо ведае аб іншым жыцьці. Ужо іншы сьвет можа ўявіць. Чысты пакой. Ціша.

Ніна пальчыкам націскае электрычны гузік і ля ложка яе яркай півоніяй загараецца лямпа. Ніна ўстае. Падыходзіць да бібліятэчкі. Шукае кніжку. Раз яна бачыла ў дырэктара такі пакой. І застаўся ён каляровай фатаграфіяй у яе памяці.

— А я вось яшчэ пару гадкоў памучуся...

Сьцяпан дохтарам будзе. Будзе хворых лячыць. Ніна ўявіла сабе дохтарам Сьцяпана. У белым хвартусе, між белі шпітальнай, з акулярамі.

— Так, так, цяпер ня дыхайце.

Узьняла павекі і ў цемнаце Сьцяпан заўважыў, як-бы ў попеле блішчалі дзьве бледныя іскрачкі.

І йзноў ціха — маўкліва-маркотна.

І йзноў загаварылі.

Ніна! Хай ня сумуе. Праўда, цяжка цяпер. Але рабіць нешта можна І гімназія — гэта закончаная асьвета. А вучыцца далей можна. Колькі, колькі людзей у Беларусі ня маюць гэтага, што Ніна. Інакш, глыбей, разумней жыць — гэта вялікі скарб. А магла-ж Ніна астацца на вёсцы й быць няграматнай. Зрэштай... Цяпер ня так ужо й недаступны ўнівэрсытэт. Беларускі рух ажывіцца... А адпачыць — не зашкодзіць. Сабрацца з думкамі. А там відна будзе. Ён скончыць мэдыцыну. Будзе мець працу. Тады ён возьме Ніну і пойдуць яны разам у жыцьцё, будуць працаваць для народу.

Неяк нязручна пацалаваў яе. Ня так, як раней. Але ў душы яе было нешта чыста-крыштальнае, безгранічна-цёплае й незразумелае. Ішла яна як-бы бязвольна, апіраючыся на яго руку.

Пахлі каштаны.

3.

Весела

Сонца растапіла далі й яны асьляпляючы закурэлі. Аддаюцца выразна-абрывіста ў гушчарох захопліваючыя пераходы-рытмы цягніка. Бярозы, і сосны, і кусты — задымяцца, паплывуць зеленаватымі разрывамі. І вецер кудлачыць — разьвейвае дзявочыя валасы. Поле дыхае ў твар, і вецер лашчыцца ласкамі нязьведанымі.

А выхілься з вакна — гудзіць поўным ходам цягнік. Моцна ўядаюцца колы ў рэйкі, пераклікаюцца рознымі бэмолямі. гулка грахочуць, грымяць. І ўсё павабка. І гэтая шыр палёў, і гэтыя хаткі і гайкі, што адплываюць у чысты, вясеньні гарызонт.

Хутка станцыя.

Усё знаёма. Глушэй і глушэй сьпеў жалеза. Павольным вальсам круцяцца рэдкія сосны. На спатканьне выпаўзаюць зусюль рэйкі й плаўна праводзяць цягнік да станцыі. Аддае белым парам. З-за агарожы відаць сіратлівыя домікі, фурманкі. І там напэўна іх Гняды.

Калючым ад вусоў пацалункам спаткаў бацька.

— Прыехала, знача?

— Скончыла ўжо.. Цяпер з вамі буду... Вось і польная дарога. Так прывольна і ціхамірна на душы пасьля гарадзкога шуму. Як-бы ўсё — і школа, і экзаміны, і места, і Сьцяпан — гэта быў нейкі сон.

— Змучылася, відаць, — і бацька адвярнуўся да Ніны.

— Ноо! —

Скрыпелі колы ў выбоінах, гладка каціліся па роўным пясочку, цешылі сэрца з блізкім спатканьнем. І так хутка адзьвінелі пявучыя рэйкі й праймчаліся малінава-сонечныя далі.

4.

Хвалі калосьсяў то прыплываюць, то йзноў адплываюць ад узьмежжаў у небасхіл. І прыемны іх бунтарны прыбой. Ільсьніць пераліваецца шоўкам паветра ад сьпекі. Набягае пявучы шум. Бягуць каласы ў небасхіл. Зямля гарыць. Душна. Сьпякотна

Але прайшлі летнія буры.

І глуха зашуршалі сярпы. Падалі каласы. Ніна ўся ў сонцы. Ідзе па ўзьмежку, а поле далёка разаслалася абрусом многатканым, пералівамі фіялету, і золата, і зелені. Дзе ні глянь — людзі. Перавяслы падымаюцца ў руках, раскідаюцца буйныя каласы пад сярпом. Ніна ваду нясе. Там — далёка — за шашой

маці й сястра. А сярпы шуршаць, рытмічна зразаюць калосьсе.
— Ох, добра, Ніна, што вады прынясла — маці з смагай прыпала да бунькі. Абцёрла рукой пот, перавязала хустку, паглядзела навокал. Гучыць поле тысячнымі шопатамі, пяе. А сястрыца далей ідзе, сярпом займае.
— Адпачыньце, мама.
І блішчыць у руках серп — паўзе вужакай у постаць жытнюю.
Песьня падала птушкай над полем, білася крыльлямі, а пасьля йзноў зьвінела. Як-бы вось на пераменцы сабраліся дзяўчаткі — гімназісткі, запялі — успомнілі пра вёску родную, жніво беларускае, жнеяк вясковых...
Узьвілася песьня высока, высока, замёрла, млеючы, у гэтай вышыні нябеснай, над вёскамі сталетнімі, абарвалася, упала — і загаласіла, надрываючыся жалем, заліваючыся сьлязьмі, стогнучы болем—калыхалася над збожжам і гублялася дзесь у бязьмежжах нізінных...
Сьпека. Сярпы займаюць, — шалясьцяць сярпы. Далей перуступаюць ногі. Залацяцца перавяслы.
А вечарамі квакалі жабы, як-бы нехта ў іржавым балоце мянціў касу.

5.

Чакала Ніна яго. Доўга, цярпліва, дзявочым сэрцам. А тымчасам плылі дні, адцьвіталі ў лагох. У верасьнёвыя ночы падалі зоркі. Холадна — сумна імгліліся раніцы на іржышчах. Жаўцелі лісты. Нячутна наплывала восень над полем, дзе бабы капалі бульбу.
У хаце зрабіла Ніна парадак. У бакоўцы прарэзалі большае вакно. Тут жыла Ніна з сястрой. Ніна была тут гаспадыняй. Маленькую шафку на кнігі зрабіў ёй вясковы столяр Апанас. У шафцы кнігі разставіла Ніна і любіла вольным часам узяць томік і разгарнуць знаёмыя карткі. Пакойчык выглядаў прыветна. Праўда, бэлькі зьвісалі, столь за нізкая, цеснавата, але не ўпяршыню тут Ніна была. На сьценах павесіла Ніна макаткі з васількамі. Пайшла гутарка па вёсцы пра новыя парадкі ў Сымонавай хаце. Першая пабачыла гэтыя дзівы Маланьня, суседка Сымонава. Прыйшла да паненак і быстрым вокам сфатаграфавала найменшыя пératасоўкі ў хаце. І нават шчотачку да зубоў заўважыла. А хутка павалiла вёска да Сымона. Прыдзе той, прыдзе другі, пасуседзку пагаворыць, пакурыць, а няўпрыцям і ў бакоўку зірне.
Зьбіралася часта моладзь у Ніны. У нядзельку, ці ў сьвята. А сталяр Апанас часьценька заходзіў. Работы ў яго мала, а кніжкі ён чытаць умеў.
— Цікавая ксёнжка — гаварыў ён.
— А можа-б так штосьці камічнае — я надта жарты ўсякія люблю.



З Апанасам любіла Ніна гаварыць. Аказалася, ён нават вершыкі сьмяхотныя пачаў пісаць. Толькі не асабліва ўдаваліся яму яны. Доўга выясьняла Ніна, як павінен ён пісаць. Чытала іншыя вершы, параўноўвала. Часта сядзелі вечарам і чыталі. Пачала Ніна Апанасу аб коопэрацыі расказываць. Зацікавіўся вельмі.
— А ці мы можам залажыць коопэратыў?
— Можам. Ясна, што можам. Але трэба раней падгатаваць грунт. Трэба моладзь усьведаміць. На старых трудна лічыць, але моладзь, калі возьмецца, зможа залажыць.
Прыйшоў другім разам з Апапасам Кульгавы Рыгор. Меў ён невялічкую гаспадарку, а быў вельмі грамадзкім чалавекам.
Пачалі абмяркоўваць, як да справы прыступіць.
— Вёска нашая блізка ад станцыі — казала Ніна — можна тавар прывозіць, а з суседніх вёсак таксама купляць будуць... Трэба склікаць сход закладчыкаў...
Апанас хадзіў ад хаты да хаты й гаварыў пра коопэратыў. Ён уваходзіў у хату і голасна абвяшчаў:
— Коопэратыў адчыняем!
Усе дзівіліся й пачыналася гутарка. Апанас пачынаў выкладаць сваю веду:
— Вось ты, Мікіта, гаспадар, а ня ведаеш, што цябе ашуківаюць. Едзеш ты ў мястэчка, купляеш, напрыклад, цьвякі. Простая рэч. Ну, і колькі-ж ты плаціш за кілё? —
Старыя недаверчыва адносіліся да справы.
— Эх, ты, мудрая галава — казаў Мікіта — што там многа гаварыць, — калі такі Абрам зачыняць хоча сваю краму, то што мы тут зробім.
— Яно — то, вядома, — уваходзіў нехта ў гутарку — каб так было, як ты гаворыш, то добра было б.

6.

Галоўнае было зроблена. Вёска загаварыла аб коопэратыве. Розна гаварылі. Адны меркавалі, што Сымонава дачка краму залажыць хоча. А іншыя казалі, што Рыгор Кульгавы тут нейкія штучкі строіць. Але на сходзе справа выясьнілася. Сабраліся ў школе старыя й маладыя, і Ніна доўга тлумачыла, што такое коопэрацыя. Так, ангельскія работнікі можа й добра рабілі, але-ж тут гаспадары. І на гэта адказала Ніна.
— Дык хто-ж запісваецца ў сябры коопэратыву? — спыталася й чакала з трывогай адказу ад грамады.
Першы запісаўся Апанас, пасьля Рыгор Кульгавы, Нінін бацька, некалькі хлопцаў, некалькі сялян, падбухтораных Рыгорам і Сымонам. Набралася чалавек дваццаць. Ніну выбралі старшынёй ураду, а Рыгор Кульгавы ўзяўся вазіць тавар. Апанас аддаў бакоўку ў сваей хаце пад краму. Калі выяжджаў Рыгор першы раз на станцыю ў гуртоўню, усе старыя гаспадары высыпалі з хат.
— Па коопэратыў паехаў — жартавалі. І прадстаўлялі

коопэратыў, як нейкі вулей. Але ўсё-ж і цікава было ўсім гэтае ажыўленьне.

— Ну, пабачым, што з гэтага выйдзе — казаў Мікіта.

Сыпнуў дождж. Дымкай зацягнула сьвет.

— Ого, яго добра вецер натрэбле.

— Ну, але добра яшчэ, што ў плечы вецер.

— Э... неяк заедзе.

І паволі разыйшліся ўсе па хатах.

Спачатку праца ня клеілася. На паліцах — пуста. Але вёска пабачыла, што выгада вялікая мець на месцы краму. Балота, гразь — куды там ехаць у места. А тут пад бокам і газа, і сернікі, і махорка. Дый у краме неяк весела пасядзець, пагутарыць. І газэтка паявілася. Апанас чытае, што ў Гішпаніі, што ў Саветах, што ў Польшчы дзеецца. А галоўнае, што газэтка — пасвойму, пабеларуску пісаная. Пачала вёска на коопэратыў інакш глядзець. А тавар значна таней, чым у мястэчку. Весялей езьдзіў Рыгор Кульгавы на станцыю. Падсядзе хто па дарозе. Закурыць — пагаворыць. А позным вечарам Апанас раскладаў з Нінай тавары, расцэньваў, упісываў у кнігу.

Разросься коопэратыў. За зіму зьвязьлі дрэва з пушчы. На выплату купілі ў лясьніцтве. А вясной — застукалі сякеры. Рос новы дом. Ясьнеў сьвежай смалой здалёк. Ніна езьдзіла ў стараства, пісала ў Саюз коопэратываў, увесь вольны час пасьвячала грамадзкай справе. Прыяжджаў люстратар і вельмі спадабаўся сялянам. Гаварыў пабеларуску, заахвочваў усіх уступаць у коопэратыў.

Ажыла вёска.

7.

Сьцяпан пісаў рэдка. Пошту прывозіў солтыс з мястэчка. Калі было нешта Ніне, солтыс заходзіў у Сымонаву хату, закурываў скрутку з махоркі й дзяліўся ўражаньнямі з мястэчка. А посьле выймаў з кішэні старога фрэнча газэту ці ліст і казаў:

— А гэта, мусіць, паненцы ўсё шлюць.

— А няўжо-ж — ківаў галавой стары Сымон—яна-ж у мяне вучоная. Мала хто ёй піша. —

Ніна посьле атрыманьня карэспандэнцыі выходзіла ў бакоўку й, калі быў ліст ад Сьцяпана, з трывогай, любоўна разрывала канвэрт і доўга, некалькі разоў чытала, узважвала кожнае слоўка, старалася ўсяго яго зразумець. А посьле неспакойныя думкі муцілі яе спакой, і лятуценьні плылі нястрымана, абразы за абразамі.

Ніна з прыемнасьцю тады чытала вершы. Даставала яна томік „Калосься“ і западалі ёй у сэрца строфкі:

„Няраз здавалася Тацяне: —
ідзе хтось ціха ля паркану,
на‘т крокі чуліся ля хаты.
А можа не?



З вярбой кудлатай
абняўся месяц над затокай...
. . . . . . . . . . . .
Што-ж ня сьпіцца, Тацяна?
Можа ноч без зарніц,
ноч вясеньняя,
дажджом чорным шуміць
за парканам?“...
. . . . . . . . . . . .

І здавалася Ніне, што прыдзе ён аднойчы вечарам, адведае яе, супакоіць. А часам муцілiся думкі й згадвала яна будучыню: уяўляла супольнае жыцьцё й працу. Ніна заўважала, як часта забываецца яна й доўгія хвіліны як-бы сьніць і жыве ў нейкім нерэальным сьвеце. Закрадаўся сум у дзявочае сэрца. Не хацелася нічога, толькі плыць-калыхацца ў лятуценьнях, бяз дум, у паўсьне. Можа, каб засталася ў Вільні, інакш плыло-б жыцьцё. Былі-б яны разам. І не таміла-б туга вясковая. Там усё-ж рух, беларуская інтэлігенцыя.

І ізноў перачытывала Ніна яго лісты, і вера ў яго йзноў радавала сэрца. Пісала Ніна дненьнічак. От, проста ад нуды. Каб не загубіцца ў глушы з сваімі думкамі. Ёй самой здавалася гэта рамантыкай, нечым перастарэлым, інстытуцкім. Але любіла Ніна заглянуць у брульёнік, дапісаць нешта, хавала старанна яго ў кошык пад ложкам, каб ня трапіўся каму ў рукі. У адчыненае вакно льлецца пах мяты.

Канчаецца ліпнёвы дзень. Сонца сядае за полем.

— — — — — — — — — — — — — — — — —

„Сьніўся мне ўсю ноч Сьцяпанка, мой любы, каханы. Прачнулася я й яшчэ памятую, як клікала яго... Не хацелася мне ўставаць, бо ўчора позна лягла. У коопэратыве часам аж чырванела за сваю няўважнасьць. Часам Апанас некалькі разоў зьвяртаўся, пакуль ачнулася з задумы“...

— — — — — — — — — — — — — — — — —

Праз разваленыя платы й плятні здаецца, што сонца загразла недзе ў палескім балоце.

— — — — — — — — — — — — — — — — —

„Скончыўшы працу ў полі, вярталася праз гарод да хаты. Ішла між кустоў агрэсту. Спынілася. Знайду агрэст, ці не? Знайду — значыцца будзе ліст ад яго. Глянула на адзін пучок, другі, трэці і знайшла сьпелае, чырвонае зярно. Якая я сьмешная й наіўная!“...

— — — — — — — — — — — — — — — — —

На вуліцы курыць малінавы пыл. Гоняць каровы.

— Ку-ды! — даносіцца крык пастуха Піліпа. Раздаецца ляскаMore ньне пугі.

— От, халера якая дурная!

— — — — — — — — — — — — — — — — —

„За дваццаць дзесяць. Ноч ужо ў вёсцы. Што цяпер робіць Сьцёпчык? Як хутка ляціць час, здаецца ня так даўно пры-

ехала, а ўжо другі год! Нейкая зрабілася я цяпер неспакойная, усё мяне трывожыць, нечага баюся, як-бы якое няшчасьце ня здарылася. Усё-ж Сьцяпан бязлітасны, ужо месяц ня маю вестачкі ад яго. А можа заняты? Экзаміны...“

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

— Лыска! Лыска! — кліча маці карову.

— Быць! Быць! Быць!

— А ну, у хлеў!

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

„Антон Маланін — цікавы тып. Каб умела пісаць, можна было-б выкарыстаць. Начамі ён, відаць, ня сьпіць. Усё кашляе. Пэўне, сухоты. Выйшла ўчора з хаты й доўга стаяла ля плоту.

— Што-ж вы дзядзька ня сьпіце? — спыталася.

Настарожана падыйшоў Антон да плоту.

— А, гэта вы — а я, дальбо, не пазнаў — цьфу ты!—спалохаўся. —Антон прывітаўся са мной сваёй засушанай рукой і пачаў расказываць мне, як у яго абкалацілі йгрушы ў прошлым тыдні“.

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

Сонца ўжо зайшло. На двары шамраць і бегаюць дзеці. З сенцаў пахне сьвежым малаком.

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

„Сягоньня мае імяніны. Я прачнулася рана. Гляджу — а на стале прыгожы букет кветак. Сястра сказала, што гэта вучыцель прыслаў. Хай ён што хоча шле, а я Сьцёпку кахаю“...

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

„Учора з вучыцелем езьдзіла ў мястэчка ў кіна. Ішоў фільм „Апошні загад“. Прабаваў рассыпацца ў камплімэнтах, я сказала адразу, што ўжо кахаю. Цікавіўся — хто ён?“...

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

„Вучыцель падтрымлівае наш коопэратыў. Усё-ж ён добры чалавек“ ..

— — — — — — — — — — — — — — — — — —

8.

Схудала Ніна. Вочы ўпалі й мізэрны твар пазіраў на яе ў люстэрку. Бледна ўсьміхалася. У хаце не заўважалі зьмены. Але Ніна чула, што траціць яна красу дзявочую. Панурыя і павольныя думкі прыходзілі васеньнімі днямі. Думкі нейкія неўпарадкаваныя. Хацелася сабраць усё пережытае разам. Выходзіла на вуліцу й паглядала сумна ў васеньнюю муць. Ніна вечарам на вуліцу выходзіла. Ільсьніла гразкая каляіна ад месяца, што коўзаўся ў разрывах алавяных хмар. У душы — нявыразна — мутна. Ня так, як калісь, — калі вучаніцай яшчэ радасна ехала ў Вільню, калі кожны гудок суліў радасьць спатканьня з дзяўчатамі загарэлымі, сябрамі. Часта тады Ніна выходзіла на вясковую вуліцу й выабражала свой ад'езд.

Здаецца, сядзіць ужо ў цягніку. Па абодвух бакох — полкі. Цягнік ідзе. Усё ўцякае ў адваротны бок. Паволі клеяцца вочы і яна заглыбляецца ў сон...

Шэрыя хаты сьпяць ужо моцным сном. Толькі сабака недзе адзываецца з канца вёскі, з-за загарадзяў, а хутка да яго прылучаецца другі. Гэты брэх пераходзіць у завываньне й яшчэ сумней Ніне.

Міналі хвіліны, цягнуліся доўгай ніткай думак і нейкага тупога болю. „Ужо, мабыць, пасьля поўначы“... Нідзе ня відаць агню. І так захацелася Ніне пабачыць чалавека, пагаварыць, хоць аб чым небудзь, хоць паглядзець каму ў вакно, каб ня было так цяжка на душы. Ніна чула сваю адзіноту, чула, што няма з кім падзяліцца сваім настроем. І было яшчэ цяжэй. Паволі ішла ў бок могілак, за вёску. Цёмныя платы здалёк выглядалі, як кусты, і, здавалася, там нехта прытаіўся, каб зараз выскачыць і кінуцца на яе.

Столькі разоў праходзіла сюдэю, і ўдзень, і ўночы, а цяпер вось нейкі страх паволі закрадаўся ў душу й рабіў трывожным кожны шаг, бунтаваў думкі. Ніна мусіла некалькі разоў супакойваць сябе, называла сябе пугапам і рабіла вялікі высілак, каб не вяртацца назад. З-за платоў цямнелі крыжы, вартаўнікі гэтага царства нябожчыкаў. Нераз здавалася, калі пад ветрам скрыпелі дрэвы, што гэта з дамавін устаюць нябожчыкі й цьвякі заржавелыя скрыпяць ад іх натугі. Ніна пераскочыла праз плот і пайшла зарослай сьцежкай па могільніку. Вось магілы людзей, што калісь жылі, кахалі, думалі, працавалі. Старая, прадвечная Беларусь. Вось тут недзе ляжыць вісельнік, якім пужалі яе, малую. Крыжы й крыжы між кустоў, дрэваў. Плач, колькі хочаш, выраві сэрца з грудзей — не падымеш іх да жыцьця — разважала Ніна. А калісь і я буду там, пад зямлёй. Стала ля нейкага крыжа. Хто тут ляжыць? Вось яна, Ніна, стаіць над ім, ня існуючым, і думае, у ёй цыркулюе кроў, расшыраюцца лёгкія. Як дзіўна! Прыпамятавала Ніна, як звальвалі на могілкі памёршых ад тыфусу ўначы й неадзетых, як хто быў, скідалі недзе ў яму ля поля. Яны ўначы насілі жыта ў хлеў (клуні яшчэ ня было). Ішла назад. Стаяла ізноў ля хаты. А з двара суседзкага чуўся кашаль сухотніка — Антона.

9.

Плылі манатонна дні. У коопэратыве вывесілі плякат: „Гарэлка—наш вораг!“ Апанаса пабілі на Вялікдзень п'яныя хлопцы.

10.

На палескіх балотах распускаюцца цяпер у шэрай, ціхай імгле белыя лілеі.

А Вільня спаткала Ніну шумам і грукатам.

Затрымалася ў знаёмай студэнткі.

— Як-жаж там на вёсцы?

— От, нічога цікавага.

І ў гэтых пару словах зьмясьцілася ўся горыч і адзінота.

Ніна даведалася, што Сьцяпан Пракапеня ўжо дохтар і жыве на прадмесьці. Пайшла.

Галава цягне ўперад, а ногі — ўзад! Уа! А яшчэ які кавалак! Ну, і гара... Маглі-б, урэшце, зрэзаць — лягчэй было-б хадзіць.

Адвыкла Ніна ад места. Выцерла хустачкай пот з твару — палягчэла. Падкінула зручней пад руку партфэль. Прыпякала вясеньняе сонца. Паволі паўзла гара ўніз. Вырасталі новыя дамы, высоўваліся парадкі, брамы, пераміргіваліся сонцам вітрыны, праміналіся людзі. Усё неяк зьбівалася кучай гэомэтрычных фігур у вачох Ніны.

Толькі далей, на прадмесьці, дзе пачалі распрастоўвацца платы, патыхнула сьвежым красавіковым ветрыкам. Сонца песьціць твар, вехаціць у шыбах хусткамі сьветла-белымі. І ў нейкай сэкундзе зазваніла Ніна ў вялікія дзьверы, дзе вісела візытка: „д-р Сьцяпан Пракапеня“. Адчыніла нейкая жанчына.

— Ці дохтар... дома?

Глянула на Ніну. Страшная яна, схудалая. Пальто ня моднае. Вось, звычайнае пальто.

— Дома — і жанчына паказала рукой пакой Сьцяпана.

Пастукала. Пачуўся нейкі шорах і шопат.

— Зараз, зараз! — голас яго той самы, толькі здаецца, больш мужчынскі, з нейкім нізкім адценкам.

Што там?

Сэрца білася. Яна — уся яго! Прыйшла яна з далі вясковай, з імглы шэрых дзён — расказаць яму, як ёй цяжка, як чарнее васеньнім кустом яе жыцьцё.

Зьдзівілася.

З пакою выйшла нейкая высокая, стройная паненка. Заўважыла, як мігнула яна ў бок Пракапені й хутка адчыніла знаёмы, відаць, ангельскі замок. У прамежку дзьвераў зірнула на Ніну.

— Сьцёпа!

Пракапеня шырака раскрыў вочы. Прад ім стаяла схудалая дзяўчына, з загарэлым павясковаму тварам. Няўжо гэта Ніна? Зьмяшаўся й спалохаўся.

Ня ведаў, як прыняць. Пацалаваў. Але пачула нешта халоднае ў ім. Ветліва рухам рукі запрапанаваў сесьці. Замітусіўся. Села ў крэсла. Чыста й прытульна ў яго.

— Ах, як прыемна, як прыемна, столькі гадоў!.. Ах, як гэта? Я й неспадзяваўся. А ў ваччу ў Ніны стаяла тая высокая, гнуткая паненка, што міргнула нязухопна Сьцяпану. Але што-ж? Можа гэта так нехта... Ніна маўчала. Чакала ласкі, чакала цёплых словаў. А Пракапеня белай хустачкай праціраў акуляры й, гледзячы на Ніну, гаварыў і гаварыў.

— Так... А ў нас няцікава цяпер.

Пачуцьцё расчараваньня расло ў Сьцяпана. Няўжо Ніна так зьмянілася?



— Слаба йдзе праца. Няма ўласьціва нічога. Адна газэта толькі выходзіць...

Глядзелі на сябе й нейкімі чужымі гукамі спатыкаліся іх словы. У паўзах, між словамі, усплывалі Пракапені ўражаньніуспаміны аб тэй пухкай, поўнай, цьвітучай папярэдніцы Ніны.

— Бачыш — цяпер наагул цяжка. Крызіс. Пракапеня прайшоўся ўзад і ўперад.

На руцэ яшчэ чуўся усьціск жорсткае далані.

— Зьвязаць жыцьцё ня штука, бачыш, але-ж як жыць? Трэба абстаноўкі..

А перад хвілінай дакранаўся Пракапеня да шоўкавага цела, гладкае, сьвежае скуры дзявочае, упіваўся відам перагібаў стройных.

—Я яшчэ ўласьціва ня маю сталага месца. Што далей будзе —ня ведаю. Але ўсё гэта была мана. Сам ня верыў у свае словы. Нешта карціла Пракапеню хутчэй разьвязацца з гэтым. Але нельга было адразу. Патрэбна была ўпэўненасьць, што Ніна ня крыўдзіцца.

Што-ж было між імі?—Проста — юнацкая рамантыка.

Але не пачуў, як зрывалася й падала сэрца Ніны, як білася падстрэленай птушкай. Спакойна сказала яна, што — не, я так. Як-жа-ж у цябе праца. Пабачыла, як прыемна стала яму. Не, ніякага жалю ня чуе яна. Так, толькі нейкі тупы, незразумелы боль... Толькі на тэй лаўцы ў садзе, якую яна знайшла, кружыліся роем зоркі й падалі за цёмную заслону дрэваў.

*М. ДАЛЬНЫ*

# Нарач
## (Частка шостая)

1

Жытам дарогі ручнік
сьцелецца ў даль пад гару,
толькі гарачы ім пот
з твару свайго не сатрэш...
Хочыш, . . . . . . . .
ціха абняць Беларусь,
выпіць вачыма усход,
шолах разбуджаных меж.

Роўна эскорта ідзе...

. . . . . . . . . . . . . .

Можа успомніш калі:
шолах разсееных зор,
песьню і шум трысьнікоў,
цені вячэрнія дрэў;
можа успомніш зару,
кагаркі з сініх азёр,
нейчы разьвееяны сьмех,
родны далёкі напеў.

Пэўна успомніш: чаму
з доўгіх этапных дарог
не спрабаваў уцякаць
ў цёмны нахмараны лес?
Ведай: ніколі, мой брат,
ў шэрых вастрожных мурох
ад успамінаў і дум
гэтых нідзе не ўцячэш!

Месяцы выткуць гады,
на валасох сівы сьнег,
як на сасьне маладой
засерабрыцца ў мароз.
Толькі ўсё думы твае
будуць блудзіць паміж стрэх
там, дзе вазёры і сінь,
там, дзе нядоля палос...

Золатам жыта цьвіце.

. . . . . . . . . . . . . .

Эх вы, дарогі жыцьця,
што там, за вамі ў далі?!.



Доўга зязюля ў бары
звонка кідала „ку-ку“,
ціха у восень грудзей
сыпала шолах калін.

Пыльнай дарогі струну
дрэвамі лес абарваў,
хмарай сасоньніку зьвіс,
шоўкам бяроз і асін.
Пахне лясной цішыной.
Сіні ягодніку стаў,
плямамі сонца расцьвіў
ў зелені соннай малін.

Ціха эскорта ідзе...
Ў летні і сонечны дзень
не разьвітаўшыся нат
цяжка блізкіх пакідаць.
Як над вазёрамі ноч
сіні расплёскае цень, —
доўга вячэрняй зарой
будзе хтось сумаваць...

2

Прахор

Што, пан, далёка да вёскі?

Вартаўнік

Два ці мо тры кілямэтры...

Прахор

Сонца распаленым воскам —
паліць — гарачым паветрам.
Хочыцца піць...

Грышка

Неяк сумна
сяньня пляцешся, таварыш!
Хаты рыбацкія, гумны,
можа сям'ю ўспамінаеш?..
Дзесь засталіся далёка... —

Ціха пляцецца эскорта.
Цені ад соснаў высокіх
сьцеляцца сеткай падзёртай. —

Песьню адну я успомніў,
з дзён перажытых, гаротных,

пеў яе неяк з над Нёмну
ў цэлі суседняй работнік.
Путы раскуўшы, з пад стражы,
ў тайгу сыбірскую, ў поле
вырваўся з катаргі вязень,
вырваўся, чуеш, на волю...

Прахор

Чуў, як калісьці, пра гэта...

Змоўклі.
Адны успаміны
звоняць між струн каляінаў
мокрай расой самацьветаў.
Толькі спаткаўшыся рукі,
. . . . . . . сказалі,
што дзесь, пад сонечным лукам,
дрэмяць вазёрныя хвалі.
І мо' пад шопат іх сіні,
аж да вячэрняй зарніцы,
погляд сірот і дзяўчыны
дзесь над палямі імгліцца...

Добра... што будзе дык будзе...
. . . . . . . . . . . . .

Грышка

Разам... глядзі, не марудзіць...
посьле з дарогі... ў гушчары.
Ў лесе, як рыба у тоні
можна схавацца далёка...
Нат і густой падвалокай.
ў рукі свае не загоняць

Ельнік зялёны і гонкі
плямамі цені раскінуў;
хмарацца ў небе сасонкі,
хмарацца лісьцем асіны.
Эх, што задумаўся, стражнік?
Не прыглядайся гушчарам!
Позна схапіўся за браўнінг —
. . . . . . . . . . . . .
Ў лес у зялёныя нетры!
Там дзе бярэзьніку выступ,
вострай сякерай ў паветра
гулка урэзаўся выстрал.
Раз і другі прагрымела
рэха адбіўшыся звонка;



шумна цяцера ўзьляцела,
крыкнула спуджана сойка...
— Стой!!!
Стой!!.
Стой!..—голас пагоні
крыльлямі хрыпла
залопаў
там, дзе імшарны сасоньнік
крые зьвярыныя тропы.
Нехта ўцякаючы кроў'ю,
быццам-бы лісьцем кастрычнік,
на курганоў узгало'я
пырснуў на сіні
п'янічнік.

3

Часамі
празьвініць калёсаў лоскат.
Расьце імглы вячэрняе мурог.
Глядзіць тужліва стрэхамі ў даль вёска
на крыжаваньні каляін дарог.

Тацяна

Чаму вярнуліся
з пустымі вы
рукамі?..

Першы рыбак

Зрабілі ўсё пад сілу, што было.
Але. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
Табе радзіцца-б рыбаком:
дзяцюцкі маеш нораў...
Чакай!...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Другі рыбак

Цішэй! ідзе Іван...

Іван

Ну што-ж, суседзі,
добры вечар!..
Відаць з бяды забыліся і слоў...

Трэці рыбак

Ідзі сваей дарогай, чалавеча,
начлегу не знайдзеш ты больш у рыбакоў.

Іван

Тацяна! і ты?..
Вас ашукаў хтось хітры!
І вы паверылі.
Ха — ха — ха!
Вы?..

Чацьверты рыбак

Пакінь сьмяяцца!
а то закончыш прыкра, —
каб не замёў дно тоні чубам галавы!...

Першы рыбак

Ідзі... пакінь...
Яшчэ так ня было на сьвеце,
каб Юда
кончыў
як чалавек жыцьцё...
Як цень худая слава папляцецца
далей шмат за вазёры...
Кожнае дзіцё
цябе спаткаўшы пальцам будзе торкаць,
а посьле выкіне цябе і панскі бот.
Няраз прысьніцца мо' табе аборка
і дзесь, на выгане, стары, надгніўшы плот...
Яшчэ пазнаеш ты агонь сірочых сьлёзаў, —
як сон яны твой спапяляць ў начы...
Пагляд вачэй людзкіх
адчуеш, як лязо стальное ножа,
і кожны голас —
блізкі табе учора, —
маўчаньнем страшнейшым ад дакораў,
і ад пагарды — загучыць.
Сам
праклянеш
той дзень,
тую гадзіну.
Аддаў-бы мо' жыцьцё,
каб толькі змыць
з твару
чорны сьлед...
Ідзі!
Мы ўсе і
наднарачанская краіна
перанясём бяду,
як шмат перанясьлі другіх ня гэткіх бед...



4

Не ляці туды, дзе вечар
сьцеліць захад макам-хусткай,
не ляці туды, дзе вецер,
ды лятуць у вырай птушкі!

Бо ня хопе табе сілаў, —
будзеш сьніць свае разоры;
хоць на зломаных мо' крыльлях,
а вярнешся на вазёры.

Ці вясёлым, ці ў задуме
ахінуўшыся у шэрай,
у сасновым ціхім шуме
прывітаеш сіні бераг.

А калі заснуць прыдзецца
на вастрожных можа нарах, —
занясі на крыльлях, вецер,
песьні вольныя на Нарач!

Занясеш, — там іх пазнае
Беларусь мая і бацька, —
толькі сумна не сьпявае
хай над возерам батрачка!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

— — — — — — — — —

Грышка

Цяжка, брат, ісьці,
ўжо выбіліся з сілы.
Дарога: лес, імшары, балаты,
а мы і ранаў добра не абмылі.
Ну што-ж, —
хоць да вазёр,
ці дапляцешся ты?

Прахор

Дай вады! Агнём пячэ,
у роце горка...

Грышка

Мо лепш табе плячо перавязаць?
Спачнём...
Як толькі вечар крыльлем сломкі

ўзмахне над лесам, зоры замігцяць, —
зноў пайдзём, туды, на ўсход, дзе нашы хаты...
Пакуль загляне золак з пад рукі,
на паплавох між лазьнякоў кудлатых,
пакуль нат загалосяць кулікі,
на месцы будзем мы. —

Памалу з лісьця вецер
зьвявае цені і
на мох
кладзе.
З вяршын зарой звон камароў ліецца,
зьвініць ў малiньнiку, у ляшчэўніку, ў вадзе.—

Прахор

Я мо' не дайду.
А нашую работу
няхай далей і без мяне вядуць...
ды мо' памогуць падрасьці сіротам,
мо' паласу калі арцельлю узаруць. —

Вечар жменяй захаду раскінуў зоры,
на камарыных струнах скрыпкаю гучыць;
за паплавамі з жабамі гавораць
ўсю ноч варожучы пагоду туркачы.
Дрэміць папараць
на курганох з крушынай
лясным чароўным непрабудным сном
і ледзь шапочуць сінія асіны...

Грышка

Прахор!.. Прахор... пара ужо ісьці

Прахор

Пайдзём!..

5

Гарыць агонь.
Спакойна дрэміць Нарач
і ноч, як песьня ціхая, бяз слоў,
на сонны бераг навявае чары,
калыша хмары — думы рыбакоў.
Часамі, з поля,
падкрадзецца вецер,
рукамі згорне золата з агню
і разсяваючы
нясе
здаецца
загонам зорным поўную сяўню.



Часамі хваля падпаўзе пужліва,
як быццам думае аб чымсь спытаць,
а можа казку з сініх пераліваў
арцелі, нівам хоча расказаць.
Пяску набраўшы ў сінія далоні
вярнецца берагам
пакатым
зноў...
Грызуць мурог папутаныя коні
дзе-недзе звон сарвецца з капытоў.

Першы рыбак

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Другі рыбак

Ім сьніцца рэха голасу жывога
з пад стрэх сялянскіх,
з над палос
і траў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Трэці рыбак

Цішэй!..
Здаецца недзе шопат з далі,
ці можа вецер ліча каласы...

Зноў успаўзла
на скат пяшчаны
хваля
змываючы людзкія галасы...
Спакойна дрэміць Нарач на прывольлі
і сколькі зор разсеяных гарыць!
Іх ня зьлічыць,
ня вылавіць ніколі
нат' залацістым невадам зары!

6

Грышка

Глянь!
там,
там Нарач, як неба кавалак,
ляжыць абарваўшыся шырака сіне.
А далей,
за берагавым
пяшчаным валам
ляжыць вазёрная краіна!

Прахор

Хоць пад канец яшчэ убачу.
Вецер з ляснога берагу
сонца напіўшыся жоўты, гарачы.
Быццам лістапад убраў хвалі пенай-шэранам
Так, гэта Нарач...

Грышка

Усё тое самае.
Толькі дням
не дагараць спакойна ў сонечным загары,
як перш...
Пара ісьці ўжо нам!

Прахор

Я застануся,
абмыю раны.
Ты пойдзеш ў вёску, хай памогуць,
прыгоняць лодку мо' на бераг рана...
Ідзі... яшчэ далёкая дарога.

Грышка

Там хтось грабе да берагу вяслом.
Ды нешта вецер хвалі моцна сініць.
Ну што-ж — пайду, спытаю, мо'
дзе лепш прайсьці на мядзельскі гасьцінец.

Вецер перабірае
пальцамі тугія струны соснаў
і шум плыве па залатой кары
ў зялёныя вяршыны,
дзе дрэмяць ў шышках залатыя вёсны,
начлежных песьняў адгалосы
і пасівеўшыя як мох быліны...
А сонечны, срабрысты звон
разьбіўся ветрам на хвалях шэрых
у дробныя шарахаўкі.
Іх сіні перазвон
прыносяць хвалі,
кагаркі
на бераг.
Часамі змоўкне бор
і слухае, пакуль з глыбокіх нетраў
зноў на барозны сінія вазёр
не паліецца шум
зялёным
вадападам
ветру.

— — — — — — — — — — —



Грышка

Можа ты, дзядзька, перавязеш
на бераг Гатаўскі,
а то ісьці абходам
міль пару прыдзецца найменш.

Рыбак

Не, сынку!
Я тут ад усходу
пераважу вартаўнікоў.
А сяньня, як на безгалоў'е,
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
Работы шмат, а нават і на соль
не зараблю, ей-богу!..

Грышка

Дык кажыш каля нарачанскіх сёл
няма дарогі?

Рыбак

Эт, кажуць людзі!
Слухі з поля, з бору прыпаўзьлі,
а тут вазёры разшумяць
па беразе,
па жвіры,—
што быццам двух . . . уцяклі...
Ты можа чуў, аж з падсівога Сьвіру?..
Ты сам ня гатаўскі, а?..

Грышка

Не!..

Рыбак

Так... я перавёз-бы... Відаць і ты падбіўся.

Грышка

Мне ад вясны баліць нага.
Глядзі, як вецер з Нараччу схапіўся!
Ну што-ж, — пайду.
Бывай!

Рыбак

З Богам!
Ідзі праз лес, мо' і удасца як пралезьці...
Ды, паслухай...
Балашы мінай!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адных бяда павыганяла ў сьвет, —
пайшлі бярозавымі трактамі,
разьвітаўшыся на век
з вазёрамі, з невадамі, з хатамі,
пайшлі, як бежанцы вайной.
Другія асталіся на зімоўку,
каб посьле . . . . . . . . . .
насевак вынясьці сяўнёй.
Ад Палесься да Дзьвіны,
ад захаду да ўсходу сьляды
ляглі і тропы...
. . . . . . . . . . . . . .

**Вартаўнік**

Ты з некім гаварыў?
Што? Аб пашы?..
Чаго тут поўзае у будні дзень?!

**Рыбак**

Гэта, пан, чалавек свой, —
з вёскі нашай...

**7**

**Прахор**

Зноў апусьцелі: бераг, трысьнікі,
толькі хмары кудзеляцца белыя.
Нейкі боль гарачы,
цяжкі,
вожыка быццам ў грудзёх скура калючая шэрая.
Хоць-бы жменю вуглёў удалося заліць,
што гарыць у грудзёх,
як на вогнішчы дымным!..
Можа гэтым прыбоем, што ў пене кіпіць
і зьліваецца з берагу ліўнем. —

Залатым пяском усланае дно,
дрэміць сном залатым бяз просыпу,
толькі вецер пахне борам, сасной
ды хваляў срабрыста-зялёныя розсыпі.—

— Нарач!!.
Нарач!.. Нарач...
Родны бераг імглою заткала.
Там вербы, хата, сям'я... —

Сінія хмары
плывуць на спатканьне валам.



Хвалі вышэй і вышэй,
хвалі сінія, срабрыста-залатыя.
Вось адна дапаўзла да грудзей,
абняла рукой-пенай за шыю...
Белай стужкай мільгнуў крыльляў шэраг;
вецер вышэй ўздымае
хваляў мяцель. —

— Братцы, братцы, разам!
На бераг!
Разам цягніце, братцы, арцелі!.. —

Хвалі сіняцца з права і з лева.
З пераду вецер кідае цяжкія скібы...
Ўсё глыбей ідзе і глыбей..
Мо' здаецца яму, што цягне ён невад—
цяжкі, поўны палову, срабрыстай рыбай.
Зноў вырас перад вачыма вал.
На дне за дрот зачапіліся ногі.
Сыпецца пена,
як сьнежная лавіна
з сініх скал.
Зноў і зноў хваля загарадзіла дарогу.
Падняла, ўскалыхнула,
як маці
калыскай...

— Братцы!... Памажэце!..
Братцы!!!
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Недзе кнігаўка крыкнула блізка,
ды неба адцьвіўшы
вячэрняй зарой
пачало
асыпацца.

(Канец часткі шостай).

Вільня, 19.XII.36.

*МАКСІМ ТАНК*

# Паэмы Міхася Машары

У гэтым ёсьць нейкі фаталізм: Машара выявіў свае якасьці паэта ў мамэнце, калі ў Беларусаў з гэтага боку рыскай мяжы паўстаў вакансаў на буйнейшага песьняра.

Усход ягонае зоркі прыпадае на пару дэзэрцыі Аўгеня Бартуля з нашага літаратурнага фронту. Быў час, калі Бартуля залічалі да авангарду, гэта быў кандыдат на народнага паэта — надзея працоўных масаў на беларускім Парнасе! Так у часы зацішша пасьля грамадаўскага Sturm und Drang'у чуліся гукі Бартулевае ліры поўныя пралетарскага энтузыязму:

„Я не забыўся цябе, мой станок,
Помню...
Сталёвы твой звон;
Стану ў рады, як пакліча гудок,
Як клічам расьпеніцца ён."

Нядарма крытыка ставіла яго побач Уладыслава Броневскага. Бязспрэчна, былі ў іх супольныя матывы і супольная вера:

„Warczą traktory, prują ugory
Jutrznia swobody świeci szeroko"...

Іншая справа, што Бартуль далей трактараў неяк не пайшоў (Аб трактарах ён пісаў у 1929 г.). Жыцьцёвыя нягоды ў форме легіону „młodych" і судовае аплікантуры адцягнулі яго ад беларускага творства. І гэты без пары памёршы (для беларускае справы) паэт пакінуў сучасным толькі элегійны настрой і асірацелую „Князёўну".

Але беларуская глеба настолькі ўраджайная, што на месца адыйшоўшых выдае з сябе цэлы сьцяг новых талентаў, стойкіх вартаўнікоў народнае справы. Адно з перадавых месцаў сярод іх займае Міхась Машара.

Пра Машару можна сказаць, што гэта сялянскі паэт, ахопліваючы ў сваім творстве рытм агульна-нацыянальнага жыцьця. Мастацка апяваючы сучаснасьць, ён, адначасна, пракладае кладку ад мінуўшчыны да будучыні. Памінаючы шурпатасьці і перабоі ў мэтрыцы, ён вельмі ўпадабняецца, як тэматычны контынуатар, да Янкі Купалы з часоў „Шляхам Жыцьця" і „Спадчыны". Таксама адраджэньне і мінулае краіны зьяўляюцца галоўнымі матывамі ягонае ліры. (Трэба адзначыць, што тэрмін „адраджэньне" ў сучасны мамэнт ёсьць анахронізмам: сёньняшні дзень — гэта пара разбудовы нацыі. *Пэрманэнтнага адраджэньня быць ня можа!).* Шукаючы сюжэтаў у гісторыі і апрацоўваючы іх, паэт выдатна прычыняецца да паглыбленьня працэсу ўсьведамленьня мас. І з гэтага гледзішча найбольш вартаснай зьяўляецца паэзія Міхася Машары.

На першы пагляд лірыка Машары блізка падходзіць да напеваў паэтаў-нашаніўцаў — тыя-ж саламяныя стрэхі, пяшчаныя палоскі і прыдарожныя крыжы, у сапраўднасьці розьніца ёсьць колёсальная: замест сьлёз беспатольных, мэлянхоліі і адчаю — оптымізм і бадзёрасьць. Гэты оптымізм можна назваць характэрнаю рысай усяе паэзіі песьняра.

„Годзі ныць! Годзі плакаць і каіцца,
Што прайшло, нам таго не вярнуць,
Над зямлёю зара разгараецца;
І бадзёрыя песьні плывуць".

І запраўды можна ня дзівіцца, калі мінорныя тоны зашмат прабіваюцца ў паэзіі „нашаніўцаў" — „нашаніўцы" былі пачынальнікамі і павадырамі, будучыня была праблематычнай, таму мінуты сумніваў і духовага разладу адлюстроўваюцца ў іх творстве; што датычыць Машары, дык ягонае творства разьвіваецца ў іншых варунках, коньюнктуральна ня лепшых, але ня выклікаючых ніякіх сумніваў аб будучыні. *Пара Машары ёсьць парой разбудовы беларускай нацыі.*

Першыя дробныя рэчы, выйшаўшыя з-пад пяра нашага песьняра, не давалі меры дзеля сконстатаваньня ягонага таленту і толькі пазнаёміўшыся з далейшымі паэмамі чытач даходзіць да шчырага захапленьня. У месячніку „Нёман" у 1932 годзе друкавалася паэма *„Валачобнае"* , напісаная паэтам у Лукіскім вастрозе ў 1929 г. Зьяўленьне паэмы было роўназначна з выстаўленьнем дыплёму М. Машары на тытул паэта ў найпачэсьнейшым значэньні гэтага слова.

„Валачобнае", паганска-хрысьціянская імша за беларускае адраджэньне, проста зьдзіўляе багацьцем сваей кампазыцыі. Цэлая паэма напісана розным мэтрычна вершам, так пяшчотна абробленым і так трафна датарнаваным да зьместу і з гэткім выкутым рытмам, што літаральна зачароўвае і змушае да сталага паўтараньня, не даючы адарвацца ад яе.

Падобнага дасканальнага тэхнічна і музыкальнага твору Машара пакуль што яшчэ нам не задэманстраваў. Гэта ня вершы, але складовыя часткі нейкай сюіты:

„Сінь ты сінь вясьняная!
Зноў зьвініць ручэй.
Зноў-жа сонцам п'яны я, —
Сэрцам маладзей.
Лашчуцца, шчакочуцца
Цёплыя вятры.
Зноў мне брызгаць хочацца
Соладам вясны".

...„Я — паверце —
Веру ў шчасьце на зямлі
І усіх хто чысты сэрцам
Заклікаю да імшы,
Дзе мужык дзіцячай верай
Расьпявае трапары. -
— Адчыні нам, Божа, дзьверы
— Доўга сьнёнае пары." —

„Не таю,
Што краду
Адпяянае рэхам жыцьцё:
Я пяю
Бо душу
Маю паліць жаданьне адно.
Пакуль дух
Не патух
Недасьпелыя думкі кілаць,
Пакуль слух
Ловіць рух
Песьні сеяць на сонную гаць".

„Гэта ня песьня — імкненьне,
Буйны вясновы прылію
Веры ў тваё Адраджэньне,
У заўтра ваколіц і ніў.
З шумам лясным на прадвесьні,
З першай грымотай вясны,
З першае жаўрука песьняй
Радасьць нясу вам браты".

І хоць аўтар „Валачобнага“ не належа да кірунку імпрэссіоністаў, паэма гэтая бязспрэчна мае колер, мае сваю зраковую трансформацыю, як музыка Дэ-Бюссі і Равэля.

Кранаючы паэмы Машары, трэба спыніцца на *„Сьмерці Кастуся Каліноўскага“*. У ёй вызначаюцца заганы, якія датычаць, галоўным чынам, тэхнікі вершаваньня. Побач строфак здраджываючых руку сапраўднага маэстро трапляюцца моцныя каструбатасьці. Калі дадамо некаторыя макаронізмы, псуючыя агульную композыцыю, дык не адрэчы будзе пажадаць, каб да другога выданьня аўтар выкінуў гэтыя недагляды.

„Сьмерць Кастуся Каліноўскага“ — гэта апотэоза патрыётызму, патрыётызму прадуманага, якога ў сучаснай белпаэзіі няшмат.

Да апошніх часоў К. Каліноўскі быў нейкім сфінксам у беларускай гісторыі і літаратуры. У творы Машары „Літвы Дыктатар“ у паказаны мамэнт свайго жыцьця надта плястычна прадстаўляецца чытачу і хоць стылізаваны, зрэштаю, як кожная іншая гістарычная постаць, перастае раз назаўсёды быць тэй гіпсавай маскай, каторай ён уяўляўся нам дагэтуль.

Як і ў іншых паэмах нашага песьняра, таксама і праз „Сьмерць К. Каліноўскага“ праходзіць нязломная вера ў лепшае заўтра. Сьмерць каліноўскага — гэта ахвяра неабходная дзеля будучага вызваленьня Народу. Ягоная Гальгота ёсьць зарукай ускрашэньня Беларусі.

„Народзе, ўстанеш! і парукай
За лёс твой сёньня сьмерць мая.
З нядолі, зьдзеку, крыўд і мукаў
Паўстанеш — да жыцьця!“

Машара глыбока ўглядаецца ў сэнс жыцьця, у сэнс разьвіцьця гістарычнага. Ён добра разумее, што толькі моцна сцэмантаваны народ будзе магчы забясьпечыць сабе трывалае і слаўнае існаваньне; гэта-ж залежыць ад ступені нацыянальнай культуры, якая не зьяўляецца нечым раптоўна зьявіўшымся, але ёсьць вытварам мінулых пакаленьняў з комплексам іх моральных, матэрыяльных, псыхічных і інш. свомасьцяў. Ён разумее нацыянальную культуру, як уласную сыстэму вартасьцяў кожнага народу.

Чытаючы апошнія радкі паэмы, некаторыя ассоцыяцыі прыходзяць на думку.

...„І з ім яго сябры змаганьня,
Героі Польшчы і Літвы.
Разьбіткі грознага паўстаньня
Народу верныя сыны“.

Ці-ж ня горкая іронія на сяброў змаганьня, прайшоўшых праз рэінкарнацыю, уцелесьненых у нейкіх „хохлікаў“ Выспянскага?...

З навейшых твораў Машары *„Мамчына Горка“* ўводзіць нас у беларускае Рококó. На канве беспрасьветнага прыгону і яснавяльможных рэнэгатаў, у пышных камзолах і пудраваных



парыках,—снуецца смутная аповесьць аб любві графянкі да сялянскага хлапца. Становішча графа вядомае—жорсткае і бяскомпромісовае. У выніку конфлікту, Янка, шукаючы справядлівасьці, уцякае ў стары бор да бунтароў-разбойнікаў, разам з каторымі паліць графскі палац і забівае графа Лапату.

Тутака маем дачыненьня з водгульлем тэй барацьбы, якая вялася на беларускіх прасторах у першай палавіне 17-га стагодзьдзя, з водгукамі вольніцы, што праняслася па паўдзённай Беларусі і зьвязана з імям зацярушанага ў нашай гісторыі „палкоўніка беларускага“, аб якім жменю вестак падавалі ў сваім часе некаторыя украінскія жаролы.

„Мамчына Горка“ напісана ў форме народнага эпосу і мае шмат прыгожых уставак, як напрыклад у заканчэньні:

Легенды, легенды сівыя, —
Мінулае нашай зямлі, —
Курганы, магілкі старыя
Вам сховам вякамі былі.
Прыгожымі снамі сягоньня,
З далёкай, таёмнай цішы;
Вы з ветрам ціхім ў перазвоне,
Вы ў шолаху траў на мяжы.
І шэпчаце чарамі байкі
Пра праўду калісьці жывых;
Пра тайны жыцьця бяз утайкі.
Пра дзеі адных і другіх.

Сярод зах.-беларускіх песьняроў Машара крыху „фэміністычны“ і таму ягоная лірыка больш прыбліжаецца да паэзіі Арсеньневай, чым да Танка.

Прынята кожнага паэта кваліфікаваць да нейкага кірунку ці школы. Гэта зьявішча часта мае штучны, ненатуральны характар: мастаку прыпінаюцца атрыбуты і номэнклятура, аб каторых ён ніколі ня сьніў і да сваяцтва з каторымі прызнаецца толькі пад прэсыяй крытыкаў і рэцэнзэнтаў.

Найдагадней будзе залічыць Машару да нэорамантыкаў у тым значэньні, у якім гэная дэфініцыя тасуецца да сымбалістаў і імажыністаў. З гэтых апошніх на расейскім грунце найбліжэйшым сваяком Машары зьяўляецца Сяргей Есенін. Дзеліць іх пераважна адношаньне да Бога: — ў той час, калі Машара заняў да апошняга лёяльную пазыцыю, Есенін выразна богахульствуе:

„Время мое приспело,
Не страшен мне лязг кнута;
Тело, Христово тело
Выплевываю изо рта“.
(Инония).

Але ўяўленьне вёскі ў Есеніна і ў Машары надта падобнае: і ў аднаго і ў другога выступае адноўленая надыхнёная вёска, у каторай жыцьцё б'е крыніцай і вырастае панад старыя формы быту. У вёску Машары ўрываецца разгул, таксама як у вёску Есеніна, і гэты разгул у паэтаў адзначаецца чаруючай прыгожасьцю. Есенін баяўся індустрыялізацыі, наступ каторай на вёску насіўся ўжо тады ў паветры, трэба адзначыць, што Міхасю Машары машыны таксама неяк не ўсьміхаюцца... Чаму, рэч цалком зразумелая, і на гэтым цяпер спыняцца ня будзем.

З беларускіх гоняў выйшаў пясьняр, значэньне каторага аграмаднае ня толькі для нас, але і для Беларусі замежнай. Ён гэрольд народнае справы паза ўсімі межамі і кардонамі. І з вагсількових палёў Дзісьненшчыны ўва ўсе куткі краіны даходзяць словы нязломнае веры, што:

Будзе дзень...
Будзе радасьць і шчасьце...
Будзе сонца над новай зямлёй.
Будуць людзі бяз сьлёз і праклёнцьця.
Жыць у згодзе вялікай сям'ёй.

І аб чым так у змроку туманным
Цяпер мроім стамлёныя мы, —
Будзе зьместам прастым і рэальным
На запраўды аджыўшай зямлі.

*А. БУЖАНСКІ*

---

* * *

Лёгка ўздыхнулі у полі вятры,
сонца ясьней узышло як учора,
жаўранак недзе у хмарах разьліў
звонкае гора.

За баразною ішоў аратай,
ціха на коніка нукаў,
можа ня цяжка, а неяк сьпіна
гнулася крукам.

Думаў пра хату, што хлеба няма,
хоць за стол дзеткі паселі,
маці на пальцах худых да жніва
лічыць нядзелі.

Не сумавалі чамусьці цяпер
за пустой міскай чацьвёра,
грэла мо' сонца у вокны ясьней,
лепш як учора.

*НІНА ТАРАС*

Вільня, 4.IV.37.

---



# Уладыка Віктар Садкоўскі ў барацьбе з беларускім языком у Случчыне

Варшаўская праваслаўная мэтраполія ў 1935 г. запачаткавала ў Варшаве навуковае, абапёртае на жаролах, выдавецтва п. з. *„Праваслаўныя тэолёгічныя расправы"*. Дагэтуль выданы том І. Зьмяшчае ён магістэрскую працу Аўгеня Саковіча на тэму: *Праваслаўная Царква ў Польшчы ў пару Вялікага Сойму 1788—1792* (Варшава 1935). Ня гледзячы на поўную службовую залежнасьць аўтара ад польскай аўтокэфаліі, сумленны праваслаўны дасьледчык гісторыі Царквы ў Беларусі паказаў на сьвятло дзеннае сапраўды цікавыя рэчы.

Беларускі калісь княжацкі Слуцак належаў тады да пераяслаўскага і барыспольскага праваслаўнага біскупства, на чале якога ў гэным часе — пара Вялікага Сойму 1788—1792 — стаяў уладыка Віктар Садкоўскі (1785—1795—1803). Гэты архірэй выйшаў із школы ведамага русыфікатара Беларусі, магілёўскага архіяпіскапа Юрага Каніскага ці Канінскага (1761—1795). Некалі гадунец кіеўскай духоўнай акадэміі, Віктар Садкоўскі робе шыбкую духоўную кар'еру. Пачарзе быў прэфэктам магілёўскай сэмінарыі, прыбочным намесьнікам Юрага Каніскага, капэлянам расейскай амбасады ў Варшаве, пасьля чаго дзякуючы гэтаму архіяпіскапу і пратэкцыі магутнага расейскага амбасадара ў Варшаве графа Стакельбэрга, поўнасьцю мінаючы польскі ўрад, не гаворачы ўжо аб нястачы прэзэнты калятара і намесьніка на Слуцак Караля князя Радзівілла, астаецца архімандрытам праваслаўнага сьвятатроецкага манастыра ў Слуцку, выключна на падставе ўказу Сыноду ў 1785 г. Мала гэтага, новы архімандрыт атрымлівае 27.VII. ст. ст. таго-ж году біскупскую хіротонію і астаецца пераяслаўскім і барыспольскім уладыкам з тытулам коадъютара (вікарнага) старой Кіеўскай мэтраполіі. Якім рашучым быў тады расейскі ўрад адносна б. Рэчыпаспалітай, відаць з таго, што ня пытаючыся нікога перанёс рэзыдэнцыю пераяслаўскага біскупства з Расейскага Царства ў належачы тады да Рэчыпаспалітай Слуцак, або іншымі словамі самастойна эрыгаваў у *чужым* краю *новы* біскупскі пасад! Пасьля гэтага пайшлі дастатачна шчодрыя датацыі на мэты пабудовы праваслаўнай катэдры ў Слуцку, на ўстройства духоўнай сэмінарыі і на высокую для архірэя пэнсыю. Душой і целам аддадзены Расеі, уладыка Віктар Садкоўскі хутка сам выканаў прысягу вернасьці для царыцы Кацярыны II, не шкадуючы жыцьця да апошняй каплі крыві, і зажадаў таго-ж ад падуладнага духавенства, каторае ўмеў пазьней падбухторыць нават да бунту супроць Рэчыпаспалітай.

Дзеля зрусыфікаваньня наскрось беларускага краю, новы ўладыка загадаў зараз навучаць народ толькі з расейскага „Сокращенного Катехизиса", у якім дзіўна злучаліся дбайнасьць аб хвалу Божую і памыснасьць царквы, сьляпое служальства палі-

тычным інтарэсам Расеі і тупое падданства расейскім монархам (Тад. Коржон. *Унушраныя падзеі Польшчы за Станіслава Аўгуста* (1764—1794). Том І. Кракаў-Варшава 1897).

Вось-жа ў часе ўрадаваньня ў Слуцку ўладыкі Садкоўскага адбыўся там мясцовы епархіяльны сабор епархіяльнага духавенства. Ведаючы справы Сабору, Аўгень Саковіч падае ўназванай вышэй працы фрагмэнт дасло̆ўнай прамовы высокага дастойніка царквы да мясцовага духавенства. Гаворыцца ў ім так:

*Я вас скорэню, знішчу, штоб і языка не было вашаго проклятаго літовскаго й вас саміх, я вас у зсылкі паразсылаю, альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з закордону* (г. зн. з Расеі) *панавожу!..* (79) Зацытаваныя ў працы, ведама, напісанай цалком парасейску, беларускія, хоць з дыялектычнымі асаблівасьцямі ўжо Усходняй Беларусі, словы ўладыкі Садкоўскага сьведчаць наўперад аб тым, што архірэй быў відаць сам Беларусам (магілёўскім ці смаленскім?), што аднак яму не перашкаджала быць адначасна — хоць гэта выглядае на парадокс—фанатычным ворагам ужываньня падуладным клерам таго-ж беларускага языка. *Выкараню, знішчу ваш прякляты літоўскі язык*, крычыць із свайго трону поўны палкай ненавісьці ўладыка Садкоўскі, а моцныя ўдары аб зямлю жэзлам садзейнічаюць ягоным словам да перапалохнага клеру. Але мо' ёсьць тут якая памылка адносна адпаведнага азначэньня языка? Аднак-жа *ваш прякляты літоўскі язык* ня можа азначаць у гэтым месцы ніякім чынам ані польскага языка, з каторым лічыўся ў адміністрацыйнай практыцы гаворачы гэныя словы, ані таксама літоўскага языка, каторым пэўне ніхто з праваслаўнага духавенства ў канцы XVIII в. у Слуцку не карыстаўся. Астаецца тут прызнаць, урэшце адразу гэта кожны сьведамы пойме, што ўвесь гнеў уладыкі накіраваны тут супроць беларускага языка, каторым калі ня ўсе, то прынамсі і пэўне большасьць духоўнікаў (інначай так вострае выступленьне ня мела-б сэнсу!) тады карысталіся ці то ў сьвятыні, у пазалітургічных чыннасьцях (пропаведзі, песьні) ці то асабліва ў хатніх адносінах (з сям'ёй і чэлядзяй). На першы пагляд паказываецца тут супярэчнасьць: уладыка Садкоўскі, сам прамаўляючы пабеларуску, громіць іменна ўжываньне гэтага языка. Ці гэта далапушчальна, магчыма? Гдзе-ж лёгіка? Аднак зусім магчыма, псыхолёгічна ёсьць праўдападобным і з увагі на пададзеныя факты — пэўным.

Ці-ж мы сяньня яшчэ ня ведаем людзей, што раз выракшыся сваіх прашчураў і ня ўмеючы языка народу, да якога хочаць залічыць сябе, змушаюць сваіх дзяцей ці падуладных іменна замест роднага языка — навучаньня языка чужога?! Ці ня змушаюць іх гаварыць дома ці ў таварыстве папольску ці парасейску, пагарджаючы сваёй роднай мовай, а хвалячы чужую? Такіх прыкладаў ня мала ёсьць і ў беларускай вёсцы і ў месце. Іменна такую парадоксальную сытуацыю ствары̆ў сабе сваей ужо гістарычнай прамовай да духавенства на саборы ў Слуцку ўладыка Віктар Садкоўскі.

„Добрага пастыра" асабліва трывожыла тое, што слуцкае духавенства, пераважна ніжэйшае, гаварыла дома і паміж сабой пабеларуску, менш яго ўжо калола, што слуцкае насельніцтва, апрача шляхты, ужывала, ведама, беларускую мову.

Няшчасьцем было, што гэты маскаль ня год і ня два займаў біскупскі пасад у беларускай Случчыне. Шчырай беларушчыны случчакоў даказываюць многія факты. Вось-жа калі маршалак Вялікага Сойму выдаў унівэрсал у справе забясьпечаньня публічнага супакою, слуцкая праваслаўная кансысторыя сама загадывала *„каб унівэрсал зрабіць приступным для народу"* (106), перакладаючы яго на *рускі* язык. Кансысторскія акты пісаліся тады ў Слуцку *„альбо польскім і рускім языком, альбо толькі польскім"* (203). Адна з пастаноў пінскай кангрэгацыі 1791 г. таксама гаварыла: *„Бакаларамі могуць быць дзякі, што ўмеюць чытаць і пісаць па польску і па руску"* (205). Лёгка зразумеем гэтыя ўступствы на карысьць польскага языка, калі толькі ўсьвядомім факт, што слуцкая шляхта — як каталіцкая і кальвінская, так і праваслаўная, адышоўшы ад народнай масы, была кіруючым дзейнікам у працэсе полёнізацыі касьцёла, збору і царквы, а праз гэта самае і роднага краю.

Гэта толькі эпізод у жыцьці праваслаўнай царквы ў Беларусі. Даказывае ён аднак выразна, што былі часы, калі праваслаўе зросшыся з беларушчынай было для маскоўскай з духа герархіі прыслоўленай соляй у ваччу.

*П. КАНТРЫБА*

# Княжыя магілы ў Давід-Гарадку

У канцы мінулага году ўсю прэсу ў Польшчы абляцела вестка аб адкрыцьці ў Давід-Гарадку, на Палесьсі, трунаў з касьцякамі тамтэйшых князёў з XII стагодзьдзя. Адкрыцьце гэтае зробленае на зямлі Беларускай мае для нас асаблівае значэньне, і мы падаем тутака інфармацыі аб гэтай знаходцы.

У Давід-Гарадку, месьце слаўным вырабам ботаў на ўсё Палесьсе, ад вякоў узвышаецца над ракой Гарыньню гарадзішча з земляным валам, які акружае плоскі верх гары. Народ называе гару „Замковай", бо ад прадзедаў да нашых дзён жыве йшчэ памяць аб замку, які тут некалі стаяў. Калі гэта было — народ ня памятае.

На гэтай гары ў пачатку XIX стагодзьдзя была пабудавана драўляная царква. Нядаўна гэтая царква згарэла. Дзякуючы таму, што будынак быў застрахаваны, страхавое таварыства выплаціла за яе 42,000 злот. Тады сярод прыхаджанаў паўстала думка: за гэтыя грошы і за спадзяваныя ахвяры пабудаваць на тым-жа месцы новую царкву — мураваную. Былі зробленыя пляны, атрыманы дазвол ад уладаў, і работа пачалася.

Пачалі капаць зямлю пад фундамэнты. Культурны слой аказаўся вельмі грубы: каля 5 мэтраў. Пастанавілі дакапацца да грунту. Але падчас капаньня ўсьцяж натыкаліся на розныя перашкоды. Ужо на глыбіні нейкіх двух-трох мэтраў ляжалі ў зямлі таўстыя, смалістыя бярвеньні і дошкі, каторых нельга было выкапаць. Пускалі ў ход тапары й пілы, выразалі замінаўшыя кускі і капалі далей. Урэшце лапаты застукалі па нейкім гулкім памосьце, зложаным з таўстых дубовых дошчак. Памост сарвалі і пад ім убачылі трынаццаць дубовых трунаў, устаўленых у некалькі радоў.

Відаць, баючыся, каб гэтая знаходка не перашкодзіла ў закладцы фундамэнтаў пад царкву, сьвяшч. Беляеў (ён-жа — віцэбурмістр у Давід-Гарадку) загадаў павыцягіваць труны, выкапаць у гарадзішчы — воддаль ад месца работы — вялікую яму ды іх тамака закапаць. Труны былі вельмі цяжкія, са сьценкамі, упусканымі ў дно і крышку— зусім без гваздоў: дык дзеля пераносу іх разьбіралі на часткі, касьцякі растрасалі, а пасьля ўсё складалі разам у новай яме. Ці былі тамака якія рэчы? Адны кажуць: былі, іншыя — пярэчаць гэтаму. Калі праўда, што былі, дык ясна, што пры пераносе іх мусілі парасьцягаць...

Аб знаходцы было дадзена знаць старасьце ў Столін. Стараста паведаміў кансэрватара, якому падлягае Палесьсе. Але не падумайце, што ў галіне аховы старажытнасьцяў Палесьсе падлягае віленскаму кансэрватару, як і рэшта зямель беларускіх у Польшчы. Не. Асаблівая „палітыка", якая абвясьціла Палесьсе нейкай „безнацыянальнай" тэрыторыяй, нават і ў гэтай галіне адарвала гэту краіну ад адвечнае сталіцы ўсяго краю — Вільні, ад віленскага навуковага асяродку, дзе сканцэнтраваны досьледы над мінуўшчынай зямель беларуска літоўскага гаспадарства, — унівэрсытэту Сьцяпана Батуры, ад натуральнае апекі віленскага кансэрватарскага ўраду і аддала пад ахову кансэрватара ў далёкім ад нас чыста польскім месьце — *Любліне*... Рэч зразумелая, што Люблін мала цікавіцца чужым яму і няведамым Палесьсем. Дык не зацікавіўся люблінскі кансэрватар і давід-гарадоцкай знаходкай. Работ ня спынілі: работнікі капалі далей і ніш чылі ўсё, што ім замінала ў рабоце...

Давід-гарадоцкі натарыюс Тускевіч паведаміў аб усім рэдакцыю віленскае польскае газэты „Слово". Апошняя зьвярнулася да дырэктара Беларускага Музэю гр. Луцкевіча, прапануючы прыняць учасьце ў экспэдыцыі ў Давід-Гарадок, каб выясьніць характар і значэньне тамтэйшае знаходкі.

Беларускі дасьледчык быў першым, хто навукова падыйшоў да гэтае справы і даў агульную разьвязку загадкі, сьцьвярджаючы з усей упэўненасьцю, што *магілы, як і драўляны замак, астача якога крыецца ў зямлі, сягаюць XII стагодзьдзя, а труны, выкапаныя тамака, зьмяшчаюць у сабе косьці давід-гарадоцкіх князёў.*

---

Вось апісаньне знаходкі ў Давід-Гарадку паводле пратаколу гр. Луцкевіча, які мы мелі магчымасьць перагледзіць.

Гэтак званая „Замковая Гара" ў Давід-Гарадку, непадалёк ад ракі Гарыні, прадстаўляе круглаватае ўзвышша, склоны якога к Гарыні шмат вышэйшыя, чым у бок места, з прычыны абніжэньня грунту. Верх гары абведзены земляным валам. У паўдзённай часьці валу — выемка: уезд. У дыямэтры гарадзішча мае на вока (абмерыць з прычыны работ было немагчыма) мэтраў 60—70.

Дзеля закладзінаў фундамэнтаў пад царкву зроблены вялікі чатырохкутны выкап, мэтры два ўшыркі і 5—9 углыб. Гэты выкап перарэзаў у розных мясцох астаткі драўлянага замку, каторы як быццам „скрозь зямлю праваліўся": гэткі таўсты на ім пласт наноснае зямлі. У паўночнай часьці гарадзішча, бліжэй да цэнтру яго, на глыбіні 4—5 мэтраў, работнікі наткнуліся на драўляны памост з таўстых дубовых дошчак. Калі яго зьнялі, дык пад ім аказаўся склеп, у каторым — паводле апавяданьня навочных сьведкаў — у правільным парадку, радамі, у адступах каля паўмэтра, стаялі дубовыя труны — лікам 13. Пры экспэдыцыі былі адкрыты ў выкапе яшчэ дзьве гэткія самыя труны.

Кіраўнік мясцовае народнае школы расказаў экспэдыцыі, што побач із склепам быў адкрыты зруб — прыблізна тры мэтры кожны бок квадрату. Яго называлі ўсе „студняй", але з выпытаў выясьнілася, што зруб ня йшоў у глыб — ніжэй роўня грунту, на якім беспасрэдна стаялі труны. Праўдападобна гэта была падстава званіцы пры цэркаўцы, якая магла стаяць на тым

месцы, дзе быў насьціл над склепам (насьціл мог быць царкоўнай падлогай).

Труны прадстаўляюць вельмі цікаўны і рэдка сустраканы тып. Гэта прастакутныя скрынкі з дубовых дошчак, даўжыні 2,30 мэтра. У канцох днішча і крышкі зроблены пазы, у якія ўстаўлены канцавыя сьценкі. Таксама ўстаўлены і бакавыя сьценкі, стоцьныя (без нахілу) да дна і крышкі. Нідзе няма гваздоў і нагул сьлядоў жалеза. Дошкі грубыя — 5—6 см., высечаныя тапаром; знакаў ужываньня пілы ня відаць.

У трунах, якія — паводле апавяданьняў сьведкаў — стаялі ўсе ў адным кірунку — з усходу на захад (твары глядзелі на ўсход, як у кургановых пахаваньнях паганскіх часоў), былі касьцякі, але дасьледзіць палажэньне іх было ўжо немагчыма, бо падчас пераносу на другое месца косьці перамяшаліся. Ляжалі яны на сьпіне. Ніякіх рэчаў пры іх экспэдыцыяй ня было знойдзена, апрача скураных туфляў з ласінае скуры (дзьве пары іх прывезены ў Беларускі Музэй). Ісподняя частка туфляў стаптаная, верхняя — добра захаваная. Пашыты яны былі з двух частак — перадка й задка. Апрача шва, якое злучала гэтыя часткі, яшчэ адно шво йшло падысподам — ад вострага наска да пяткі. На адным чэрапе відаць было сьлед ад даволі таўстой тканіны — праўдападобна астача ад калпака. Пад чарапамі ўсюды сьляды густых валасоў. У некаторых трунах — струхлелыя кусочкі палатна.

На захад ад цэнтру гарадзішча ў пракопе відаць сьляды вялікшае драўлянае будыніны — праўдападобна жылога дому. На паўдзённым захадзе — сьляды меншае будоўлі, у тым ліку — частка сьценкі вышынёй каля 2 м.; тут-жа даволі грубы слой быдлячага навозу.

Дрэва ўсюды захавалася вельмі добра. Гэта — або дуб, або смалістая сасна. На ўсход ад месца знаходу склепу з трунамі відаць перарэзаны пры капаньні камель сасны, таўшчынёй каля 40 см., вельмі смалісты й здаровы.

Кіраўнік мясцовае школы расказаў экспэдыцыі, што насупроць галоўнага ўезду ў гарадзішча ёсьць сьляды квадратнага, з абсечанымі рагамі, зрубу, папярэчына якога — каля 4 м. Гэта магла быць абаронная башта. Экспэдыцыя не магла яе агледзіць, бо гэтае месца завалена будаўлянымі матарыяламі.

Із сьценак выкапу гр. Луцкевіч павыцягваў кускі глінянага судзьдзя — з самага дна і вышэй — прыблізна на роўні вачэй; яны здадзены ў Беларускі Музэй. Гэтыя чарапкі былі пасланы на экспэртызу праф. Пастэрнаку ў Львоў. Праф. Пастэрнак катэгарычна пацьвярдзіў, што *чарапкі з дна адносяцца да XII стагодзьдзя,* з вышэйшых пластоў — да XVII і XVIII.

Сьлядоў пажару экспэдыцыя нідзе ня бачыла. Ці ёсьць у вале сьляды частаколу, экспэдыцыя праверыць не пасьпела.



Толькі пасьля таго, як у „Слове“ быў надрукаваны абшырны рэпортаж аб давідгарадоцкіх знаходках, адгукнуўся і ўрадавы ахоўца палескіх старажытнасьцяў — люблінскі кансэрватар. У Давід-Гарадок вырушыла з Любліна новая дасьледчая экспэдыцыя, у якую быў запрошаны з Варшавы дырэктар Архэолёгічнага Музэю грам. Якімовіч, выдатны знаўца архэолёгіі. *Новая экспэдыцыя поўнасьцяй пацьвярдзіла вывады першае.* Але дырэктар Якімовіч сваю дасьледчую працу значна пашырыў: ён паставіў сабе заданьне дайсьці, якія-ж гэта былі князі, косьці катоapprox рых гэтак няўважліва патрывожаны ў Давід-Гарадку? І вось да якога вываду ён дайшоў.

У абшырнай стацьці, надрукаванай у „Слове“ з 22.XII.1936, дыр. Якімовіч кажа:

„Няма ніякага сумніву, што адкрытыя магілы хаваюць у сабе косьці князёў. Але — чые? якіх князёў?

„Самы назоў мясцовасьці выразна кажа, што Давід-Гарадок заснаваў нейкі Давід, князь Давід, або гэны-ж Давід падняў даўнейшае аселішча да годнасьці гораду“. — Пералічыўшы далей дзесяць князёў гэтага імені, якія ўспамінаюцца ў летапісах у часе ад XI да першае чверткі XIII стагодзьдзя, аўтар адкінуўшы ўсіх іншых, затрымліваецца на адным: князю валынскім, які ад 1100-га году быў князем *пагарынскім* і памёр у 1112 годзе. Гэты князь, Давід Ігаравіч, дастаўшы пад сваю ўладу землі паўз Гарыні, мусіў аценіць усё значэньне валаданьня вадзяным шляхам, які прадстаўляла Прыпяць і ўліваўшаяся ў яе ў 11 вярстох ад Давід-Гарадка (па простай лініі) Гарынь. Гарынь і Прыпяць — гэта былі вадзяныя шляхі, якія з Валыні, Галіцкага княства, зямель заходне-беларускіх, пачынаючы ад Берасьця, Клецка, Казыля і Наваградка, урэшце — праз названыя землі — із краю ляшскага вялі да Дняпра, а па Дняпры — на міжнародны гістарычны гандлёвы шлях „Из Варяг в Греки“, якім можна было папасьці і да Чорнага, і да Балтыцкага мора, — і наадварот. У мамэнт, калі Давід Ігаравіч дастаў Пагарынскае княства, галоўным местам у ім быў Дарагабуж. Але Дарагабуж стаяў на сярэднім цячэньні Гарыні — далёка ад Прыпяці. Дык трэба лічыць зусім натуральным, што гэты вельмі рухавы і далёказоркі князь надумаў перанесьці сталіцу свайго ўдзелу ў ваколіцы ўтоку Гарыні ў Прыпяць. Гэта давала яму магчымасьць налажыць сваю руку і на Прыпяць ды цягнуць з гэтага вялікія матарыяльныя зыскі. Дыр. Якімовіч думае, што закладзіны Давід-Гарадка трэба аднесьці на час ад 1110 году да году сьмерці Давіда.

„Далейшыя доказы даюць весткі Іпатаўскага летапісу аб дзеяньнях сыноў і ўнукаў Давіда Ігаравіча. Праўду кажучы, гэтыя весткі вельмі скупыя і абмежываюцца бадай выключна інфармацыямі аб учасьці іх у тых ці іншых ваенных паходах; аднак, сярод іх спатыкаем падробнасьць, якая разьвязывае загадку аб Давід-Гарадку. Вось-жа летапісец — зараз пры першым упамінаньні аб князю Усеваладку, сыне Давідавым, — кажа, што

гэта ёсьць „князь из Городка“. З якога-ж Гарадка можа пахо-дзіць сын князя Давіда? Ці-ж не з Гарадка *Давідавага*, як назы-ваюць гэту мясцовасьць гістарычныя крыніцы ў працягу чаргі пазьнейшых стагодзьдзяў? Значыць, гэта ёсьць разьвязка за-гадкі; маем ужо пачатную гісторыю Давід-Гарадка, схопленую і абапёртую на летапісных запісках“.

Далей аўтар сьцьвярджае, што залічэньне патомкаў Давіда Ігаравіча да князёў „гарадзенскіх“, выводзячы гэты прыметнік ад назову „Городно“, было абмылковым: аказваецца, што аўтар Іпатаўскага летапісу запраўды напісаў аб Усеваладку, што ён быў князем „из Городна“, але пасьля перачыркнуў літару „*н*“ і паправіў на „*к*“: „из Городка“. На гэту папраўку дасьледчыкі доўга не зварачалі ўвагі, і зтэтуль узьнялася блытаніна: князёў давід-гарадоцкіх выводзілі не з „Гарадка“, а з „Горадна“. Па-праўку заўважылі толькі ў 1908 годзе — пры крытычным вы-даньні Іпатаўскага летапісу.

На падставе ўсіх гэтых даных і разважаньняў дыр. Якімо-віч робіць гэткі канчатковы вывад:

„Усё паказвае на тое, што весткі крыніцаў, датычачыя га-радзенскіх князёў, паіменна — сына і ўнукаў Давіда Ігаравіча, адносяцца да князёў, сталіца каторых была ў Гарадку Давіда-вым. І вось мы падыходзім да разьвязаньня загадкі аб магілах, адкрытых на Замковай Гары ў Давід-Гарадку. Аб тым, што та-мака пахаваны князі, ня можа быць ніякага сумніву. Малы сьвін-тарык у межах княжага гораду можа зьмяшчаць толькі магілы князёў і іхніх сем'яў, найбольш яшчэ — ваенных начальнікаў і княжых духаўнікоў. Якіх-жа ведаем князёў давід-гарадоцкіх? Давіда Ігаравіча, які памёр у 1112 г., і ягоную жонку; далей — сына яго Усеваладка, памёршага ў 1141 годзе, ды трох сыноў ягоных: Барыса і Глеба, пам. пасьля 1168 г., і Мсьціслава, які яшчэ ў 1183 годзе прымаў учасьце ў паходзе супроць качэўні-каў. Крыніцы ня кажуць, ці гэныя тры браты мелі патомства. Дык маем пяць князёў, імёны і час сьмерці каторых нам веда-мы, а сярод іх — закладчык гораду. Яны мусілі знайсьці вечны супачынак у сваей сталіцы“. Дадаўшы жонкі князёў, будзем мець ужо 11 асоб, — а ведама, што Ўсеваладка меў дзьве ся-стры, якія ў свой чарод мелі дзяцей. Урэшце, могуць быць тут пахаваны, як сказана, начальнікі княжае дружыны і духаўнікі.

„Значыць, давід-гарадоцкая загадка была-бы разьвязана. Да разьвязаньня яе прычынілася глыбае перарваньне вечнага супа-чынку. Тымбалей трэба шкадаваць, што княжыя косьці былі пе-рамешаны, бо-ж гэта ёсьць бадай ці не адны з першых магілаў, у якіх можна назваць нябожчыкаў па іменьню“.

Ад сябе дадамо, што да паважнае пастаноўкі досьледаў над давід-гарадоцкай загадкай прычынілася і праца ды навуковыя вывады *беларускага* дасьледчыка.

---



# З песьняй па сьвеце

## МІХАЛ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

*Пойдзеш мо' ня раз па сьвеце песьняй,*
*Воплескі разсыплюць табе градам, —*
*Але не забудзеш ты Палесься,*
*Не забудзеш Край Свой на эстрадах!*

*А калі спаткаеш людзей сьмелых*
*І людзей такіх, як мы, ў нядолі, —*
*Не забудзь, запей аб Русі Белай*
*І аб Нашых Песьнях і аб Волі!..*

*МАКСІМ ТАНК*

Беларускі народ стварыў багатую песьню, якая даўно пры-кавала да сябе ўвагу прадстаўнікоў высокай музычнай культуры. У гэтай песьні паэзія слова і арыгінальнасьць яснай, плястычнай мэлёдыі зьліваюцца ў адно арганічнае цэлае, твораць тыя скар-бы, дзе можа найболей захавана духовай красы — характэрнай адзнакі ўсёй беларускай народнай творчасьці.

Такія вартасьці маглі радзіцца толькі ў народзе жывым, здольным, перад якім адкрываюцца шырокія гістарычныя пэр-спэктывы.

Сьледам за беларускай песьняй народ наш з нізоў сваіх пасылае ў сьвет пяюноў і музыкаў, якія ўжо карыстаюцца эўра-пэйскай славай.

Праўда, ня ўсе з іх выступаюць пад сваім уласным імям. Ёсьць такія, што саромліва хаваюць сваю народную прыналеж-насьць, сваё імя ў чужыя рызманы. Такая псыхіка — гэта спад-чына нявольніцтва, якую пакінула па сабе прыгонная царская Расея.

Але побач з гэтым народ пасылае і тых, што не саромяцца сваей роднай сьвіткі, не дэкаруюцца чужымі плашчамі, а шану-юць імя таго народу, з гушчаў якога яны выбіліся на паверхню. Да ліку гэтых слаўных сыноў Беларусі на сьпявацкай ніве трэба залічыць у першую чаргу саліста ў опэры, тэнара Міхала Забэйду-Суміцкага і баса Паўла Пракапеню. Абодва яны — дзеці на-шай палескай вёскі (Косаўскага павету), з якою ніколі не пары-ваюць сувязі.

М. Забэйда-Суміцкі радзіўся ў 1900 годзе ў в. Шэйпякі каля Ружаны. Вырас у сялянскай сям'і, пазнаў жыцьцё з яго вяско-вымі бедамі і радасьцямі, навучыўся ад маткі любіць народную песьню — душу „простага народу“ — і гэтую любоў пранёс пазьней праз увесь сьвет ад Далёкага Усходу ў Заходнюю Эўропу.

У 1915 годзе ваенная завіруха выкінула яго на ўсход: Смаленск, Пенза, Барнаул на Сыбіры і ўрэшце далёкі Хар-бін. За гэты час Забэйда-Суміцкі скончыў вучыцельскую сэ-

мінарыю, вучыцельскі інстытут, а ў Харбіне ўжо эканамічны аддзел юрыдычнага факультэту мясцовага унівэрсытэту. Здабываючы асьвету, ён адначасна працуе, як настаўнік, у розных школах, апошняя з якіх — сярэдняя гандлёвая школа ў Харбіне.

Ад дзіцячых гадоў Забэйду-Суміцкага цягне да сьпеву. Зарабляючы ў школе на кавалак штодзеннага хлеба, ён знаходзіць хвілінку і для песьні. Але грунтоўна пачаў працаваць над сьпевам і наогул над музыкай у Харбіне, пад кіраўніцтвам партнэркі Шаляпіна Юліі Плотніцкай, Мэттэра і Томашынскай. У гэтым часе пачынаюцца яго першыя выступленьні ў Харбінскай Опэры, як саліста ў ролі Ленскага ў оп. „Евгеній Онегін"—Чайкоўскага, у ролі князя ў оп. „Русалка" — Даргомыжскага і Леля ў оп. „Снегурочка" — Рымскага-Карсакова. Аб тагачасных яго выступленьнях крытыка ў адзін голас прарочыла яму вялікую будучыню артыста.

Так пасьля „Евгенія Онегіна" з удзелам М. Забэйды харбінская „Зоря" у № 300 з 1929 году пісала: „Ему (М. Забэйдзе) отлично удалась сцена на балу ў Лариных, но в сцене дуэли он превзошел ожиданія". Кітайская газэта „Гунбао" у тым-жа часе піша, што „чуткій музыкальный певец, Забэйда старается осмыслить роль в мельчайших деталях и по возможности перевоплотиться при исполненіи роли. Артист со временем наверное будет пожинать лавры на этом завидном поприще".

Артыст, як чуткі мастак, не паддаецца на аднагалосную хвальбу. У 1932 годзе пакідае Харбін і выяжджае ў сонечную Італію, у Мілан, каб там далей працаваць над сваім голасам пад кіраўніцтвам ведамага прафэсара Фэрнандо Карпі. І тут, як і ў Харбіне, дзякуючы сваім здольнасьцям і працавітасьці, зьвяртае на сябе ўвагу — яго ангажуюць у Міланскую Опэру „La Scala". Італьянская музычная крытыка ў афіцыяльным органе Акадэміі Музыкі „Giornale del arte" раўняе М. Забэйду-Суміцкага з бязсьмертным італьянскім тэнарам М. Скіпай ды з ведамым усей Эўропе расейскім сьпеваком Л. Собінавым. Падобна адзываліся аб ім таксама іншыя італьянскія крытыкі, падчас ягонага канцэртавага турнэ па Італіі, якія трафна зазначалі, што артыст сьпявае ня толькі голасам, але і душой. Напр. „Corriere di Savona" пісала: „Тэнар Міхал Забэйда-Суміцкі і гэтым разам пацьвердзіў здабычы з апошніх сваіх артыстычных падарожжаў. Ён здраджае ўражлівую душу мрыючага паэта, гэтак характэрыстычную для славянаў. Ягоны голас робіць уражаньне дасканальнага інструмэнту, які здабывае і чаруе слухачоў".

Пасьля амаль чатырох гадовага пабыту ў Італіі артыст-сьпявак вярнуўся ў 1935 годзе на Бацькаўшчыну, ад якой быў адарваны роўна 20 гадоў. Пасьля некалькіх удачных канцэртных выступленьняў, ён прыняў запросіны ў Пазнань, дзе выступаў салістам у опэрах: „Галька" — Манюшкі, „Рыголетто" — Вердзі, „Сэвільскі цырульнік"—Россіні, „Фауст"—Гуно і інш. Кончыўшы свой кантракт з Пазнанскай Опэрай, Забэйда-Суміцкі не пажадаў



узнавіць яго, а пераехаў у Варшаву — дзе карыстаецца вялікім пасьпехам, даючы публічныя канцэрты і ў Польскім Радыё. Аб яго артыстычных здольнасьцях як найлепей адзываецца польская прэса розных палітычных кірункаў пачынаючы ад „Дзеньніка Народовага" і віленскага абшарніцкага „Слова" і канчаючы „Работнікам". Асабліва зьдзівілі варшаўскую польскую публіку выкананьня Забэйдай грэчанінаўскія беларускія народныя песьні на канцэрце ў Варшаўскай кансэрваторыі 27 лютага 1937 г., якія артыст быў змушаны паўтараць. Віленскае „Слово" даючы агляд рэпэртуару М. Забэйды-Суміцкага і яго выступленьняў у Варшаве і ў Пінску, між іншым піша: „Нязвычайная музыкальнасьць, пекны голас, вельмі добра апанаваны тэхнічна ўва ўсіх дынамічных ступенях, надзвычай павабная вонкавая індывідуальнасьць артысты і выразная інтэрпрэтацыя твораў з рознаякімі настроямі, падымаюць артыста да праўдзівых нештодзенных эстрадных зьяваў".

Што-ж датычыць радыёвых канцэртаў Забэйды, то можна сьмела сказаць, што яны зьяўляюцца скарбам для Польскага Радыё. Такога сьпевака, такога выявіцеля народнай душы, асабліва ў народных песьнях,—усёроўна польскіх ці беларускіх—у Польшчы нам не прыходзілася чуць. Нават праслаўлены Кепура не перадасьць і ня здолее так далікатна выявіць усей глыбіні польскага народнага музыкальнага духу, як гэта ўмее зрабіць М. Забэйда-Суміцкі з польскімі народнымі песьнямі. Калі ў Кепуры стыхія голасу забівае душу, зводзіць усё да нямецкае халоднасьці, то ў Забэйды-Суміцкага наадварот—голас разам са словам служыць для выяўленьня ўсіх тых адценьняў нават самых далікатных і тонкіх у перажываньнях і настроях, якія захаваны ў песьнях.

Толькі такі мастак-артыст, як Забэйда-Суміцкі, патрапіў вывясьці беларускую народную песьню ў шырокі культурны сьвет. Яму першаму належыць чэсьць і ў перадачы гэтых песень праз грамафонныя пліткі для шырокага карыстаньня ў краі і заграніцай.

*Р. ШЫРМА*

# Павал Пракапеня

У 1936 г. падчас канцэрту ў Кракаве Ян Кепура прадставіў публіцы Паўла Пракапеню, каторы прапяяў некалькі арыяў і песьняў. Ён спаткаўся з бурнымі воплескамі і агульным захапленьнем. Потым цэлая сэрыя трыумфальных выступаў у важнейшых гарадох Польшчы і нашага Краю.

Вялізарныя рэцэнзыі ў прэсе, партрэты маладога артыста ў журналах: Пракапеня перад выездам у Рым, Пракапеня накручвае фільм у Бэрліне і г. д. і г. д.

Хто-ж такі і скуль узяўся Пракапеня?

Павал Пракапеня — сын беларускай беднай сялянскай сям'і з Косаўскага павету. Пасьля цэлага сьцягу злыбедаў спаткаўся з Кепурай. Перад гэтым быў статыстам у Варшаўскай опэры; пры помачы Кепуры дастаў стыпэндыю на студыі ў Вену.

Пасьля быў у Мілане, а потым вучыўся ў Рыме ў прафэсара Астольфо Пэккія.

Пракапеня — сьпявак з аграмадным діапазонам і тэхнікай, зорка каторага не дайшла яшчэ да зэніту.

Толькі, як кожны малады талент, ён яшчэ ня вычувае, з чым яму „да твару." Паміж іншым пяе ён нікаторыя мала эфэктоўныя італьянскія рэчы, тады, як выканаўшы арыю торэадора з „Кармэн" змусіў-бы публіку літаральна насіць сябе на руках. На канцэрце, аб каторым ідзе гутарка, у канцы праграмы на нямоўкнутыя бісы Пракапеня сказаў, што выканае песьню са свайго Косаўскага павету і... прапяяў нейкую расейскую песьню аб „Ваньцы і Матрёне!"

Аніводнае беларускае песьні ня выканаў Пракапеня, а расейскія рэчы пяяў ён з нейкім нават піетызмам.

Чулася, што беларускасьць у ім пакрыта покастам (павярхоўным) чужых культур.

Падросткам, нейкіх 15 год маючы, выйшаў ён са сваёй вёскі, пехатой дайшоў да Слоніма, скуль як амэрыканскі трамп, бяз білета, даехаў цягнікам да Баранавіч.

А потым Варшава, Вена, Мілан і г. д.

На чужыне спатыкаўся з палякамі і расейцамі. Усе пракапаўшыся, што маюць дзела з буйнейшым талентам, „чулі" да яго сымпатыю і рабіліся „сваякамі."

Вялікая шкода, калі Пракапеня акажыцца страчаным для свайго народу. Гэта бас-барытон, роўнага катораму ў Польшчы нямашака.

Дзе-б ён не знаходзіўся, — ці ў роднай вёсцы Запольле, ці ў кінэстудыях бэрлінскае фабрыкі „Ufa," ці на рымскім Corso,— ёсьць магчымасьць, што гэтыя радкі дойдуць да яго.

Жадаючы найвялікшых пасьпехаў і уздоймаў, адначасна хочацца прыпомніць словы народнага паэта Якуба Коласа:

...на вашым сумленьні нясплочаны доўг векавы,
То доўг прад народам, то доўг разуменьня,
Якое зачэрпалі вы з народнага скарбу
Душы самабытнай і з скарбу яго мазалёў,
То ён працаўнік наш, то ён старадаўны
Угору вас моўчкі узьвёў!...

*А. Бужанскі*

---

Дапаўняючы артыкул грамадзяніна Бужанскага аб вялікім артысьце беларускай зямлі, мне прыемна падаць да аўтаравага ведама, як і да ведама огулу беларускага грамадзянства, што насупроць энунцыяцыяў польскай і нікаторай загранічнай прэсы аб тым, быццам артыст—польскай нацыянальнасьці — ёсьць ён з крыві і косьці Беларусам. Аб гэтым я даведаўся беспасрэдна ад самога гр. Пракапені, з каторым меў гонар пазнаёміцца падчас ягонага быцьця ў Вільні. Паважаны і слаўны артыст у гутарцы са мною сказаў: „быў Беларусам і астануся ім" — астанецца такім, якім маці нарадзіла, якім фігуруе ў пашпарце. Дагэтуль у сваіх канцэртных выступленьнях нічога не даваў з рэпэртуару беларускага, бо ня знаў яго. Чаму так сталася? Сталася гэта таму, што дасюлешні жыцьцёвы шлях артыста ня спрыяў абзнаямленьню з беларускай музычнай літаратурай. Артыст мае сяньня скончаных 27 год (нарадзіўся ў 1909 г.). Сусьветная вайна тысячы Беларусаў змусіла пакінуць родны край. Гэткі лёс не абмінуў і малога Паўла. Ён разам з бацькамі выяжджае ў 1915 г. у Расею і там (у Ніжнім Ноўгарадзе) астаецца да 1922 г. У гэтым годзе прыяжджае на Бацькаўшчыну. Кароткі час прабывае ў роднай вёсцы Запольле, пазьней апынуўся ў чужым асяродзьдзі.

Вялікі талент артыста загранiца належна ацаніе. У 1932 г. у выніку міжнароднага конкурсу сьпеву гр. Пракапеня здабывае першую нагароду — залаты мэдаль і дыплём, а ў 1936 г. атрымлівае ад папы рымскага ватыканскі ордэр сьвятога Юрага, а ад італіянскага ураду — кавалерскі крыж італіянскае кароны. Малады наш артыст праславіўся сваімі канцэртнымі выступленьнямі ў Італіі, Аўстрыі, Швайцарыі, Нямеччыне, Англіі і ў мінулым годзе ў Польшчы і ў краю. Толькі за два з папавінаю гады перад рымскім мікрафонам даў 54 канцэрты, а ў Мілане, Нэаполю і іншых местах Італіі — 34 канцэрты. Усюды цешыцца прызнаньнем і добрымі ацэнамі. Цяпер перад выездам заграніцу канцэртуе ў краю. Дня 4-га красавіка выступаў у Вільні. Незадоўга выяжджае ў Парыж а адтуль на некалькі год у Рым. Артыст запэўнівае, што канцэртуючы будзе даваць і рэпэртуар беларускі. Незадоўга — кажа—пачуеце з рымскага мікрафону нашыя родныя беларускія песьні. Аб часе сваіх выступленьняў будзе паведамляць Беларусаў у краю.

Будучы ў Вільні, гр. Пракапеня знаёміўся з беларускім жыцьцём. Адведаў рэдакцыю „Калосься" і іншыя беларускія часапісы, а так-жа установы і арганізацыі, што месьцяцца пры Завальнай № 1, адведаў і Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча на Вострабрамскай 9, гдзе ў кнізе адведывальнікаў запісаў сваё ўражаньні з Музэю і выразіў радасьць з награмаджаных у ім памяткаў і з развою беларускай культуры.

*Я. Ш.*

# Сьв. п. Зыгмунт Нагродзкі

*(Замест нэкролёгу).*

У дзень беларускага нацыянальнага сьвята — 25 сакавіка сёлета — памёр у Вільні шырака ведамы і добра заслужаны краёвы дзеяч на грамадзкай і культурна-прасьветнай ніве сьв. п. Зыгмунт Нагродзкі. Хаця праца яго вялася на польскім грунце, але памёршы дзеяч гэтак крэпка быў зьвязаны з нашым краем, гэтак горача любіў нашу старонку, сынам якое сябе пачуваў, што заслужыў на ўвагу і з боку беларускага грамадзянства, з якім здаўна блізка жыў.

Нагродзкі жыў і працаваў на грамадзкай ніве ў тыя часы, калі колішні польскі паўстанцкі лёзунг „за вашу і нашу волю“ меў яшчэ істотнае значэньне. Пакаленьне, да якога належаў Нагродзкі, ішло запраўды рука ў руку з беларусамі ў барацьбе з варожай да абодвух народаў царскай Расеяй. Але і паміма ўплыву панаваўшае тады ў грамадзянстве атмасфэры памёршы дзеяч меў глыбокі сэнтымэнт да беларусаў, да іх працы над нацыянальным адраджэньнем. Справа ў тым, што бацька Зыгмунта Нагродзкага быў пахтарам у двары Пілсудзкіх Зулаве, і сын ад дзіцячых гадоў быў зьвязаны і з дваром, і з беларускай вёскай, дзе слухаў беларускія народныя песьні, казкі, легенды, прыглядаўся да народных звычаяў і забаваў, гутарыў з вясковымі дзяцьмі па-беларуску. Але ідэолёгічны ўплыў сям'і Пілсудзкіх, у якой заўсёды панаваў незалежніцкі польскі дух, пераважыў, і Нагродзкі ўзыйшоў на польскі шлях.

Нагродзкі вельмі цікавіўся ня толькі беларускай народнай паэзіяй, але і паказаўшыміся ў тыя часы ўсё новымі і новымі вершыкамі беларускімі, ці то друкаванымі (творы Дунін-Марцінкевіча), ці пераказванымі вусна. Калі выйшла заграніцай „Дудка Беларуская“ Багушэвіча, дык яна хутка папала і ў Вільню — кантрабандным спосабам. Дайшла яна і да Нагродзкага, які тады ўжо жыў у Вільні і вельмі быў захоплены Багушэвічавымі вершамі, шчыры дэмакратызм каторых цалком адпавядаў ідэолёгіі Нагродзкага. Нагродзкі вельмі хацеў пазнаёміцца з нашым паэтам, і гэта яму ўдалося. Дый яны гэтак здружыліся, што вельмі часта адведывалі адзін аднаго, гутарылі аб цікавіўшых абодвух справах, і паэт чытаў Нагродзкаму свае новыя творы. Нагродзкі працаваў тады ў каапэратыве, якая існавала пры Татарскай вуліцы. Туды прыяжджала шмат сялян па тавары, і Нагродзкі надзяляў іх творамі Багушэвіча, ня гледзячы на суровыя кары, якія пагражалі яму з боку ўлады за пашырэньне „нелегальшчыны“. Калі-ж усё першае выданьне разыйшлося, Нагродзкі за свае ўласныя грошы перавыдаў „Дудку“ ў Кракаве.

У Вільні грамадзкая праца Нагродзкага вялася пераважна сярод рамесьнікаў, бо Нагродзкі хацеў падняць культурны ровень гэтае сфэры працаўнікоў і сарганізаваць яе. Вось-жа на ладжаных для рамесьнікаў вечарынках Нагродзкі часта дэкламаваў беларускія вершы — перадусім Багушэвічавы, апранаючыся ў вопратку беларускага селяніна. Дый сам пробаваў пісаць вершы ў беларускай мове. У архіве Беларускага Музэю ёсьць арыгіналы двух беларускіх вершаў Нагродзкага, дадзеных аўтарам. Першы вершык быў напісаны Нагродзкім у 1901 годзе — у пецярбурскім вастрозе, куды ён папаў за сваю грамадзкую працу. Верш гэты аўтар пасьвяціў сваей жонцы, пацяшаючы яе і абяцаючы хутка вярнуцца, каб разам абдумаць „заплату“ тым, хто мучыць яе „мужыка“. Другі верш у беларускай мове быў пасьвячаны памяці Сыракомлі. Гэты верш Нагродзкі прадэклямаваў на адкрыцьці памятніка Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне. Нагродзкі і тут апрануўся ў беларускую сьвітку і выступіў ад імя беларускага сялянства.

Калі ў 1906 годзе ў Вільні пачала выходзіць „Наша Доля“ і наступніца яе „Наша Ніва“, Нагродзкі быў у блізкіх зносінах з сябрамі рэдакцыі, даваў у газэту добра платныя абвесткі аб сваім складзе сельска-гаспадарскіх машын, друкаваў і рассылаў пры газэце свае каталёгі ў беларускай мове і ў патрэбе заўсёды гатоў быў дапамагчы выдавецтву пазыкай усьцяж нехапаўшых грошай.

У тым-жа 1906 годзе ў Пецярбурзе заснавалася беларуская выдавецкая супалка „Загляне сонца і ў нашае ваконца“, якая пастанавіла выдаць усе творы Багушэвіча. Дзеля таго, што Багушэвіч ужо ня жыў, а ягоная сям'я варожа адносілася да беларускае працы яго, дык і ня лёгка было дабіцца дазволу сям'і да права выданьня. Удалося гэтае права купіць у сям'і толькі дзякуючы дапамозе Нагродзкага.

Калі ў выніку сусьветнай вайны адбудавалася Польшча, Нагродзкі цьвёрда стаяў на сваім старым становішчы. Цікавіцца беларускім жыцьцём ніколі не перастаў. Бываў на беларускіх нацыянальных урачыстасьцях, на сьвяткаваньні ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Ахвотна дзяліўся з беларускімі дасьледчыкамі сваімі ўспамінамі і матарыяламі аб мінулых часох. І толькі дзякуючы яму ўдалося захаваць ад загубы некалькі ненадрукаваных яшчэ вершаў Багушэвіча, фатаграфіі, а так-жа выясьніць некаторыя няведамыя мамэнты з жыцьця нашага паэта.

Да характарыстыкі ідэолёгіі нябожчыка сказаць трэба, што быў ён усё жыцьцё сваё сябрам тэй перадваеннай духовае эліты, каторая ў аснову сваей ідэолёгіі паклала пашану да Чалавека, шчыра імкнулася да зьдзейсьненьня высокіх ідэалаў Вялікае Францускае Рэвалюцыі і за сваё найсьвяцейшае заданьне лічыла працу над памнажаньнем і пашыраньнем у народных масах скарбаў культуры.

---

## КНІГАПІС

*В. Власовъ ф. Вальденбергъ* — **Исторія Россіи** (862 — 1920). Изд. „Католическаго Вѣстника“. Харбинъ, 1936 г. бач, V+938, 23+17.

Вялізарная разьмерам гэта кніга прывандравала з далёкага Харбіну ў Вільню ад аўтара яе да яго знаёмага беларускага паэта В. Адважнага. Ад яго мы яе дасталі для рэцэнзіі ў „Калосьсю“. Вычэрпываючай аднак рэцэнзіі рабіць не зьбіраемся, бо на гэта нам не хваціла-б ані часу, ані месца. Агранічваемся толькі гэтай дужа агульнай зацемкай, зазначаючы толькі тое, што ў гэтай кнізе найбольш цікавае і характэрнае.

Вось-жа „Исторія Россіи“ Вальденберга — гэта ня ёсьць самастойная праца, апёртая на крытычнай апрацоўцы гістарычных крыніц; гэта ёсьць компіляцыя, апёртая на гістарычнай рапрацоўцы розных ведамых аўтараў, пісаўшых або цэлую гісторыю быўшай Расеі, або гістарычныя расейскія монографіі. Чытаючы „Историю Россіи“, робіцца ўражаньне, што быццам об'ектыўнай расейскай гісторыі, апрача гісторыі казённай, і сусім ня было. Так дзіўна мала аўтар углыбіўся ў расейскую гісторыю і дзіўна аказаўся залежным ад высnаваў афіцыяльных расейскіх гісторыкаў з яўнай крыўдай для безстароннай гістарычнай навукі.

Усю гісторыю Расеі, мінуўшую й будучую, рысуе Вальденбергъ у аспэкце расейскага вялікадзяржаўніцтва і імпэрыялізму. Ніякіх іншых народаў і іх нацыянальна-палітычных і грамадзкакультурных імкненьняў, апрача „единага русскага народа“, аўтар „Исторіи Россіи“ зусім ня бача. Вось-жа нічога дзіўнага, што Беларускага Народу, а так-жа й цэлага раду іншых, Вальденбергъ сусім не „заўважыў“.

Словам, Вальденбергъ піша на матыў даўно мінулай, імпэрыялістычнай расейскай песьні. А мо' й будучай? Магчыма, але ў будучыне нота гэтай песьні будзе ўсё-ж на новы лад. Народы, суседзі народу расейскага, што сяньня бор аюцца за сваю культурную й палітычную самастойнасьць, на залежнасьць ужо ня згодзяцца. „Як роўныя з роўнымі і вольныя з вольнымі“ — вось агульны прынцып сужыцьця народаў і разьвязкі іх нацыянальнай праблемы.

Трэба аднак аддаць аўтару справядлівасьць, што апрацоўка яго „Исторіи“ пасвоему сумленная й даволі вычэрпываючая. Апрача гісторыі палітычнай спатыкаем у ёй шмат так-жа матарыялу з гісторыі культуры агулам і з гісторыі грамадзкай думкі. „Исторія Россіи“ — гэта свайго роду энцыклёпэдыя расейскай гісторыі старога тыпу.

Нязвычайнай у „Исторіі Россіи“ асаблівасьцяй ёсьць тое, што яна напісана ў каталіцкім духу. Вальденбергъ — гэта расеец



і ідэовы каталік. Гэта пасьлядоўнік даўнейшых расейскіх заходнікаў, з тэй толькі розьніцай, што тыя гістарычныя шляхі для Расеі бачылі, праўда, у заходне-эўропэйскай культуры, аднак да каталіцтва агулам былі неахвотныя, а Вальденбергъ сьветлую будучыню Расеі бача ў заходне-эўропэйскай культуры іменна каталіцкай.

Урэшце трэба адцеміць, што Вялікай Расейскай Рэвалюцыі аўтор „Исторіи Россіи“, здаецца, і дагэтуль не разумее і не ўяўляе яе сапраўдных — палітычных і соцыяльных — прычын.

*Ад. Станкевіч*

---

## ХРОНІКА

═ Вечар беларускай літаратуры ў Палякоў. У нядзелю 18-га красавіка ў прыватным памешканьні адваката Крыжаноўскага адбыўся вечар беларускай паэзіі, прысьвечаны абазнаямленьню з творствам Максіма Танка і іншых паэтаў з віленскага асяродзьдзя. На вечары былі прысутныя Палякі із адвакацкіх, судовых, навуковых, літаратурных і палітычных сфэраў. Былі так-жа і Беларусы. Пасьля кароткіх інфармацыяў аб беларускім літаратурным жыцьці ў Вільні ў апошнія гады, Максім Танк напачатку прачытаў некалькі характэрных твораў Міхася Машары, М. Васілька, Н. Арсеньневай, Н. Тарасішкі і Хв. Ільляшэвіча, а потым прачытаў фрагмэнты з сваей паэмы „Нарач,“ „Песьню кулікоў“ і некалькі дробных лірычных вершаў. Высокамастацкія творы, хораша прачытаныя нашым песьняром, прыкоўвалі ўвагу і захоплівалі сваім хараством прысутных. Пазьней адбылася дыскусія, у якой адзначаны развой беларускай мастацкай літаратуры. У дыскусіі браў удзел і прысутны генэрал Л. Жэлігоўскі. Арганізатар вечару мэцэнас Крыжаноўскі на заканчэньне горача падзякаваў ад імя прысутных Максіму Танку за ягоны выступ.

═ Новыя гарманізацыі беларускіх народных песень. Малады беларускі кампазытар Аўгень Евец, абсольвэнт пэдагогічных клясаў варшаўскай кансэрваторыі, згарманізаваў на мяшаны хор дзьве беларускія народныя песьні: „Ой я п'яна, п'яненька“ і „Там на ролі, на ральлі, там хадзілі жураўлі.“ Гарманізацыі адзначаюцца значнымі мастацкімі вартасьцямі.

═ У Беластоку мясцовыя Беларусы зарганізавалі нядаўна Коопэратыўнае Т-ва Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя.“ Абшар дзейнасьці т-ва — тэрыторыя ўсяе Польшчы. Таварыства мае на мэце пашырэньне тэатральнае культуры сярод Беларусаў і фаховае асьветы ў сваіх сяброў, вядзеньне ўсялякіх тэатральных прадпрыемстваў, вядзеньне коопэратыўна-ўзгадаваўчай дзейнасьці і прапаганда сцэнічнага мастацтва і інш. Таварыства пачало ўжо працу дзеля зарганізаваньня струннага аркестру, хору і драматычнае трупы. Акружны суд у Беластоку дн. 5-га лютага зарэгістраваў гэтую беларускую коопэратыўную пляцоўку.

Беластоцкі Гарадзкі Стараста пакараў старшыню таварыства гр-ку Ганну Абуковіч штрафам 200 зл., паводле беластоцкай прэсы, за тое, што арганізацыя таварыства адбылася без адпаведнага паведамлень-

ня адміністрацыйнай улады. Гэтыя самы стараста ня даў таварыству дазволу зарганізаваць канцэрт у дзень 4-га траўня.

═ 4-га красавіка адбылося чарговае паседжаньне Літаратурна-Мастацкае Сэкцыі Беларускага Навуковага Т-ва, на якім гр. Луцкевіч прачытаў даклад, пасьвячаны памяці нядаўна памёршага віленскага дзеяча Зыгмунта Нагродзкага, а так-жа паінфармаваў Сэкцыю аб некаторых недаканчаных паэтыцкіх творах Янкі Купалы, рукапісы якіх перахоўваюцца ў архіве Беларускага Музэю. Пасьля гр. Максім Танк пазнаёміў прысутных з першай часткай сваей новай, яшчэ не закончанай, паэмы. Апошняя выклікала жывы абмен думак.

═ У Беларускім музэі ім. Ів. Луцкевіча у Вільні. — Ад гр. М. Караленкі Беларускі Музэй атрымаў цэнны дар:калекцыю гліняных вырабаў ганчара ў м. Ракаве А. Касьпяровіча. Калекцыя складаецца з 36 штук судзьдзя рознае формы.

Атрыманы так-жз рад іншых ахвяр ад розных асобаў. Прыемны і цэнны дар атрымаў Беларускі Музэй ад сялянак Ізабэлінскай воласьці, Ваўкавыскага пав., якія сабралі 47 кускоў — узораў тканін свайго вырабу. Кускі невялікія — 20—25 см. шырыні, але даюць поўны ўзор тканіны і зусім замяняюць цэлыя вялікія палотнішчы і гунькі. Гэтая калекцыя тканін з Ізабэлінскае воласьці будзе выстаўлена ў Музэі. Няхай-бы гаспадыні і ў іншых валасьцях зрабілі тое самае!

Бібліатэка пры Музэі набыла некалькі цэнных выданьняў у беларускай мове („Сялянка“ Дунін-Марцінкевіча і інш.) і ў другіх мовах, у тым ліку вельмі рэдкае выданьне Аляксандра Ельскага п. з. „Zarys obyczajów szlachty w zestawieniu z ekonomiką i dolą ludu“ (Кракаў, 1897) у двух томах.

— Адведываньне Беларускага Музэю. За першыя тры месяцы гэтага году Музэй адведала 777 асоб, што складае больш за палавіну лічбы адведальнікаў у працягу ўсяго 1936 году. У Музэі працавала некалькі маладых навукоўцаў, у тым ліку — прыезныя з Варшавы.

У сувязі з ладжаным у Вільні „Тыднем прапаганды музэяў“, які трываў ад 18-га да 25 красавіка, за гэты час адведалі Беларускі Музэй 1816 асобаў, у тым ліку 33 экскурсіі. Цікаўна, што Таварыства Прапаганды Турыстыкі, якое зарганізавала „Тыдзень,“ у сваіх плякатах падало сфальшаваны назоў Беларускага Музэю, папросту выкінуўшы нялюбае гэнаму Т-ву слова „Беларускі...“ Дырэкцыя Беларускага Музэю паслала Т-ву свой рашучы пратэст проці гэтага фальшу.

═ Памятнікі беларускім пісьменьнікам. Рэдакцыя „Шляху Моладзі“ запачаткавала акцыю зьбіраньня ахвяраў на памятнік беларускаму пісьменьніку Ядвігіну Ш. (Антону Лявіцкаму). Ахвяры прысылаць на адрас рэдакцыі „Шляху Мол.“ — Вільня, Завальная 1—2.

Памятнік беларускай паэтцы і пісьменьніцы Цётцы (з Пашкевічаў Алёізы Кейрыс) ужо гатовы і будзе пастаўлены і пасьвячаны ў ліпні месяцы, у Лідчыне, гдзе пясьнярка пахавана.

═ „Вечар песьні і паэзіі рэгіональнай літоўскай і беларускай,“ арганізаваны Т-вам Прыяцеляў Бібліятэкі ім. Врублеўскіх у Вільні ў дзень 6-га траўня, не адбыўся з прычыны забароны адміністрацыйнай улады. На вечары меўся выступіць ведамы Беларускі Хор гр. Р. Шырмы.

---

═ Камісарыят Ураду ў Варшаве не зарэгістраваў статуту „Беларускага культурнага Таварыства.“ Зложаны рэкурс у міністэрства.

---

═ Беларускі спэктакль у Рызе. Дня 17-га красавіка Беларускі Вучыцельскі Хаўрус саматужніцкім спосабам зарганізаваў у Рызе спэктакль. Была пастаўлена „Паўлінка“ Купалы. Дапоўнілі праграму латвійскія і беларускія песьні, пяяныя салістамі. Спэктакль прайшоў удачна. Асабліва падабаліся публіцы песьні з п'есы: „А у садзе рэчанька,“ „Ці сьвет ці сьвітае“ і „Кума мая, кумачка,“ выкананыя артыстамі пад кіраўніцтвам гр. Янкі Кудраўцава. Адказным кіраўніком вечару быў старшыня Вуч. Хаўрусу гр. П. Міравовіч, які шмат папрацаваў дзеля пастаноўкі вечару.

---

═ Беларуская Дзяржаўная Фільгармонія. У Менску арганізаваны новы музычны цэнтр — беларуская дзяржаўная фільгармонія. Гэта падзея бязспрэчна вялікай важнасьці. Склад фільгармоніі яшчэ поўнасьцю не ўкамплектаваны. Фільгармонія цяпер складаецца з сымфанічнага аркестру (60 чалавек), хору (50 ч.), ансамблю беларускай народнай песьні і танца (35 чал.), аркестру народных інструмэнтаў (28 чал.), смычковага і вакальнага квартэту. Паводле інфармацыяў сав. прэсы — сымфанічны аркестр зьяўляецца ў фільгармоніі наймагутнейшай адзінкай, мае ўсе дадзеныя для паважнай работы пад варункам пашырэньня і якаснага паляпшэньня складу. Сталым кіраўніком аркестру — праф. Л. Гінзбург. Дзяржаўны хор складаецца з 50 чалавек (а дакамплетаваны будзе налічаць 60 ч.). Галасавыя даныя хору вельмі невялікія. Малая харавая і недастатковая музычная культура, а такжа адсутнасьць ярка галасавых даных у большасьці выканаўцаў. Ансамбль народных інструмэнтаў створаны з рознастайных народных інструмэнтаў (у ім групы баянаў, лір, балалаек, домр, цымбалаў, жалеяк). Фільгармонія ня мае сваіх кадраў салістаў-вакалістаў і інструмэнталістаў. Дырэктарам фільгармоніі — Г. Прагін, мастацкім кіраўніком — прафэсар Маскоўскай кансэрваторыі Лео Гінзбург (ён-жа кіраўнік сымфанічнага аркестру), кіраўніком хору — абсольвэнт Маскоўскай кансэрваторыі І. Бары.

Фільгармонія мае вялікія матарыяльныя клопаты, ня мае нават свайго памешканьня.

Дня 25-га красавіка адбылося ўрачыстае адчыненьне фільгармоніі. Менская прэса надрукавала чарод прысьвечаных фільгармоніі артыкулаў. Вельмі цікавым і прыемным артыкул праф. Гінзбурга на тэму заданьняў фільгармоніі. Вось што між іншым піша праф. Гінзбург:—

— „Беларусь — краіна багатай народнай песьні, самабытных танцаў, з насельніцтвам ад прыроды глыбока музычным — ня мела, не знаходзіла да гэтага часу форм, праз якія гэтая музычная неабходнасьць знаходзіла сваё выражэньне. Вяршыні музычнай культуры, сусьветная музычная літаратура ў Беларусі пакуль зразумелы толькі вельмі вузкаму колу музыкантаў-спэцыялістаў.

У Беларускай ССР наглядаецца вялікі разрыў паміж ростам агульнай культуры, навукі і тэхнікі з аднаго боку, і музыкі з другога. Арганізацыяй, якая-б запоўніла гэты прабел і якая паставіла-б сваей мэтай дапоўніць посьпехі ў многіх галінах культуры дасягненьнямі ў галіне аднаго з вышэйшых праяўленьняў культуры — музыкі — і павінна стаць фільгармонія...

— Фільгармоніі астаецца... павесьці масы да вяршынь музыкальнай культуры, да асваеньня найвялікшых помнікаў музыкальнай спадчыны мінулага і да стварэньня савецкай беларускай музыкальнай культуры...

— У Менску да гэтага часу не праводзілася ніякай сыстэматычнай канцэртнай работы. І таму важна адразу выбраць напрамак. Работа фільгармоніі павінна будзе пайсьці па двух асноўных руслох: арганізацыя масава-выхаваўчых канцэртаў, знаходжаньне правільных форм, якія вызначаць посьпех або няпосьпех арганізацыі і правядзеньне паказальных канцэртаў сіламі сваіх паказальных калектываў — сымфанічнага аркестру, хору, і т. д. Гэтыя паказальныя канцэрты павінны дапамагчы ўзьняцьцю кваліфікацыі менскіх калектываў і многіх выканаўцаў. Адсутнасьць рэгулярных канцэртаў у Беларусі прымусіла ў свой час выехаць адсюль вялікую колькасьць даравітых выканаўцаў. Зьвярнуць іх у Беларусь і стварыць ім і астаўшымся ў Беларусі кадрам музыкантаў максымальна добрыя творчыя ўмовы, а таксама прыцягнуць сюды лепшых савецкіх майстроў — адна з важнейшых задач Беларускай фільгармоніі.“ (Звязда“ з дн. 24.IV.47).

Праца фільгармоніі ўжо запачаткавана. 25-га красавіка наладжаны канцэрт з удзелам сымфанічнага аркестру пад кіраўніцтвам праф. Гінзбурга, хору, смычковага квартэту і салісткі Л. Александроўскай. У рэпэртуары канцэрту — былі выкананы творы Чайкоўскага, Вагнэра і іншых клясыкаў музыкі, чарод твораў беларускіх савецкіх кампазытараў—„Фінал сымфанэты“ (на беларускія народныя тэмы) Чуркіна, „Лявоніха“ Залатарова, „Лянок“ у апрацоўцы Туранкова, „Позна сонца“ у апр. Палонскага і інш. Бел. народн. песьні выканала артыстка Александроўская.

═ „Чыстка“ ў беларускіх савецкіх пісьменьнікаў. Менская камуністычная газэта „Зьвязда“ (№ 69 і 70) у канцы сакавіка надрукавала артыкулы паэта Александровіча і Алеся Кучара аб выкрыцьці „ворагаў“ народу—„трацкістаў, правых, нацыяналістаў.“ Да гэткіх залічаюцца: Цішка Гартны (З. Жылуновіч), паэт і пісьменьнік, ведамы яшчэ перад кастрычніцкай рэвалюцыяй, як тварэц беларускай пралетарскай літаратуры (нарадзіўся ў 1887 г., браў учасьце у рэвалюцыйным руху ад 1904 г., ад 1918 г. сябра камуністычнае партыі Беларусі, у 1919 г. — першы старшыня рэвалюцыйнага ураду БССР, у 1929 г. выкінуты з компартыі за „нацдэмаўшчыну“), маладзейшы беларускі пралетарскі паэт і пісьменьнік Міхась Чарот (псэўдонім Міхася Кудзелькі, нарадзіўся ў 1896 г. камуніст, увайшоў у беларускую літаратуру ў 1922 г.), пісьменьнік Міхась Зарэцкі (псэўдонім Міхася Косянкова, нарадз. ў 1901 г., сябра КП(б)Б, учасьнік грамадзянскай вайны), ведамыя бэлетрысты і пісьменьнікі Сымон Баранавых, Міхась Лынькоў, паэты Алесь Дудар, Кляшторны, Хадыка, Скрыган, Звонак, драматургі Вольны, Сташэўскі і інш. Усім ім ставіцца закіды, быццам яны імкнуліся „адарваць квітнеючую Савецкую Беларусь ад вялікага і магутнага савецкага саюзу, прадаць свабоду і шчасьце беларускага народу разьюшанаму фашызму,“ — „адарваць, адваяваць ад партыі і народу яго паэтаў і пісьменьнікаў,“ „адарваць ад брацкага і магутнага рускага народу і яго слаўнай перадавой культуры.“

На нашу думку ўся справа ня ў гэтых закідах, але сусім у чым іншым і роля тут Александровіча і Кучара няцікавая. Мы пракананы, што выступленьні іх процІў беларускіх пісьменьнікаў разьбіваюць і аслабляюць беларускія культурныя сілы і прыносяць беларускаму працоўнаму народу і яго народнай культуры вялікую шкоду.

═ Аб'еднаньне мастакоў „Белмастак“ працуе над стварэньнем чатырох вялікіх скульптурных груп для беларускага павіліёну Усесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўкі ў Маскве. Скульптуры між іншым будуць уяўляць некаторыя варыянты з беларускага народнага танцу „Лявоніха“.

═ 24—29 сакавіка адбыўся ў Менску сход беларускіх савецкіх пісьменьнікаў. Сход выслухаў справаздачу ўраду саюзу пісьменьнікаў і прызнаў яе нездавальняючай. Выступалі з крытычнымі і самакрытычнымі прамовамі многія пісьменьнікі. Якуб Колас у сваей прамове падчыркнуў значны адрыў пісьменьнікаў ад савецкай сапраўднасьці. Паводле думкі Коласа гэтая зьвява не дае пісьменьнікам магчымасьці пісаць творы яркія і тэматычна сьвежыя.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Рэдактар-выдавец: Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Ad. Stankiewič,** Mahnušeŭski, Paŭluk Bachrym, Babroŭski. Bač. 48. Wyd. „Biełpres“. Wilnia 1937.

**Міхась Васілёк,** З сялянскій ніў. Бач. 32. Выд. Р. Шырмы. Вільня 1937.

**S. Paŭłowič,** Zasieŭki, Biełaruski lemantar dla chatniaha nawučańnia. Bač. 88. Wyd. „Biełpres“. Вільня 1937.

**Беларускі Летапіс,** № 1 - 5. Вільня, 1937.

**Lietuviu Tauta,** Lietuviu Mokslo Draugijos raštai, V knyga. Вільня 1936.

**Jaunuju Velykos,** Vienkartinis Jaunuju kurybos Leidinys. Вільня 1937.

**Varguoliu Dainos.** Вільня 1936.

**Varsnos.** Вільня 1937. Meta 1.

**Рідна Мова,** ч. 3, 4, 5. Варшава 1937.

**Богословія,** кн. 1. Львоў 1937.

**Вістнік,** ч. 4, 5. Львоў 1937.

**Назустріч,** ч. 7, 8, 9, 10, 11. Львоў 1937.

**Katolik,** Č. 1—9. Прага 1937.

**Der christliche orient,** кн. 1, 2. Мюнхен 1937.

**Pax,** № 1—8. Вільня 1937.

**Sprawy Narodowościowe, № 4—5, 6.** Варшава 1936.

## Ад Рэдакцыі:

Рэдакцыя ня мае ў сябе кніжкі першай „Калосься“ з 1936 г. (усе экзэмпляры разыйшліся), дзеля чаго ня можа яе выслаць патрабуючым. Зварачваемся да В. П. Чытачоў з просьбай: калі хто можа, хай прышле нам першую кніжку „Калосься“ з 1936 г. Узамен атрымае адзін экзэмпляр або два (калі захоча) іншай кніжкі — з тых, што выйшлі з друку, ці з тых, што выйдуць.

# КАЛОСЬСЕ

**Літаратурна-навуковы часапіс**

*КНІЖКА 3 (12)*



**ВІЛЬНЯ 1937 ГОД**

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2**

Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.

**Часапіс выходзіць раз у тры месяцы**

## Зьмест кніжкі 3 (12) „Калосься“



Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

**Кніжка 3 (12)** **1937 г.** **Год III**

## Ня схіляць галавы!

Сонца кранула пальцамі струны шаўковыя раніцы.
Сярэбраным сьмехам у багне, у верасох зацьвіло.
І па сівых калосьсях пабрыў вецер згорбленым п'яніцай, —
рагаталі, у сьлед валацузе, пастушкі за сялом.

І глядзіш, і пытаеш вачыма вакол — і ня верыцца,
што у гэтым паветры—сінее маўклівае гора.—
Яшчэ раз, браты, клічу гартам грудзей з ім памерыцца —
ня схіляць галавы, ня схіляць у маўклівай пакоры!..

Прыйшлі з песьняй у сьвет мы, і гора пазналі з калыскай,
нам пяялі аб ім можа першыя матчыны словы,
з непагодай жыцьця парадніліся змалку так бліска, —
дык ці-ж нам апускаць прад шалеючай бурай галовы!

Болей гарту, далей каб ісьці па дарозе пачэснай!
Азірніся назад, — на шляхі барацьбы, на гады!
З нашых зёран, з бунтарна хвалюючай сьмелаю песьняй,
заквітнеў маладняк, ідзе зьмена байцоў маладых!

Сонца кранула пальцамі струны агністыя раніцы,
зазьвінелі яны, гімнам вузенькіх межаў палос,
толькі гартам стальным перамогі зьвяно з зьвяном вяжыцца
толькі сілай мазольнай рукі — лепшы выкуем лёс!

*МІХАСЬ ВАСІЛЁК*

Бабpоўня — май 1937.

# Нарач
**(Частка сёмая)**

1

Я пайду, і мо' па росах,
ды па сьцежках адгалосаў,
эх, далонямі зьбяру
залацістую зару!

Пералескі, нівы, пейце!
Дзень іграе на жалейцы
і на сінім трысьніку,
і на залатым ражку.

Зрэбны пояс туга, туга,
бяры ў рукі пугу, пугу!
Нарачанскі сіні край,
гэй, на пасту выганяй!

Доўга пастыр на трубе
пералівае зару.
Скрыпам гамоняць вароты, асьверы.
Стада ляніва ідзе тошчых кароў пад гару
выганам стоптаным, шэрым.
Туліцца каля платоў жменя худых цялят,
сонна рыкаючы цягнуцца з заду;
гурбай авечкі плывуць, —
шэры узгорку пакат —
выган запрудзіла стада.
Толькі ўсё дрэмяць яшчэ лісьцем бярозы густым.
Неба,—як краскі на самазялёнцы.
Цягнецца з прасьніцаў—з хат столкамі пачасься дым
высака,
ціха, да сонца.

Сіньню вочы напіліся.
Хай наш хлеб гаркі ад гірсы,—
жыцьцё будзіцца між хваль,—
хтось пяе:Трансваль, Трансваль...

Абняло быльлё акопы,
толькі песьні не ахопіць —
нат' і сяньня боль глухі
разьліваюць пастухі.



Гора торбай з плеч зьвісае,
гора ў лапці абувае,
пяе песьні аб вясьне,
аб далёкай старане.

Эх, праз поле, поле, гоні
часам рэха толькі звоніць,
коціць ветрык галасы —
жытам — пацеркі расы...

Пуста на выгане зноў.
Змоўкла труба, ня гучыць.
Сьпяць яшчэ цені кудлатыя сонаў.
Голас чуваць маладзіц: гутараць мо' ідучы
вечна аб солі, аб кроснах.
Дзятламі ў косы дзяўбуць на перабой малаткі,
недзе, між стрэх саламяных, іржавых.
А на зялёных лугох звонка сьцябачкі, брускі
загаманілі у травах.
Вымыўся дзень у расе,
выцер яго ручніком
вецер пахучы ад сена і сьвежы.
Толькі вузкія шнуры,—не размахнуцца плячом.
Межы,
праклятыя
межы!

Поле — даль за чыстым полем,
край — над краем хмараў болей,
бор — ў бары сасоначкі,
даль — ў далі дарожанькі.

Гэй, з бяды ня гніся, браце!
Лепш за грудзі з доляй ўзяцца,
дзьмухнуць сьмела раз ці два...
. . . . . . . . . . .

Можа мала гнуўся горбам,
можа шкода табе торбы,
лапці вечныя зьмяняць
на жалезнага каня?

На дыван палёў шырэйшы,
на пшанічны сноп цяжэйшы,
плач — на песьні і на сьмех,
і на сонца новых стрэх?!...

. . . . . . . . . . . . . . .

Вецер калыша травой...
Мокры, мяккі мурог:
польны званочнік, ваўчыца, як воўна,
дзяцельнік белы, як сьнег, мята і чортапалох
сьцеліцца косамі роўна.
— Гэй, гэй! на бера-аг, сюды! —
з прыстані хтось крычыць,
быццам заспаўшае возера будзіць.
Коціцца травамі шум...
—Трэба мо там памагчы?..—
З вёскі... зьлятаюцца людзі.
Змоўкла на міг сенажаць...
Пырснула сонцам сталь
косаў на плечах спрацаваных, шэрых.
Беглі, ішлі на цянькі.
Збуджаным шопатам хваль
клікала Нарач:
На бера-з-аг!...

2

Г р ы ш к а

Зноў я на старых сьлядох!..
Запела раніца асьверамі, варотамі.
Хіба міну цікаючыся лог,
ярыной перапаўзу і агародамі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пусьцеюць хаты.
Вёска дзесь на сенажаці
зьбірае золата зялёнае кароў.
Мо' і стары паплёўся на пакосы,
ці майструе каля невадоў...

А р х і п

Грышка! А ты, браток, адкуль?

Г р ы ш к а

Скажы, каб хто прыйшоў пад вечар.
Я пачакаю у Сымонавым таку...
Ды глядзі... Не гавары на вецер!...

А р х і п

На беразе, ты чуеш?... нейкі гоман...



Г р ы ш к а

Даведайся!..
Я сяньня з Гатавіч прыпоўз.
Там начаваў я у кладні саломы.
Але усюды шмат вартаўнікоў...
Учора, высланыя лодкі за Прахорам,
ўсю ноч шукалі і толькі раніцай імглістай,
з другога берагу, ад бору,
з пустымі вёсламі вярнуліся у прыстань...
Ты што на гэта скажыш, а?...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За саламянымі плячыма вёскі
на сонцы даль вазёраў расьцьвіла
ў зялёных, сініх і срабрыстых ўсплёсках.

— — — — —

Ўжо няраз і мяне адрывалі
ад сасонак і ціхіх бяроз,
ад вазёрных успененых хваляў,
ад сялянскіх дарог і палос.

Каласы мае град няраз выбіў
і на помач прыйсьці я ня мог,
але сяньня аб чорныя ськібы
адвастру новых песьняў нарог.

Перакіну праз плечы вясёлку
і вазьму ў рукі сонца—сяўню,
і зарой ураджаяў звонкіх
напаю вочы сінія дню.

Зашумяць пераліўна узгоркі
на іржышчах разьвеіўшы сум;
шчасьце яснае—поўначы зорку
на зажынкі ў руках прынясу.

Вечарамі, пакуль не сьцямнее,
загляджуся ў бязьмежную шыр.
Рэхам песьні адходзячы жнеі
будуць доўга шукаць спарышы...

3

Солтыс

Братцы, разыходзіцца!
Зьбірацца забаронена!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ды цішэй!
Бяз шуму, бяз гоману!
Ну што, ня бачылі? — ўтапіўся чалавек...

Першы рыбак

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Утопленік,глядзі.Рызман—на лаце лата...
Кашуля наша зрэбная ў яго.

Другі рыбак

Гэта ня з летнікаў, а нехта з нашых...

Солтыс

Пагнаў яго тапіцца нейкі чорт
і замяшаць нам вадзяную кашу!

Трэці рыбак

Перавярнеце тварам!

Архіп

Ня можа быць!... Прахор?...

Усе

Прахор...

На шэры брук галоў
лягло цяжкое восень-гора,
лягло на плечы рыбакоў,
на межы
на палосы, на вазёры...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эх, выпляснула Нарач з залатога дна
нямала сьлёз на бераг польны!...



Солтыс

Не, братцы, лепш не чапайце, не закон!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Відаць ранены, ды яшчэ...арыштованы мо ён.
Ты ня бунтуй, Архіп!...
Тфу!... чэрці, а ня людзі!

Асьцярожна палажылі на сярмягу труп.
— Эх, і выбраў час — у самую работу!
— Пэўна яго вынясла рана, пад зару... —
Шэпчаць бабы: удава... сіроты...
Ззаду нехта ўсхліпнуў...
З далі падняў рой каласоў на полі вецер сьвежы.
Памалу рыбака, аратага загонамі нясьлі
праз выплыўшыя ячмяні, праз межы.
Выган. Спаткалі дзеці — пастухі.
—Бацьку твайго нясуць, Дзямітка!...—
Стаіць хлапчук год сем, як пугаў'ё сухі.
Тлум, дарога — дзьве сухія віткі.
Глядзіць...
Далёка на пяшчаным горбе,
над жытам хмары белыя заснулі.
Здаецца хлеб палудзенны у торбе,
ці мо' вузлом абора муліць...
Бацька...
Мо' затрымаць ці крыкнуць...
Таюць тлуму плечы за гарой,
як хмара градавая, скасіўшы сонца, нікнуць...
Стаіць пастух,
а вочы наліваюцца імглой...

4

На верацёнах залатых паркану
зара сінеючым зьвіваецца матком.
У хаце шэра...
Ценямі зьмярка횡ньня
лажыцца ноч пад лавай, за палком.

Грышка

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Цяпер хоць пару дзён каб трохі адпачыць.
Хутчэй пакінуць трэба край азёрны.
Перапаўзём заставы неяк у начы,
пайдзём на Крывічы, ці на Заворнач...

Т а ц я н а

Але ня варта больш рызыкаваць.
Пашто нам без пары галовы класьці?
Цябе і так магло ужо спаткаць
няраз ні два Прахора шчасьце...
Мо' бесьпячней было-б адседзіць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Г р ы ш к а

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ды часу хопе легчы пад парканам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што-ж, Кагарка, маўчыш? Скажы!

Т а ц я н а

Не! не! Мяне не зразумеў ты,
зусім на іншае ты поле перабег.
Я гавару пра восень, ты — пра лета...
Ці-ж я ня цешуся, што ўбачыла цябе?
Але падумай добра, сам падумай!
Магло нат здарыцца яшчэ і горш.
І так ня змые Нарач з вёсак суму,
не закалышаць яго нівы, бор. —

З далі, дзе неба з возерам зьлілося,
прыплыла песьня, і недзе за сялом
ўблытаўшыся у соннае калосьсе
заснула на мяжы сярод палос. —

Цяпер ня пойдзеш, адпачнеш, загоіш
ўсе раны, што не парасталі ныць,
а посьле можаш нашыя загоны
пакінуць нат' — калі і не забыць.

Г р ы ш к а

Ты крокі чуеш нейчыя за хатай?...

Т а ц я н а

Тут ня прыйдуць... І час ўжо не такі...
Гэта ідуць зьмяняць начную варту
на бераг нарачанскі рыбакі.

У ступу хаты ціха, ціха месяц
спусьціў бараньня крывы рог,
з прасеяных на сіце зораў месіц
срабрыстай раніцы пірог....



Вецер з ніваў ацяжэўшых, цёлных,
што пасуцца дзесь пад сасьняком,
у азёр дайніцу з перазвонам
лье і лье
сівое малако.
Зорны шлях даўгою качаргою
на азёр сінеючы абрус
і на трысьцё, што дрэміць над вадою,
выграбае
з попелу зару.

5

Прышлі усе вёскі —
аж хата трашчэла ад плечаў.
Пра хлеб, пра палоў гаварылі баторынскія рыбакі,
ды бабы ў кутках спакойна шапталі аб нечым;
дзеці спрачаліся ціха
на згорбленай печы
дзелючы з раньніх зажынак бяду — куракі.

— Як-жа у вас сенакос?...
— Выгрызла сонцам засуха...
Цяжка пражыць... Шнуры шырынёй з пугаўё...
— Трэба далей Нарач,
Мястра
з Баторыным рухаць...—
Моўкнуць на міг галасы,звоняць дакучліва мухі.
Гутарыць моладзь у сенях пра маладое сваё.

З плечаў старых абразоў
зьвісае над лавай вясёлкай
вышыты, пэўна дзявочымі днямі, ручнік.
Ціха. На лаве у зрэбнай кашулі з іголкі
сьпіць гаспадар на сярэбраных стружачных столках,
нават яго не разбудзіць Нарач,
сьлёзы і крык...

— ...А ў якую-ж ты дарожаньку
адыходзіш ад нас, родненькі?
А куды-ж ты пасьвяточнаму,
сівы голуб, выбіраешся?
Аднэй сьцежкай цябе выправім,—
ды адкуль, скажы, спаткаць цябе?
Ці ад берагу азёрнага?
Можа ў полі з поля чыстага?
Можа летам летнім вечарам,
як зары цьвет асыпаецца?

Мо' вясной, калі зязюленька
закукуе ціхай раніцай?.. —

— Эх, баба! разсеіць здароўе
сьлязамі ды плачам...
—Што гэта паможа? чуваць па кутках галасы.—
Ад гора бароняцца людзі іначай...
Адно толькі долю сваю прагалосіць, праплачыць...
Праз пару гадоў памагаць будзе сын...
— А поп за хаўтуры загнуў.
Бяз грошаў ня хоча маліцца.
Кажа, бунтаўшчыка зусім не хачу і хаваць.
Адкуль яны грошы!..
Як рэшата хата сьвіціцца.
Аднэй крупіны ня вылавіш лыжкаю ў місцы.
І так яшчэ як гаспадарыць будзе ўдава!

—Бяз пацер зямля на вайне прынімала. Дык прыме,
як брата, сяўца, пад сасною свайго.
Памоліцца Нарач дыхнуўшы грудзямі сівымі...
Успомніць калосьсе аратара імя...

Шопат ліецца цяжкой,
валавянай тугой. —

— Што-ж пайшоў ад нас дарогай невядомаю
і пакінуў нас — сіротаў няпрытуленых.
Ў хаце сьлёзаў тоні горкія і цёмныя,
падвалокі як з палову гора поўныя...
Паплывуць чаўны рыбацкія як некалі,
наш—на жвіры сьлёз,
на беразе застанецца,
бы крыло памёршай ў буру белай кагаркі,
што шукала долі ветрам расьцярушанай...
Не пацешаць ўжо ніколі птушкі з выраю,
не пачуем болей слова твайго шчырага,
не пасьвеціць на нас сонейка гарачае,
не павеюць ветры рыбныя, вазёрныя...
Будзем рана мы хадзіць зарой па беразе,
рыбака свайго, аратага шукаючы,
заімгляцца вочы ясныя, як восеньню,
на азёры,
на палосы
пaглядаючы... —

— Хай не бядуе:
блізкія суседзі памогуць...
—Не заракайся вастрогу і торбы жабрацкай насіць...



З палову заўсёды частку Прахораву могуць
узяць удава і Тацяна—для бацькі старога...
Па сьвеце ня пусьцім ласкі панскай прасіць. —

—Ды устань, падыміся, паглядзі, наш родненькі,
колькі людцаў каля цябе пазьбіралася!
Як ня ў беднага, а ў багатага на вясельлейка.
Толькі ўсе маўчаць, ні пяе ніхто і ня цешыцца.
Хату новую, габляваную далі табе,
вокны відныя, страха новая, сасновая,
не закапае
шэрай восеньню, дажджліваю,
не падзьме ў парог вецер белымі завеямі!—

Шэрымі шышкамі зьвісьлі на грудзі галовы.
Шмат хто выйшаў насунуўшы шапку на лоб.
Ў горле зьлівалася камнем кожнае слова,
секла па твары дожджам гарачым, сталёвым.
Гора, здавалася, вочы,
хату
і Нарач перарасло...—

—Ды чаму-ж закрыў бяз часу свае вочы ты?
Хоць яшчэ раз глянь вачыма яснымі.
Хоць адно пакінь сіротам слова цёплае,
ды скажы, як жыць на сьвеце няпрытуленым?
Паглядзі, — прыйшлі блізкія і знаёмыя
нарачанцы, мястраўцы, баторынцы.
Папрасі іх, каб за дзетак заступіліся,
каб глуміцца не далі над імі беднымі.
Папрасі, — каб наша гора палыновае,
нашу крыўду сьлязьмі горкімі абмытую,
восень жоўтымі лістамі не завеіла, —
каб яны яе ніколі не забыліся!.. —

Дрогнула хата плячыма,
як човен удараны крыгай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шмат ў каго вочы імгляцца адлігай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Труна паплыла на плечах праз выган...
Плакалі дзесь над пamежкам
шэры канюх, кулікі...

Курган на кургане
і крушні сівога каменьня,
ды рукі сухія узьняўшы застылі крыжы.
Высяцца гордыя сосны
раськінуўшы струнныя цені—
над тымі, што болей ня ўстануць, ня вернуцца жыць.
Памалу з магільніку
ціха расходзяцца людзі.
Сьлязамі ня збудзіш ні нашых, ні брацкіх магіл!...
А сонца ўсё паліць, часамі жар вецер астудзіць
на ўсходзе ўздымаючы
хмараў чырвоных стагі.

Ды цяжка, бывае, падняцца і выпрастаць плечы,
як з вочаў заціснутых
сыпяцца сьлёзы рабінай...
Дзьме наганяючы ценяў чорныя пер'я вецер,
коціцца сонца у возера,
лістам сарваным з асіны.

Панура шуміць і грыміць над апусьцеўшым гасьцінцам.
Хмары разьвеялі грываў
чорныя столкі,
пугі маланак сьвішчаць агнём навальніцы,
грому шарахаўкі звоняць
дзесь пад дугою вясёлкі.

Гнуцца да самай зямлі
шумна бярозы і сосны.
Раз і яшчэ раз ударыў вецер шалёны, сьляпы,
з сіняй возера міскі
на бераг хвалямі плёснуў,
крыльлямі ўзьняўшы пену сівую і пыл.
Раптам змоўкла. Ціха...
Толькі вячэрнюю ціну
рве Нарач пенай-зубамі цягнучы ў тоні, на дно.
Недзе крычаць пастухі: дамоў... дамоў скаціну!..
Сыпнуў на плечы худыя загонаў
поўнымі жменямі дождж...

— — — — — — — — — — — —

Першы рыбак

Хутка пачнуць на вазёры качкі зьлятацца,
а нашы яшчэ падвалокі ловяць на беразе вецер.
Не зарабіў у рубашцы, дык не заробіш ў сярмяжцы.
Лісьцямі восень напоўніць аруды у клецях.



Архіп

Каркаць ня варта...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Другі рыбак

Цёпла і ціха...
На рыбу—начамі туманы бялеюць.

Грышка

Хацеў-бы я моцна пабыць яшчэ з вамі. —
Грудзьмі, разам з вамі, спаткаць...
і сонца, што ўстане, і дзень над палямі,
што хутка зарой загарыцца.

Архіп

Прымуць, як госьця, вазёры...
Не забывай нас!
А мы будзем сеткі рыбацкія латаць...
Ды мо' і сам, на дарогах разстайных,
спаткаеш няраз нарачанскі наш лапаць.
Што-ж, разьвітаемся...
Сяньня туманам,
як мокрай мілтай, сее месяц з латкі.
Да Мядзела, мо' і далей, хай правядзе Тацяна,
а там бязпечна—на Баклаі, на Кладкі...

Атава маладая заглушае крокі...
Аўсяным сном палосы яравыя дрэмяць.
Ў імгле зблудзіла сіцца адзінока,
ды зораў дзе-нідзе льняное ўсходзіць семя...

Грышка

Тацяна!
Жыцьцё маё ідзе другой дарогай...
Прайдуць даўжэйшыя гады ад успамінаў.
Змые Нарач з пяску берагавога
дні перажытыя прылівам сінім;
трысьцём іх пазаносе вецер сьвежы...
Не, Кагарка, я не магу прасіць, мяне ты
каб над азёрамі чакала з дальніх сьцежак.
Няраз можа засьне снапамі ў гумнах лета. —
Спаткаеш у жыцьці людзей мо' добрых
і пражыла-б цішэй, спакойна...
Яшчэ ў мяне дзён бяспрытульных торба,
і шмат няпройдзеных дарогаў польных....

Таццяна

Вось і Мядзела...
На Кладках будзеш рана...

З садоў, як з чорнай рамы,
над шэрым возерам туману
касьцёл падняўся белымі мурамі,
застыў як хваляй выгнаная крыга.
Сьпіць бераг Мястра выгнуўшыся лукам.
Палой сярмяжнай даль імгла закрыла...
Спаткаліся ў апошнім разьвітаньні рукі,
і вочы — дзьве зары кароткай
летняй ночы.

Грышка

Пайду... Чакаць ты будзеш?
Ўсё будзе добра... Ну, ўсьмяхніся!..

Словы цёплыя рваліся праз грудзі, —
на сум разстаньня сонечна ліліся.

Таццяна

Будзь асьцярожным! .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вярніся, — пад вясну, як прылятае вырай... —

Пайшоў...
Памалу крокі змоўклі, —
засыпаліся мокрым, сінім жвірам.

— Грышка!..

Мо' што забылася сказаць, ці падзяліцца
надзеяй, сумам нахлынуўшым з палосаў?..
Ціха ..
Далёка, за гасьцінцам
засумавалі дзесь начлежнай песьні адгалосы:
...„адна мамка старэнькая успомніла мяне“...—
Чуваць у голасе туга палос, іржышч.
За доляй нехта ў полі затужыў...—
...„а дзе-ж мая гаротніца у чужой старане“...
І голас плыў глыбокі, цёплы пачуцьцём,
і таіў сум,—руччы плылі па межах, тропах.
Здаецца пражытае жыцьцё
хтось пераліць хацеў у ветру шопат.



7

Солтыс

Братцы! Зьбірацца я забараняю.
Сказаў раз і досыць: людзі вы—не сяньнікі!
Разыходзіцца па хатах!
Хай усе паадкладаюць
назад шасты, і пешні і калкі!

Першы рыбак

За сколькі ты узяўся пець нам песьні?.
Чулі не такіх мы салаўёў!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Солтыс

Вось і Іван скажа, і пан стражнік,
што сілай так ня возьміце азёр,
на'т берагу вам не дадуць паўсажня!

Ды які вас падбухторыў чорт!?
Сяньня ня час!
Адложым справу.
Згодна, палюбоўна,
да канца зьвядзём.
Возера не адплыве ад нас сялявай!

Другі рыбак

І так...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Архіп

Стой!
За рана ты нас адпяваеш!
Гадзіцца радзіш.
Але з кім?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шырака з плечаў рыжых узгоркаў
на бераг азёрны ідуць рыбакі.
Сонна спаўзлі з пяшчанага скату лодкі
абмыўшыся пенай і ветрам сфабрыста-мяккім.
Хваля адна падпаўзла, другая прыйшла ей на помач,
як быццам крылатыя лодкі хацела у даль заманіць,
дзе сінім настольнікам Нарач заслала поўнач
і поўдзень, і захад з усходам да сініх граніц.
Плывуць, разыходзяцца шырэй...
Хай вецер сьмяецца і звоніць
медзьдзю шарахавак, звоніць на вёслах, як гром!

— Мы вылавім сонца
у паднебных прасторах
і ў тонях!—
Топяцца сеткі
ў жывое
азёр
серабро.

**ЭПІЛЁГ**

За шыбамі тлеюць у попеле сінія зоры.
Мерзнуць ад сьцюжы апухшыя пальцы, баляць.
Ведаю, песьні, вам хочацца струнных разораў,
шолаху лесу зялёнага, шуму азёраў, —
сьніцца няраз вам шчасьлівая наша зямля.

Будзе ўсё гэта... Сталёвым нарогам падымем
новыя дні, залатых ураджаяў зару
зьбяром у снапы матораў рукамі стальнымі,
і вёснамі будзе цьвісьці маладымі,
вясёлкамі песьняў мая Беларусь!..

А сяньня ідзіце, ў народ мой ўлівайцеся!....
Хай звоніць у кроках ваш кожны акорд,пераліў!
Вы гнуцца ня ўмелі . . . . . . . . . . . . . . .
ня пілі з балотных крыніцаў атруты,
ня поўзалі вы і ня спалі, як хмары плылі.

А сяньня ідзіце у шэрыя хаты, пад стрэхі!
Пазнаюць вас там па глыбокіх шрамох,
па чорных мазолях, па голасе рэха,
як сонечныя загарайцеся вехі
на новых вяршынах цяжкіх перамог!

А сяньня ідзіце між родных загонаў!
Шмат вочаў знаёмых спаткаеце вы.
Засьцеляць вам нівы узорны настольнік,
як прыдзеце ў госьці ў дзень заўтрашні . . . .
ці з славай памёршых ці з славай жывых.

І ноч вось праходзе... За шыбамі вецер...
За сына дзесь моліцца матка цяпер...
А я хачу сонца засеяць па сьвеце
і ворагам кінуць у вочы з пад сэрца
апырсканы кроўю гарачаю верш!

Вось раніца ціха лягла на падлогу...
Хоць хлеба няма, але песьні бяру, —
разсеіць іх трэба па родных разлогах.
І заўтра на струнах — на новых дарогах
прыдзецца яшчэ апяваць Беларусь!..

Вільня, 3.II.1937г. *МАКСІМ ТАНК*



# Оаза стрэхаў

Стаяў каля вакна і маркотнымі вачыма лашчыў далёкія ўзгоркі. Серабрыстыя хвалі збожжа плаўна нясьліся ўдаль і гінулі зьліваючыся з бледна-сінім небасхілам. За кучкамі параськіданых хатаў калясістыя дубы шумелі казку лета. Паволі перавёў вочы на густыя кусты церняў. Шукаў на іх сонечнае белі вясны. Успомніў раніцы маю, калі таксама, як цяпер, стаяў каля вакна і бачыў белую вясну. Нязнаная туга сьціскала сэрца. Успомніў горад шумна-гучны. Там блізкія змагаюцца за права існаваньня. Мурашкамі ваююць з цемраю жыцьця. Нясуць лучыву сьвету ў глухія куткі вёсак. І падаюць, устаюць, ізноў паўзуць да мэты. А ён што робіць? Ці праца высілку яго зьліваецца з агульным высілкам народу? І паказалася яму, што за вакном вішнёвы сад у шуме ветру сярдзіта папракаў яго за слабасьць веры. Упалі вочы. Пачуў хвіліну сумнага настрою. Ён ведаў: сум і радасьць, досьціг і няўдача, вера ў будучыню і мляўкія сумлевы — пачароднa залівалі аднатонныя дні яго жыцьця. Паволі западаў у бяздумную драмоту.

Збудзіў яго вясёлы крык дзяцей. Плёснуў гоман у сьценах клясы. Сабраўшыся чакалі вучыцеля.

— Вось абавязак, праца і падзяка! — пачуў ён голас унутры. —

Ужо пара! — шапнуў схаваўшыся з вакна.

Выйшаў да дзяцей. Вясёлыя, на перабой, яны віталі вучыцеля. І ён з усьмешкаю адказваў ім. Хвіліна ціхага маўчаньня. Пасьля пачатак лекцыі. Пытаньні простыя й адказы параськідаў сярод дзяцей. Іх вочкі пачалі запаляцца зацікаўленьнем. Кожнае, на перабой, старалася браць голас. Вучыцель чуўся уладаром. Быў моцны ў сваёй місіі...

Раптам — усе зьвярнуліся да вакна і за вакном пабачылі інспэктара. Вучыцель страпянуўся. Пачуўся, як барэц перад арэнай.

— Ці вораг, ці прыяцель? — мільгнула мысьль, калі вітаў яго ў парозе. Працягнуў халадную руку, а той палез вачыма ў нутро. Вучыцель быў сабой. Зьбіраў па клясе расьцярушаную ўвагу вучняў. Згарнуўшы мысьлі ўсіх дзяцей у адно зьвяно, ён забаўляўся пералівам звонкіх галасоў. Лекцыя мэтодыкай блішчэла. Госьць моўчкі за сталом лавіў яе цені. Ня мог знайсьці прычэпкі... А галасы дзяцей раіліся ў клясе. Хацелі ўсе чытаць, адказваць на пытаньні.

* * *

У вучыцельскім пакоі. Інспэктар праглядае крытычныя заўвагі. Вучыцель выйшаў да дзяцей.

— Чаму мы не баяліся інспэктара? — даюць вучыцелю пытаньне.

— Чаго-ж яго баяцца? — то-ж госьць наш, дзеці.

— А летась мы баяліся, дрыжалі, як быў, і пані наша ў страху ключы ад шафы пахавала.

— Дзе?

— Пад шафу.

Вучыцель усьміхаўся. Ён ведаў добра, чаму дзяцей пакінуў страх. Вярнуўся ў пакой.

— Вы ўзялі шмат праграмы. Ня трэба так! — спаткаў яго інспэктар. — У нас, у горадзе, ня так...

— Тут вёска. Яны за год павінны ўзяць усё тое, што ў горадзе бяруць гадамі... За год ім позна будзе...

— Так, так, я не пярэчу, а ўсё-ж вы самавольна... — цадзіў інспэктар на адходзе.

* * *

Сьвісток паравозу жаласьліва замёр у гарачым паветры. Рытмічным стукам цягнік адмяраў кілямэтры. Узгоркі маршам гарбатых дзядоў праходзяць прад вачыма. На станцыі галосяць хлапчукі: „гарбата, памаранчы“... Мурашкамі-людзі цягаюцца з клумкамі. А ён угнезьдзіўся ў далёкую дарогу. Думкай блукаўся па школе. У вушох зьвінеў дзіцячы сьмех. Хацелася вярнуцца, бо чуў, што больш ня будзе там...

* * *

Па вуліцах ідуць парамі вучні. Іх галасы хвалююць над мурамі. Паходамі кіруюць пэдагогі. Ідуць. І ён люнатыкам ідзе. Глядзіць, як упыр, на дзяцей. І бачыць толькі іх. У чуе толькі іх. Вучыцель — сірата. Паходы ў школах пазьнікалі, а ён стаяў адзін, з любоўю ў сэрцы да дзяцей. Туга душыла грудзі. Хацелася кудысьці ў даль. І ён пайшоў...

У твар дыхнула восень. Ціха-шэрыя палі шапталі з ветрам пра зіму. Нізкія хмары попелам сыпаліся на вёску. Пад стрэхамі таілася цемра...

У грудзёх яго захвалявала сіла, а вочы радасьцю гарэлі: не заблудзіў у лябірынце думак...

*Іван Камель*

Вільня, верасень 1936.



* * *

Лясы, лясы і пералескі,
вясёлы шум зялёных ніў, —
ў грудзёх цьвіціць красы усьмешка
і ціхай радасьці прыліў.

Краіна сьветлых сонцавеяў,
ірдзістых раніц, срыбных рос,
дзе гладзь люстраная сінее,
вазёр і рэк шырокі плёс.

Люблю твой чар, твае настроі,
прастор і шыр, і шолах траў,
і сэрца шчырае, простое,
табе у песьнях ўсё аддам.

Што боль пякучых кпін... і гора,
калі крынічыш сэрца ты?
Дзе страшна так было учора, —
там хутка вырастуць цьвяты!

Ня мне, паэту тваіх вёсак,
карміцца смутку лебядой,
калі так лёгка сум расплёскаць
і боль душы гасіць — красой.

Вісяты, 10.VI.37.

* * *

Я шукаў цябе заўсёды,
я чакаў цябе гады, —
ты прыйшла, як дзень пагодні,
як цьвілі усе сады.

Сад цьвіцеў... і ты цьвіцела
краскай сонца і вясны.
Я стаяў такім нясьмелым, —
бачыў — краскі, сінь і сны.

*Міхась Машара*

# Н о ч

Ад зораў — аж бела...
З паднебнай ральлі
ноч пільна, ноч сьмела
глядзіць у палі.
Лільлёва й зялёна
дыміць сенажаць,
гдзе мокрым пласконьнем
туманы ляжаць.
Разбуджаны месяц
вісіць на гальлі,
а пальцы, ўсе дзесяць,
камлі абнялі.
Так моцна, так цесна,
што сьцішаны ўздох
праз нарасьлі плесьні
пайшоў па сукох.
Парваў, раскалыхаў
бель месячных кол...
і зноў стала ціха
ў палёх навакол.
Боль, жалі — сапраўды
зьляцелі гдзесь проч.
Ілгуць усе праўды,
адна праўда — ноч!

# Вугорскія скрыпкі

З-за шыбаў ноч глядзіць вільготнай, жоўтай мглою,
ў жмутох лісьця чагось шукае шамятліва,
і не знайшоўшы—дзьме ў каштаны песьняй злою,
плюе на плямы шыб дажджом—сьліною шклівай.
Пад стольлю радыё, уецца цьмой—музыкай,
дрыжыць на шкле вакон, як звонку дождж і восень,
вугорскіх скрыпкаў плач гарачы, яркі, дзікі.
Так нівы на паўдні ўначы шумяць калосьсем,
так пуштай залатой імкнецца навальніца,
так рэжуць шэрасьць хмар разгульныя грымоты
й зялёны, шумны дождж прадзе ў паветры ніці.
А скрыпкі ўсё пяюць, гарачай, шчырай нотай...
Высокі, сьветлы тон пярэчыць дню пустому,
вядзе мяне з жыцьця па залатым праменьні,
і плача, сьмяючысь, і пнецца строма, строма,
зьмяніўшы ноч і дождж у сонца зіхаценьне.

*Натальля Арсеньнева*



# Вайною*)

Дзесьці ў сенцах скавыталі парасяты да рохкала старая сьвіньня, поркаючы лычом у дзьверы. Дзьверы рыпелі на завесах, соўдалася ўзад і ўперад старая закрутка да ціха дзынкала кружолка бляшанка на лямпе, заіржаўленая, замушаная, якая віссела на дроце, аберчаным палінялай рознакаляровай паперай.

— То-ж чамярыца на іх, вымерхаваліся ўжо, дзе ты на іх набярэшся... Дзьверы і тыя сарвуць...

І Настуля, падаткнуўшы падол старога андарака, завіхалася ля печы, дзе парыліся чыгуны бульбы. Большы вот для сьвіньні, для парасят, для цялушкі крыху, а меншы для сябе — паронкі. Дзеці коўзаліся на падлозе ў мыцельніку. Старэйшы кідаў у цэбар з памыямі трэскі—плыты ганяў, ды назаляў Настулі, што раз цярэбячы яе за спадніцу!

— Мам, а мам...

— Чаго ўжо табе? Ах, каб на цябе немач, усю кашулю ўмачыў, цячэ аж...

— Дай клубок, мамка, плыты вязаць...

— Вот я ўжо як аперажу цябе матузом, дык ты ў мяне будзеш ляжаць як зьвязаны...

— Дай, мамка, нітку...

— Адчапіся назола, дай вот сьнеданьне прыгатую, — і Настуля хапала малога на рукі, і трымаючы яго пад пахай, выкручвала кашулю, і даўшы добрага шлепанца, пускала на падлогу. Меншая вазілася з кацянятамі, цічкала іх, цягала за хвост, карміла бульбінай. Тыя мяўкалі жаласна ды капушыліся ў начоўках, тычучы адно другога мяккімі, пухнаценькімі мордачкамі. Паводдаль сядзела старая кошка і раз-по-раз пазірала сумнымі вачыма то на начоўкі, то на Настулю. Ды падыходзіла часам да начовак, абнюхвала якое кацянё, старанна аблізвала яго, ды пачынала мяўкаць на ўсю хату.

---

*) Вайною — гэта урывак з вялікай аповесьці беларускага савецкага пісьменьніка Міхася Лынькова—„На чырвоных лядах," кн. І. (Менск, 1934 г., бач. 322). На гэтую аповесьць мы зьмясьцілі рэцэнзію гр. Ст. Станкевіча ў кн. 2-й „Калосься" з 1935 г., гдзе і пададзены шырэйшыя інфармацыі аб творчасьці пісьменьніка. У урыўку пакідаем магілёўскія дыялектычныя уласьцівасьці мовы пісьменьніка.

Міхась Лынькоў нарадзіўся ў 1899 г., у в. Зазыб'е, на Віцебшчыне. У 1913 годзе скончыў народную школу, пазьней вучыўся ў Рагачоўскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў у 1917 г.

Па сканчэньні сэмінарыі працаваў настаўнікам у Гомельшчыне. З 1919 да 1923 быў у чырвонай арміі. Пасьля йзноў настаўнікам, адначасна праводзіў шырокую грамадзка-палітычную работу. У 1925 г. уступіў у камуністычную партыю.

Міхась Лынькоў адзін з вялікіх літаратурных талентаў Усходняй Беларусі. Добры знаўца псыхолёгіі і быту беларускага народу.

Пачаў друкавацца ў 1926 г. Творы ягоныя вызначаюцца вялікімі мастацкімі якасьцямі, рэалізмам і канкрэтнасьцю, напісаны сакавітаю, вобразнаю народнаю моваю.

Р э д а к ц ы я.

— Іш ты яе, жывотнае, а не кажы-ж ты, матка як ніяк, разумее... — думалася Настулі і яна кідала дзіцёнку:

— Ты вот, Ганначка, кінула-б ужо іх, навошта ціскаеш так... Кінь, дачушка...

А на дварэ мычэла пад вакном цялушка-пералетак і новыя думкі ўкліньваліся ў Настуліну галаву, не давалі ёй супакою, адпачынку.

— Управіцца вось, ды схадзіць хіба ношку травы якой прынесьці, у ярыне назьбіраць, бо дзе тая трава на паплавах, пакасілі ўжо... І столькі-ж клопату, вечна галава забіта, дзіва тобез гаспадара: і пасей, і пажні, і пакасі, аб гумне падумай каб пусьціў хто колькі тых коп злажыць... Ды й бегай, кланяйся, каб хто змалаціць пасобіў... Ды не дарма-ж усё—вот атажні, прыдзі бульбу капаць, прыдзі лён трапаць па восені, вытчы трубку кужалю. Табе на грош, а ім вот на рубель адрабі, дзіва то, ласыя на чужыя рукі. І петуйся дня і ночы, а з'есьці калі, дык вот душыся паронкамі, душы дзяцей нішчымніцай. Нарабілі вот, каб на іх немач, вайны ім захацелася, каб яна ўжо, даруй Божа, ў горла колікам ім...

А каму — ім — хто яго ведае... Казалі вот людзі — германцы на нас насядаюць, душаць людзей, страляюць, газы тыя пушчаюць. І хто ведае, чаго гэта яны на нас так уз'еліся, хіба ім мала зямлі сваё, цары мо' пасварыліся? А з чаго-б ім сварыцца, здэцца-ж ня ім аб паранках думаць, аб бульбе той з шалупаямі.

— А можа гэта грэх пра цара ды так думаць? Хіба здарма вот і ў малітве пра цара гаворыцца, пра „гасудара нашага Мікалая Александравіча"... Відаць-жа што нездарма, вот-жа й на партрэце ізноў.

На засіджанай мухамі фатаграфіі сядзіць на чорным кані ён, Лявон... Узьняў шаблю ўгару, а конь на дыбкі, грае блісручымі вачыма, белыя шчоткі на капытах... І прыгожыя штаны ў Лявона, сінія, сінія... Ды па іх канты чырвоненькія, ды чырвоныя грудзі, а колькі шнурочкаў розных ды з круцёлачкамі бліскучымі. А шапка, шапка з белым арлом, шнурок ад яе аж на грудзі, да гузікаў. Вочы ў Лявона— глыбокія й чорныя. Вот так і ўзіраюцца ў цябе, нібы пытаюць:

— Ну, як пажываеш, ненаглядная супруга, мая Настуля? Як нашыя дзеці?

А ўнізу незразумела так, літарамі залатымі — покуль прачытала, язык дуб дубам:

— „Лейб гвардыі яе імпэратарскае вялікасьці Александры Фёдараўны ўланскі полк."

Царыца то. Казаў вот, як на пабыўку прыяжджаў. У цара, казаў, яшчэ шмат палкоў усякіх, ды вялікая армія, пяхота, анцілерыя там ды шмат яшчэ чаго...

Як прыяжджаў, бегалі ўсім сялом усьлед, дужа-ж тую форму ўпадабалі, важнецкая форма. „Ляпей як у афіцэра" — казаў



дзед Панкрат, стары салдат мікалаеўскі. А Зьмітрачыхін Панас— прыяжджаў разам — дык той мусіць-жа ад зайздрасьці дзеду Панкрату:

— Ты не глядзі, дзед, на шапку бліскучую... І яны чэсьць аддаюць афіцэрам нашым... пяхотным...

Дзе ты тут разьбярэш. Канечне, салдат... Вот-жа й адрас салдацкі з уланскага таго палка. Ростам быў высокі, таму і ў уланы забралі — так казалі людзі. Настуля бярэ за карткай стопку шэрых лістоў і, старанна пералажыўшы іх, кладзе йзноў за партрэт.

— Сьніўся вот пазаўчора. Нібы на пабыўку прыйшоў, а я нібыта проса сушу на печы... Каб-жа то спраўдзілася! Але што-ж гэта я, чыгуны павыплывалі, хіба таўчы ўжо. Да ціху ты, неўгамонны... Бач, моду знайшоў, чуць што, ды і біцца. Малое, а ўжо з кулакамі лезе, сястру крыўдзіць... Падай вот таўкач лепш. Бульбяная пара засьцілае ўсю хату, расою кладзецца на замурзаныя шыбы ваконца, да пачуўшы едзіва яшчэ больш скавычуць парасяты за дзьвярамі, ды ходарам ходзяць дзьверы пад напорам сьвінога лыча.

— Нішто вам, вытрымаеце, вот укіну яшчэ мякіны крыху, дзе на вас бульбы аднэй набярэшся... Ну, хіба ўжо... ідзіце дзеткі падалей. — Настуля адчыняе дзьверы і ў хату трухам кідаецца сьвіньня, аж пасклізаецца па падлозе, і ўсадзіўшы лыч свой па самыя вочы ў карыта, хапае на повен рот, аж трасуцца парэпаныя вушы, ды ходарам ходзяць па бакох сухія рэбры. За сьвіньнёй кідаюцца на выперадкі парасяты і з візгам і скогатам ваююць за мейсца ля карыта, адштурхоўваючы адзін аднаго, кусаючы адзін другога за лыткі... Але старая сьвіньня наводзіць парадак: таму дасьць лыча ў бок, таго адштурхне нагой, таго так перакуліць, што аж заліваецца, скуголіць, ды асьцярожна прабіраецца да карыта.

— А ты чаго? Ідзі, ідзі, кажу, адтуль.

— Да я, мамачка, шчаціны нарву, на хібу вот, каравашнік цукерку дасьць.

— Я вот табе дам цукерку, цукерашнік, — злосна абзываецца Настуля, адцэжваючы паронкі, — ідзі вот сьнедаць.

Пасьнедаўшы, сабіраецца Настуля па траву схадзіць, але яе думкі перабіваюцца стукам у акно. Відаць, соцкі, па барадзе яго распазнаеш.

— Ды на сход, Настуля, на сход сабірайся.

— Дужа мне там вялікі клопат, мая то там справа?

— Не, не... Абавязкова. Нядоімку прыслалі спаганяць... дык ня баўся хаця.

Нібы белы сьвет памутнеў, счарнела ў вачах адразу. Дзе ты возьмеш нядоімку тую... Спасобія таго хаця-б на крупы хапіла. Хацелася-б вот у панскае калі схадзіць, зарабіць залатоўку якую, дык дзе ты тут з дзецьмі ўправішся... Пазычыць у каго? Ды дзе ты, у каго? Кожны без капейкі лахае. Хіба ў старасты?

Дужа ён табе раськінецца... Уга... І пытаць ня варта, у кобеля ў гэтага, ды й за бульбу яму шчэ' ня плочана. Не, трасцы, не дачакаецца, каб гэта... — і Настуля з агідаю ўспамінае яго прыставаньні на пожні, яго скрыўлены злосьцю твар, асклізлыя шчыліны воч, гарэўшыя зьвярыным палам. Уга, не на тую напаў. Шолудзь.

Калі Настуля разам з другімі бабамі-салдаткамі падыходзіла да стараставай хаты, там ужо сабіраўся сход і тлум галасоў поўніў усю вуліцу. Сабіраліся на бярвеньні. Хто сядзеў на хваёвых стараставых кражыках, хто вот проста так на трэсках, на шуме тым ад кары ля бярвеньняў прымайстраваўся. Іншыя стаялі паўкружка, гаманілі, зьбіўшыся паасобнымі купкамі.

— Уга, армія прышла, дывізія бабская ў паходзе, шабеты цягне з грашмі, — жартуе, шамкаючы бяззубым ротам, дзед Панкрат.

— А ты вот падстаўляй кішэні, прыпасьлі для цябе, для бяззубага... — у тон адказвае ўдава Барташыха. — Бач ты, высkaляецца, а з самога ўжо пясок сыплецца.

— Цыц, ты, цыц! Зачапі яе, дык яна табе нагаворыць..

— А ты іх, браце Панкрат, не чапай, яны цяперачка ўга, дужа-ж ужо злосныя, пападзіся адзін—на кавалачкі разьдзяруць... Дзіва то, бяз мужыкоў ходзяць, — уторыць Панкрату яго прыяцель дзед Сымон і яго выцьвілая казьліная бародка трасецца ў тахт рогату. І не рагоча, а вот проста так: кхе-кхе-кхе... Ды закашляўся вось і папярхнуўся і зашоўся аж, ніяк ня можа адхыркацца, аж сінее стары ды ўсё — кхі-кхі-кхі...

— То-ж пярхун стары... У дамавіну пара, а ён яшчэ ў жарты ўкінуўся...

— Ды вы-ж... кхі-кхі-кхі...

— Маўчаў-бы ўжо, кігыкала старое, сівы корч... — Сход рагоча, спачуваючы бабам — дужа трапна старога падкалолі. Рагоча і ўраднік, маладым салдаткам падміргвае, хвацкі падкручвае зусім вот жоўтыя, як у пруса таго, кончыкі вусоў ды хвастае бізуном па наваксаваных халявах шчыгульных урадніцкіх чаботоў.

— Бач, ты, пузан! — перашэптваюцца бабы, тулячыся адна за другую.

Сход рагоча, усьміхаецца кожны, а ў каторага на душы кошкі скрабуць: як то яно будзе, чым яно ўсё ды абыйдзецца. І больш гэтай разгубленасьці, перапалоханасьці на тварах у салдатак. Усе пазіраюць украдкі на старасту, на ўраднікa, на заклапочаных і зьбянтэжаных соцкіх — дзіва то, абяжы ўсе вуліцы — і чакаюць, калі вот пачнуць гаварыць аб справе.

— Ну, дык хіба пачнём, стараста... Ну, там каторыя бабы-маладзіцы змоўкніце хаця ўжо, а маладзейшыя марш адсюль адразу-ж... Давайце, хрысьціяне, пачнём сход. А справа-ж вам вядомая. Я вот старасту загадаў, каб ён праз соцкіх паведаміў



усіх, каб зараз-жа нядоімкі несьлі. Калі то быў час другую рату плаціць, хто з вас хаця-б паварушыўся. Дык вот у дваццаць чатыры хвіліны, каб гэта, значыцца, грошы ўносілі і ніякіх там разгавораў. Дык так што, хрысьціяне, стараста вот па чарзе выклікаць будзе па сьпісу, а вы рыхтуйцеся... Ды ў дваццаць чатыры каб мне хвіліны і ніякіх тем разгавораў.. А калі хто ў няспраўнасьці акажацца, худа таму, вот-жа раней кажу, няхай тады на сябе пяняе, калі апішам што...

— А вот-жа хваробы вам, трасцы вам, а ня грошай,—раптам прарывае Барташыха. — Каб-жа духі з вас павыцягала, як цягнеце вы з нашага горба. Бач ты яго — дваццаць чатыры хвіліны... Мой сын вот трэці год як вошы корміць у акопах, ды вот і да меншага дабіраюцца. Дык дваццаць чатыры... Скулы вот табе дваццаць чатыры, бач, разгадаваў пуза!

— А ты, цётка, прывяжы язык за штакеціну, пакуль ня позна. Дужа ён у цябе порсткі, — адказвае ўраднік і не падкручвае ўжо, а нэрвова шчыпле вусы. — Ты вот пацякла як дзяжа тая і пашла языком мяньціць: латата, латата, глядзі лапатух нагоніш... А што і да чаго — і не дабярэш. Ну, служыць твой сын і няхай служыць. На тое ён салдат, на тое і прысягу царскую ён прымаў, каб веру сваю, цара свайго праваслаўнага да айчызну-матушку ад ліхіх ворагаў аберагаць. І прычым-жа тут падаток... Патрэбны грошы дзяржаве? Патрэбны...

— Дык няхай і возьме...

— Дзе ж яна возьме?

— А дзе хоча... Пры чым тут мы? — чуюцца нерашучыя галасы з натоўпу.

— Дужа мне тут з вамі разгаворы разгаварываць... Сказаў, і каб ні гу-гу... Каб зараз-жа было ўсё выпаўнена. Ды пажывей. Выклікай, стараста!

А сэрца так і заходзіцца ў Настулі, калі ўсё бліжэй і бліжэй яе чарга па падворнаму сьпісу. Вот ужо Іван Цыбала доўга поркаецца ў сваёй шабеце ды адвярнуўшыся шукае, каб адабраць больш старыя, самыя трухлявыя, дзіравыя траячкі і рублі. Аж сапе небарака.

— Эге, нешта й вы, дзядзька Іван, падкульгалі. Што-ж гэта? Заўсёды такі спраўны, а тутака аж дванаццацера рублёў, —пытае ўраднік.

— Няўпраўка бачыце, пане ўраднік... Ізноўжа сена тут падышло, ня было часу, — і аддаючы грошы і шкадуючы іх Іван думае аб будучых барышах на сене з панскае пожні: „уга, у дзесяць разоў назад вазьму, з гакам, можна сказаць, пакрыю, але-ж канечне, і рубля шкода, на дарозе ён табе не валяецца... а капейка да капейчыны...“ Аж уздыхнуў.

Ужо плачуць некаторыя маладзіцы: будуць у іх палатно апісваць. Галосіць старая Ёўдакіміха — запісалі ў яе карову. Некаторыя пабеглі грошы шукаць пазычыць, некаторыя стаяць ўнурыўшыся, да ўсяго бязуважныя і чакаюць свае чаргі.

— Божачка, што та будзе са мной? — мітусіцца непакойная думка Настуліна.

— Наста Мікалаішка!

— Тутака я...

— Дык з цябе... з цябе... чатырнаццаць рублёў з цябе ды семнаццаць капеек. Прынесла хіба? — і старастава рука трымае напагатове абгрызены аловак, ды вочы старасты глядзяць вот, прысасваюцца, як п'яўкі балотныя, слізкія — ня міргнуць нават. І ў вачох тых чытае Настуля: „ага, папалася, гадаўка, вот табе за ласку тваю.“ А ў горле ў самой вот пяршыць, пяршыць, так і сьціскае горла болем пякучым, гаручай крыўдай. Ну й няхай, ну й што-ж, прападзі яно ўсё пропадам.

— Няма ў мяне...

Усьміхаецца ўраднік у вусы — вот маладзіца-ж ядроная, нібы яблык-антонаўка — ды кідае ўголас:

— А ў каго-ж яны будуць, каб гэта за цябе ды за прыгожую такую нядоімкі плаціць?

— Сказала — няма... і нямашака...

— Дык хіба цялуху запішам? — пытаецца стараста ў ураднік гэткім халодным бязуважлівымі голасам, а сам пазірае скоса на кабету.

Скаланулася Настуля, пасунулася наперад на крок, сьцяўшы рашуча кулакі. Ня даць! Якое яны маюць права адбіраць выгадаванае табой, рукамі тваімі выпеставанае. Вот павыдзіраць вочы гэтыя агідныя, павыскубаць жоўтыя вусы, на кравянку пусьціць гэты нос урадніцкі, бурбалку гэтую паліваную. Толькі ня даць!

Але абмякла разам. Апусьціліся зьнясіленыя рукі, што ты тут зробіш. Ды й народу сорамна. Што-ж, няхай...

— А хіба хопіць цялушкі на выплат? — пытаецца ўраднік пастарасту.

— Пералетавак... Нішто цялушка, мо' хто й купіць... Цана-ж невялікая...

— Дык от і я-б купіў хіба, каб гэта канечне пасхадней...— пераміннаецца з нагі на нагу Іван Цыбала і ўнікае каб сустрэцца з кім вачыма, бо чуе як колюць яго злосныя шэпты, галасы азьвярэлыя: „Крывасмок, кожнага на бэльку засіліў-бы.“ А сам думае: „Дзівакі людзі, ну што я зрабіў ім. Хіба не ахвота кожнаму, каб гэта таней ды зручней. Чаму-ж гэта й ня купіць, калі яно зручна. І хто-ж гэта да сваёй гаспадарцы вораг?“

— Дык калі так, запісвай, стараста, — загадвае ўраднік.

— Ну што-ж, бярыце... І хату сабе бярыце... І сьвіньню бярыце. Дзетак сабе бярыце, жытку маю, кроў маю — усё бярыце, жывалупы... І ты вот, дзядзька Цыбал, прыходзь... Мала табе ўсё, дык знайду яшчэ чым мяла тваё заткнуць пражорнае...

— Дай ты ёй рады... — шэпча Цыбал і туліцца за сьпіны другіх, уцяўшы голаў у плечы.



Звадыякі гэтыя сьлёзы. Трымалася-б, дык дзе там. Засьцяць вочы і плавае вуліца ў тумане шызым, не заўважыла, як і ў хату прышла, села на ўслон ля акна і так і прасядзела нярухома, пакуль ня прышлі на двор соцкі, ураднік, стараста. Ды малеча зьбеглася з двароў суседскіх, падзівіцца. Старыя, тыя ня пойдуць, каму ахвота на чужое гора глядзець. Доўга ганялі цялё па вагародчыку, пакуль не зьвязалі вяроўкай за шыю, павялі да варот, падганяючы хлабысьцінаю. І тады ня вытрымала Настуля. Падкацілася камяком да грудзей злосьць вялікая, зьвярыная злосьць. З сянец выскачыла, гнеўная, чырвоная, з ускудлачанымі валасамі, з расхрыстанымі грудзьмі. Ухапіла ў рукі таўкач і рынулася, пабялеўшы і сьцяўшы зубы, замахнулася таўкачом над ураднікаваю галавою.

— Ціху ты, што ты, з розумам, Настуля — кінуўся соцкі Зьмітрок і выбіў таўкач з рук, — апамятайся, небарака, ці варта цялё таго, што ты задумала...

А ўраднік, спакойны, вот толькі крышачку зьбялелы, адступіў на крок які і размахнуўся бізуном. Прасьвістаў той у паветры і ўліп у Настульчыну сьпіну, кончыкам сваім сьвінцовым працёгшыся па грудзёх, па шчацэ. І яшчэ раз апаясаў бізун, прашоўся з поцягам па здрантвелым ад жудасьці целе.

Умэнт ня стала дзяцей на дварэ, разбегліся, хто куды.

Ураднік стаяў і глядзеў з асалодай, як крывіўся твар, рабіўся няпрыгожым гэты твар такой прыгожай і ядранай, як антонаўка, маладзіцы, як уздрыгвалі нібы ашпараныя варам плечы, ды пальцы рук хапіліся за рассечаную шчаку. І хацелася даць яшчэ, скрамсаць на друзачкі гэтае жывое, прыгожае цела. Гэтыя прывабныя, чырвоныя шчокі. Аж саладка зудзела ў руках.

— Кіньце вы, пане ўраднік! — кінуліся соцкія. — Ото-ж неразумная баба, маладая вот, гарачая, жыцьця таго як сьлед не пабачыла... Кроў яшчэ ня выбрадзіла...

— Я вот выбраджу... Была-б другая на месцы яе, дык пакарміла-б клапоў у халоднай з тыдзень, выхадзілася-б... Ды ладна ўжо, я чалавек ня злосны...

Стараста стаяў моўчкі і ў яго вачох сьвіцілася сытасьць і задаволенасьць.

— Ну, дык пойдам хіба...

Настуля як села на дварэ на прызьбе хаты, так і прасядзела да позьняга вечара. Схаваўшы твар у далоні рук, яна ня рухалася з месца і цяжкія, як тыя шэрыя камні, — варушыліся ў галаве думкі. Жорнамі ціснулі на мозаг. Уткнуўшы насы ў шыбы акон заліваліся плачам дзеці ў хаце.

—Каб вы хаця ўжо падохлі, клопат-бы зьнялі ад мае галавы...

І дзесьці глыбока ўзварухнулася пачуцьцё матчына, на грэшную благую думку абразілася...

— Чым-жа яны вінаватыя... мае любыя...

Устала і чапляючыся за сьцяну пашла ў хату, сабрала павячэраць дзецям ды ўлеглася на палаці. Не хацелася ні распра-

нацца, ні пасьцілаць дзяругі тыя, узьбіваць падушку нанач. Як лягла, так і ляжала з прыжмуранымі вачмі, так і заснула нерас-пранутай.

Пад вечар на другі дзень соцкі зашоў. Патоўкся з хвілінку ля парога, на ўслончык сеў.

— Дарэмна гэта ты, Настуля, учора... Дзе ты гэтай саломі-най абуха пераб'еш?

— Ат, не кажыце ўжо...

— Ды гэта я к слову... Бачыш, ужо служба ў нас такая, каб з людзьмі напастыляцца. Ізноў-жа ўраднік: ты яго халеру паль-цам крані — ў астрозе згнояць.

— Ды я да вас, дзядзька Зьмітрок, і ня маю нічога... Хіба вы тут вінаваты ў чым...

— А я думаў, крыўдзіцца ты будзеш.. Усё-ж-ткі Лявон быў— хоць і маладзейшы куды ён — але-ж вялікі дружака мой. Коль-кі то на зайцоў папаходжвалі, на ліса... Харошы быў чалавек, Лявон, дай вот Божа вярнуцца яму... А я вот па справе, ліст та-бе тут заказны, з арміі ідаць, ад Лявона. Дык ты ўжо ня крыў-дуй на мяне.

— Ды што вы, дзядзька Зьмітрок, далася вам гэтая крыў-да! Узялі вот, ну дык што-ж... Няхай іх ужо за печані возьме... Не ў пятлю-ж мне лезьці...

Вышаўшы Зьміцер, дзьверы за сабою прычыніў, вот чутны крокі яго, хворткаю рыпнуў. Да ўсяго цяпер прыслухаецца чутка Настуля пасьля ўчарайшага. Вот трэсьне бэлька над печчу, зава-рушыцца шашаль у дошцы — і чуе Настуля, балюча прыслу-хаецца да кожнага гуку.

Запаліўшы лямпку ўзялася за ліст. І доўга ўглядалася ў не-знаёмы почарк—не Лявонава рука то, ды й пячаткі навошта — і раптам зьбялеўшы перачытвала раз-по-раз кароценькія радкі. Ня верылася, не разумела, як то можа быць, каб Лявон... Каб мой Лявон... Гэты вясёлы, вечна ветлівы хлопец. І такія рукі, кража падымаў за адзін капец, гэткія ванчасы ўскідаў на кары? Ня можа быць... Няпраўда... Мо' маняць гэтыя літары слоў? Мо' ня так прачытала?

А словы ўсё адны і тыя, слоў гэтых ня зьменіш, не пера-ставіш...

„...за веру, цара і айчыну паў сьмерцю харобрых на рат-ным полі...“

На ратным полі...

На полі...

Сьмерцю...

І калі зразумела — сьмерцю — тады схапілася аберуч за галаву і загаласіла немым голасам, голасам дзікім, зьвярыным, ад якога сьціхлі дзеці, што коўзаліся па бруднай падлозе, гуляю-чы ў нямудроныя свае гульні. Сядзелі моўчкі, і палахліва — вот, вот гатовы заплакаць — пазіралі на матку. Тая білася галавой аб стол, сьціскаючы ў руках канцы апаўзаўшай скацеркі, ды не-



ма ўсё галасіла. Мігацела лямпа і яе водбліскі клаліся палахлі-вымі плямамі на чорныя сьцены, на столь, на заваленыя рызь-зём палаці.

Урэшце змоўкла яна, неяк выпрасталася раптам, выцерла хусткай вочы, кінула руплівы позірк на хату, дзяцей заўважыла.

— Тутака вы... Хадзіце вот да мяне...

І лашчыла кудзелістыя галовы і думала ўголас:

— Паспытаеце вот гора людскога, бязбацькавічы... Вялікае яно — ні канца, ні краю... Хто та аб вас будзе клопат мець... Дзіва то — людзі зьверы, кожны другога рад за горла ўхапіць... мала ўсё... Ненажэрныя людзі, ненажэрная злосьць людзкая... Але-ж што мне рабіць цяпер? — і прыслухалася да вячэрняй ці-шыні, нібы чакаючы адказу на свае думкі.

Ніхто не адказваў. Толькі шкрэблі мышы ў падпечку, ды недзе ў сьценцы тачыў дрэва шашаль.

*Міхась Лынькоў*

---

# У лесе

Звоняць тугія сасновыя струны,
  шышкамі рэха калышыцца звонка.
  Слухайце-ж вы, маладыя сасонкі:
больш я ня буду задуманым, сумным!

Час яшчэ твару майго не зразорыў,
  плечаў ня сьціснуў гадоў шэрых камень,
  кожнае дрэва адбіў-бы рукамі,
ночы і дні гаварыў-бы я з борам.

Можа ня ведаю, лес мой кудлаты,
  хто тваё цяглае зрэжа бярвеньне,
  выпаліць сонца калі твае цені,
будзеш палацам ці згорбленай хатай...

Можа слупамі ты белымі станеш
  ноччу васеньняй, дажджлівай, шэрай...
  Дзікі каршун прыляціць на вячэру,
ў вочы адважныя, згасшыя гляніць.

А покуль вецер калыша бор шумны,
  раніца поіць зары сырадоем, —
  я запяю пра жыцьцё маладое, —
больш я ня буду задуманым, сумным...

17.VI.37. *М. Танк*

---

# Этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў*)

...Этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў тасую тут у агульна-людзкім разуменьні, каторыя звычайна выражаюцца ў тым, што быт лепшы ад нябыту, лепшы альтруізм як эгоізм, дабра належа трымацца, а зла старанiцца, лепшы поступ і культура кожнага народу, як яго застой, рэакцыя, нядоля й сьмерць.

Гаворачы агульна, этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў можна зсынтэзаваць у наступныя пункты.

1. Кожны народ, а знача й нацыянальныя меншасьці, мае прыроднае права аберагаць і разьвіваць свае нацыянальныя розьнасьці і асаблівасьці, як мову, рэлігію і цэлы нацыянальны свой быт, бо:

a) народы разам з сваім асобным нацыянальным характарам, а так-жа з інстынктам сваім да разьвіцьця паўстаюць з самай прыроды, а дзеля гэтага маюць і прыроднае права свайго існаваньня.

b) Асаблівыя нацыянальныя адзнакі кожнага народу, прадусім мова, зьяўляюцца прыродным дабром, як спадак мінуўшчыны, пазбаўленьне каторых руйнуе яго прыродную асобнасьць, нішчыць яго нацыянальную індывідуальнасьць, робячы гэтым самым яўную кожнаму народу крыўду.

І дзеля гэтага грамадзяне, што належаць да нацыянальных меншасьцяў, маюць права дамагацца ад дзяржавы, у каторай жывуць, каб яно гэнае дабро аберагала, як і ўсякае іншае дабро сваіх грамадзян агулам. Такім чынам дзяржава павінна рупіцца, каб вобак мовы дзяржаўнай, даць магчымасьць сваім нацыянальным меншасьцям карыстацца іх прыроднай мовай у школе, судзе, урадзе, у публічным жыцьці агулам.

2. Нацыянальныя меншасьці з самай прыроды маюць роўныя грамадзянскія правы з пануючай нацыяй. Іх лічбовая меншасьць, ці мо' культурная ўбогасьць, у нічым прыродных іх правоў не зьмяншае, бо яны, як і нацыя пануючая, зьяўляюцца часткай дзяржавы, спаўняючай усе абавязкі грамадзян. Знача, нацыянальныя меншасьці маюць роўныя правы на прадстаўніцтва парлямэнтарнае, на школу ў сваей роднай мове, на ўрадавыя пасады, на

*) Кс. Ад. Станкевіч, як прадстаўнік ад Бел. Нац. К-ту ў Вільні на Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў у Лёндане 14—15 ліпня 1937 г., дзеля незалежных ад яго прычын ня могучы там быць асабіста, пад вышэй азначаным загалоўкам прызначаны яму рэфэрат выслаў на гэны Кангрэс поштай. Выкідаючы з гэтага рэфэрату тое, што для беларускага чытача няцікавае, галоўныя пункты яго падаём у цэласьці. Рэд.



пропорцыянальнае да свайго ліку карыстаньне з дзяржаўнага скарбу для сваіх грамадзкіх і культурна-нацыянальных мэтаў.

3. З самай сваей прыроды імкнуцца да развою і культуры, як людзкія адзінкі індывідуальныя, так і грамадзкія супольнасьці, асабліва-ж нацыянальныя. Развой-жа належны гэтага прыроднага інстынкту кожнага народу, а так жа яго культурнае творства, адбываюцца найлепш у яго роднай мове і агулам на падставах нацыянальна-прыродных, уносячы гэтак у агульна-людзкую культуру новыя вартасьці, новыя здабычы.

4. Этычна злой ёсьць справай усякі надмерны, нічым неаграмічаны эгоізм як людзкой паасобнай адзінкі, так і людзкой адзінкі зборнай: грамадзкай клясы, народу, дзяржавы. Непрызнаваньне-ж якім-небудзь пануючым народам культурна-нацыянальных правоў нацыянальным меншасьцям іменна паходзіць з гэнага неаграмічанага, немаральнага нацыянальнага эгоізму, які імкнецца да таго, каб коштам слабейшых ад сябе нацыянальных меншасьцяў узбагаціць сваю культуру і сваю экономіку. Ведамай ёсьць рэчай, што пазбаўленыя якой дзяржавай нацыянальныя меншасьці сваіх нацыянальных правоў звычайна пад кожным узглядам крыўдзяцца і эксплёатуюцца.

5. Нацыянальныя меншасьці дзеля зьбераганьня сваіх нацыянальных асаблівасьцяў, тварэньня сваей уласнай нацыянальнай культуры, а так-жа дзеля адміністраваньня сваіх грамадзянскіх спраў, маюць права на аўтаномію. Этычная падстава гэтага вынікае з мэты кожнай дзяржавы. Сутнасьць гэтай мэты ня ў тым, каб пануючы ў дзяржаве народ ці агулам дзяржава павялічвала да якнайбольшай меры сваю сілу й магутнасьць, але ў тым, каб усім сваім грамадзянам, бяз розьніцы іх нацыянальнасьці і веры, дало дабрабыт і памыснасьць, а гэтым самым уцьвярдзіла і сваю сілу і магутнасьць.

6. Вялікім дабром этычным ёсьць супакой між народамі і дзяржавамі? А супакой гэты сяньня ў Эўропе ня можа быць трывалы, пакуль 40 мільёнаў нацыянальных меншасьцяў, сьведамых сваіх уласных заданьняў і асаблівасьцяў, часта пазбаўленых сваіх элемэнтарных магчымасьцяў культурнага свайго жыцьця, — не здабудуць сваіх прыродных нацыянальна-культурных правоў.

7. Права на ўласную мову, рэлігію, культуру і аўтаномію кожнай нацыянальнай меншасьці вынікае ня толькі з этыкі агульна-людзкай прыроднай, але так-жа й этыкі хрысьціянскай, каторая ў гэтай справе дасканальна выражаецца ў усталенай формуле: *suum cuique*, а якая фактычна ёсьць далейшым разьвіцьцём і глыбейшым уняцьцем тых-жа этычных падстаў права прыроднага.

Этычная падстава хрысьціянскай навукі апіраецца на прызнаваньні, паглыбляньні і ўцьвярджаньні людзкой асабовасьці, як першараднага і адзінага асяродка поступу і людзкой культуры. Гэткія адносіны хрысьціянства да людзкой асабовасьці ня

нішчуць у ей нічога прыроднага, а знача й яе нацыянальнай асаблівасьці і розласьці, але гэта ўсё вырабляюць, паляпшаюць, дасканаляць. Вось-жа кожная нацыянальнасьць у сьвятле хрысьціянскай навукі ёсьць матарыялам не для нішчэньня яго, але для тварэньня з яго культуральных вартасьцяў. Дзеля гэтага кожная дзяржава, каторая цікуе на адменны характар сваіх нацыянальных меншасьцяў і замест рабіць ім даступным іх нацыянальны развой, нішча іх і прасьледуе, — паступае немаральна.

Апрача гэтай прынцыповай хрысьціянскай этычнай падставы правоў нацыянальных меншасьцяў на іх жыцьцё і культурна-нацыянальны развой, у тэй-жа хрысьціянскай навуцы знаходзім у гэтай справе нормы ўжо нятолькі характару прынцыповага, але так-жа й практычнага. Вынікае гэта з загаду Хрыста навучаць *усе народы* (Мат. 28, 29), а так-жа з факту *Дараў сьв. Духа* (Апост. Дзеяньні 2, 4—11), дадзеных Апосталам, каб яны мелі магчымасьць апавядаць Эвангельле ў розных мовах розным народам. Вось-жа згодна з гэтым не ў клясычных мовах мелі Апосталы несьці народам хрысьціянскую навуку, але ў мовах родных кожнага народу.

8. Вынікам урэшце й практычным датасаваньнем гэных этычных падстаў прыродных і надпрыродных, а знача — такжа этычнай падставай, хоць ужо паходнай і другараднай, ёсьць права міжнароднае, ахраняючае права нацыянальных меншасьцяў на іх нацыянальную культуру і на аўтаномію ў іх пад гэтым узглядам дзейнасьці...

*Ад. Станкевіч*

---



# Гыгіена псыхічная, як праблема аснаўных адносінаў да жыцьця

## I

Само зьявішча *гыгіены* вельмі цікавае. Гыгіену ажыцьцяўляюць лекары, яны толькі яе разумеюць, дзякуючы ім гыгіена жыве і разьвіваецца. Ёсьць сяньня, можна сказаць, цэлая прафэсыя гыгіеністаў, як адна з галінаў веды і практыкі лекарскае. Пікантнасьцю, калі так можна казаць, у пытаньні гыгіены, гэта якга тое, што ў ёй працуюць лекары. Вельмі было-б дзіўна, каб мы пачулі, што нейкія рамесьнікі, скажам, шаўцы ці сталяры, разважаюць над тым, як дайсьці да таго, каб людзі не патрабавалі хадзіць у ботах ці зноў—каб чалавек мог пражыць бяз хаты, шафы ці яшчэ там нечага, што робіць і з чаго жыве шавец ці сталяр. Бязумоўна, кожны рамесьнік зацікаўлены ў тым, каб ягоная работа была найбольш трывалаю. Дзякуючы саліднасьці свае работы, рамесьнік ня меціме канкурэнтаў. Аднак, каб зусім бяз ботаў!..

Магчыма, што яшчэ адным з доказаў, што прафэсыя лекарская не зьяўляецца выключна рамяслом, што лекары, прадстаўнікі мэдыцыны — гэта ня толькі благія ці лепшыя рамесьнікі свае адумысловасьці, што яны маюць у сваёй працы яшчэ нешта, што называлі калісь *поклікам* амаль што ня боскім, гэным вось доказам і будзе факт, што якга лекары найлепш разумеюць і актыўна працуюць над тым, што завецца *псыхічнаю* гыгіенаю. На'т можна было-б казаць, што гэная дзялянка мэдыцыны будзе калі і наймаладзейшым дзіцянём, дык затое найбольш улюбленым.

Што-ж гэта такое гыгіена? Гэта практычнае датарнаваньне веды лекарскае да паясьненьня ўмоваў, у якіх чалавек жыве, ды адначасна гэта навука аб тым, як найлепш выкарыстаць гэныя ўмовы ў імкненьні да таго, каб чалавеку было якнайлепш. Мэтаю-ж гыгіены псыхічнае, як паказывае сам назоў, гэта імкненьне да поўнага здароўя псыхічнага чалавека, адначасна-ж гэта навука, паказываючая і абасноўваючая правіла добрага, здаровага жыцьця, цікаючы аб той вельмі складанай суцэльнасьці, якую завём душою, псыхікаю.

Паміж рознаякімі сказамі нейкіх вядомых ці зусім прапаўшых дзеля памяці нашае людзей ёсьць сказ, аб якім варта было-б часьцей думаць... „я ведаю адно толькі, што нічога ня ведаю“. Сказ гэны не гаворыць аб скрыпучай старасьці, аб зьняверыньні да ўсяго, што жывое, яркае. Наадварот, я сказаў-бы, гэта толькі паказальнік крытычных, зважных адносінаў да току жыцьцёвага. Такі сказ характэрны для сьпелага мужчыны, а не для палкага юнака. Мэдыцына — навука з галіны прыродаведы, яна вучыць крытычнага падыходу да зьявішчаў жыцьцёвых.

Ня гледзячы на нячуванае разьвіцьцё гэнае навукі, ня гледзячы на пазорныя магчымасьці, якія адчыняюцца перад ею ў будучыне, трэба прызнацца, што ўчора і сяньня жыцьцё чалавека мела, мае і меціме шмат чаго незразумелага, магчыма на наш пагляд на'т супярэчнага. На жаль, сяньняшняя мэдыцына ня ўмее лекаваць шмат якіх нядужасьцяў чалавека. Людзі не паддаюцца аднак зьнеахвочваньню, шукаюць нейкага выхаду. Гэная вось свомасьць чалавека і дала нам гыгіену ды адначасна і профіляктыку. Заклік „не дапусьціць да хваробы" сяньня вельмі папулярны ў мэдыцыне і ён найбольш мэтазгодны і зразумелы. Сяньня можна зусім пэўна сказаць, што чым вышэй гыгіена ў нейкім грамадзтве, дык тым вышэйшая там культура. Высокі ровень гыгіены — гэта ня толькі жарало здароўя, гэта прымета сьпеласьці асяродзішча.

Гыгіена займаецца рознымі старонамі жыцьця. Дзеля таго, кажам аб гыгіене вёскі, вялікіх гарадоў, аб гыгіене ротавае паражні, гаворым аб гыгіене школы, гыгіене хатняй, гаворым таксама аб гыгіене *псыхічнай*. Паасобныя галіны гыгіены займаюцца датарнаваньнем практычным правілаў гыгіены да канкрэтных умоваў жыцьцёвых адзінкі або нейкае суцэльнасьці людзей.

Зьмест пайма гыгіены ротавае паражні зразумелы. Цікуецца тутака аб тым, што рабіць і чаго не рабіць, каб не хварэлі зубы. Гыгіена псыхічная шмат менш папулярная, яе людзі наймеш разумеюць, ня ўмеюць ацаніць, як сьлед, таго значэньня нашага паступаньня ў сфэры псыхічнай. У зьявішчах фізычных лягчэй наглядаць залежнасьць паміж двума зьявішчамі. Тутака вельмі часта безпасярэдна прыходзіць быццам біолёгічная кара за грэх проці загадаў натуры, усёроўна, ці мы ведаем ці не гэныя законы натуры. Нехта нічога ня чуўшы аб гыгіене вельмі добра зьдзейсьняе ейныя вымогі ў штодзенным сваім жыцьці. Возьмем вопратку. Ніхто ня пойдзе бяз вопраткі ў халоднае надвор'е, інакш апранецца на дождж, інакш на мароз. Калі-б ня быў згодны з гыгіенаю, скажам вопраткі, адчуе на сабе шкодныя сьледамкі — прастудзіцца, змокне, балеціме ў яго галава і г. д. Падчас дык у вельмі жорсткай форме прыходзіць практыка. Прыкладам, тыфус брушны ці сыпны сустракаюць таго, хто ня ведаў ці забыўся аб бактэрыях, хто ня хоча глядзець за чысьцінёю цела і дапускае да вошаў, плюскваў.

Ня бачым затое стульнага і безпасярэдняга злучва паміж „грахом" і „караю" ў плошчы псыхікі, а кара тутака ня меншая, чымся нядужасьці цялесныя, што будуць сьледамкамі нястачы гыгіены ягульнае. Праступкі проці гыгіены псыхічнае вядуць наяўхільна вельмі часта да зацяжных хваробаў нэурозных, ды бывае і да нядужасьцяў псыхічных, нечага найбольш страшнога, што можа насустрэць чалавека.

Вока нашае прывыкла часта бачыць, што нехта быццам сьвядома лезе бядзе ў вочы, знарок не спаўняючы вымогаў гыгіены, а здароўе ягонае лепшае, чымся разважных і асьцярожных людзей. Блага аднак рабіў-бы нехта, калі-б хацеў знайсьці тутака аргумэнт проці гыгіены. Паказывае гэта толькі адно на вялізарныя сілы арганізму. І якга найбольш такіх памылковых прысудаў наглядаем у плошчы жыцьця псыхічнага. Амаль што немагчыма бывае паясьніць, што няшчасьце ўсяго жыцьця, нездаволеньне, варожасьць да сябе і людзей, — усё гэта сьледамкі не такое, як трэба, гаспадаркі ў далікатнай і заблытанай галіне псыхічных праяваў.

## II

Ня цікую аб тым, каб даць агульны рэцэпт на „шчасьлівае" бясклопатнае жыцьцё, бяззакіднае са стараны вымогаў гыгіены псыхічнае. Хацеў-бы толькі прадставіць тыя аснаўныя лініі жыцьця псыхікі і чаму, дзякуючы нястачам на гэным фронце, можам лучыць у дысонанс натуральнае гармоніі току жыцьцёвага, свомага пачуваньню здароўя.

Нажаль хочучы гаварыць аб нейкім ідэале, трэба пачынаць з таго, што сапраўднасьць вельмі сумная і надта далёкая ад ідэалу. Што яшчэ горш—недахопы не заўсёды з нашае прычыны ды на'т магчымасьць іх выкінуць не на нашыя сілы. Гэта мяне ані крышку ня спыняе. Даўно тая эпоха за намі, калі грамадзка „нячыстым" рахавалі чалавека, паказываючага хараство бяз сродкаў на тое, каб кожны глядач мог прыбліізіцца да яго і надыхацца ім ці наглядзецца.

Дык скажам ужо адно, што грамадзянства агулам мала ведае аб законах гыгіены псыхічнае—найчасьцей не ягоная ў гэтым віна. Крыніцы такое ці іншае рэчаістасьці хаваюцца ў грамадзкім ладзе, у прыналежнасьці да тае ці іншае клясы грамадзкае, гэта адначасна рэзультат канкрэтнай школы, у якой моладзь не пачула аб гэтым і г. д. Яшчэ горш, што калі і ведаем аб шкоднасьці некаторых зьявішчаў і сытуацыяў, дык прычыны і жаролы іх—незалежныя ад нашае волі. Грамадзкія ўмовы прынукаюць жыць часта так і ня йнакш, хаця проці гэтага бунтуецца розум і пачуцьцё. Нашае імкненьне ў кірунку перамены данага скажам ладу можа выклікаць раструскі ў жыцьці прафэсыянальным, таварыскім, хатнім і г. д. Бязумоўна, факты падчоркнутыя толькі што вельмі сумныя, паказываюць яны на тое, што толькі найбольш шырокая сьвядомасьць і сьвядомае імкненьне найбольш шырокіх сфэраў зчасам прывядзе да ліквідацыі супярэчнасьцяў, найчасьцей ясна толькі спадумных а не сапраўдных, якія ёсьць быццам паміж сапраўднасьцю ды ідэалам. Прыпомню тутака на адзін факт, даволі блізкі да зьместу нашых разважаньняў, а мяноўна — імкненьне працоўных масаў да васьмі гадзіннага рабочага дня працы. Дамаганьне вельмі правільнае, ды здаецца кожны чалавек павінен яго прыняць бяз нічога. Ня трэба забывацца, што была заміна ўсётакі і то не абыякая — кляса капіталістых ды іхнія інтарэсы. Залежнасьць

эканамічная работніцтва ад фабрыкантаў доўга адкладала зьдзейсьненьне гэнага дамаганьня. Не асталося яно ўсётакі лятуценьнем і прыждаўшы часіну, калі ўся маса працоўная пачала разумець сваё абсалютнае тутака права, дык аканчальна работніцтва дастала тое, чаго дамагалася.

У плошчы гыгіены псыхічнае трэба перамагчы ня толькі заміны вонкавыя, трэба паладзіць і з тым, што замінае нам самым ад нашага характару, прывычак, забабонаў, гэных апошніх апранутых у вопратку „загадаў", звычаяў таварыскіх, клясавых і г. д. Чад ці густая імгла абтуляе нас стульна і слова праўды, ды пачуцьцё здаровага мужыцкага розуму ня можа дабіцца да нашае сьвядомасьці. Дык як заўсёды кожную рэформу трэба пачынаць ад самога сябе і найбліжэйшага асяродзішча.

Вышэй гаворачы аб зьмесьце пайма гыгіены казаў я, што гэта навука ды адначасна практыка здароўя псыхічнага. Зусім на месцы будзе пытаньне: а што гэта такое здароўе псыхічнае, якія свомасьці чалавека здаровага?! Ці не хаваецца за гэнаю мянюшкаю нейкая штучка, якою можна забаўляцца, зьмест якое лішне малы, каб сур'ёзна чалавек мог захапіцца гэнаю ідэяю? Адказ навукова абаснаваны на пытаньне, што такое здароўе,— даволі складаны. Карыстаемся тутака агаворкаю папулярнаю, што здароўе там — дзе няма хваробы, і наадварот—хворым будзе той, хто нездаровы. Гэта не замінае нам, каб мы не разьбіраліся добра, аб чым мяркуем у адным пайме і другім. Прыродная лёгіка і розум ясна бачаць, ня ўмеючы ўсяго добра пераказаць словам. Здароўем завём тое, што не адыходзіць ад сярэдняе нормы. У гэнай галіне, як у шмат іншых, карыстаемся мэтодаю параўнавальнаю, так як у адносінах да хараства і г. д. Дык можна было-б запытацца, ці дапушчальна гаварыць аб здаровым псыхічна і яшчэ здаравейшым? І хаця на першы пагляд сядзіць тутака нейдзе парадокс, аднак калі толькі спамянем, што з паймом нормы стульна злучана паймо ці пачуцьцё таго, што філёзофы называюць дабром, калі зноў далей уявім, што чалавек жыве па тое, каб пражыць пэўную суму шчасьця, дык тады лягчэй паясьніць сабе, што нехта здаровы — значыцца ня чуе ў сабе націску ад'емных старон жыцьця, дык той самы чалавек яшчэ больш інтэнсыўна можа адчуваць хараство і дабро, можа быць больш шчасьлівым, а гэта ён зьдзейсьняе рэалізуючы вымогі гыгіены псыхічнае, адкідаючы ўсё, што замінае на гэным шляху ды адначасна павялічваючы ўсе скарбы, з якіх складаецца сапраўдны зьмест жыцьця. Бачым тады, што імкненьне гыгіены стульна спалучана з разьвіцьцём і паймом культуры духовае.

III

Бязумоўна, гыгіены псыхічнае немагчыма аддзяліць ад жыцьця цялеснага і ўсіх ягоных патрэбаў. Беспахібнае дзеяньне ўсіх органаў чалавека зьяўляецца фундамэнтам, крыніцаю гармоній-



нага разьвіцьця функцыяў псыхічных. Аднак здаволеньне гэных патрэбаў яшчэ ня будзе ўсім, чаго дамагаецца псыхічная гыгіена.

Жыцьцё адзінкі, жыцьцё вялікіх грамадаў чалавецкіх прадстаўляе адну працяжную лінію. Ніколі ня будзе так, што да сяньня скажам нехта жыве так, а ад заўтра кажа, што ён будзе жыць пановаму. Дзеля гэтага, пры мяркаваньнях гыгіены псыхічнае трэба нам зьвярнуцца да таго месца, дзе пачынаецца жыцьцё. Гыгіену псыхічную рэалізуем амаль што не са дня нараджэньня дзіцяці. Залежна ад веку, залежна ад сытуацыі агульнае, залежна ад плоці, ад прафэсыі вымогі са стараны гыгіены будуць іншыя, аснова заўсёды тая самая. Тая аснова, прынцып, зьмяшчаецца ў загадзе прыдбаць найбольшую колькасьць пазытыўных цэннасьцяў, адкідаць ад'емныя, значыцца прыдбаць шчасьця і сустрэнуць на сваём шляху найменш благога.

Загады гыгіены псыхічнае ў дзіцячым веку будуць аднолькавыя з вымогамі *ўзгадаваньня.* Усе дзейнікі, з якімі сустракаецца дзіцянё, пакідаюць на ём сьляды і яны даюць тую форму, паводле якое мы аканчальна ацэніваем чалавека. Шмат чаго найлепшае ўзгадаваньне ня зробіць. Малая адзінка зьяўляецца на сьвет з прыроджанымі свомасьцямі, якія мы завём канстытуцыяю цялеснаю і псыхічнаю. Нічога ня можам зрабіць на вонкавыя ўмовы геаграфічныя, кліматычныя, незалежныя ад нас умовы асяродзішча, умовы культуры агульнае. Дык калі шмат якія мамэнты ў будучага чалавека незалежныя ад сьвядомага дзеяньня ўзгадаваўцы, дык ня можам прайсьці моўчкі ў тых дзялянках, у якіх усё залежыць ад пакладзенае натугі бацькоў і ўзгадаваўцаў. Калі, скажам, дзіця пралетара і дзіця бацькоў клясы замožнае самым фактам прыналежнасьці да розных клясаў грамадзкіх маюць шмат свомасьцяў у пазьнейшым сваім жыцьці далёкіх ад сябе. Усётакі заўсёды можна знайсьці такую лінію, якая палягчыць у будучыне жыцьцё адзінцы.

Пуцяводнаю зоркаю хай будзе лёзунг: „не пашкодзіць нашым узгадаваньнем дзецям". Як ужо была вышэй гутарка, усё жывое імкнецца да пэўнае сумы шчасьця. Пры ўмовах грамадзкага жыцьця собскае імкненьне да шчасьця ня можа замінаць такому імкненьню другога чалавека, ці ўсіх людзей, як цэласьці. Дык трэба вучыць змалку, сапраўды ад першых дзён жыцьця, каб умець зрачыся дабра-шчасьця собскага, рэалізаванага на найкарацейшым шляху, калі гэта асабліва спалучана із шкодаю іншых. Агулам, не дацэніваецца, як сьлед, усё значэньне гэнае вымогі. Ня дарма Хрыстос абвесьціў жыдам а затым і пазьнейшаму культурнаму чалавецтву, як загад Бога: „любі бліжняга свайго, як сябе самога". Гэта аснаўны закон і загад натуры і з ім ня можа разьмінуцца ніводзін акт арганізаванага грамадзянства, гэта жарало ладу, а нэгатыўна — жарало ўсякае крыўды іншага чалавека. Трэба нам уявіць, што ані багацьце, ані становішча не дае нам таго шчасьця, да якога ўсе мы імкнёмся. Вузкі эгоізм пхае нас да рэалізацыі шчасьця, ня гледзячы на ўсё і на

ўсіх. Дык трэба змагацца з дзіцячым эгоізмам ад першых дзён, ці калі гэны эгоізм праяўляецца ў нахіле дзіцяці ўзяць матку выключна для сябе, ці калі яно хапае для сябе ўсё, на што глянуць ягоныя вочы. Колькі мы маглі-б выкінуць шурпатасьцяў у характары адзінкі, як мы маглі-б аблягчыць ёй шлях у будучым жыцьці, калі-б узгадаваньнем выкаранілі проціграмадзкія нахілы.

Хаця галіна сэксуальнага жыцьця належыць да асобнага аддзелу гыгіены сэксуальнае, аднак зьвярну і тутака ўвагу, што нельга прайсьці моўчкі і над гэным зьявішчам у дзяцей. Умела правясьці малога чалавека скрозь гэнае складанае пытаньне — адна з аснаўных вымогаў гыгіены псыхічнае. Справа ў тым, каб ніводнае із зьявішчаў, на якое глядзіць вока дзіцяці, ня было жаралом канфліктаў, калі ня зараз, дык у пазьнейшым веку

Вядома, што дзеці неаднолькавыя. Кожнае прынясло з сабою суму нахілаў, свомасьцяў па доўгай лініі прадзедаў. Можна было-б падзяліць дзяцей збольшага на два тыпы—дзяцей вясёлых, жывых, якія лёгка ўмеюць знайсьці кантакт з асяродзішчам, з нахілам да правадырства. Такія дзеці лягчэйшыя да ўзгадаваньня. Маглі-б мы сказаць аб іх, што гэта кандыдаты на шчасьлівых. Інакш з другім тыпам дзяцей, з тымі, што маюць нахіл зачыняцца ў сабе, якія ня выказываюць усяго, што ў іх на душы. Гэныя вось, маўляў тыя далікатныя краскі, патрабуюць асабліваe зважнасьці ў адносінах да сябе. Трэба глядзець, каб іх не напалохаць, каб ня выклікаць настрою, што яны горшыя за іншых, што яны менш вартасныя. Ёсьць цэлая вялікая школа псыхолёгічная, паводле якое большая частка хворых праяваў у жыцьці дарослае адзінкі залежыць ад няўмелага ўзгадаваньня. Няўмелае ўзгадаваньне, адчасьці на асноведзі прыроднага нахілу, пакінула пачуцьцё собскае ніжэйшасьці. Гэнае пачуцьцё замінае ў нармальным разьвіцьці адзінкі, пакідае па сабе настрой, што вядзе да канфліктаў з асяродзішчам.

Змаганьне з эгоізмам дзіцячым не азначае і не пахваляе суровасьці, наадварот — патрэба найбольш далікатнасьці, мяккасьці, толькі роўнае, станоўкае. З гадамі ўзгадаваньне дзіцяці будзе што-раз больш складаным. Ніколі аднак не забывацца, што малое дзіця — гэта адзінка, і адносіны да яе хай будуць такія, як да кожнае дарослае асобы, з тою розьніцаю, што йнакш паясьняем сваё мы ў адносінах да іх становішча.

Школа накідае новыя праблемы ў датарнаваньні вымогаў псыхічнае гыгіены. Зьяўляецца тутака новы дзейнік працы, якая раней была хутчэй гульнёю, а цяпер будзе стульна злучанаю з адзінкаю—сяброўкаю да апошніх ейных дзён. Бацькі ў першую чаргу пракладываюць шлях далейшых адносінаў да працы. Задачаю іх будзе навучыць дзіця, што праца — гэта ня толькі неабходнасьць, што гэта адначасна варунак да пачуцьця собскае самацэннасьці. Кожная праца падымае на вышэйшую ступень чалавека. Праца — адзін з найлепшых лекаў на шмат якія няду-



жасьці, яна прыпынішчам ад суму, зьнеахвочаньня. Адно толькі, трэба, каб праца ня была прыметаю прыніжанасьці, каб яна была крыніцаю бадзёрасьці. У такіх адносінах да працы — жарало сапраўды дэмакратычнага ўзгадаваньня.

У школе іншыя мамэнты спагадаюць разьвіцьцю прынцыпу дэмакратызму. Дзіця мае прыродны нахіл шукаць прыязьні ў сяброў, незалежна ад іхняга роду, знатнасьці бацькоў і г. д. Ня трэба толькі спыняць і замінаць у гэным кірунку. Школа адначасна будзе паказальнікам мэтазгоднасьці нашых мяркаваньняў узгадаваўчых. Бачым, ці дзіця ідзе ахвотна да школы і адначасна вяртаецца радасна да хаты. Наглядаем, ці вочы ягоныя штораз шырэй адчыняюцца пазіраючы на сьвет, на ўсе праявы жыцьця, і падтрымліваем яго, калі бачым, што добра, ці зноў наадварот — папраўляем, памагаем ісьці далей. У школе дзіця больш ярка, чымся дагэтуль, бачыць іншы сьвет, бачыць ягоную складанасьць, вучыцца мець гатовыя формы рэакцыі на ўсе вонкавыя зьявішчы.

Вельмі важную і небясьпечную пару дасьпяваньня мінаюць дзеці, узгадаваньне якіх ішло беспамыльнаю дарогаю, бяз ніякіх асаблівых раструсак, і вось бачым перад сабою ўжо амаль не гатовага зусім чалавека, які кончыўшы навукі школьныя бярэцца да практычнага жыцьця ў нейкай прафэсыі. Выбар прафэсыі з гледзішча гыгіены псыхічнае бязумоўна вельмі важная праблема. Трэба помніць, што дзіця добра ўзгадаванае, дзіця непапсаванае, якое не аглядаецца на карысьць будучае свае працы, дзіця шчырае да свайго асяродзішча, выбярэ дарогу найбліжэйшую сваім нахілам. Гэная-ж дарога будзе адначасна найбольш карыснаю і грамадзянству, сябром якога зьяўляецца новы чалавек.

Ніколі нельга накідываць, што бацьком, апякуном здаецца найбольш карысным і важным. Бязумоўна, трэба праявіць сваё зацікаўленьне, трэба памагчы шукаць найлепшага шляху, толькі ня трэба разумець, што можна накінуць сваю волю, свае пагляды пры выбары прафэсыі. І якга нашы ранейшыя суадносіны з дзяцьмі, давер, пашана і адначасна прасьціня адносінаў аблягчаць выбар і пастанова будзе зроблена. Найчасьцей само жыцьцё дае даволі абмяжаваныя формы дзеля выбару. Скажам, дзіця земляроба найчасьцей астанецца пры зямлі, сын фаховага чалавека астаецца найчасьцей пры прафэсыі бацькі. Умовы жыцьця вялікага места больш складаныя, аднак і там заўсёды трэба помніць на адно, што ўсюды чалавек можа быць шчасьлівым, а шчасьце ў першую чаргу ў працы, якую мы любім.

Кожная прафэсыя мае сваіх характэрных прадстаўнікоў. Вядомы, скажам, тып настаўніка, афіцэра, тып судзьдзі. Тое самае наглядаецца і паміж працаўнікамі фізычнымі. Адчасьці гэта сьледамкі працы, адчасьці нахіл да дадзенае прафэсыі, свомы і прыродны чалавеку. Датарнаваньне псыхотэхнікі сучаснае да промыслу, да выбару катэгорыі высокае асьветы і практыка,

якую сяньня маем з гэных досьледаў псыхотэхнікі, паказывае, што поклік собскі да нейкае прафэсыі, калі на абаснаваньне гэнага покліку ня дзеялі ніякія мамэнты, як скажам імкненьне зарабляць больш грошаў і г. д., што вось гэны поклік і спасьцярогі псыхотэхнічныя амаль не цалком пацьвярджаюцца.

Прафэсыянальная праца — тэрыторыя дзейнасьці іншае галіны гыгіены, мяноўна гыгіены прафэсыянальнае. Паасобныя галіны гыгіены стульна з сабою спалучаныя а гыгіена псыхічная быццам тая пуцяводная зорка, лінія генеральная. У паасобных мамэнтах, у канкрэтных умовах праяўляюцца канкрэтныя вымогі аднае галіны гыгіены. І бязумоўна, гыгіена псыхічная, ейныя патрэбы будуць здаволены, калі з гыгіенаю працы будзе ўсё ў парадку. Сяньня мы зьяўляемся жывымі сьведкамі вялізарных зрухаў, пераменаў у плошчы працы. Штораз расьце вялікшая спэцыялізацыя, быццам неабходнасьць эканамічная. Кажу „быццам“ дзеля таго, што ёсьць такія „ўтапістыя“ эканамісты, якія кажуць, што якга адзінаю магчымасьцю далейшага жыцьця нармальнага — гэта парваць з тым агульным тонам, накінутым нам капіталістычнаю формаю, з тым аснаўным тонам, дзе ўсё мераецца колькасьцю зыску. Адзіным выхадам кажуць гэныя ўтопістыя—гэта вярнуцца да больш простага жыцьця. Не вырашаючы аканчальна гэнага пытаньня, трэба сказаць што ёсьць бязумоўна ў сяньняшняй цывілізацыі процінатуральны нахіл да мэханізацыі чалавека. Усё менш і менш бачым і чуем чалавека за варштатам, за сталом. Нумар, колькасьць пазыцыяў засланяе нам зусім вобраз чалавека канкрэтнага.

Ці гэта неабходнасьць гістарычная? Магчыма. Дасюлешнія нашыя ведамасьці аб чалавеку, знаёмства ягонае душы, прымушаюць сумлявацца, каб гэная надыходзячая пара новая здаволіла самае важнае, натуральнае імкненьне адзінкі быць шчасьлівым. Вось у гэным месцы роля і значэньне гыгіены псыхічнае вырастаюць асабліва высока. Яна скажа свой рашучы голас, як наладзіць арганізацыю працы, каб яна не зрабілася працаю прыганятага ды нат' яшчэ горшаю. Прыганяты незалежна ад рэзультатаў працы бачыў на сабе і жыў інтэнсыўна тою роскашу, якая ляжыць у самым выконываньні працы, дзе можна знайсьці нейкую цэласьць. Нашая ці будучая цывілізацыя пагражае адабраць і гэную індывідуальную роскаш.

Магчыма, закіне нехта, што разважаньне гэтае памылковае дзякуючы індывідуалістычнай ахварбоўцы, што да працы трэба ўмець знайсьці падыход калектыўны, масавы. Магчыма, што яно так, я кажу толькі аб сяньняшняй рэчаіснасьці. Бязумоўна і тутака можна было-б аддзяліць жыцьцё прафэсыянальнае ад асабістага, зьдзейсьненьне такога падзелу пры нашых умовах эканамічных здаецца зусім немагчымае.

Цікавую спробу наладжаньня адносінаў у плошчы вымогаў гыгіены псыхічнае наглядаем у Саветах. Вельмі там папулярны



назоў *„дзейны адпачынак“*. Характар дзейнага адпачынку вельмі блізкі да таго, што Заходняя Эўропа ведае ўжо даўно і чым карыстаецца ў адносінах да адзінкі. У Саветах гэныя загады з габінэтаў лекарскіх пайшлі ў фабрыкі, вялікія сельскія гаспадаркі. У дзейным адпачынку бачым высокі культ працы і адначасна сьцьверджаньне, што ня толькі мучае сама праца, колькі характар гэнае працы, нашыя суб'ектыўныя да яе адносіны. Ведаем, што людзі ня то што месяцамі а ўсё жыцьцё працуюць бяз ніякага адпачынку, быццам ня ведаючы аб існаваньні 8-мі гадзіннага дня працы, і яны ня мелі ніколі магчымасьці спытацца сябе, ці мо' яны нешчасьлівыя. Ня пыталіся сябе з тае прычыны, што ім было зусім добра. Калі-б нехта хацеў разумець вялікую здабычу грамадзкую — 8-мі гадзінны дзень працы — ў тым сэнсе, што чалавек сапраўды нічога не рабіў-бы, апрача яды і сну ў гадзінах свайго адпачынку, дык гэта была-б памылка псыхолёгічная і памылка ў плошчы гыгіены псыхічнае.

Чалавек тымбольш шчасьлівы, чым шырэйшы кантакт ягоны з жыцьцём. Якая, прыкладам, розьніца паміж чалавекам культурным, інтэлігентным а бедным з аднае стараны, а багатым ды за тое бяз ніякае культуры. Багатыр ведае вартасьць грошаў вельмі аднабока, ня ўмее ён іх выкарыстаць на нішто іншае, як ежу, смашныя напіткі, скажам яшчэ на прыгожую вопратку і хатнюю абстаноўку. Самыя грошы не пашырылі ягонага кругавіду, ня збольшылі колькасьці і багацьця ягоных перажываньняў. Ніхто ня будзе спорыць, што грошы вельмі важны мамэнт пры сяньняшнім ладзе эканамічным, як спосаб пазнаёміцца з жыцьцём, ягонымі правамі, аднак яны не роўназначныя з пашырэньнем плошчы жыцьцёвае ўласьніка грошаў. Сьвет, жыцьцё растуць і пашыраюцца дзеля нас пастолькі, наскалькі зрабілі мы ўклад працы, каб бліжэй пазнаёміцца з ягонымі праявамі, зьместам вельмі рознаякім і багатым.

Дык вось дзейны адпачынак будзе рэалізацыяю такіх адносінаў да жыцьця. Адпачынак—гэта ня гультайскае нічоганяробленьне. Адпачынак у Саветах урэгуляваны, прысьвечаны ён на грамадзкую працу, на чытаньне кніжак, на ўзгадаваньне і разьвіцьцё мастацкіх нахілаў, на спорт, на таварыскае жыцьцё і г. д. Адно толькі нас „індывідуалістых“ магло-б палохаць, што там у Саветах на ўсім ёсьць штамп афіцыяльны, няма здаецца месца на пачын індывідуальны, пачын адзінкі. Гэты апошні мамэнт не аснаўны. Прынцып сам па сабе вельмі і магчыма нат' адзіна правільны.

Штодзенная праца, асабліва ў прафэсыях ня выклікаючых больш жывога зацікаўленьня (нажаль заўсёды будуць і такія прафэсыі) патрабуе адплаты. Сама грашовая ці іншая плата яшчэ замала, каб здаволіць усе цікаваньні працоўнае адзінкі. Бязумоўна, сказу гэнага ня трэба разумець такім спосабам, што кожная адзінка будзе актыўна займацца музыкаю, малярствам ці

іншаю праяваю і формаю мастацтва, ня кожны будзе належаць да хору, ці скакаць на некалькі мэтраў угару. Хачу сказаць толькі тое, што нельга абмяжавацца да вузенькае галіны зацікаўленьняў, інакш хутка пачнём душыцца.

## IV

Вышэйсказанае тарнавалася да паасобнага чалавека. Сяньня ня можам астаючыся ў гэнай плошчы пакінуць на старане праяваў жыцьця грамадзкага. Сяньня немагчыма аддзяліць чалавека ад улоньня грамады, у якой ён жыве. Дык гыгіена псыхічная ідзе за работнікам у фабрыку, за ўсімі працаўнікамі ў канторы, усякія іншыя публічныя ўстановы. У гэных масавых установах трэба ў першую чаргу наладзіць патрэбныя ўмовы гыгіенічныя. Нажаль трэба сказаць, што сапраўднасьць вельмі далёкая ад ідэалу. Ды што казаць аб нейкіх ідэалах, калі сяньня перажываем пару эканамічных непарадкаў, якую мы завем крызысам, а ў гэным крызысе вялізарныя арміі безработных стаяць і чакаюць працы абыякое, каб мець толькі кусок хлеба; ніхто з іх ня будзе дамагацца ніякае гыгіены, калі-б нат' і ведаў ды разумеў вымогі гыгіены псыхічнае. Ды нат' тыя, што маюць забясьпечаны кусок хлеба на сяньня і на заўтра,—ці яны сапраўды свабодныя ў сваіх дамаганьнях? Кожны з іх ведае, што заўтра можа яму не хапіць работы і ён апынецца ў радох безработных. Гэныя зьявішчы ды агулам атмосфэра сучаснае эпохі, эпохі, якая поўніцца лёзунгамі ненавісьці сацыяльнае, нацыянальнае, расавае, калі адзінка захопліваецца крыўдаю, няпраўдаю, дзеля таго, што ягоная група праводзіць гэныя крыўдныя, ненавісныя праўды. Уся нашая пара поўная захопленьня словам, адначасна пара бязверра ў слова, слова сяньня лішне часта робіцца знадворнаю вопраткаю, каб схаваць сапраўдны зьмест рэчаіснасьці. Людзі ня вераць у праўду, хараство. Дык ці ня будзе няпрыгожым жартам гаварыць аб гыгіене псыхічнай на такой беспатольнай асноведзі сучаснага дня?!

Ня зусім безнадзейная аднак нашая сапраўднасьць. Мо без агульнага пляну, несыстэматычна, аднак праводзяцца дамаганьні гыгіены, часта само жыцьцё ня гледзячы на ўсё вядзе да лепшых формаў. Бязумоўна, важнаю здабычаю будзе датарнаваньне псыхолёгіі практычнае да выбару прафэсіі, вялікаю здабычаю будуць амбуляторыі пераджанімскія, процігарэлачныя, амбуляторыі для псыхічна хворых. Здабычаю будзе імкненьне інфармаваць найбольш шырокія масы аб пытаньнях з агульнае сацыялёгіі, эканомікі, мэдыцыны, асабліва з галіны гыгіены агульнае і гыгіены псыхічнае. Адно толькі, што пакуль усімі гэнымі пытаньнямі будуць займацца адумыслоўцы, пакуль яны не зацікавяць шырокіх гушчаў насельніцтва, а ў першую чаргу інтэлігенцыі народнае, датуль гэта будуць дробныя спробы без ніякіх сьледамкаў па сабе больш вызначных.



Нашыя беларускія умовы мо' больш як у каго другога бязрадасныя. Гаварыць аб гыгіене псыхічнай нашаму селяніну, нашаму галоднаму інтэлігенту—гэта сапраўды няпрыстойны жарт — так сказаў-бы нехта. Яно аднак ня зусім так. Нікому ніколі не пашкодзіла, калі ён лепш пагляну ў на сваю сапраўдную праўду жыцьцёвую. Іншая справа, што нам вельмі цяжка пры нашых канкрэтных умовах рэалізаваць вымогі ...гыгіены псыхічнае. Вывад адзін толькі,—што трэба натугі, натугі вялікае, каб умовы перамяніць на лепшыя.

*Др. Ст. Грынкевіч*

---

# У дарозе

Спаткаў я вёску сумную,
знаёмую сваю.
Ці ёсьць тут шчасьце, думаю,
ці часта тут пяюць?...

Спаткаў яе я шэраю
васеньняю парой
і з жаласьцю бязьмернаю
прыстаў я пад гарой.

Калі к табе ня еду я,
калі я ня іду, —
ты сумная і бедная,
ўрасла у лебяду.

Хацеў-бы думкай сьмелаю
прыйсьці і паглядзець, —
ну ўся зямелька белая:
пазнаюць, хто ідзе.

А гэтак мне ня хочацца,
каб відзелі усе,—
цяжэй тады варочацца
па сьнегавой расе.

*Г. Новік.*

---

# Няведамы беларускі паэт

Чытаючы харошую кніжку Міхала Яніка *Гісторыя палякоў на Сыбіры* („*Dzieje Polaków na Syberji*". Kraków 1928), натрапіў на некалькі бачынаў, у якіх гаворыцца аб няведамым дасюль беларускім паэту *Францішку Савічу*. Ці аднак быў ён беларусам, у сяньняшнім значэньні гэтага слова? Думаю, што найменш такім, як Каліноўскі і Грыневіцкі, а мо' і большым. Заслужаны аўтар твораў аб сыбірскім краю, Агатон Гільлер, кажа, што палітычны выгнаньнік на Каўказе Францішак Савіч „складаў вершы ў беларускім языку" (Янік, 272). Галоўным жаралом да яго гісторыі ёсьць выдадзеная Э. Гэльленіям (Іваноўскім) зборная праца *Успаміны з мінулых гадоў* („*Wspomnienia lat ubiegłych*"), дзе ў томе II (бач. 187—239) надрукаваны *Мэмуар Савіча* („*Pamiętnik Sawicza*). Вось што аб гэтым кажа Янік:

„*Мэмуар Савіча*, брата орэнбурскага выгнаньніка Норбэрта, ёсьць з часоў Канарскага. Мала ў ім, праўда, аб Каўказе, больш аб справе Канарскага. Браты Савічы (Францішак і Норбэрт) нарадзіліся ў пінскім павеце. Бацька быў уніяцкім ксяндзом. Асірочанымі заняўся прэфэкт пінскай школы, ксёндз Францішак Махцінскі. Калі скончылі школу сярэднюю ў Пінску, апякун выслаў іх у мэдыцынскую Акадэмію ў Вільні".

„Калі ў гэтую-ж акадэмію ўступіў Францішак Савіч, будучая душа духа(!?) акадэміі і страх дэспатычных уладароў, — піша ў сваіх успамінах із студэнцкіх гадоў *Дух віленскай акадэміі* („Duch akademii wileńskiej) др. Мацей Лавіцкі — стаўся для моладзі другім Занам. Здружыўся з Янам Загорскім, Казімірам Рапчынскім і Мацеям Лавіцкім, каторага калегі прызывалі Лук'янам, разам зарганізавалі тайнае таварыства, падзеленае на дзесяткі, і пачалі ажыўленую дзейнасьць. Аддзейвала на іх Дэмократычнае Таварыства, разважалі падаваныя гэтым таварыствам праблемы... Разглядалі цяпер справу вольнасьці і роўнасьці, скланяючыся да радыкальнай разьвязкі... „Выяжджаючы на канікулы, некалькі ўжо мела намер *дзеяць на сялян* (падч. наша) і на што пападзе, бо чулі аб ахвярнасьці многіх разважных людзей, *што запісываліся да сялянства* (падч. наша), каб пад прыкрыўкай сярмягі лягчэй было пашыраць збаўленныя хрысьціянскія мыслі эўрапэйскіх народаў..."

„Хаўтуры „белага голуба" Язэпа Сьнядэцкага*) далі Вільні і моладзі аказію да маніфэстацыі (у сьв. Яна). Кс. Людвік Трынкоўскі**) сказаў палкую прамову. На хаўтурах быў Канарскі, аб чым ведаў Савіч. Расхваляваная энтуз'язмам моладзь пастанавіла пачаць прапаганду сярод рамесьнікаў. Рапчынскі, Загорскі і Кракавянін (sic!) Александар Грыцыкевіч (хіба Украінец?) мелі намер залажыць між імі таварыства ў духу гмінаўладзтва(!). Спаткаліся з надзвычайным прыняцьцем, бо гэтыя „хлопцы, на крыльлях свабоднага духа ў настрою ўдзячнасьці і брацкай пашаны пабеглі да Рапчынскага... із словамі радасьці і шчасьця цалавалі яму рукі і твар..." Праз прадстаўнікоў, моладзь увайшла так-жа ў сутычнасьць з існуючым у Вільні грамадзянскім Палітычным Таварыствам, да якога належаў кс. Трынкоўскі, і якое ўтрымлівала зносіны з Канарскім.

„Аж раптам зваліўся гром. Віленскія таварыствы, згуртаваўшыся пры прапагандзе Канарскага, ня трымаліся патрэбнай асьцярожнасьці, мелі зашмат утаемнічаных. Калі расейскі ўрад выкрыў змову, Савіч (Францішак) апынуўся з іншымі ў вастрозе. Трубецкі (садыст, княжацкай крыві царскі сатрап) мучыў яго голадам, кіямі і бязсоннасьцю. Раз, калі спаў, ударыў яго па твары, а тады Савіч нібы заспаны так яму дакладна аддаў, што князь пакаціўся ў кут. Дзеля гэтага яшчэ больш жорстка зьдзекаваўся над няшчасным, мучыў яго праз цэлыя месяцы голадам, і ў розным часе прыказаў даць яму разам дванаццаць тысяч кіёў. Міма гэтага Савіч вытрывала маўчаў. Тады прывязьлі з Варшавы Антона Малэцкага, каторы ўсё выказаў. Зараз-жа быў прыгавар. Францішак Савіч прыгавораны ў салдаты на Каўказ. Выязджаючаму шляхотная патрыётка „сястра Ганна" ўручыла клумак з рэчамі, бялізнай і грашмі. Разам з ім ехалі: Ян Загорскі і Ян Мілескі.

„У дарозе захварэў на жаўтачку. Затрыманы ў нейкім шпіталі, здрушыўся з Пэрсам Алім, каторы яму даў пісьмо да прыяцеля ў Тыфлісе, каб з яго мог скарыстаць, калі будзе патрэба. Як паправіўся, празначылі яго ў войска ў Кізляр. Адтуль уцёк у 1842 г. і падчас многіх прыгодаў, у якіх пісьмо Аляга сталася вельмі прыдатным, дастаўся шчасьліва ў родную старонку. Тут прабываў у Бярдычаўшчыне пад прозьвішчам Гэльляга. — Гільлер кажа, што зваўся Элігім, — займаўся фэльчэрствам, быў дабрадзеям народу і — як сказана вышэй — складаў у беларускім языку вершы. Гэльлені піша, што Савіч прад сьмерцяй выявіў паэту Александру Грозе сваё прозьвішча.

„Францішак Савіч быў гарачым спагаднікам вясковага народу. Гэтае пачуцьцё атрымаў у бацькаўскай хаце, а ўзмоцніў яго падчас студэнцкіх студыяў, пад уплывам лектуры і прапаганды Канарскага. Прычыну заняпаду і падзелу Польшчы бачыў у крыўдзе, спрычыненай сялянству. У змове Канарскага цаніў *наўперад імкненьне да паправы крыўды і скасаваньня паншчыны*" (падч. наша, 270—272).

Агулам Беларусы сярод палітычных выгнаньнікаў (па 1830 і 1863) былі заўсёды і ўсюды. Аб Сыбіры Янік кажа: „У масе ахвяраў за справу вольнасьці Польшчы знайшлося так-жа *даволі многа прадстаўнікоў беларускага насельніцтва...,* што астанецца па гэтым пэрыядзе прыгожым і навучальнымназаўсёды ўспамінам" (280).

---

*) Сын ведамага мэдыка і хіміка праф. Андрэя Сьнядэцкага; быў пазьней маршалкам шляхты.

**) Дохтар сьв. тэолёгіі і віленскі канонік, знамяніты віленскі красамоўца. Умешаны ў справу Канарскага, памёр выгнаньнікам на Сыбіры.

Вясной 1864 г. сядзеля ў вастрожнай цэлі бэрнардынскага кляштару ў Беларускім Менску „Каміля Марцінкевічанка, дачка аўтара *Гапона* і перакладчыка на беларускі язык *Пана Тадэўша*, якая, выгнаная ў Солікамск, выйшла там замуж за д-ра Казімера Асіповіча і вярнулася на бацькаўшчыну ў 1880 г.“ (бач. 370).

Гаворачы аб гэтых выгнаньніках варта таксама ўспомніць аб гэтак бліскім Беларусам імяні Яна Чэчата, каторы, па прыгавары на філяматаў, 10(22) кастрычніка 1824 г. быў з Вільні вывезены на далёкі ўсход, у падуральскую Уфу. Было тактыкай Чэчата ўтрымліваць з расейцамі толькі канечныя адносіны (103),— насупроць іншых выгнаньнікаў, як напр. Тамаша Зана, каторы іх ня чураўся і пазваляў сабе ўсюды і заўсёды выказываць голасна ўлюбленыя ў душы праўды. У Уфе Чэчат вучыў задарма пісаньня, чытаньня і арытмэтыкі дзяцей губэрнатара, рэшту часу аддаючы далейшаму ўласнаму навучаньню. Вярнуўся на бацькаўшчыну першы, ужо ў 1837 г. (там-жа).

„Розныя адносіны Зана і Чэчата да расейскага таварыства прыняў пад увагу Міцкевіч. У пісьме з 1827 г., пісаным да абоіх прыяцеляў, жартуе: „...Мой Янка!.. (да Чэчата). Не падобны-ж да сталавіцкіх хлапцоў, што б'ючы кожнага жыда хацелі памсьціць за ўкрыжаванага Хрыста?... Каб Табе яшчэ зацытаваў біблію, скажу Табе шчыра, што, калі галодны, ня толькі гатоў есьці трэфны бэфштык Моабітаў, але нават мяса з аўтара Дагона і Бааля, — і дзеля гэтага, як быў, буду добры хрысьціянін“... Здаецца, што гэтае пісьмо зьмяніла паступаньне Чэчата, у кожным выпадку так можна думаць на падставе пісьма Зана да Малеўскага, у якім гаворыцца: „Ведаю із стараны, што (Чэчат) здароў; сталовы начальнік(!), добра і весела(!) жыве, а некалькі нейкіх прыбыўшых з Уфы хвалілася ягоным дружствам(!)...“ (там-жа).

Так жылі на выгнаньні беларускія песьняры, — моцныя духам, няўступчывыя перад расейскім урадам і заўсёды верныя сваей Бацькаўшчыне.

*Цыпрыян Красоўскі*



# На шляху творства беларускіх культурных цэннасьцяў

Адраджэньне народу вымагае дзьвюх рэчаў.

Перад усім — прабуджэньня сьвядомасьці ў масах і цьвёрдае волі гэтых масаў жыць самастойным нацыянальным жыцьцём.

Але гэта — толькі адзін бок мэдалю. Ня менш важна тое, каб народ — праз сваю нацыянальна-сьведамую інтэлігенцыю, неразрыўнымі вязямі злучаную з масамі, — тварыў новыя культурныя цэннасьці, падыймаючы ўсё вышэй культурны ровень свайго грамадзянства і адначасна ўзбагачываючы сусьветную культурную скарбніцу.

Збуджаная нацыянальна маса фізычнай сілай можа здабыць сабе права на жыцьцё. Але захаваць гэтае права, здабыць сусьветнае прызнаньне і гэтым зябясьпечыць сабе нацыянальную будучыню можа толькі творчая праца нацыянальнае інтэлігенцыі.

Калі пачынаўся беларускі адраджэнскі рух, дык павадыром яго лёгка было дагледзіць актывізацыю масаў, якія будзіліся зосну ў сувязі з тымі масавымі народнымі рухамі, што ахапілі ўвесь бязьмежны прастор Расейскае Імпэрыі на самым пачатку нашага стагодзьдзя. Праўда, гэны рух меў характар палітычна-соцыяльны. Але ў сувязі з ім у беларускіх масах будзілася пачуцьцё *чалавечае годнасьці*. Масы беларускія захацелі — паводле ўдалага выражэньня Купалы — „людзьмі звацца“. А разам з пачуцьцём чалавечае годнасьці мусіла збудзіцца і пачуцьцё *нацыянальнае годнасьці, нацыянальнае самапашаны:* бо-ж беларускія масы ад вякоў захоўвалі непарушна сваю мову, свае песьні, свае звычаі, — сваю нацыянальную душу. На ўсё гэта „моцныя гэтага сьвету“ глядзелі з пагардаю. Але ў душу беларускага селяніна не залазілі. Народ шанаваў сваё роднае ў сілу нясьведамае традыцыі. Калі-ж збудзілася людзкая і нацыянальная сьведамасьць, беларускі адраджэнскі рух глыбака пранік у масы і павёў іх на новыя шляхі.

Адна частка заданьня беларускіх адраджэнцаў была выпаўнена даволі лёгка. Другая здавалася труднейшай. А сьведамасьць гэтае труднасьці шмат каго паўстрымлівала ад чыннае працы дзеля беларускага адраджэньня. Людзі проста на верылі ў магчымасьць творчае культурнае працы ў беларускай мове і ў беларускім духу.

Але тыя, што паверылі і пайшлі па беларускім адраджэнскім шляху да канца, правільна паказвалі на тое, што беларуская інтэлігенцыя, здольная да тварэньня нацыянальных культурных цэннасьцяў, існуе, толькі-ж яна расьцярушана сярод чужых грамадзянстваў. Бо-ж з беларускага нацыянальнага караня выраслі такія волаты мысьлі і слова, як Адам Міцкевіч і Дастаеўскі, як слаўныя музыкі-кампазытары Манюшка і Глінка, як чысьленыя прафэсары і навуковыя працаўнікі, узбагачываўшыя пе-

раважна расейскую навуку, хоць з паходжаньня, а часта і сьведама былі беларусамі (прэзыдэнт пецярбурскае акадэміі навук Карскі, прафэсар Даўнар-Запольскі і г. д.). Усе гэтыя творцы *чужое* нам культуры, ясна-ж, паказвалі на тое, якая вялізарная творчая сіла крыецца ў спарадзіўшым іх беларускім народзе, каторы надзяліў іх іхнімі здольнасьцямі. Дык чаму-ж тыя новыя культурныя працаўнікі, якія, выходзячы, як і гэныя, з беларускае гушчы, толькі-ж ня губляючы ні сувязі з сваім народам, ні роднае мовы, — чаму-ж яны ня здолеюць творы сваей мысьлі, свайго генія апранаць у родную беларускую вопратку?

Вера павадыроў беларускага адраджэньня ў поўнай меры апраўдалася ў блізкай ужо будучыні. Першыя даказалі, што народ наш здольны да тварэньня новых скарбаў культуры, роўнацэнных з культурнымі скарбамі другіх народаў, *беларускія паэты.* На грунце народнае паэзіі вырасла новая — індывідуальная паэзія, якая стаіць ня ніжэй за паэзію перадавых культурных народаў сьвету. Імёны Коласа, Купалы, Багдановіча і іншых — ведамы па ўсей Эўропе. Калі ў 1935 годзе ў Парыжу адбываўся міжнародны кангрэс пісьменьнікаў і літаратараў у абароне міру і культуры, дык сабраныя там найвыдатнейшыя прадстаўнікі францускае, нямецкае, англійскае і іншых эўрапэйскіх літаратур найбольш горача віталі выступленьне беларускага паэта Коласа, які запраўды даў сьвету новыя вартасьці. За Коласам і Купалай у працягу трыццацёх гадоў нарасталі новыя беларускія песьняры — гэткі чысьлены на Ўсходзе „маладняк“. Але і Захад, ня гледзячы на цяжкія варункі тутэйшага жыцьця, не адстае ад Усходу. На нашых вачох і тут нарасьлі новыя паэтыцкія сілы—Натальля Арсеньнева, Міхась Машара, Васілёк і інш. а цяпер раптам буйным цьветам расьцьвіла творчасьць Максіма Танка, якая ня толькі зразу-ж зраўнялася з творчасьцяй карыфэяў беларускае паэзіі, але й павінна перарасьці яе.

За паэзіяй ідзе беларуская музыка — беларуская песьня. Аб нязвычайным багацьці беларускае народнае песьні ведама ўсім. Гэтае багацьце стараліся паказаць сьвету арганізатары беларускіх хораў, беларускіх канцэртаў і музыкальных вечароў. З яго пазычалі матывы да сваей арыгінальнай творчасьці чысьленыя кампазытары нашага Краю — і свае, і чужыя: Карловіч, Рагоўскі, Казура, а ў найнавейшыя часы — Грэчанінаў, Аладаў, Галкоўскі і г. д. Урэшце прыждалі мы выступленьня на міжнароднай арэне мастакоў-пяюнеў, якія, маючы цудоўны голас і артыстычную душу, найлепш выявілі хараство народнае песьні, мастацкім выпаўненьнем падымаючы яе на недасяжны дагэтуль ровень. Першае і найвыдатнейшае імя ў гэтай галіне — гэта імя Міхала Забэйды-Суміцкага, шырака ведамага і сярод беларусаў, і ўва ўсей Польшчы, і ў Заходняй Эўропе.

Не адстае і беларускі тэатр, а пры ім — балет беларускі. У Менску і Віцебску беларускія дзяржаўныя тэатры стаяць на роўні слаўнага на ўвесь сьвет тэатру маскоўскага.



Урэшце — расьцьвітае беларускае малярства. На Усходзе ёсьць ужо цэлая чарга беларускіх мяляроў-мастакоў, творыцца асаблівая беларуская малярская школа. На Захадзе маем гэтак сама рад выдатных мастакоў у гэтай галіне творчасьці: Сергіевіч, Сеўрук, Чурыла, гадунцы віленскага унівэрсытэту, выбіваюцца тут на першыя мясцы.

Зьдзейсьнілася ўрэшце і лятуценьне першых павадыроў беларускага адраджэньня аб стварэньні беларускае навукі — ў роднай языковай вопратцы. На Усходзе існуюць беларуская акадэмія навук, унівырсытэт і спэцыяльныя вышэйшыя школы, кансэрваторыя, школы малярства, драматычныя студыі. Беларускія навукоўцы выступаюць на міжнародных навуковых кангрэсах, і ўвесь культурны сьвет з глыбокім зацікаўленьнем сочыць за іх творчай працай на ніве навукі.

Усе гэтыя нашы здабычы ў галіне мастацтва і навукі ўзбагачываюць ня толькі беларусаў, падыймаючы ровень нашае нацыянальнае культуры, але і ўзбагачываюць культуру сусьветную. Беларусы ўвайшлі ўжо ў сям'ю народаў, якія твораць скарбы сусьветнае культуры, і з кожным годам замацоўваюць тут належнае ім месца.

*Л. С.*

# На службе вокальнага мастацтва

— Цудоўная песьня — творчая стыхія беларускага народу, якая да апошніх часоў ня выходзіла паза межы свайго народга абшару і да якой зацікаўленьне абмежвалася блізу што толькі габінэтам вучонага людаведа, у нашы дні пачынае шырока разьліваццa па ўсім сьвеце, захопліваючы ўвагу прадстаўнікоў вышшае музыкальнае культуры... — так пачынае сваю стацьцю-рэцэнзію аб канцэрце Паўла Прокопені ў № 104 віленскай расейскай газэты гр. Сіріус, які не аднойчы ўжо забіраў голас у справе беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня, відаць блізкай яго сэрцу. У сваім часе ён горача вітаў слаўнага расейскага кампазытара Грэчанінава, які на схіле веку аддаў блізу цалком сваю творчую душу апрацоўцы беларускай народнай песьні; цяпер ён таксама шчыра вітае і першых сьпевакоў, якія на нашых вачох выходзяць на сусьветную арэну ўсьлед за беларускай песьняй.

Запраўды-ж, — трэба лічыць азнакай нашых часоў тое, што ня толькі беларускае народна-песеннае творства, але й нашыя сьпевакі, кампазытары й выканаўцы, пачынаюць выступаць **пад сваім уласным беларускім імем,** не хаваючыся пад чужымі сьцягамі і назовамі.

Тры рознага характару сьпевакі выйшлі на нашых вачох з заходняе часткі абшару беларускае песьні. Першага, старэйшага з іх, Сяргея Усьцімовіча, які здабыў сабе ўжо даўно славу **пад імем Бэноні,** добра ведае беларускае грамадзянства. Не аднойчы выступаў ён з беларускімі песьнямі і рамансамі на эстрадзе віленскае гімназіі. Гэта магутны бас багатага тэмбра, паважны, цалком аддадзены любімаму мастацтву артыст, усьцяж працуючы над сабой, тэхнічна і духова ўздымаючы ўсё на вышэйшыя ступені сваю нязвычайна багатую абдараную Богам прыроду. Апошняе выступленьне яго на сьвяце „Дня Расейскай Культуры“ задзівіла нават яго сталых адаратараў, якім здавалася, што далей у дасканаласьці любімаму сьпеваку ісьці было ня трэба і немагчыма. Запраўды, волат па стыхійнай сіле голасу і наагул „натуры“, Бэноні, як сказана, усьцяж расьце, абрабляе сябе, як артыст, шукае канчальнай формы для сваей індывідуальнасьці. Дасягненьні яго вялізарныя, даючыя мастацкую радасьць. Але — на яго творчым шляху да **ўласнай артыстычнай індывідуальнасьці стаіць... магутны, непераможны ўплыў Шаляпіна,** незраўнанага, непаўтарымага,—бо-ж геніяльнага — расейскага сьпевака... Бэноні „ўспадкаваў“ рэпэртуар Шаляпіна, але разам з тым ён не мог не ўспадкаваць і яго „манеру“. Пасьля Шаляпіна **па-свойму** пяяць яго рэпэртуар зможа толькі геній, роўны яму самому..

Можа ў гэтым **ня-вольным упадабняньні расейскаму сьпеваку,** хоць і геніяльнаму, **з боку беларускага з прыроды, з крыві і косьці артыста і ляжыць тая перашкода на шляху шляхотных, магутных, напалавіну нават пераможных — імкненьняў яго да цалком уласнага артыстычнага твару...** Але-ж такі заўсёды **«ўплыў уплыву»**, такі заўсёды **«закон упадабняньня»...** Яно памагае маладому артысту шукаць уласнай дарогі, „ідучы шляхам генія“, як кажа Пушкін, памагае „вызваленьню“ яго таленту з путаў прыроды. Але артыст павінен урэшце сам вызваліцца з гэтай зваліўшай яго сілы, якая споўніла ўжо сваю задачу... Нядарма-ж, ведамы англійскі заканадаўца эстэтыкі абсалютнай індывідуальнасьці, Оскар Уальд, з уласьцівым яму стылем парадоксу, сказаў, што — „добрых уплываў на мастака наагул ня бывае: усялякі ўплыў — „немаральны“...

Можа, якраз фатум Бэноні — ў тым, што ён, па прыродзе беларус, ня мае яшчэ для сябе ўласнага культурна-нацыянальнага **беларускага,** у якім-бы магла разьвіцца да канца яго буйная творчая высока артыстычная індывідуальнасьць, перамогшы ўсе нават дабрадзейна дапамогшыя ей у яе разьвіцьці ўплывы, **бо-ж толькі праз свой уласны нацыянальна-народны сьвет можа дайсьці творчая адзінка да поўні агульна-людзкай красы, у сынтэзе якіх і можа толькі знайсьці і поўную ўласнай індывідуальнасьці...**

Другі сьпявак, які толькі нядаўна зьявіўся на нашым мясцовым грунце, гэта Павал Прокопені, ці правільна — Пракапеня. Гэта значна слабшы сьпявак — і як голас, таксама бас, і як артыст. За яго кажа тое, што ён — яшчэ вельмі малады, мае толькі 26 гадоў. Матарыял яго голасу — даволі добры, багаты. Але па культуры, як агульнай, таксама спэцыяльна музыкальнай, яго ня можна нават раўнаваць з Бэноні. У яркую процілежнасьць з Бэноні, — яго „пагарда“ да Шаляпіна, якую ён выказываў голасна на канцэрце апошняга ў Вільні... На гэтым шляху ляжаць найбольшыя небясьпекі для артыстычнага разьвіцьця нашага мастака сьпеву. Яму трэба шмат працаваць над сабой наагул, над сваім музыкальным разьвіцьцём, без чаго нават геніяльна абдараныя прыродай таленты хутка „мялеюць“ ці „садзяцца на мель“... „Прызваньне артыста“ вымагае ад „прыроднага чалавека“ вялікай ахвяры, вымагае сталай, усьцяж бязспыннай працы, мала таго — нават у пэўным сэнсе „подвига аскета“... Гэта добра разумее Бэноні, высока культурны артыст, але гэта, здаецца, зусі не зразумеў яшчэ Прокопені. Свой трудны шлях, часам нават крыжовы, артыста, ён, як здаецца, залішне хутка і лёгка хоча, як кажуць, „усыпаць рожамі“, ператварыць у „сплашную вечарыну“...

І ў гэтым — другая, ня менш грозная, небясьпека для гэтага маладога, а нажаль не папаўшага ў адпаведнае культурнае асяродзішча артыста...

Павінны тутака сказаць яшчэ і аб трэцяй небясьпецы, пагражаючай яму, сказаць, ужо — з нашага беларускага пункту гледжаньня.

Як адзначаў ужо і Сіріус у расейскай прэсе, абодва гэтыя нашыя мастакі — беларусы з крыві і косьці, — не зьяўляюцца, нажаль, таксама беларусамі з **духу.** На гэта — ясна-ж, ёсьць свае магутныя об'ектыўныя, гістарычныя варункі. Але **варункі гэтыя зьмяняюцца на нашых вачох — на карысьць беларускай культуры ва ўсіх яе галінах.** Але абодва гэтыя нашыя мастакі неяк асталіся на баку ці ў тылу гэтае вялікай вагі эволюцыі нашых дзён. **Абодва яны хаваюць неяк сваю беларускасьць на грунце ня толькі тутэйшым польскім, але і на грунце міжнародным...**

„Калісьці, яшчэ да вайны, піша Сіріус", нашых „малороссов", цяпер украінцаў, называлі „італьянцамі славянства" — за іхнія песьні. Як бачым, цяпер і беларускі народ пачаў раджаць сваіх „італьянцаў"... Мы ведаем, што ў „залаты век" беларускай гісторыі адбывалася жывое культурна-артыстычнае яднаньне паміж Беларусяй і Італіяй, якое стварыла рад мастацкіх твораў, прыкладам, у царкоўнай архітэктуры. Нешта падобнае адбываецца ў нашыя дні ў галіне музыкальна-мастацкай: беларуская музыкальная стыхія атрымлівае тэхнічнае „афармленьне" ў італьянскай школе, і — ў выніку такое сынтэзы — ствараюцца артысты-мастакі, як Бэноні і Прокопені, якія выходзяць на сусьветную арэну"...

Але толькі вось, у гэтай **сынтэзе беларускага элемэнту з італьянскім не павінен траціцца беларускі...** Бо-ж тады, тады — ня будзе гэтай **сынтэзы.** Ня будзе гэтага **творчага жывога «зьліцьця»...** Трэба, каб нашыя слаўныя „італьянцы" не забываліся аб тым, што яны спароджаны беларускім сьветам... Каб яны перадусім не выракаліся свайго беларускага імя...

Асабліва-ж гэта трэба сказаць „Прокопені", які, хаця і значна „абрусеў", адарваны ад бацькаўшчыны змалку на далёкім расейскім Паволжы, але захаваў свой беларускі тып блізу цалком. Таму ў яго „ўстрыманьне" ад беларускага рэпэртуару на канцэртах, прыкладам, у Вільні, ці на Палесьсі, дзе ён канцэртаваў, носіць характар нейкі зусім „спэцыфічны"...

Трэці сьпявак, рэзка розьнячыся ад гэтых двух басоў—Бэноні і Пракапені, — тэнар Забэйда-Суміцкі. Першы раз выступіў ён у Вільні на наладжанай тутака ў мінулым годзе ў часе Каляд урачыстасьці — „Дня Беларускае Культуры".

Ужо на першае выступленьне артыста мясцовая прэса — беларуская, польская і расейская — адгукнулася з вялікай увагай. Адзначалася высокая школа артыста. Сёлета ў сярэдзіне траўня артыст ізноў адведаў Вільню, ужо на даўжэйшы час, і даў тутака два вялікія канцэрты, якімі на заўсёды цалком захапіў і перамог — ня толькі шырокую публіку, у першую чаргу, зразумела-ж, — беларускае грамадзянства, але і найпаважнейшых музыкальных знаўцаў і крытыкаў нашага наагул вельмі музыкальнага места.



Ня маем магчымасьці тутака даваць, нават у скароце, усіх рэцэнзіяў на яго канцэрты. Дамо толькі некалькі адрыўкаў з ацэнкі, дадзенай нашаму мастаку на балонках мясцовай расейскай газэты. Трэба сказаць, аднак-жа, што ў сваю ацэнку расейская газэта ўлажыла шмат да нашага артыста шчырага спогаду, падчырківаючы яго **беларускасьць,** якую ён не хавае, а наадварот — сам выяўляе.

Канцэрты М. Забэйды-Суміцкага паказалі нам яго голас ува ўсей поўні, а мастацтва сьпевака — у ўсей яго дасканаласьці. Артыст чараваў, захопліваў, перамагаў — з тэй запраўднай уладай мастацтва, якая завалодывае душой без найменшага гвалту над ей, даючы, наадварот, ей, пераможанай красой, сьветлую радасьць свабоды... Такое заўсёды дзеяньне запраўднага мастацва... Выкананьне праграмы было, мала сказаць — беззаганным: яно было творча-дасканалым, яно дапаўняла, дарабляла твор кампазытара, падыймала яго на вышыню няведамую самому яго тварцу. Так выконываць замыслы кампазытара можа толькі артыст, які зьяўляецца сам тварцом-мастаком, узброеным ува ўсе сродкі высокай музыкальнай культуры. Дый якраз гэтае задзіўляючае валаданьне сваім прыродным інструмэнтам, якому італьянская школа дала „крэмонскую"*) чысьціню і мілагучнасьць, — складае галоўную сілу нашага мастака.

Гэтая асаблівасьць артыста прыдае яго выкананьню характар выняткова „сьведамасьці", інтэлектуальнасьці, мастацкай цьвярозасьці, якая на першы слух можа паказацца нават „недахопам тэмпэрамэнту"... Але справа ў тым, што тэмпэрамэнт артыста закаваны ў срогія шлюзы і грані школы, мастацтва... Адсюль — запраўды-ж — нейкі характэрны для артыста „эсцэтычны налёт" на ўсей яго мастацкай індывідуальнасьці, так захопліваючы, гармонізуючы з „матавым" тэмбрам яго голасу. У гэтым — галоўная асаблівасьць нашага артыста, сакрэт яго ачараваньня... Артыст задзіўляе вялікай шырынёй сваіх песенных выяўленьняў. Мілагучна далікатны ў стрыманай, скромнай лірыцы, яго тэнар вытрымлівае аднолькава лёгка найвышэйшае напружаньне драматызму. Гэтую драматычную сілу яго голасу паказала ўва ўсім блеску выкананая ім арыя Фэдэрыко з опэры „Арлезіана" італьянскага кампазытара Чылеа. Гэта адна з найтруднейшых арыяў тэнаровага рэпэртуару. Аднэй гэтай арыі было-б даволі для прысуджэньня сьпеваку найвышэйшай рангі майстра-мастака. Далей аўтар рэцэнзіі піша аб тым, што наш сьпявак аднолькава дасканала пяе творы кампазытараў розных народаў — італьянскія, як прыродны італьянец, польскія—лепш, як найлепшыя польскія артысты, творы расейскай музыкі—яшчэ лепш. Але-ж найвялікшай дасканальнасьці дасягае наш мастак-

*) Крэмона — места ў паўночнай Італіі, якое ўславілася ў свой час знамянітымі скрыпкамі, што адзначаліся дасканалай чысьцінёй тону, якія цяпер цэняцца — „на вагу золата".

беларус, зразумела-ж, — у выкананьні **твораў родных беларускіх мастакоў — новых беларускіх кампазытараў, а перадусім найвялікшага з іх творца — самога беларускага народу — у яго песьні.**

У гэтай галіне выкананьне Забэйды-Суміцкага, піша п. Сіріус, зьяўляецца ўжо запраўднай рэвэляцыяй: беларускую народную песьню уздымае ён на вышыню, якая ня сьнілася ні яе творцу-народу, ні яе навейшаму мастаку-гарманізатару. І трэба добра ацаніць асабістую шляхотнасьць артыста, які родную сваю моцна трымае ў сваім сэрцы і нясе яе з сабой і на польскую і далей на эўрапэйскую эстраду, ня гледзячы ні на якія перашкоды, перад якімі так лёгка адступаюць нашыя слабшыя духам „італьянцы"... З усяго сэрца, зразумела-ж, і мы далучымся да тых слоў, якімі канчае гр. Сіріус сваю рэцэнзію:

„Чэсьць і хвала рыцарскаму сэрцу і духу мастака за гэта— ў дадатак да нашай удзячнасьці яму за тую сапраўдную радасьць мастацтва, якой ён так шчодра абдарыў нас на сваім канцэрце".

Калі так пісаў крытык у расейскай прэсе, дык можна сабе лёгка ўцяміць, якое ўражаньне зрабілі канцэрты нашага мастака **ў беларускім** грамадзянстве. Яго канцэрт на карысьць Беларускага Студэнцкага Саюзу сабраў, можна сказаць, усё беларускае грамадзянства места. Асабліва горача і бурна рэагавала на нячуваныя ўражаньні нашая моладзь, якая літаральна засыпала сьпевака кветкамі.

Забэйда-Суміцкі назаўсёды здабыў для тябе сэрца нашага грамадзянства, з свайго боку, аддаўшы і сваё сэрца яму. Трэба думаць, што сувязь гэта ўжо не парвецца. Нажаль, толькі спробы выступленьняў нашага мастака ў іншых местах нашага Краю спатыкаюцца з перашкодамі. Пасьля Вільні ён выступаў у Беластоку, але там з вялікім трудом здабыты быў дазвол на ўключэньне ў рэпэртуар канцэрту... беларускіх нумароў, ня кажучы ўжо аб расейскіх — гэтыя былі адсечаны безапэляцыйна...

---

Падсумоўваючы ўсё, што сказана вышэй, трэба сказаць, што з усіх трох, здабыўшых сабе ўжо шырокі разгалос нашых мастакоў-выканаўцаў вокальнай музыкі, найбольшае значэньне мае **для разьвіцьця нашай беларускай справы** якраз М. Забэйда-Суміцкі. А гэта таму, што ён адзіны з іх усіх з поўняй шляхотнага самапаважаньня не адракаецца ад сваей Маткі-Зямлі, ад свайго Бацькі-Народу, ад сваей радзімай душы, ад свайго роднага духу.

Але яшчэ больш бадай тое, што **з гэтай сваей беларускай душой, не адракаючыся ад яе, наш артыст стаў на роўні з найвышэйшай музыкальнай культурай сьвету, прыняты ў яе лона, як роўны з роўнымі і вольны з вольнымі...** А гэта з усей пераконываючай сілай жывога нагляднага прыкладу— кажа аб тым, што запраўды-ж, як кажа наш Купала, — **Беларусь заняла ўжо свой пачэсны пасад між народамі, у даным выпадку—у разгледжанай намі тутака галіне—музыкі.**

І на гэтым шляху — шырокае і доўгае поле перад беларускім музыкальным геніем — дзеля **новага, арыгінальнага, творчага ўкладу ў скарбніцу сусьветнай музыкальнай культуры.**

---

Кажучы аб выхадзе ў сьвет беларускай песьні, ня можна абмінуць моўчкі віленскага беларускага хору Р. Р. Шырмы, які шмат папрацаваў якраз над гэтай, запраўды-ж дарагой яго сэрцу, справай. Бо-ж мала сказаць, што ён — уталентаваны дырыжор, які падняў на мастацкую вышыню свой хор, паставіў яго на роўні з найлепшымі хорамі ў краі. Справа ня толькі ў гэтым, але ў тым, што гр. Шырма наагул укладае ўсю душу ў любімую справу, якая сталася для яго справай усяго яго жыцьця. А таму ён — ня толькі дырыгуе хорам, выконываючы гатовыя песьні. Не. Ён сам шукае гэтых кветак на народнай ніве, ён зьбірае гэтыя краскі песьнятворчай душы Беларуса, запісывае іх. Ён шукае найлепшых мастакоў-кампазытараў, запалівае іх сваім агнём, заахвочывае іх да працы над простымі, але цудоўнымі ў сваей прастаце творамі народнымі, каб — з помаччу іх таленту, іх высокай музычнай культуры, — выдабыць з гэтых твораў, выявіць усю іх красу, стварыць новую галіну, новы абшар у сусьветнай музыцы — **абшар беларускі...**

Гэта-ж ён, Рыгор Раманавіч Шырма, „знайшоў" для нашай забытай і пагарджанай песьні слаўнага мастака Грэчанінава, гэта-ж ён запаліў яго, заразіў сваім полымем... Гэта-ж ён усьцяж „жывіць" і яго і К. М. Галкоўскага, Казуру і іншых мастакоў усё новымі і новымі творамі беларускай песьнятворчай душы, бясспынна падтрымліваючы ў іх заінтэрэсаваньне дарагой яму справай. Р. Р. Шырма — найлепшы знаўца беларускага песеннага фольклёру на беларускім захадзе. Ён піша аб беларускай песьні, ён выдае сваім коштам, адбіраючы хлеб ад сваей сям'і, зборнікі беларускіх песьняў, ён зьбірае грошы на выданьне іх заграніцай і т. д.

Хор Шырмы мае ўжо сталую апінію ня толькі ў Вільні, але ведамы — праз Польскае Радыё — на ўсю Польшчу. Трэба падчыркнуць, як гэта робіць віленская крытыка, што хор яго не стаіць на месцы, на дасягненым ужо й высокім роўні. Ён усьцяж ідзе наперад, усьцяж дасканаліцца, пашырае свой рэпэртуар, павялічвае свае дасягненьні.

Беларускае грамадзянства павінна добра ўцяміць сабе, якое багацьце яно мае ў гэтым хоры, і далажыць усіх стараньняў, каб праца Шырмы давала найбольшыя рэзультаты. А тады наша багацьце будуць цаніць па ўсей яго запраўднай вартасьці і ўсе іншыя.

*М. С.*

# На віленскіх эстрадах

Мінулы вясеньні канцэртны сэзон у Вільні быў вельмі багаты.

На самым пачатку сэзону адбылася ўрачыстая жалобная акадэмія ў чэсьць перадчасна памёршага ведамага польскага кампазытара Караля Шыманоўскага. Акадэмію ладзіла аб'яднаньне польскіх артыстычных т-ваў у Вільні 21 красавіка ў залі Віленскага Радыё. У праграме было ўступное слова праф. Гурскага, старшыні сходу, і даклады: гр. З. Мыцельскага — „К. Шыманоўскі на фоне эўрапэйскай музыкі“, гр. Ст. Вэнслаўскага — „Шыманоўскі і польская музыка“ і праф. Т. Шэлігоўскага — „Кароль Шыманоўскі ў Вільні“. Музычнай ілюстрацыяй да Акадэміі былі: сымфанічная аркестра пад кіраўніцтвам гр. Левіцкага, раяль — В. Троцкі і солё-сьпевы вучаніц віленскай консэрваторыі. Аркестра і солёвыя выступленьні на раялю стаялі на запраўднай вышыні музычнай культуры, іх прыемна было слухаць. Затое сьпевы абсалютна нічым не выяўлялі характэрных асаблівасьцяў таленту такога вялікага кампазытара, як Шыманоўскі. Паводле дакладчыкаў, Шыманоўскі — вялікая фігура ў музычным сьвеце ня толькі польскім, але і эўрапэйскім, — а салісткі, здавалася, мелі сваім заданьнем паставіць яго на апошнім месцы нават польскага музычнага алімпу: ня можна было зразумець ні характару мэлёдыяў, ні тых тэкстаў, да якіх яны напісаны. Такія сьпевы залічыць да ўдачных ня можна.

8 траўня адбыўся гадавы канцэрт у літоўскай гімназіі, на якім выкананы былі творы кампазытара К. Галкоўскага на літоўскія народныя тэмы для балету, сьпеву і солёвых інструмэнтаў. Вечар, душою каторага быў сам кампазытар, пакінуў самае глыбокае і сымпатычнае ўражаньне. Усе яго творы, якія складалі праграму вечара, яскрава падчырківалі, што перад публікаю ня толькі вялікі знаўца музыкі і прафэсар, але разам і вялікі мастацкі талент.

22 траўня адбыўся ў залі б. консэрваторыі канцэрт хору Я. Герштэйна пры т-ве прыяцеляў жыдоўскай гімназіі ў Вільні. Гэты хор мае каля 100 асоб, пераважна з работніцкай моладзі. Працуе ў сваей сьпявацкай студыі над сваім дасканаленьнем зімою і летам, пробы адбываюцца вечарамі пасьля працы тры разы на тыдзень. Кожнае выступленьне хору карыстаецца нязвычайным пасьпехам. На гэтым канцэрце для нас асабліва прыемна было чуць у перакладзе на жыдоўскую мову паэта Когана тры беларускія народныя песьні: „Вярба“ — Сьвешнікава, „Бяда“ — Уладзімірскага і „Зялёны гай“ — Грэчанінава. Уражаньне было як найлепшае. Дзьве першыя песьні сымпатычнаму рэгенту прыйшлося на дамаганьне публікі адсьпяваць на біс.

4 траўня і 2 чэрвеня адбыліся канцэрты Паула Пракапені. Малады сьпявак мае сьвежы і сільны голас, відаць музычная школа, але ёсьць да гэтага і заганы. Адна з іх і самая вялікая — надужываньне стыхіяй свайго голасу, для бісавых эфэктаў. Праўда, гэта ў Пракапені чужое, наноснае, зусім непатрэбнае. Чым хутчэй ён пазбавіцца ад такіх прыёмаў сьпеву, тым хутчэй знойдзе сам сябе, стане на ўласныя ногі, здабудзе публіку і без пасярэднікаў. Найлепшыя нумары ў яго праграме — „Бурлакі“ і „Два гренад'еры“ — узяты з Шаляпінскага рэпэртуару. Відаць, што малады артыст шукае сваіх шляхоў. Толькі пры гэтым ён павінен зразумець ня толькі розумам, але ўсёй істотай, што

Над вольнай мысьлью Богу неугодны
Насилие і гнет.

Гэтая глыбокая праўда знаходзіць застасаваньне і да мастацтва наагул, асабліва-ж такога, як сьпеў і музыка. Вось тады ўжо можна будзе без агаворак сказаць: Пракапеня — гэта артыст з Божае ласкі.

10 траўня адведаў Вільню Шаляпін. На канцэрт яго сабралася і запоўніла гарадзкую залю на Астрабрамскай віленская публіка бяз розьніцы нацыянальнасьці. Вялікі артыст ужо падсумоўвае вынікі сваей кар'еры. Але з першым выхадам на эстраду чуецца геній, роўнага каторому яшчэ ня знае сусьветная сцэна. На звычайным канцэрце гэты артыст ня толькі пяе, ён малюе. Лёгкім рухам, выражэньнем твару ён дае абразы таго, аб чым расказвае сваім голасам. Калі пяе „Ночной смотр“, здаецца жывы Наполеон ідзець перад фронтам, залажыўшы руку за камізэльку. Вы бачыце спаленых сонцам, замучаных працаю з лямкаю на плечах бурлакоў, калі ён пяе пра Волгу і адчуваеце гістарычную праўду аб царскай Расеі з першых слоў гумарыстычнай песенькі пра „титулярнаго советника“ і „генеральскую дочь“. Віхрам воплескаў адказвае заля на яго плясовую — „Вдоль по Питерской“. Шаляпін — гэта Расея — шырокая, магутная...

16 і 27 траўня былі два канцэрты М. Забэйды-Суміцкага (аб гэтых канцэртах падаём справаздачу на іншым месцы — рэд). Артыст паказаў ня толькі беларускую песьню ў мастацкім выкананьні — палякі называлі на канцэрце яе „perełkami“, — ён і польскую паказаў такою, якою мы яе дагэтуль яшчэ ня бачылі. „Wiosenne rano“ — Маліноўскага, „Na ust korali“ — Марчэўскага, „Zasmuconej“ — Карловіча поўнасьцю сьціралі нацыянальную розьніцу паміж слухачамі, парывалі ўсіх і змушалі дамагацца паўтарэньня.

*Р. Шырма*

# КНІГАПІС

*Міхась Васілёк*—**З сялянскіх ніў.** Вільня, 1937. Бач. 29, нлб. 1. Ф. 8⁰

Пунсавыя хварбы паказаўшыся ў вершах Васілька ў зборніку *З сялянскіх ніў* сыгналізуюць аб паважнай эвалюцыі, зайшоўшай у творстве паэта. Сьведчаць аб пераацэнцы вартасьцяў, так і аб тым, што мастацкая палітра Васілька ўзбагацілася новымі сродкамі экспрэсіі.

Пераацэнка вартасьцяў прымусіла яго адкінуць старую мэту вершатварэньня мінулых паэтаў: — выкліканьне спачуцьця да бедных і гаротных Беларусаў. І апошні зборнік Васілька ёсьць дакумэнтам, сьцьвярджаючым, што беспаваротна скончана з пэрыядам, калі беларускі пясьняр што трэці верш мог пачынаць ад слоў: „Ах ты, доля мая, доля“ і г. д. Таксама варта ўвагі, што „вясковай раніцы пунсовы сьмех“, як і іншыя даволі маляўнічыя эпітэты, выдатна адсьвяжаюць вясковую тэматыку аўтара, робячы яе больш атракцыйнай.

Калі *Шум баравы,* будучы, у сваю чаргу, вельмі сымпатычным зьявішчам, ня ўносіў амаль нічога новага (пакрываўся з тым, што пакінулі Цётка, Сваяк і інш.) у заходне-беларускую літаратуру, — *З сялянскіх ніў* прыносіць вязанку сьмелай, суадказна з духам часу створанай, арыгінальнай, сказаў-бы модэрністычнай паэзіі.

Наагул Васілёк — гэта паэт лініі падзелу. Лінія падзелу, каторая ў сяньняшні час пераразае цэлы глёбус, каторая найярчэй зарысавалася там, пад Більбао, пад Каза дэль Кампо, праходзіць і праз нашу Краіну. Мастацкае адбіцьцё гэтага змаганьня знаходзім у творах Васілька. У адчуваньні і адмалёўваньні гэтага змаганьня ён аказаўся на тым-жа баку лініі падзелу, на каторым знаходзяцца Тамаш Манн, Ромэн Ролян, Карл Осецкі і іншыя волаты эўрапэйскага слова і сумленьня. Выражае свае пачуцьці паэт беспасярэдна і імпульсыўна — таму тым болей ягоныя „з сялянскіх ніў жывыя адгалосы“ ёсьць цэнным укладам у беларускую анталёгію.

Нажаль у зборніку „З сялянскіх ніў“ аўтар не пазбыўся нотак нэрвовасьці, знаёмых яшчэ з „Шуму Баравога“. Косы паўдзённага сонца і марскія хвалі далі-б, здаецца, тутака пажаданыя вынікі.. Але ці даюць дазвол на гэта жыцьцёвыя сучасныя ўмовы?

У кожным выпадку, трэба спадзявацца, што пунсавыя хварбы ў творстве Васілька пераможуць.

*А. Б—скі.*

———



*В. К. Шчарбакоў, К. І. Кернажыцкі і Д. І. Даўгяла.* **Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах.** Том I. (IX—XVIII ст.) Фармат 8⁰, бач. XVI+678, нлб. 2. Выдавецтва Акадэміі Навук БССР. Менск 1936.

Праца пад названым загалоўкам, якую злажылі акадэмік В. К. Шчарбакоў, дацэнт К. І. Кернажыцкі і археограф Д. І. Даўгяла, зьяўляецца паважнай пазыцыяй у беларускім савецкім друку. Як можна думаць із зьмешчаных у прадмове да яе энунцыяцыяў, паўстала праца, як рэзультат нездавальняючага стану ў разьвіцьці гістарычнай навукі і адукацыі ў СССР агулам, у Беларускай ССР у асобнасьці, і як вынік датарнаваньня да выдадзеных ў 1934 г. цэнтральнымі кіруючымі ўрадавымі і партыйнымі органамі ўлады СССР пастаноў і дырэктыў аб перабудове навукова-дасьледчай работы ў галіне гісторыі і выкладаньня гэтай гісторыі ў школах СССР.

Афіцыяльныя савецкія дзейнікі сьцьвярджаюць, што ў гістарычнай навуцы і ў яе некаторых тварцоў-гісторыкаў, перад выданьнем гэных рашэньняў і дырэктываў, праяўляліся „шкодніцкія тэндэнцыі і спробы ліквідацыі гісторыі, як навукі“... (гістарычная школа Пакроўскага, група Ванага), апрацаваньне гістарычнага матарыялу ў навуковых працах, падручніках было нязгодным з марксыцкай мэтадолёгіяй, дзеля чаго яно было абстрактным, схэматычным, пры гэтым праяўлялася пагарда да фактычнага, канкрэтнага гістарычнага матарыялу, і побач з гэтым пагарда да гісторыі народаў СССР — апрацоўвалася руская гісторыя а не гісторыя народаў СССР (беларускага, украінскага і інш.).

У Савецкай Беларусі, міма надзвычайна вялікага зацікаўленьня масаў да сваей гісторыі, міма патрабаваньняў на літаратуру з гісторыі Беларусі з боку вучняў, настаўнікаў, студэнцтва гістарычных вышэйшых навучальных установ, а так-жа міма патрабаваньняў на дакумэнты, матарыялы, кніжкі з гісторыі Беларусі з боку аўтараў падручнікаў аб гісторыі народаў СССР, — беларуская гістарычная літаратура прадстаўляецца вельмі скромна, пры чым і гэтая літаратура мае недахопы — ў большасьці яна мае ў сабе той-жа схэматызм Пакроўскага і многіх іншых гісторыкаў, недахопы мэтадолёгічнага характару, як і той недахоп, што не асвоіла таго вялікага, так патрэбнага гісторыкам, фактычнага матарыялу, які знаходзіцца ў архівах.

Выправіць такі ненармальны стан у адносінах да беларускай гістарычнай справы ўзялі за сваё заданьне між іншымі гісторыкамі ў Савецкай Беларусі і ўспомненыя складальнікі „Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах“, якой першы том паказаўся ў друкаванай вопратцы, а другі том, падрыхтаваны акадэмікам В. Шчарбаковым, К. Кернажыцкім і Д. Дутковым, такога самага абыйма, як і першы, як даведываемся з прадмовы да першага тому, ужо зданы ў друк і ахапляе пэрыяд з канца XVIII да канца XIX стагодзьдзя. Ці будзе надрукаваны гэты другі том, сказаць

напэўна ня можна, хоцьбы дзеля таго, што два першыя яго складальнікі (Шчарбакоў, Кернажыцкі), згодна з паведамленьнем менскай прэсы з пачатку ліпня сёлета, аказаліся ...„ворагамі народу“!

Першы том „Гісторыі Беларусі ў дакументах і матарыялах“ ня ёсьць навуковым эляборатам, не зьмяшчае разважаньняў аб фактах з гісторыі Беларусі і іхнымі прычыннымі адносінамі, — заданьнем яго, як сказана ў прадмове — „даць... гісторыкам, студэнтам гістарычных факультэтаў і выкладчыкам-гісторыкам дапаможнік з гісторыі Беларусі, узброіць іх адпаведным фактычным матарыялам, падабраўшы гэты матарыял па асноўных пытаньнях гісторыі Беларусі эпохі фэадалізму“. Далей тут-жа сказана: „Сабраны і адпаведным чынам скампанаваны дакумэнтальны матарыял для гэтага першага тому зьяўляецца надзвычайна вялікім і ў значнай меры задаволіць тых, хто працуе над пытаньнямі гісторыі“.

Трэба прызнаць, што гэтае заданьне складальнікамі сумленна выканана. Падабраны матарыял зьмяшчае 396 дакумэнтаў— вытрымкі з летапісаў, нямецкіх, лацінскіх і польскіх хронік, дакумэнты з Літоўскай мэтрыкі — гэтай найбагацейшай крыніцы гістарычнай веды аб Беларусі ў мінуўшчыне, — старасьвецкія граматы, прывілеі, законадаўчыя акты і інш. Увесь падабраны матарыял разьмешчаны ў дванаццацёх разьдзелах, у кожным з іх у хроналёгічным парадку, пры гэтым разьдзелы маюць загалоўкі, якія зьяўляюцца ня чым іншым, як адноснымі і важнымі пытаньнямі з гісторыі Беларусі. Вось гэтыя разьдзелы: I. Нараджэньне фэадалізму ў Беларусі (IX—XIII ст.), (бач. 1—51); II. Утварэньне вялікага княства літоўскага на тэрыторыі Літвы і Беларусі (52–91), III. Феадальная гаспадарка і рост буйнага землеўладаньня (92—136); IV. Становішча сялянства і масавае яго запрыгоненьне (137—209); V. Пануючая кляса, яго правы і прывілеі (210—252); VI. Феадальныя войны і групавая барацьба феадалаў (253–304); VII. Феадальны горад, гандаль і рамяство (305—397); VIII. Феадальная дзяржава ў Літве і Беларусі ў канцы XV і XVI ст. (398—436); IX. Зьнешняя палітыка феадальнай дзяржавы (437—460); X. Сялянскія і казацкія рухі ў XVI—XVIII ст. (461—526), XI. Феадальная культура і рэлігія (527—560); XII. Беларусь у складзе Рэчыпаспалітай (561—645). У канцы ў працу ўключаны геаграфічны і асабовы паказчыкі і таксама паясьняльны слоўнік незразумелых слоў.

З глездзішча археографічнага надрукаваны матарыял зьяўляецца ў большасьці перадрукам з гістарычных крыніц, якія дакладна паказаны ў асобным бібліёграфічным дадатку. З палеаграфічнай стараны, — некаторыя палеаграфічныя асаблівасьці незахаваны — складальнікі жадаючы даць палёгку чытачу ў чытаньні надзвычайна рознастайных па сваей транскрыпцыі крыніц, палеаграфічны тэкст упросьцілі, выкідаючы нікаторыя літары, нікаторыя з іх замянаючы, або перадаючы роўназначнымі.



Апрача перадрукаў, ёсьць паданы матарыял у перакладах з лацінскай і польскай мовоў на беларускую, а таксама перадрукі перакладаў на рускай мове, наколькі арыгіналы самых тэкстаў ня былі складальнікам даступны.

Беларуская мова першага тому „Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах“, як відаць ужо нават з загалоўку, засьмечана русыцызмамі — ў слове, морфолёгіі, сынтаксе і правапісу.

Як ужо сказана на пачатку, праца гэтая зьяўляецца вартаснай і паважнай пазыцыяй у беларускім савецкім друку і ў значнай меры выпаўняе прабелы ў беларускай гістарычнай літаратуры.

*Я. Ш.*

---

**Lietuviu Tauta.** *Lietuviu Mokslo Draugijos Raštai.* V knyga. Vilniuje, 1936. Бач. 264.

Гэта непэрыядычнае выданьне Віленскага Літоўскага Навуковага Таварыства. Зьмест наступны:

1. Аўтобіографія др. Іонаса Басанавічіаса. Займае яна 165 бачын. Спатыкаем тут вычэрпываючыя і цікавыя весткі аб жыцьці і дзейнасьці патрыярха адраджэньня Літоўскага Народу.

2. Праца кун. Ф. Няверы аб францішканах абсэрвантах у нашым краі да часу стварэньня першай правінцыі. Пішучы аб францішканах у Полацку, аўтар закранае так-жа й нашага слаўнага доктара Францішка Скарыну, залічаючы яго за Ловмяньскім (Ateneum Wileńskie, 1925) да каталікоў. Тымчасам справа яго веравызнаньня да сяньня ёсьць навырашанай.

3. Кун. др. А. Віскантас памяшчае так-жа значную працу аб Канцлеры Вял. Кн. Літ. Льве Сапезе. На ўвагу заслужвае тут сумленнае выкарыстаньне аўтарам багатай аб ім літаратуры. Гэта можа быць не аднаму карысным, хто далей будзе студыяваць аб слаўным канцлеры.

4. Артыкул праф. Э. Фрэнкеля аб асаблівасьцях гутарак літоўскай мовы Віленшчыны.

5. Артыкул М. Унтуліса аб саславяншчаньні літоўскіх назоваў мясцоў. Гутарка тут аб зьбеларушчаньні розных літоўскіх мясцовасьцяў, з якіх аўтар вылічае далёка ня ўсе.

Урэшце йдзе багаты аддзел „Miscellanea“, якім і канчаецца гэтая пятая кніга: „Lietuviu Tauta“.

---

*Mykalas Biržiška*: **čečeta, čapskiai, čackiai, čartoriskiai.** Kaunas 1936.

Ёсьць гэта адбіткі артыкулаў з Літоўскай Энцыклёпэдыі, якая выходзіць у Коўне, аб родзе Чэчатаў, Чапскіх, Чацкіх і Чарторыскіх. Для беларусаў на асаблівую ўвагу заслужваюць адбіткі аб Чэчатах і аб Чацкіх, дзе можна знайсьці бадай вычэрпываючы матарыял аб гэтых родах, сярод каторых — асабліва сярод Чэчатаў (Ян Чэчат) — былі асобы, якія зьвязаны і з беларускай літаратурай і культурай.

*Ад. Ст.*

# ХРОНІКА

— 25 мая сёлета прыпадалі дваццатыя ўгодкі сьмерці вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча, які памёр на сухоты ў Ялце ў 1917 г., маючы ўсяго 26 гадоў. З гэтае прычыны студэнцкае Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры віленскім унівэрсытэце наладзіла 30 мая ўрачысты вечар, прысьвечаны памяці песьняра. На вечары прачытаў гр. Антон Луцкевіч рэфэрат п. н. „Максім Багдановіч і ягоная творчасьць." Рэфэрат быў пераплятаны рэцытацыяй цікавейшых вершаў Багдановіча.

— Беларускі Тэатральны Каапэратыў „Полымя" 6 чэрвеня зладзіў у Беластоку канцэрт М. Забэйды-Суміцкага. Артысту акомпаньяваў ведамы прафэсар Урштэйн з Варшавы.

— Кампазытар К. Галкоўскі апрацаваў шэсьць народных беларускіх песень для аднаго голасу з акампаньямэнтам фортэп'яну. Мэлёдыі і тэксты песень, узятыя з рукапісаў Р. Шырмы, запісаны: дзьве у вёсцы Кацёлкі, Пружанскага павету — „Ой дожджык ідзе, раса нападзе" (восень) і „Ой у полі дзьве пташачкі, обе рабакрылы" (ракруцкая), адна у м-ку Мядзёл, Пастаўскага павету — „Кукавала зязюлька, што лес мал" (вясельная, жартаўлівая), адна у в. Нізяны, Ваўкавыскага павету — „На гарэ камары, а ў даліні гусі" (гумарыстычная), адна ў в. Навасёлкі, Паст. п. — „Купалялё," і „Чэраз садвінаград па ваду хадзіла" — прыпеўкі з Наваградчыны. Гэтыя новыя працы слаўнага кампазытара зьяўляюцца вельмі цэнным укладам у беларускую вокальную літаратуру, асабліва солёвую. Распрацаваны з нязвычайным майстэрствам вялікага мастака, з поўным разуменьнем народнага духу і захаваньнем народнага стылю і характару, прычым адна з гэтых песень палажана так-жа для віалянчэлі і раяля.

— 18-га траўня адбылося пасяджаньне Літаратурна-Мастацкае Сэкцыі Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні з удзьцем пачэснага госьця беларускага артыста-пяюна Міхала Забэйды-Суміцкага і некаторых прадстаўнікоў віленскага артыстычнага сьвету. На парадку дня быў даклад гр. А. Луцкевіча на тэму аб значэньні для беларускага адраджэньня такіх культурных фактаў, як беларускія здабычы ў галінах навукі, паэзіі, мастацтва. Галоўнай думкай рэфэрату было сцьвярджэньне таго, што беларусы ўжо даўно выйшлі із стану „этнографічнага матарыялу" і з об'екту чужацкіх уплываў сталіся суб'ектам, самастойным тварцом культуры і красы ў сям'і народаў сьвету. Гр. Забэйда-Суміцкі прапяяў некалькі беларускіх песень.

— Экспонаты Беларускага Музэю на выстаўках у Варшаве і Вільні. Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча на запросіны І. Р. S. (Інстытуту Пропаганды Мастацтва) згадзіўся прыняць удзел у ладжанай у Варшаве агульнапольскай выстаўцы народнага мастацтва (ліпень-верасень) і паслаць на яе свае экспонаты: народную разьбу, народнае малярства і народныя дрэварыты. Высланы ў Варшаву тры скрыні экспанатаў.

Адначасна Беларускі Музэй даў сваіх 18 экспонатаў (абразы, разьба, дрэварыты, гафты) на зладжаную ў Вільні ад 29.VI да 6.VII „Марыолёгічную выстаўку" (выстаўку адбіцьця ў мастацтве культу Маці Божае). Выстаўка была зладжана ў сувязі з Марыянскім Кангрэсам Віленскае Архідыэцэзіі — пры касьцеле сьв. Духа.

— Беларускі Музэй у апошніх часох набыў каля соткі манэт В. Кн. Літоўскага з XV і XVI ст. ст., земскую пячаць Наваградзкага ваяводзтва з 1765 г. і рад іншых цікавых экспонатаў.

— У касьцеле у Гудагаях (каля Вільні) знайдзены цэнны забытак беларускага малярства ў постаці абраза Мадонны (Маці Божай). Абраз маляваны на дубовай дошцы, разьмеру разложанага аркушу паперы. Паводле дасюлешніх дасьледаваньняў, абраз паходзіць з 15-га стагодзьдзя.

— Унівэрсытэцкая бібліотэка ў Коўне (кіраўнік праф. Вацлаў Біржышка) 10.IV.37 аддала беларускім студэнтам, што вучацца ў ковенскім унівэрсытэце, 15 тысяч экзэмпляраў розных беларускіх кніжак.

Гэтыя кніжкі выдала ў сваім часе Беларускае Выдавецтва, якое было зарганізавана пры міністэрстве беларускіх спраў. Пасьля ліквідацыі міністэрства, кніжкі апынуліся ў літоўскім міністэрстве заграНічных спраў, якое некалькі год таму назад перадало іх унівэрсытэцкай бібліотэцы.

Беларускія студэнты аддалі кніжкі Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ў Коўне, дзеля безграшовай перадачы іх беларускім арганізацыям і паасобным Беларусам у Літве.

— 9 траўня сёлета Беларусы ў Дзьвінску адзначылі г. зв. „Дзень маці." У памешканьні ІІ Дзьвінскай дзяржаўнай гімназіі, пры якой маецца невялічкі беларускі камплект, былым дырэктарам былай Дзьвінскай беларускай гімназіі С. П. Сахаравым быў прачытаны рэфэрат на тэму „Маці і сялянка," у якім ён адзначыў ролю маці ў нацыянальным жыцьці кожнага народу, у тым ліку і беларускага.

Пасьля рэфэрату былая кіраўніца Дзьвінскае беларускае пачатк. школы С. С. Карнавухава-Саўкант прадэклямавала паэтычны абразок „Любоў Маці."

На заканчэньне вучні беларускага камплекту прадэклямавалі некалькі беларускіх вершаў, а беларускі хор пад кіраўніцтвам матурыста Дзьвінскае белар. гімназіі Пятра Заліўскага стройна выканаў некалькі беларускіх песень.

Сьвяткаваньне „Дня маці" зрабіла на ўсіх добрае уражаньне.

Гэта было ужо другое выступленьне ў бягучым годзе Беларусаў у Дзьвінску.

Першае было 16 студня, калі беларускі хор прыняў удзел у канцэрце ўсіх нацыянальнасьцяў места Дзьвінску.

— Новая беларуская опэра. Беларускі савецкі пісьменьнік Пятрусь Броўка напісаў лібрэтто новай беларускай опэры. Дзея опэры адбываецца на фоне сусьветнай і грамадзянскай вайны. У лібрэтто выкарыстана шмат фольклёрнага матарыялу. Музыку опэры піша кампазытар Е. Цікоцкі. Ставіць опэру будзе Беларускі тэатр опэры і балету. 18 траўня адбылося ў Менску, зарганізаванае Кіраўніцтвам справамі мастацтваў пры СНК БССР, паседжаньне, з удзьцем рэжысараў, артыстаў тэатру опэры і балету, паэтаў, пісьменьнікаў і кампазытараў, на якім было прачытана лібрэтто. Лібрэтто атрымала ацэну, як твору вялікай вартасьці.

— Дня 27, 29 чэрвеня і 1-га ліпня менскае радыё надавала канцэрты дзеля паказу творчасьці кампазытараў Сав. Беларусі. У праграму канцэртаў уходзілі творы Самохіна, Скерца, Пукста, Цікоцкага, Аладава, Залатарова, Тэраўскага. Першы раз была выканана „Фантазія на беларускія народныя тэмы" Туранкова.

— У восені ў Менску адбудзецца выстаўка народнай творчасьці, на якой будуць паказаны малюнкі, жывапіс, скульптура, мастацкая вышаўка, разьба, мазаіка, цэраміка, ткацтва, цацкі і т. д.

— На ўсходнім рубяжы этнаграфічнай Беларусі, каля места Бранска (цяпер Орджанікідзэгорад), на ўзвышшы левага берагу ракі Дзясны, на плошчы каля 2000 квадратных мэтраў адбываюцца экспэдыцыяй смаленскага гістарычнага музэю пад кіраўніцтвам дырэктара музэю Е. І. Каліцінай і пры ўчасьці архэолёгаў Е. І. Гадунцовай (Масква), Кавалені (Акадэмія Навук БССР) і мясцовых краезнаўцаў — раскопкі старадаўнага (прыблізна з III—VIII в. па Нарадж. Хрыста) гарадзішча. Выкапаны жыльлёвыя зямлянкі ці поўзямлянкі, астаткі старадаўных печаў для ператопліваньня мясцовай жалезнай руды, а таксама жалезныя прадметы — нажы, наканечнікі стрэлаў і інш. Гэта паказывае на існаваньне ў тым часе жалезнай прамысловасьці. Апрача таго, існавала і медзяная прамысловасьць, на што па-

казываюць знайдзеныя маленькія формачкі для ліцьця з бронзы шпілек, бранзалетак і інш. прадметаў упрыгажэньня. Медзі, як ведама, ў гэтай мясцовасьці нямашака. Для прамысловых мэтаў яе прывозілі сюды з Паўдзённай Украіны ці з краін Зах. Эўропы, і гэта сьведчыць аб разьвіцьці ў тым часе абмену.

У вялікай колькасьці знайдзены косьці дзікай жывёлы — лася, мядзьведзя, бабра, лісіцы, і хатняй— каня, быка, сабакі, што сьведчыць аб разьвіцьці ў тым часе паляваньня і земляробства.

Вельмі многа знайдзена чарапкоў глінянай пасуды (ручной работы), а таксама гліняных круглячкоў, што служылі грузіламі для рыбацкіх сетак.

Раскопкі даюць цікавы і багаты для навукі матарыял.

— Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала ў гэтым годзе, у беларускай мове, наступныя кнігі. Беларускіх пісьменьнікаў — вершы: М. Хведаровіч — „Усім сэрцам,“ проза: Міхась Лынькоў — „Янка парашутыст“ (аповесьць для дзяцей), Андрэй Лятун” (у новым выданьні) А. Якімовіч—„Залаты зуб“ (зборнік апавяданьняў), Ю. Віцьбіч—„Формула супраціўленьня касьцей.“ Пераклады: Сейфуліна — „Тося,” О. Бальзак — ”Гобсек,” Н. С. Лескоў — Тупейны мастак,” А. П. Чэхаў —„Спаць хочацца” і „Чалавек у футляры,” А. С. Пушкін — „Станцыйны даглядчык“ і „Мяцель,“ „Цыганы“ (гэты твор пераклаў А.Куляшоў), „Каўказскі нявольнік”(перакл. М. Хведаровіч), выбраныя творы („Аповесьць Белкіна”і „Капітанская дачка”), М. Горкага — XVIII і XIX томы поўнага збору твораў Маякоўскага—паэма„Владзімір Ільіч Ленін“ (перакл. П. Броўка), М. Шолахава — трэцяе выданьне „Паднятай цаліны,“ Фурманава—„Чапаеў,“ Яноўскага—„Коньнікі,“ А.Глебава — „П‘есы для самадзейнага тэатру,” Лейцэна — „Лімітрофія” (апавяданьні, перакл. з літоўскай мовы), Новікава-Прыбой —„Жанчына ў моры,” Тургенева — „Бацькі і дзеці,“ і іншыя.

З падручнікаў: Шэўчык і Саломенік — Граматыка беларускай мовы (морфалёгія і сынтаксіс).

Музычны сэктар ДВБ выдаў новыя творы беларускіх сав. кампазытараў: А. Туранкова — на словы Я. Купалы „Песьня кастрычніка,“ А. Багатырова — на словы Купалы „Сонцу,“ беларускія народныя песьні ў апрацоўцы Н. Аладава— „Нету цьвету пякнейшага,“ „Ой ці мне, вох,“ і ў апрацоўцы А. Багатырова — „Ляцела зязюля.“

— Сёлета Акадэмія Навук БССР выдала „Руска-беларускі слоўнік.“ Рэдагаваў слоўнік паэт А. Александровіч. Слоўнік налічае 35 тысяч слоў. Тыраж — 70 тысяч экзэмпляраў.

—„Ворагі народу“ Паводле менскай прэсы у лік „ворагаў народу“ залічаны, апошнім часам, апроч многіх беларускіх сав. пісьменьнікаў, ведамыя літаратурныя крытыкі: праф. М. Піотуховіч, праф. Бранштэйн. Паводле той-жа прэсы ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце „ворагамі“ аказаліся навуковыя працаўнікі: Дзякаў (камісар асьветы), Кучынскі, Каляда, Шчарбакоў, Успенскі, Афанасьеў, Ляўданскі, Пшанічны, Аляхновіч, Мухарджа, Поташ, Кернажыцкі, Бордакоў і інш.

У інстытуце аграглебазнаўства і ўгнаеньняў акадэміі навук БССР выкрыты, як„ворагі народу“, дырэктар інстытуту Пратасеня і праф. Э. Магарам.

Усім гэтым асобам закідаецца нацыяналдэмакратызм і трацкізм











---

**Ад выдавецтва:**

Кніжка 1 (10) „Калосься“ за першы квартал 1937 г. віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі, дзеля чаго ня можам яе выслаць патрабуючым.

# КАЛОСЬСЕ

Літаратурна-навуковы часапіс

*КНІЖКА 4 (13)*



ВІЛЬНЯ 1937 ГОД

Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2
Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.
Заграніцу падвойная цана.
Часапіс выходзіць раз у тры месяцы

## Зьмест кніжкі 4 (13) „Калосься“



Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

Кніжка 4 (13) 1937 г. Год III

## З паднятай галавой

*прысьвячаю Моладзі*

Кажуць: намалюй
ноч месячную, май,
альбо сівую буру на Ля-Маншы.
Ня быў я там, —
а знаю толькі жытніх песьняў край
і сьцежкі моладасьці нашай.

У даль яны ляглі,
ўсю зрэзалі зямлю,
то пылам засьцілаліся, то дымам, —
а ўсё-ж, як заварожаны, ня я адзін люблю
дарогі польныя Радзімы!

Нават восеньню, калі ў мурох сырых,
на цэгле мерзьлі песьняў адгалосы,
на дальніх,
на глыбокіх каляінах залатых
мы чулі топат, скрып калёсаў.

Сьмела!
ўзрокам сакаліным, браце, глянь! —
Прадуцца новых, ясных сьцежак ніткі.
Хто перашкодзе нам прабіць каменьня грань
і долю казачную выткаць?!

Хто там шэпча, баючыся скрыта, зноў
пачуўшы нашых крокаў адгалосы?
Маўчыце лепш!..
Пакіньце нас і спадчыну бацькоў!
За вамі не пайдзём ў Каносу!

Будзем чорнымі рукамі рваць спакой,
ў зару гадоў пылаючых ўглядацца!
Пайдзём праз хмары сінія з паднятай галавой
і скрышым іх
ў мазольных пальцах!

Час ужо сьцягом разгорнутым шумець,
над гарадамі, над бязьмежным полем!
Зрабіць жыцьцём — агонь,
і зьзяньнем—нават сьмерць,—
маланкай азарыўшай полюс!

Час ужо зямлю апаясаць зграй,
рассеіць густа зоры па старонцы,
каб зазьвінелі берагі над Нёмнам і Дзьвіной
пад залатым
нарогам
сонца!

*МАКСІМ ТАНК*

Вільня, 16.X.37.



# У аспэкце соцыяльнай справядлівасьці

*(Максім Танк* — **«Нарач»**, паэма. Вільня, 1937, бач. 100, 5×21).

Пад гэткім агульным загалоўкам бяруся збольшага схарактэрызаваць паэтыцкае творства аднаго з найвыдатнейшых сучасных беларускіх паэтаў Максіма Танка. Свае гэтыя аб ім увагі апіраю на паэме „Нарач", як — памоему — тыповай для ўсяго дасюлешняга яго творства. Галоўнай характэрнай рыскай Танкавай паэзіі ёсьць соцыяльныя ідэалы. У многаструннай, багатай і мілагучнай ліры паэта тон аб народнай крыўдзе — у самым шырокім грамадзкім разуменьні — зьвініць найбольш звонка і зьяўляецца „*leitmotywam*" Танкавых песьняў. Бачым гэта ў „Нарачы", бачым так-жа і ў многіх творах зьмешчаных у зборніку „Журавінавы цьвет", што выйшаў з друку зараз пасьля „Нарачы". Творы ў гэным зборніку: „У туманох вішнёвых", „Ой, калышыцца вецер", „На акопах", „Напеў", „Песьня Кулікоў", „Прайдуць гады", „Нашы дарогі", „Сказ пра Вяля", „Журавінавы цьвет" і інш., як ня трэба лепш пацьвярджаюць маю тэзу.

Праўда, ёсьць крытыкі літаратуры, якія ўважаюць, што паэзія толькі тады ёсьць сапраўды паэзіяй, калі яна зьяўляецца адбіцьцём толькі красы і калі, як зусім чужых сабе, розных іншых ідэалаў не дапускае і імі не займаецца. Крытыкі гэткага кірунку лічаць, што паэт да свайго творства павінен падходзіць вылучна з гледзішча фармальнага і з гэткага гледзішча крытык твор паэтыцкі павінен развацаць і крытыкаваць. З такім аднак паглядам фармалістаў згадзіцца немагчыма, як агулам няможна згадзіцца з усякім аднабокім кірункам чалавечай думкі. „*Veritas in medio*", праўда пасярэдзіне. І гэта заўсёды і ўсюды, дык так і ў нашай справе; відаць гэта з сутнасьці паэзіі.

Паэзія, агулам гаворачы, гэта духовае творства чалавека, творства ў абразох, маляваных словам; паэзія — гэта выяўленьне ў прыгожай форме духовага сьвету паэта, выяўленьне ўсяго таго, што паэта хвалюе, чым ён жыве ў душы сваей, да чаго ён імкнецца. Паэтычны твор — гэта абраз і выяўленьне жыцьця, жыцьця зьверхняга і ўнутранага. Паэзія, кажа Гетэ, стараецца раскрыць тайны прыроды ў абразох.*) Знача, прадметам паэзіі зьяўляецца бадай усё тое, што ёсьць прадметам і іншага роду духовага творства чалавека, а ўжо форма, якой імя краса, прадмет гэны выдзяляе, прысабечвае і робіць з яго галіну паэзіі. Такім чынам зьмест і форма, форма й зьмест — гэта дзьве складовыя, істотныя часьціны паэзіі. Дзеля гэтага паэзіі ня можа быць чужой справа яе адносінаў да жыцьцёвых тайнаў: да праблемаў праўды лёгічнай, праўды этычнай, да праблемаў праўды

*) „Poesie deutet auf die Geheimnisse der Natur und sucht sie durchs Bild zu lösen" (Goethe — Schriften zur Naturwissenschaft 1. Maximen und Reflexionen).

социяльнай і інш, як нияможа быць чужой паэзіі справа яе адносінаў да формы, да праблемы красы зьверхняй і ўнутранай, духовай. Гэтыя дзьве рэчы ў паэзіі разьдзелены быць ня могуць, бо яны складаюць адно цэлае. І чым глыбейшы зьмест думкі паэта, і чым прыгажэйшая форма яго паэзіі, і чым глыбейшае і прыгажэйшае адчуваньне паэта,— тым стрэйнейшая, тым праўдзівейшая яго паэзія. У паэзіі выходзіць тое самае, што агулам у жыцьці чалавека, у якога *„mens sana in corpore sano"*. Паэзія ў *„поўнакроўі"* зьместу і формы, у поўным зьліцьці ў вадно цэлае, непадзельнае, самастойнае. І паэт можа і павінен закранаць усякія праблемы духовага жыцьця чалавека, але павінен рабіць гэта *паэтычна*. Праўдзівая паэзія ня можа мець практычных мэтаў: этычнай, палітычнай, соцыяльнай ні якой іншай. Праўдзівая паэзія ня можа займацца агітацыяй, прапагандай чаго практычнага, канкрэтнага, бо яна тады выходзіць за рамкі эстэтыкі і перастае быць паэзіяй. Усякая праблема духа чалавека, а нават і праблемы практычнага, актуальнага характару могуць быць матарыялам для паэта, але іменна матарыялам: паэт іх павінен такператварыць, каб з іх гэнай актуальнасьці не асталося і званьня, але каб чалавека яны парывалі і захоплівалі, дзякуючы тэй красе і тым унутраным чарам, якія ім надаў паэт.

Добрую абарону паэзіі, якой асновай ёсьць актуальныя праблемы жыцьця, дае нам украінскі паэт Франко ў паэтычным сваім лісьце да паэта Воронога.

Вороный жадае ад паэта:

Пісень давайте нам поети,
Без тенденційноі прикмети,
Без соціяльного змагання,
Без усесвітнього страждання,
Без нарікання над юрбою,
Без гучних покликів до бою. —
Пісень свобідних і безпечних,
Добутих із глибин сердечних,
Де б той сучасник горем битий
Душею хвильну міг спочити.

На гэта адказвае Франко:

Ні, друже мій, не та година!
Сучасна пісьня — не перина,
Не госпітальнее лежання.
Вона вся пристрасть і бажання,
І вся вогонь і вся тривога,
Вся боротьба і вся дорога,
Шукання, дослід і погоні
До мет, що мчать по небосклоні.
Не думай, як поет покине
Загальних питань море сине,
І в тихий залив свого серця
Порине, — мов нурец забеться,
Що там він перли і алмази
Знайде блискучі, без скази,
Знайде тепло і розкіш раю
І світло й пахощі без краю. —



Ах, друже мій, поет сучасний —
Він тим сучасний, що нещасний.
Поет — значить: вродився хорим,
Болить чужим і власним горем,
В нього чутливість сильна, дика,
Еольська гарфа мов велика,
Що все бренить і не втихае:
В ній кождий стрічний вітер грае.

---

Так не жадайже, друже милий,
Щоб нас поети млою крили,
Рожевим пестощів туманом.
Містичних візій океаном,
Щоб опій нам давали в страви, —
Щоб нам співали для забави. —
Слова полова,
Але вогонь в одежі слова —
Безсмертна, чудотворна Фея,
Правдива іскра Прометея.*)

І вось-жа на маю думку М. Танк, які твора прадусім у аспэкце соцыяльных ідэалаў, які соцыяльныя беларускія злыбяды, а знача праблемы актуальныя, практычнага характару, нязвычайна жыва адчувае і якія зьяўляюцца найсільнейшым матывам яго ліры, — твора аднак паэтычна, твора так, як пясьняр чыстай красы. Але да гэтага яшчэ вернемся.

* * *

Максім Танк (Аўгень Скурка) радзіўся ў 1912 г. ў верасьні ў в. Пількаўшчына, Пастаўскага пав., недалёка ад возера Нарач, у беларускай сялянскай сям'і. Калі ён меў толькі два гады, бацьку яго забралі на вайну. Малы Танк астаўся з маткай. Калі ў 1915 г. нахлынула вайна на наш край, маці разам з будучым паэтам пакінула родны кут і выехала ў Расею. Падарозе ў Дзьвінску наступіла спатканьне з бацькам-жаўнерам, што ў Танка крыху захавалася ў памяці. Урэшце маці з сынам сваім апынулася аж у Маскве, дзе й прабыла аж да павароту на бацькаўшчыну. У Маскве маці песьняра зарабляла на пражыцьцё, працуючы сьпярша ў сьвяшчэньніка, пасьля ў палкоўніка, а пасьля на фабрыцы. Паварот дамоў наступіў у 1922 г., калі Танку было ўсяго яшчэ 10 гадоў.

Вучыўся М. Танк сьпярша ў пачаткавай школе ў Маскве, пасьля ў такой-жа школе польскай на бацькаўшчыне, у суседняй вёсцы, тады ў расейскай гімназіі ў Вялейцы; у 1928 г. ў Беларускай Гімназіі ў Радашкавічах і ў 1929 г. у Беларускай Гімназіі ў Вільні і ўрэшце ў тэй-жа Вільні ў расейскай гімназіі. Скончыць аднак гімназіі Танку не ўдалося — зацікаўленьне беларускім грамадзкім жыцьцём давяло яго да арышту і вастрогу ў 1932 г.

*) П. Лушпинський — Естетична аналіза поетичних творів, Львів, 1933, бач. 14.

Веду сваю М. Танк дапаўняў і дапаўняе далей прыватнымі студыямі, вытрывалай самаадукацыяй.

Сяньня Танк яшчэ зусім малады чалавек — яму толькі 25 гадоў. З натуры здольны, працавіты, сыстэматычны, вытрывалы. Беларуская паэзія і літаратура агулам захапіла яго ўсеўладна, ей пасьвячае ён усе свае маладыя сілы. Пісаў і піша далей Танк дужа многа. Шмат яго вершаў асталося пры судовых справах, шмат у вастрожных таварышаў, шмат ужо выйшла друкам, а шмат чакае на тую шчасьлівую хвіліну, калі зможа пясьняр іх выдаць і пусьціць у сьвет.

М. Танк пачаў пісаць у 1928 г. у Радашкаўскай Гімназіі. Друкавацца пачаў у „Часапісе для ўсіх“, які выходзіў у Вільні і які па першым нумары быў спынены. Пасьля гэтага друкаваў ён свае вершы ў некаторых іншых часапісах, якіх спаткаў лёс успомненага. Сьпярша М. Танк пісаў свае вершы, як-бы на пробу, ня верачы ў свае сілы. І толькі ў 1935 г. узяўся ён за беларускую паэзію сур'ёзна, чуючы ў сабе талент і творчы поклік. Год гэты зьяўляецца годам пераломным, рашучым у яго творстве. У гэтым годзе паэт наш бліжэй падыйшоў да жыцьця сялян, з каторымі быў зьвязаны з малых дзён, а ад каторых была адарваўшы яго сусьветная вайна, бліжэй пазнаў іх быт, імкненьні, цяжкую барацьбу за штодзенны быт і барацьбу за іх правы, а так-жа глыбей адчуў красу наднарачанскай прыроды. Дзякуючы гэтаму збліжэньню, Танк захапіўся беларускай сялянскай стыхіяй пераважна ў яе соцыяльным аспэкце, на што галоўным чынам і наставіў сваю ліру.

Першы зборнік вершаў М. Танка зваўся *„На Этапах“*, што выйшаў друкам у 1936 г. На жаль, аднак, лёс гэтага зборніка быў сапраўды *„этапны“*, бо ён быў сканфіскаваны. У тым-жа годзе пасьля гэтага ў „Калосьсі“ пачалася друкавацца паэма *„Нарач“*, якая летам сёлета пабачыла сьвет. Хутка за „Нарачай“ так-жа сёлета паказаўся друкам зборнік вершаў *„Журавінавы цьвет“*. Дагэтуль цэнтральнае займае месца ў творстве М. Танка паэма „Нарач“, як тыповы ўзор яго пісьменства, якой тут ніжэй гэтых некулькі ўваг і пасьвячаю.

* * *

Нагодай напісаць паэму „Нарач“ паслужыла М. Танку наступнае праўдзівае здарэньне. У 1935 г. адміністрацыйныя ўлады воды возераў Нарач, Мястра і Батурына аддалі ў арэнду Дырэкцыі Дзяржаўных лясоў; сяляне, якія часта жывуць толькі з рыбалоўства і якія дагэтуль маглі гэтымі водамі карыстацца вольна, бяз ніякіх агранічэньняў, спатkaліся з вялікімі агранічэньнямі ў карыстаньні з вазёраў. Рыбалоўскую снасьць сяляне павінны былі аддаць пад кантролю ўладам. Факт гэты выклікаў вялікі перапалох і абурэньне ў сялян, якія былі гэтым дужа пакрыўджаны, а так-жа ў часткі польскага грамадзянства, якое ўважала



гэткую ўрадавую палітыку за шкодную інтарэсам дзяржавы. Справу пакрыўджаных сялян глыбока прыняў да сэрца й пясьняр М. Танк і задумаў паэму пад дужа трафным і характэрным назовам „Нарач“.

* * *

Вось галоўны зьмест паэмы „Нарач“ і яе фабулярная канва. У беднай хаце рыбака дачка яго Тацяна пляце сетку. Ужо позна, ноч. Бацька Сымон, стары рыбак, яшчэ на Нарачы ловіць рыбу. Урэшце прыходзіць — і прыводзіць з сабой гасьця. Госьць гэты — гэта нейкі незнаёмы ідэйны змагар за долю і права беларускага народу, які, дачуўшыся аб падзеях над Нарачай, прыходзіць туды, каб дапамагчы сялянам бараніцца. За гэткія справы быў ужо ён у вастрозе, а цяпер, кажа Тацяне:

„Іду ізноў старой дарогай,
іду — бы толькі не спачыць,
а зноў будзіць народ сярмяжны“...

Тацяна ўдумчывая сялянская дзяўчына. Яна бача навокал соцыяльную няроўнасьць і балюча гэта адчувае. Спатканьне Тацяны з незнаёмым ідэоўцам адчуцьцё гэта паглыбляе яшчэ больш і пакідае ў сэрцы глыбокі сьлед сымпатыі да яго. Яна бача ў памяці сваей „вочы незнаёмага“ і пытае:

„Дзе цяпер ён з тымі думамі шалёнымі?
Мо' завеенымі цягнецца дарогамі?“

На Тацяну заглядаецца багатага суседа сын Іван. Бацька гатоў аддаць яе. Яна не згаджаецца: у яе ў памяці „незнаёмы“, а не Іван — вораг сялянскай беднаты і правакатар. Іван падазрае, што Тацяна ужо некага мае сабе на воку і прыракае яму помсту.

Пакрыўджаныя рыбаловы нараджаюцца і на вечарынках моладзі і на сходах адумысловых. На адзін з такіх сходаў зьяўляецца ідэовец Грышка, які радзіць, як бараніцца ад бяды і крыўды. Грышка — гэта той самы незнаёмы. Цягне яго над Нарач і ў Сымонаву хату:

„Вось неспадзявана прыплёўся да вас,
да вашых арцеляў учора...
Відаць не апошні і гэты папас, —
штось цягне мяне да вазёраў...

Ад вас як я восеньню рана пайшоў,
абіў ўжо нямала парогаў, —
адно сваё шчасьце ў змаганьні знайшоў,
другое — спаткаў на дарогах.

Другім гэтым шчасьцем для Грышкі была Тацяна.

Да Грышкі на падмогу далучаецца Прахор. Ён дапамагае яму зьбіраць сход у сяле, ён верным таварышам яму і ў Мядзеле на кірмашы, дзе Грышка праводзе сярод сялян сваю працу, каб залажыць прафэсыянальны саюз.

Тацяна чакае павароту Грышкі з Мядзела над возерам. У дарозе, едучы лодкай, прызнаюцца абое, што яны ўзаемна палюбіліся.

Рыбакі стойка бароняць свайго права. Забурэньне ўзмагаецца. За Грышкам зорка сочаць. Іван ня дрэме — ён выдае Грышку і Прахора...

Заарыштаваныя, абодва з дарогі ўцякаюць. Прахора стражнік цяжка раніць. Ня гледзячы на гэта, абодва йзноў прыходзяць над Нарач і цешацца яе відам.

Грышка:

„Глянь, там, там Нарач, як неба кавалак,
ляжыць абарваўшыся шырака сіне.
А далей, за берагавым пяшчаным валам,
Ляжыць вазёрная краіна!

Прахор:

„Хоць пад канец яшчэ убачу...
так, гэта Нарач“...

Змаганьне рыбаловаў за свае правы стойкае. Яны не ўступаюць і далей ловяць рыбу, як даўней лавілі. Дзеля гэтага па берагох Нарачы поўна вартаўнікоў, што ня пускаюць іх на возера. Грышка прабіраецца ў сяло, каб падтрымаць змаганьне і каб знайсьці каго дапамагчы яму падабраць раненага Прахора. Прахор тымчасам цяжка сумуе па сям'і:

„Нарач! Нарач! Нарач...
Родны бераг імглой заткала.
Там вербы, хата, сям'я“...

Ён адчувае штораз большы боль у грудзях і ў гарачцы зачынае маячыць — здаецца яму, што ён з арцеляй на рыбалоўстве, і няпрытомны ідзе глыбей у возера, на ягоныя хвалі і знаходзіць у іх сабе сьмерць.

Грышка прыходзіць да Сымона і ўзноў навязвае лучнасьць з рыбаловамі сялянамі. Тымчасам рыбаловы знаходзяць утопленіка-Прахора.

Грышка, спаткаўшыся з Тацянай, зьбіраецца ў дарогу. Грышку разважае Тацяна, каб ён быў асьцярожны, каб мо' адседзіў, а прынамся, каб хоць адпачыў. Урэшце разстаюцца. Цяжкое разстаньне. Але аблягчае яго ў абоіх вышэйшая любоў ад асабістай, любоў ідэі справядлівасьці.

Тымчасам роль павадырства сярод рыбаловаў бярэ Архіп і справа ня гіне, разьвіваецца, рыбаловы трымаюцца далей:

„Хай вецер сьмяецца і звоніць
медзьдзю шарахавак, звоніць па вёслах, як гром!
— мы вылавім сонца
ў паднебных прасторах і тонях! —

Топяцца сеткі ў жывое
азёр серабро“...



* * *

Але з гэтага сусім не вынікае, што М. Танк соцыяльныя ідэі праводзіць у сваім творстве коштам паэзіі. Сусім не. Ня віdaцца ў ім ані палітыка, ані соцыялёга, але толькі паэт. Здаецца, што і самыя скрайнія фармалісты ў гэтым сэнсе бадай нічога сутнага закінуць яму ня змогуць. Праўда, Танк тчэ сваю *„нарачанскую сетку“* на аснове цалком актуальных нарачанскіх соцыяльных злыбядаў, але патыкае іх вечнымі, што выходзяць за рамы часу і прастору, агульна-людзкімі ідэямі: красы, дабра і праўды, робячы гэту сваю работу выключна, як мастак, як паэт. Ніякіх практычных тэндэнцыяў ані маралізатарства ў „Нарачы“ Танка не спатыкаем, а спатыкаем там мілагучныя, вобразныя, сапраўды нарачанска-беларускія бытавыя малюнкі, якія самі сваей красой прыкоўваюць да сябе чытача і парушаюць душу яго да далёка выбягаючых за Нарач рэфлексіяў. „Нарач“ Танка, памойму, мусіць закрануць кожнага, нават і таго, хто праціўныя і варожыя героям „Нарачы“ мае соцыяльныя аспэкты. Здаецца, ня можна не спагадаць Тацяне, якая вяжучы сетку разважае аб сваей долі: долі дачкі беднага рыбака, долі батрачкі. Ня можна ня любіць ідэоўца Грышкі, які, закінуўшы сваё асабістае шчасьце, бродзіць па сьвеце і будзіць сярмяжны народ. Ня можа ня выклікаць глыбокага жалю трагічная сьмерць Прахора ў хвалях Нарачы. Ня можна не пачуць агіды да правакатара Івана і г. д.

А ўдзяляецца-ж чытачу паэзія Танка, нават у гэных сваіх мамэнтах соцыёлёгічных, іменна сама сабой, сваей праўдзівай жыцьцёвай красой, праўдай і сілай. Вось адзін з многіх прыкладаў:

„У людзей палосы доўгія, шырокія — разважае Тацяна —
і льны растуць густыя і высокія;
ткуць дзяўчаты з іх палотны і настольнікі,
расшываючы ды ў краскі, ў ясны зоранькі...
У мяне батрачкі зрэб'е ды анучанькі
і ад працы, ад мазольнай, баляць ручанькі“...

Паэзія Танка ў яе соцыяльным аспэкце становіцца яшчэ магутнейшай і паўнейшай дзеля таго, што паэт соцыяльны быт і прыроду Нарача як-бы зьлівае ў вадзін абраз, які для яго большай вобразнасьці і выразнасьці падмалёўвае рознымі лірычнымі, часта глыбока-ідэолёгічнымі, рэфлексіямі.

Нарач і нарачанская злыбяда — гэта фактычна толькі зачэпка, нагода, з якой паэт дае *соцыяльны абраз агульна беларускі.* Нарач — гэта фрагмэнт, ці мо' лепш сымболь Беларусі ў яе соцыяльных імкненьнях, пасьля якіх прыйдзе новае жыцьцё:

„Прыйдзём яшчэ, вёска, твае песьняры,
ня з торбаю песьняў жабрачых:
бярозавым смыкам, на струнах зары,
з табой заіграем іначай“... —

кажа паэт у прадсьпеве.

Або ўзноў Грышка кажа Тацяне:

„Мо' сьцежкаю польнай
з шляхоў Беларусі
калі-небудзь...
да вас я вярнуся”...

як-бы гаворачы, што Нарач — гэта толькі фрагмэнт, ці лепш — абраз усей Беларусі.

Асабліва-ж ярка аб гэтым кажа паэт у эпілёгу:

„Ведаю, песьні, вам хочацца струнных разораў,
шолаху лесу зялёнага, шуму азёраў. —
сьніцца няраз вам шчасьлівая наша зямля.

Будзе ўсё гэта... Сталёвым нарогам падымем
новыя дні, залатых ураджаяў зару
зьбяром у снапы матораў рукамі стальнымі,
і вёснамі будзе цьвісьці маладымі,
вясёлкамі песьняў, мая Беларусь!..”

або:

„І заўтра на струнах — на новых дарогах
прыдзецца яшчэ апяваць Беларусь!..”

* * *

Зазначыўшы хоць дужа агульна аб галоўным матыве ліры Танка, хачу яшчэ зрабіць некалькі наступных уваг.

Вонкавая форма паэмы знаходзіцца на паважнай вышыні. І рознаякасьць тэхнікі вершаваньня, і паэтычнасьць, і чысьціня мовы, і лёгічны і празрысты падзел на 7 часьцей гэтага твору— усё разам рысуецца як з найлепшага боку.

Форме вонкавай цалком сумерна і гармонійна адпавядае форма ўнутраная. Гармонійнае і консэквэнтнае наступства падзеяў, дапасаваньне да характару зьместу адпаведнага віду вершаваньня, адпаведныя да гэтага-ж зьместу і асабістыя лірычныя рэфлексіі, а нават і адпаведныя да гэтага ўсяго сваім характарам высока паэтыцкія малюнкі прыроды і беларускага наднарачанскага быту — усё гэта разам гэтую так арыгінальную паэму „Нарач“ робіць нечым суцэльна-адналітым, поўным сапраўднага жыцьця, срога гармонійным і сымэтрычным, высока і магутна паэтычным. І гэта ўсё ў паэме знаходзіцца, ня гледзячы на тое, што ў многіх мясцох яна пааскубана, паабрывана праз увагу на цэнзуральныя варункі.

Для об'ектыўнасьці і для дабра самога паэта трэба адзначыць і некаторыя недахопы ці хоць-бы звычайныя пахібы яго. Маю ўражаньне, што ў Танка за слабыя, бледныя, нявыразныя, а часам і проста нейкія мляўкія выходзяць характары ягоных герояў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў Тацяны. Праўда, яе высокая ідэовасьць і захопленьне справай социяльнай справядлівасьці зарысоўваецца выразна, але дужа мала гэта праяўляецца ў яе жыцьці і дзейнасьці, мала чуваць, што яна гэта глыбока перажывае, як мала чуваць, што яна цяжка перажывае і сваё расстаньне з Грышкам.



Нешта падобнае можна сказаць і аб некаторых іншых героях. Гэта знача, што Танк на псыхолёгічны бок у сваім эпіцкім творстве павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Здаецца мне, што паэма „Нарач“ дужа надавалася-б на сцэнічную п'есу: на драму. Над гэтым паэту варта падумаць. Тут была-б нагода папрацаваць і над псыхолёгічным ажыўленьнем і ўзбагачаньнем яго герояў.

Высьцерагацца трэба ў паэзіі такіх „актуаліяў“, хоць дужа рэдкіх у Танка, як агітацыя залажыць „профсаюз“, як занадта вымоўнае выражэньне „а поп за хаўтуры загнуў. Бяз грошаў ня хоча маліцца“. Не хачу гэтым сказаць, што гэтых спраў у паэзіі ня можна парушаць. Не. Іх можна і трэба парушаць, але рабіць гэта трэба ня так „актуальна“, не вульгарна, а паэтычна. Бо-ж ведама, што і лыжкай дзёгцю можна сапсуць бочку мёду.

Мова Танка: жывая, паэтычная, стройная, сочная, але без патрэбы дапускае ён часта полёнізмы: нэндза, тлум; русыцызмы: алмаз, зара, а так-жа, здаецца, замнога ўжывае—хоць самых па сабе і харошых—нэолёгізмаў :мяцеліць,журавініць,крынічыць, перазвон.

На заканчэньне пару думак і ўваг. У паэме „Нарач“ Танк паказаўся, як дужа даравіты, арыгінальны, стыхійна-беларускі паэт, які нятолькі зручна і мастацка дае сабе раду хоць і ў вяліхіх, але ўсё-ж агранічаных суб'ектывізмам паэтычных магчымасьцях лірычных, але выказаў вымоўна, што спраўляецца такжа і на шырокіх, проста бязмежных, шырэйшых як нарачанскага рыбака лодка, водах эпосу: эпічнага об'ектывізму.

На гэты раз эпос Танка выліўся прадусім у аспэкце соцыяльным. Таленту свайго паэт „у зямлю не закопвае“: разьвівае яго далей. Відаць гэта дужа выразна ў ягоных паэмках: *„Сказ пра Вяля“ і „Журавінавы цьвет“*, зьмешчаных у зборніку пад назовай гэтай-жа апошняй. Але талент Танка разьвіваецца і далей пераважна у аспэкце соцыяльных ідэяў. І далей Танк астаецца заварожаны соцыяльным эпосам. Добра гэта. Беларуская паэзія мае тут бяздонную крыніцу матарыялу для сябе. Але беларуская паэзія дагэтуль ня мае агульна-народнай, беларускай нацыянальнай эпопэі. Наколькі разумею духовую структуру ліры Танка і наколькі аценяю яго паэтычныя здольнасьці і творчыя амбіцыі, — дык думаю, што „па Юрцы й шапка“ — Танк мог-бы справабаваць сваіх сіл на фоне агульна-беларускага нацыянальнага эпосу. Але для гэтага трэба паэту шмат працы ў галіне беларускай гісторыі, а так-жа далейшай працы над самым сабой: над дысцыплінай і культурай свайго духа.

„І заўтра на струнах — на новых дарогах
прыдзецца яшчэ апяваць Беларусь!..“

Вось-жа не чакаць гэтых новых дарог, але на старых, сучасных дарогах трэба па новаму апяваць Беларусь, каб хутчэй Яна на гэных новых дарогах апынулася...

*Ад. Станкевіч*

## На Новы Год

Глянеш — на родных прасторах вялікіх
шмат яшчэ дрэмлець іржавай тугі,
глуха на долю сярмяжную ў лыках
гонюць паўночныя ветры, сьнягі;

тонуць у гурбах людзкія сялібы,
дзе-недзе стрэхі чарнеюць адны,
тлеюць сьляпыя ваконныя шыбы —
доўга ня гаснуць лучыны агні...

Вучацца там — каб жывучае слова,
сілу яго векавую пазнаць,
каб на палосах нарогам сталёвым
выйшаўшы новыя вёсны падняць.

Не спатыкаць-жа Год Новы на печы!
Шмат яшчэ трэба здабыць перамог...
што нам варожаць бярозы аб нечым,—
на крыжаваньні далёкіх дарог?..

Ведаем самі!.. на нашых раўнінах
вырасьце колькі курганаў сівых...
Толькі каб Роднай Краіне ня кінуць
ў спадчыне—торбаў і песьняў глугіх!
8.IX.37 г.

* * *

Калі выкінула возера
трэскі чаўнакоў сасновыя, —
сьлёзы пырснулі каралямі
на рукавы паркалёвыя.

Сьлёзы — з вочаў цёплых, ласкавых,
словы — з вуснаў нецалованых —
загарэліся, як зоранькі,
ў пене чорнай усхвалёванай.

Хтось адважны тоні чорныя
ночкай асачыў глыбокаю,
пэрлы вылавіў дзявочыя
залацістай падвалокаю.

На палоў плывуць рыбацкія
лодкі сьмелыя і новыя.
Што-ж сыпнуць яны вярнуўшыся
на рукавы паркалёвыя?
2.VII.37



## Лісьце каштанаў

За шэрым схіленым парканам
скрыпіць пясок сырых дарог,
спадае медны ліст каштанаў
на жоўты стоптаны мурог.

Ідзеш, яго рукамі ловіш, —
злавіўшы — пусьціш, хай ляціць. —
Зноў ня шумець яму ў дуброве,
вясеньніх шолахаў ня піць.

І сумаваць яшчэ так рана,
калі ўдаль маніць сьцежак гладзь,
калі на шум лістоў ў тумане,
умееш песьняй адказаць;

калі так хочацца сьмяяцца,
што яшчэ чуеш, бачыш ты,
як ціха сыплецца праз пальцы
каштанаў звонкія лісты.
7.VIII.37.

## Ў худых руках

Паслухайце, вясна ідзе.
Зьвініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
пільнуе куст пахучы бэзу.

А ён расьцьвіў, агнём гарыць,
такім мяккім, пахучым, сінім;
на дрот калючы, на муры,
як хустку, полымя ускінуў.

Я ціха разбудзіў другіх...
Ад сьлёз сінелі вочы бэзам.
І недзе хруснула ў худых
руках іржавае жалеза.
28.VII.37.

## Бярозе

За частаколам ціха што так
расой ты плачаш на пясок.
Мы прынясьлі вядро і лотак,
каб малады твой выпіць сок.

І можа ты за нашу радасьць,
як ляжам мы на струнах меж,
асыплеш жарам лістападу,
густым карэньнем апляцеш.

І возьмеш ўсё, што не аддалі,
ці мо' забыліся аддаць,
людзям, барознам, сіняй далі
і новым маладым гадам.
24.VII.37.

## Дзед і шчупак

Было неба то сіняе, то ружовае —
а пад ім малая хатка рыбака...
І было, як неба, возера шырокае, —
шумела там заўсёды асака.
А ў глыбокай тоні
жыў Шчупак сярэбраны,
з вострымі зубамі, хітры, як купец.
Паляваў ня раз за ім стары дзед з сеткамі,
толькі дарма
муцячы
возерную медзь.
Часам ён засядзе за ракітай з вечара
і накрышыць зораў — залатых зярнят. —
Думае і цешыцца: на прыманку выплывеш,
зораў не паласаваць — ня ўцерпіш, брат!..
Ды памалу дрэме дзед стары над возерам.
А ў глыбокай тоні слухае Шчупак,
як над сонным берагам, ноччу заварожаны,
ціха барадаты захрапе рыбак.
Выплыве тады ён
серабрыста кружачы, —
ціха так, каб хваляў сонных ня збудзіць,
і з-пад сетак сініх, вуснамі сьцюдзёнымі
пачынае зоры дзедавы лавіць.
Перш ён зловіць Сіцца,
посьпе і Мядзьведзіцу,
вып'е сьцежку зорную вясьняных сноў,
выцягнець на'т з сетак абаранку месяца...
І зноў,
ціха кружачы,
ападзе на дно.
І як толькі сонца ў барадзе сівеючай
азалоціць белы серабрысты сьнег,
і як толькі вецер раніцай за пазухай
шчакаціць мяккімі пальцамі пачне, —
дзед прачнецца
спуджаны,
паглядзіць на возера:—
усе зоры выпіў — вылавіў Шчупак...
З гора замахае доўгімі рукамі,
быццам папярхнуўшыся мукой вятрак.
Ды пачне гразіць ён, ў сеткі ўблытаўшыся,
ідучы дарогаю праз сенажаць...
Дзесь гамоняць звонка кнігаўкі і чэпікі,
разсыпае вецер жвірам песьню жаб.
І здаецца дзеду, што сьмяецца возера,
ў сонцы расьцьвітаючы, як чырвоны мак, —
хіліцца, хахочa асака зялёная,
што яго, старога, ашукаў Шчупак.
13.VII.37.

## Павязьлі цягнікі

Павязьлі цягнікі
восень з вёсак у горад
праз імглу, праз іржышчы, бары, —
каб з антонавак сонца і з стагоў памідораў
дагарала на шыбах вітрын.
І ніколі ня можна было ўдоваль напіцца,
таго сонца, сіротам малым,
з безрабочых кварталаў,
сівым камяніцам,
сутарэням глыбокім,
сырым...
Але можна было складаць песьні пра восень
і пра жоўтае лісьце дарожных бяроз, —
ў кожным слове шумела мільёны калосься
і зьвінела сталь вострая кос.
Толькі, гэткую песьню пачуўшы, вітрыны
раптам гасьлі,
трывожна крычалі гудкі...
ды ляцелі на вёскі, з новай весткай па шынах
ашалелыя
з грывай агня
цягнікі.
Іх на кожным паўстанку,
як ўраджайнае лета,
спатыкалі дзяўчаты і хмары касцоў,
і з усей Беларусі, скрыпачы і паэты, —
а іх больш
як, ў Краіне Маей, каласоў.
17.IX.37.

* * *

Ўздымаецца лісьце сярэбраным роем.
Абліў усё месяц марознай пагодай.
І песьня лунае начлежная воддаль
над полымем яркім калышучы мроі.
Эх, весела з рэхам асеньнім спаткацца!
і гулка адклікнуцца песьняй вясёлай, —
калі маеш вёсен адных толькі дваццаць
і ў сэрцы гарачы вёшнёвы іх золак. —
Тады нам шрамы на руках ад жалеза,
здаецца, маўчаць, анямелі, ня ныюць, —
скрыпяць толькі ціха гасьцінцы сівыя,
ды звоняць асотам паросшыя межы.
І сыпяцца зоры... Нат дзедаву шапку
набраў-бы іх пэўна кудлатую поўна
і то засталося-б мо' пару ахапкаў
для Нарачы шэрай, для сініга Нёмну! —
Панёс-бы іх ціха, як хлеба зярняты,
па польных дарогах далёкіх і блізкіх,
каб толькі сьмяяліся дзеці ў калысках,
каб шыбы начамі гарэлі у хатах...
А лісьце ўздымаецца, кружыцца роем,
як сьнег каляровы калышыцца воддаль...
Мо' гэта ня лісьце... — крылатыя мроі,
аблітыя месячнай белай пагодай...

## Пачатак оды

З сьцюдзёных красак белых, сініх
зусім сплятаць вянкі ня штука. —
Мець толькі трэба трохі спрыту,
без мазалёў мяккія рукі,
і трохі больш мякчэйшых скабаў,
і рыб'я хвост каб плыць за модай, —
тады балотны рохат жабы
ахрысьцяць нябывалай одай.
Хто ня чытаў з зліняўшых вуснаў
усякіх маляваных німфаў,
таго абвыюць па-сабаччу,
зусім бяз толку і бяз рыфмы.
А не схіліўся? — яшчэ лепей
сьвінны кароль ці туз фабрычны
ярлык на творчасьці налепіць
і над табой паставіць клічнік.
Тады пацягнуць цябе чэрці
і па жалезе і па сходах...
у іх „канцом“ гэта завецца,
а у мяне пачаткам оды.

*МАКСІМ ТАНК*



# На пераломе

*(Заўвагі да творчасьці Максіма Танка)*

Канец трыццатых гадоў нашага сталецьця будучыя дасьледчыкі нацыянальных рухаў назавуць у Беларусаў канцом беларускага Адраджэньня. Першая ліквідацыя „нацдэмаўшчыны“ на Усходзе і „Грамады“ на Захадзе — вось гранічныя капцы закончанага пэрыяду. Адраджэньне культурна-гаспадарчае не магло зьмясьціцца ў недатарнаваных да сябе рамках, яно шукала выхаду ў палітычным афармленьні, але дзякуючы вонкавым прычынам і наяўнасьці цэнтрабежных сілаў афармленьня гэтага не знайшло. Гэтак закончыўся адрэзак навейшай беларускай гісторыі.

Эпігоны адраджэнізму*) ў заходне-беларускай літаратуры (тачней у паэзіі) не змаглі унікнуць у дух эпохі і таму не перастроілі сваіх лір, яны не змаглі знайсьці вех аддзяляючых адбыты пэрыяд гістарычнага разьвіцьця і... завісьлі неяк у паветры.

Перад імі паўстала пагроза стацца тыповымі прадстаўнікамі fin de siécle'ю.

У той час, калі з беларускай літаратуры на Усходзе сілком зрабілі рыкшу, на каторым раз'яжджае расейскі Чапаеў, літаратура на Захадзе пачала таптацца на месцы ўзбагачаючы форму і шліфуючы дэталі. Паўстала паэзія зачараванага кола, каторую цягнулі песьняры ў ярме старых канонаў.

Потым — зарысаваўся сілуэт Максіма Танка.

---



Перад намі тры кнігі Максіма Танка. Першая—*„На этапах“*— ёсьць цалком уданым экспэрымэнтам перашагнуць праз традыцыйны адраджэнізм. У дасканалай прадмове да зборніку Р. Баравы называе кірунак творчасьці Танка бунтам зямлі.

Ён піша:

> „Гэты бунт, які падымаецца ад чорных скібаў, прыходзіць на замену таму пэрыяду, які адбівае ў сабе матывы народнага адраджэньня. Тады трэба было яшчэ davодзіць, што мы людзі, або хочам „людзьмі звацца“, там была скарга, часта сьлёзы, трэба было расчуліць сьвет сваею нядоляю, трэба было перамагаць нявольніцкую псыхіку, якую ў спадчыну ад вякоў пакінула для нас праклятая паншчына. Цяпер у паэзіі іншыя думы, бадзёрыя настроі, бунтарныя песьні...“ —

У гэтай кнізе як і ў наступных Танк рашуча адвярнуўся ад адраджэнізму. Аўтар аніводным словам не ўспамінае аб адра-

---

*) Ужываю слова адраджэнізм у сэнсе літаратурнага кірунку роўналеглага да нацыянальнага Адраджэньня.

джэньні. — Ён зрабіў шаг наперад і замкнуў зборнікам літаратурны пэрыяд. Адначасна з нутраным пераваротам, творчасьць Танка была піонерскай у галіне вершаваньня. Паўстала новая форма — белы верш дагэтуль у нас чамусьці непрактыкаваны, выкуліся строфы нерымаваныя, але з „сваім“ ударным рытмам.

Наагул Танк ударны паэт пераломy:

„Жыць нам прышлося вялікімі днямі,
на пераломе
жалеза і песьняў;
ў новых маланках, у новым громе
молатам выкутых песьняў“...

І амаль што ў цэлым зборніку „На этапах“, там, дзе пясьняр хоць на мінуту адыйшоў ад вастрожных візыяў і рэмінісцэнцыяў, часам побач і ў сувязі з імі раздаецца топат ног — гэта ў маршы праходзяць маладыя кагорты....

Ня ўсе ў бягучы мамэнт зразумелі творства паэта. Былі ўжо галасы „пратэсту“. Для вуха і нэрваў філістраў яно забунтарнае. Яны не даруюць Танку адсутнасьці ў ягоных творах проблематыкі адраджэньня і тых штурмуючых калоннаў санкюлотаў, што роўным крокам адбіваюць такт на цэлым абшары ягонае лірыка-эпікі.

Філістры ўжо забіралі голас і лапаталі аб Танку, што ён, бачыце, недастаткова патрыятычны, не распрацоўвае „нацыянальнай тэматыкі“ і выказывалі іншыя сэнтэнцыі, стоячыя больш-менш на ўзроўні літаратурных вымаганьняў баб з магля. З вуснаў гэтых-жа людзей чуліся скаргі, што ў нас прынята выхваляць кожнага аўтара. На наш пагляд, сталася гэта таму, што Максім Танк крыху выйшаў наперад, высунуўся з шэрэгу людзей свайго пакаленьня. Прыходзяць на думку словы Ніцшэ ў „Зьмярканьні бажкоў (Götzen-Dämmerung): — Я напісаў для немцаў кнігі найглыбейшыя па зьместу з усіх, якія яны маюць, што ёсьць дастатковаю асновай, каб немцы аніводнага слова з іх не зразумелі. —

Навязалі мы тутака да слоў Ніцшэ неприпадкова: творчасьць Танка нельга паддаць уплывалёгічным дасьледзінам; яна моцная, ап'яняючая размахам і адначасна падскурная. І тут знаходзім некаторы стык з Ф. Ніцшэ. Ашаламляюча ўладарныя словы выступаюць у нашага песьняра ў падобнай ступені, як у творах вялікага немца. І чытаючы верш „П'яны баян“ мімавольна прысоўваецца да нас Заратустра са сваім: „Ich lehre euch den Übermenschen“ і часта паўтараным зваротам: — „Es ist die höchste Zeit!“, —

---

*„Нарач“*. Барацьба за вазёры. Мартыролёгія беларускіх рыбакоў. Багаты краявід. Цудоўныя пленэры. Каротка-мэтражны фільм ці хроніка Фокса. Гэта адзін бок.



З другога боку ўзлёты паэзіі стульна злучанай з акцыяй. Паэзія пераломy, пераломy „жалеза і песьняў.“

Паэма „Нарач“ у сямі частках мае эпілёг:

„За шыбамі тлеюць у попеле сінія зоры.
Мерзнуць ад сьцюжы апухшыя пальцы, баляць,
Ведаю песьні, вам хочацца струнных разораў, —
шолаху лесу зялённага, шуму азёраў, —
сьніцца няраз вам шчасьлівая наша зямля.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— — — — — — — — — —

І ноч вось праходзе... За шыбамі вецер...
За сына дзесь моліцца матка цяпер...
А я хачу сонца засеяць па сьвеце
і ворагам кінуць у вочы з пад сэрца
апырскапы кроўю гарачаю верш!
Вось раніца ціха лягла на падлогу...
Хоць хлеба няма, але песьні бяру, —
разсеяць іх трэба па родных разлогах.
І заўтра на струнах — на новых дарогах
прыдзецца яшчэ апяваць Беларусь.“ —

Калі ёсьць эпілёг, дык трэба думаць, што твор зусім закончаны. Аднак, здаецца, што гэтак ня ёсьць—два разы варочаецца Грышка на Нарач, а потым у крытычным мамэнце ён сцэзае. Чаму, — мы ведаем. Але далейшы лёс галоўнае дзеючай асобы нас вельмі цікавіць і непакоіць. Выясьненьня няма. Ці далейшая ягоная дарога можа быць у сучасны мамэнт выясьнена ці не? Палкае пытаньне! Ня нам уходзіць у інтэнцыю аўтара, але разгорнуты абраз патрабуе лёгічнага заканчэньня — не канешна амэрыканскага happy end'у — крыху сьвятла на пэрыпэтыі цэнтральнае фігуры.

Магчыма, што ў гэтай справе і гэтай плошчы разьвязаньня ня знойдзем, мо' трэба яго пашукаць у трэцяй кніжцы Танка— *„Журавінавы цьвет“?* Мо' „там, дзе паспрачаліся тры дарогі: адна з вёскі, другая з князевага двору, а трэцяя з сьвету шырокага, вольнага; там, дзе з працы йдучы па сярэдняй трапе, людзі вострыя косы нясьлі, гаварылі“?...

„Сказ пра Вяля“ (народная быліна) пераносіць нас з Нарачы на іншы грунт і намагаецца адцягнуць нашую ўвагу ад адкрытага пытаньня.

Да народных былінаў трэба падыходзіць надта асьцярожна; гэта пераважна род твораў у грамадзкім значэньні безадказны.

Мала таго, да народных былінаў можна мець нават пэўнае упярэджаньне. Яны неяк здэградаваліся. У часы савецкага нэпу выйшла друкам быліна расейскага клясыка Дем'яна Беднага аб „Тресте Синдикатовиче.“ Вось фрагмэнцік:

— А подитко ты Трест Синдикатович,
Со своею дружиной хороброю
Со своей головою коммерческой
Да со всею своею словестностью
К растакой распроэтакой матери.—

Таленавіта, толькі зашмат стылізавана пад народнасьць. У Танка ў „Сказе пра Вяля" мала стылізацыі, затое дамінуе грамадзкі элемэнт. Вяль — гэта Грышка з „Нарачы," толькі меней рэторычны; ён ня мае ў сабе рэзонэрства, адзінка моцная (волат) і актыўная. І здаецца, што гэнэзы „Сказу пра Вяля" трэба шукаць у незакончанасьці „Нарачы." Што да апанаваньня сродкаў мастацкага уздзейнічаньня, дык у гэтай быліне Танк паказаў сябе сапраўдным майстрам інструмэнтацыі.

— А як выйшаў Вяль з чачоткавай дубінай,
замахнуўся, — быццам тысяча вятроў! —
а ударыў — сьледам пасеку пакінуў,
ці граду галоў — расьцьвіўшых качаноў!
Як зайгралі
косы юрачку стальныя,
ўзьнялі коні капытамі крыжачок,
як лявоніха пад сосны баравыя
лапцем шэрым
узьмяцеліла пясок!
Адступаць пачала князева дружына,
ўдаль вячэрнюю палёў, назад,
быццам поясам
парваным, жураўліным,
быццам стада
разагнаных
курапат... —

Максім Танк першы з заходне-беларускіх песьняроў замацаваў і сконстатаваў у мастацкім уяўленьні канец беларускага Адраджэньня. Знаходзімся на наступным этапе, яшчэ не па рамантычнай прадвесьні эпігонаў адраджэнізму, а толькі на пераломе жалеза і песьняў. Што да „прадвесьняў," дык — параўноўваючы да іншых сучасных нашых паэтаў—Танк ня надта шчодры — прадвесьнямі не раськідваецца. Наадварот: — ...агонь запалілі мы поўначчу чорнай...
— Ягоная муза далёкая ад рамантыкі: —

Рэж нарогам дзірван!
Вытры сталь волі з іржы!
З моладзьдзю поплеч стань,
хто хоча заўтра жыць!

Які пэрыяд папераджае прадвесьне, пясьняр не гавора. Ён толькі пясьняр і з крытэрыямі рацыяналізму падыходзіць да вытвараў натхненьня абсолютнага права ня маем. Але зарызыкуем адхіліць край паэтыцкае завесы, заглянуць углыб і прачытаць на экране аўтаравай інтуіцыі назоў пары наступіўшай пасьля Адраджэньня.

Яна, здаецца, будзе звацца — парой македонскай...

*А. Бужанскі*



# З асеньніх настрояў

Дзень асеньні ўстаў панад нівамі,
праціраючы вочы сьлязьлівыя,
йржавай рызай лісьця і анучамі,
брудна-шэрых туманаў акручаны.

Ўстаў, зірнуў, пазяхнуў... Ўзварухнулася
груганоў грамада між асінамі,
чорнай сажай крыльля разгарнулася,
зашумела, ўзьнялась над галінамі,

й паплыла у палі, цяжка змучана,
ймглой рудою, як сеткаю, злучана...

А разбуджаны дзень панад нівамі
расплюскаўся дажджамі краплівымі,
мокрым ветрам раз'енчыўся нечага,
растапіўся у жалях да вечара...

# Асеньняя элегія

Дзень устаў яснай ціхай
над сьцішаным полем асеньнім,
усьміхнуўся пажоўклым асінам
праз сіні, астыўшы туман,
растапіў асьцярожна
ў барознах залёгшыя цені, —
і тады... зашумеў у лазе
балазе загуляўшы цыган.
Закруцілася вірам-забавай
іржавае лісьце ігрушаў,
загула многаструнна
над руняй іглястай імгла.
Ўсё ён — дзень—у палёх раськідаў,
перабраў, разварушыў
пахам восенным моцным,
урочным упіўся, відаць,
на пажоўклыя дрэвы
з напевам хрыплівым зваліўся,
пакрышыў, пазагачыў
дзіцячыя пальцы сукоў.
А пасьля...—уздыхнуў і уміг
пераціх, засмуціўся,
лёг на ўзмежку нязручна
ў анучах зрудзелых лістоў.
Так і ў нас пераціхнуць калісьці,
як лісьці, парывы, змаганьні

прамінуць усе праўды,
сапраўды парвуцца, як ніць, —
азірнёмся назад, на змысьлёныя цені,
хаценьні, жаданьні...—
ляжам з восеняй сьлёзнай
ў барозне сьлізкой адпачыць...

*НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА*

## Ліпнёвы дзень

Паўдзённы сьпёк, над возерам калышыць
крыштальны дах расплаўленага дня.
Ў вадзе узор ня можыць сонца вышыць
ніяк, —
чуць-чуць хвалюецца вада.

Заснуў чарот...
ня бродзіць ціхі шолах,
маўчыць трысьцё, сіта і асака.
Як да дзяцей —
да белых лілі кволых
сама з пяшчотай цягнецца рука.

Ліпнёвы дзень...
На ўзгорках пазалотай
хвалююць сэрца жыта і аўсы,
маўчыць ў душы трывога і клапоты,
ў душы спакой —
ліпнёвае красы.

Пад чоўнам сіні блеск вады цьвітучай
на вёслах звоніць капель ціхі плёск,
крынічуць словы нейкі хмель пявучы,
і бродзяць думы —
ліпкія, як воск.

Вісяты 2.VII.37.

## Ліпень

Зьвіняць над ліпай пчолы
і пахне сьвежы мёд,
ў калосьсі сьпелым шолах
заводзіць карагод.

Касцы ў лугох пачалі
сталёвы перазвон.
Сіней за сінь паркалю
цьвіціць курчавы лён.

Ідуць да жыта жнеі,—
пяюць пра паласу;
запомнілі, што елі
бяз хлеба ўжо вясну.

А дзень такі гарачы, —
крышталіць сонца даль, —
сьпяваюць песьню працы —
жняя, касец і сталь.

Дзіцячая улада
над вёскаю усей, —
гарох, бабоў і саду
вартуй сусед пільней.

Зьвіняць над ліпай пчолы
і пахне сьвежы мёд, —
брыдзе па вёсках-сёлах
ліпнёвых дзён паход.

Вісяты 18.VII.37.

* * *

Па палудню — звыклым буднем,
не чакаў нат' на бяду,
а спаткаў цябе ля студні,
як ты чэрпала ваду.

Вочы зорамі сьвяцілі,
па плячы каса паўзла
і страйней белай лілii
ты уся сама была.

Штось гутарылі пра жніва,
пра ячмень і пра аўсы,
а за плотам сьветлым дзівам
пеніў вецер каласы.

І пілі з вядра вадзіцу
і п'янелі ад вады, —
гэтак часам сон сасьніцца, —
сьветлы сон і малады.

Ці бяз згоды, ці за згодай, —
я ня знаю аж дасюль, —
сонца яркай пазалотай
заліло цябе усю.

Расталіся у задуме
без пяшчот і цёплых слоў,
толькі вочы ціхім сумам
правялі цябе дамоў.

І ні слова пра каханьне
не сказалі мы тады.
І ня знaлі, што спатканьне
прынясе нам шмат бяды.
Вісяты 5.VIII.37

## Лета

Лета—жанчынай у хустцы шаўковай —
ліпень гарачы вядзе па зямлі.
Хаты у зелень хаваюць галсвы,
золатам сьпелым хвалююць палі.

Цягнуцца з сенам вазы па дарозе,
з пылам танцуюць за імі вятры,
моліцца конік, на ўзьмежку, — пагодзе;
вострyць сялянкі у кузьні сярпы.

Голыя дзеці у сонцы гарачым,
звонка крынічыцца сьмех над ракой, —
лета вядзе, перагудам зьвінячым,
сьветлыя дзівы жыцьця за сабой.

Хутка і пільніца прыдзе у вёску, —
косы з чырвонай зарой зазьвіняць,
стануць у россып касцы на палосках,—
рушыць да бою працоўная раць.

## Жніво

Высахлі каплі расы на узьмежках,
з неба ласкавае сонца глядзіць, —
сьцелецца шоўкам трыпутнік па сьцежках,
жніва выходзіць прасторам званіць.

Белымі птушкамі ў жыце галовы...
Шастуюць жмені уздоўж паласы...
Вецер па межах гуляе у схову, —
гнуцца і ціха шумяць каласы.

Глянуў іржэўнік...
                    і струны — разоры...
Роўна кладуцца на гранку снапы,
Сам разьвярнуўся настольнік узорны, —
новы узор нашываюць сярпы.

Ўюцца вускія палосы далёка,
беліцца жоўтая гладзь каласоў.
Працай расквечана, полем шырокім
лета праходзіць, як песьня бяз слоў.
Вісяты, жнівень 1937 г.



## Начная калыханка

Ноч гуторыць шопатам
      з лісьцем і травой:
—ўсе людзкія клопаты
      патушу з зарой.

Над палямі соннымі
      распушчу крыльлё,
буду снамі ўзорнымі
      калыхаць жыцьцё.

Стану над вазёрамі,
      дзе шуміць сіта —
загарыцца зорамі
      цёмная вада.

На гальлю бярозавым
      косы распушчу
і абсыплю росамі
      сонную зямлю.

Пабрыду дарогамі
      між лагчын і гор,
ціхаю зьнямогаю
      абніму прастор.

Хай крычаць жабрачыя
      совы у гаю, —
я над вёскай сьпячаю —
      вартаю стаю.

Таболы 15.IX.37 *МІХАСЬ МАШАРА*

---

# Праблема сфармаваньня нацыянальнае душы Максіма Багдановіча

*(Да дваццатых угодкаў сьмерці паэта)*

А. Навіна

25-га траўня с. г. мінула дваццаць гадоў ад дня перадчаснае сьмерці Максіма Багдановіча. Каб адзначыць гэтыя сумныя ўгодкі, Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы зладзіла ў аднэй із саляў Віленскага Унівэрсытэту ўрачыстае паседжаньне, на якім беларускі літаратурны крытык Антон Навіна прачытаў абшырны даклад аб жыцьці і творчасьці вялікага паэта.

Пераказваем тут з магчымай точнасьцяй галоўныя думкі тэй часткі рэфэрату, у якой дакладчык даў разьвязку праблемы: як гэта сталася, што Багдановіч — далёка ад роднага краю, сярод чужога нацыянальнага асяродзьдзя, ня гледзячы на магутны ўплыў гэткае багатае расейскае культуры, — захаваў сваю нацыянальную душу, вырас на сьведамага Беларуса і—больш таго — стаўся беларускім нацыянальным песьняром.

— Сярод цэлае чаргі нашых паэтаў і пісьменьнікаў, пераважна сыноў беларускае працоўнае вёскі і болей або меней актыўных барацьбітоў за беларускую справу, якія к мамэнту выступленьня Багдановіча на паэтыцкай ніве мелі ўжо слаўнае імя, ён стаіць неяк асабняком: ён іншы ад іх, да нікога не падобны, ад усіх роўна далёкі. Ён ня мае магутнае сілы, выбуховасьці, дынамізму вершаў Купалы, не дае шырокіх, сакавітых малюнкаў Коласа: Багдановіч ціха пяе свае маленькія, але заўсёды вялікае мастацкае вартасьці кантыленкі, якія сам некалі прыраўнаваў да статуэтак ведамага італіянскага скульптара — Чэльліні. І творчасьці яго нельга ставіць у адзін рад з творчасьцяй іншых беларускіх паэтаў: непараўнальнага нельга ні з кім раўнаваць. Аб ім трэба гаварыць, як аб *нязвычайным у нашай паэзіі фэномэне.*

Каб разгадаць Багдановічаву творчасьць, каб зразумець, як мог гэты фэномэн зьявіцца ў беларускім культурным жыцьці, трэба перадусім бліжэй пазнаёміцца з асобай паэта, з тым асяродзьдзем, у якім ён нарадзіўся і вырас, з тымі культурнымі і ідэолёгічнымі ўплывамі, якія выраблялі ягоную душу.

Пачнём з нудных звычайна, але неабходных інфармацыяў,— з „біографічнага пратаколу“ Максіма Багдановіча.

Нарадзіўся Максім Багдановіч у Менску—у 1891 годзе (паводле старога стылю — 27 лістапада), у сям'і вонкава — бо па мове—абмаскоўленага беларускага інтэлігента, выхаджэнца з беларускае вёскі, Адама Багдановіча. Зусім малым дзіцянём перабраўся з бацькамі ў Горадню, дзе Адам Багдановіч меў працу і жыў ад 1892 да 1896 году. У 1896 годзе памёрла ў Горадні маці Максімава, а хутка пасьля гэтага бацька перабраўся ў Ніжні Ноўгарад і стуль — у Яраслаўль. Максіму ў мамэнт выезду з Бацькаўшчыны было толькі пяць гадоў. Пачатковая навука пачалася ў яго ў Ніжнім Ноўгарадзе дома: вучыў яго бацька. На



адзінаццатым годзе хлопчык паступіў у ніжагародзкую гімназію. У 1908 годзе, калі бацька перайшоў на службу ў Яраслаўль, і Максім перавёўся ў яраслаўльскую гімназію—у шостую клясу. Скончыў гімназію ў 1911 годзе. Тады зьезьдзіў на Бацькаўшчыну і бліжэй зыйшоўся з беларускімі адраджэнцамі, згуртаванымі пры „Нашай Ніве“. У тым-жа годзе паступіў у Яраслаўльскі Юрыдычны Ліцэй, які скончыў у 1916 годзе. Часта хварэў на грудзі,—у яго пачаў разьвівацца тубэркулёз. У кастрычніку 1916 году — ужо падчас вайны — паехаў у Менск, каб тут працаваць дзеля беларускае справы. На жыцьцё зарабляў, працуючы на становішчы сакратара „Губэрскага Прадавольственага Камітэту“. Увесь вольны час аддаваў ідэйнай рабоце. Ад напружанае працы стан ягонага здароўя шмат пагоршыўся. Тубэркулёз шыбка разьвіваўся, і ў лютым 1917 году Максім Багдановіч быў прымушаны выехаць лячыцца ў Крым. Там — у Ялце — адзінокі памёр 25 мая (па старому стылю—12 мая). Пахаваны на тамтэйшым магільніку.

Як бачым, толькі першыя гады свайго жыцьця — жыцьця йшчэ бязумоўна нясьведамага — правёў Максім Багдановіч у Беларусі. Сьведамае жыцьцё пачынаецца ў яго на чужыне. І вось адразу наша мысьль пачынае шукаць адказу на цікаўнае пытаньне: як-жа магло стацца, што ён ня толькі захаваў сваю беларускую душу ў чужацкім асяродзьдзі, але якраз там — на чужым грунце — вырас на сьведамага нацыянальна Беларуса. Як там— на чужыне — стаўся беларускім паэтам? Чаму, хоць меў такую лёгкую магчымасьць пісаць у чужых мовах, а наўперад — у мове расейскай, якую чуў і навакол, і ў сябе дома, накіраваў свае творчыя сілы да беларушчыны? І — чаму чужая нацыянальная стыхія не захапіла дый не праглынула яго?

На ўсе гэтыя пытаньні „біографічны пратакол“ адказу, ясна-ж, даць ня можа. Дакладчык знайшоў яго ў тых досьледах аб жыцьці паэта, якія ўжо былі апублікаваны, і ў тых успамінах і карэспадэнцыях сучасьнікаў Максіма Багдановіча, якія часткова толькі ведамы шырокаму грамадзянству.

Галоўнымі дзейнікамі, якія вызначылі жыцьцёвы й паэтыцкі шлях Максіма Багдановіча, як сьцьвярджаюць ягоныя біографы, былі: спадчыннасьць, дамовая атмасфэра, вонкавае культурнае асяродзьдзе, кнігі, урэшце — беларускі адраджэнскі рух і сьведамая воля паэта. На ўсіх іх неабходна хоць-бы коратка затрымацца.

Сям'я Багдановічаў з паходжаньня — беларуская сялянская сям'я. Дзед Максімаў, Юры, быў яшчэ прыгоньнікам — кухарам у двары абшарніка Лаппы, у Бабруйшчыне. Гэта быў звычайны чалавек, які, здаецца, не пакінуў сваім патомкам ніякае духовае спадчыны. За тое шмат пакінула ім жонка ягоная, Анеля, якая — паводле слоў Адама Багдановіча — адзначалася вялікімі матэматычнымі здольнасьцямі і была знамянітай апавядальніцай народных казак. Апошнюю здольнасьць яна ў свой чарод атрыма-

ла ў спадчыну ад сваей маткі, Рузалі, якая была адначасна і апавядальніцай, і паэткай, і — варажбіткай. Вось скуль плыве зацікаўленьне беларускай народнай творчасьцяй у Адама Багдановіча, першага інтэлігента ў сям'і, даволі ведамага працаўніка на ніве этнографіі, які і Максіму прышчапіў гэтае зацікаўленьне. Прышчапіў у значнай меры сьведама — падчас навукі ў хаце, падчас супольных экскурсіяў у вольныя ад працы гадзіны за места — на ўлоньне прыроды, на Волгу. Хаця ў доме Адама Багдановіча панавала ўжо расейская мова, але дух заўсёды быў тамака беларускі. Беларуская песьня, да якое з вялізарным піетызмам адносіўся Адам Багдановіч, глыбака ўзварушала і Максіма, чаруючы яго сваім хараством. Ён не здаволіўся тым, што чуў ад бацькі — на словах. Як толькі навучыўся чытаць, дык хапаўся за кніжку з беларускімі народнымі творамі і зачытываўся гэтымі творамі. Да таго-ж беларускія народныя казкі, апавяданьні, легенды, прыказкі Максім ад маленства пазнаваў ня толькі з кніжак ці ў бацькаўскім пераказе: у Ніжнім Ноўгарадзе жылі дзьве замужнія сястры Адама Багдановіча, і ў гэтых сем'ях, хоць вонкава — з гледзішча мовы — абмаскоўленых, гэтак сама быў крэпкі беларускі дух, панавалі беларускія традыцыі. Там была яшчэ адна крыніца, з якое Максім Багдановіч прагавіта піў народную паэзію. — Гэтак і спадчыннасьць і беларуская атмасфэра, панаваўшая ў найбліжэйшым асяродзьдзі, былі бясспрэчна тэй падставай, на якой магла вырасьці і сапраўды вырасла беларуская сьведамасьць Максіма Багдановіча — на чужыне.

Але-ж гэтага самага аказалася замала для ягонага большага брата, Вадзіма, які, захоплены агульна-расейскім культурным жыцьцём і рэвалюцыйным рухам, астаўся далёкім ад нацыянальна беларускіх заінтэрэсаваньняў Максіма. У вырастаньні беларускага пачуцьця ў Максіма мусіла адыграць вялікую, а мо' і рашаючую ролю псыхічная спадчына па матцы ягонай — Марылі. Адам Багдановіч неаднакротна падчырківае факт, што ў псыхіцы Максіма быў вельмі значны элемэнт „Малевіч“ (гэткае было дзявоцкае прозьвішча Марылі Багдановічавай). Маці Максімава была натурай вельмі ўражлівай, з нязвычайна разьвітай жывасьцяй выбражэньня, лёгка пабудлівай, з нахілам да паэзіі (адно яе расейскае апавяданьне было надрукавана ў часапісе „Гродненскія Губернскія Вѣдомости“ за 1893 год). Большасьць гэтых рысаў матчынае псыхікі з дзяцей пераняў толькі Максім. І хіба-ж дзякуючы ўспадкаванай гэтак асаблівай уражлівасьці сваей так горача прыймаў ён да сэрца ўсё, што датычыла далёкае, нязьведанае, казачнае Беларусі. Максім Багдановіч сам некалі апавядаў дакладчыку, што гэтая далёкая і фактычна зусім нязнаная йшчэ Бацькаўшчына нейк дзіўна чаравала яго і вабіла к сабе ад таго часу, як ён пачаў жыць сьведамым жыцьцём: самае імя яе выклікала ў душы паэта дзіўнае ўражаньне, і здавалася яму тады, што вось-вось брызнуць сьлёзы ў яго із вачэй.— Вось чым можам вытлумачыць тую акалічнасьць, што Вадзім



і Максім, родныя браты, аднолькава ўзгадаваныя бацькам, узраставшыя ў тэй самай духовай атмасфэры, чытаўшыя тыя самыя кніжкі з багатае бацькавае бібліятэкі (у тым ліку беларускія этнографічныя зборнікі, беларускія вершы Дунін-Марцінкевіча і Бурачка і г. д.), аказаліся такімі рознымі і сваімі характарамі, і зацікаўленьнямі, і ўрэшце — ідэолёгіяй. На Максімаву паэтыцкую душу творы нязвычайна багатае фантазіі беларускага народу дзеялі шмат мацней, чым на душу брата ягонага: *струны душы паэта гучэлі заўсёды ў унісон з струнамі душ тварцоў беларускіх народных казак, легенд, песьняў.*

Максім рана пачаў рабіць спробы пісаньня пабеларуску. Спробы гэныя былі беспасрэдным вынікам таго знаёмства з беларушчынай, аб якім гутарылі вышэй. У 1906 годзе адна сваячка Максімава выпісала для яго „Нашу Долю“ і пасьля „Нашу Ніву“. І вось з гэнага мамэнту паэта, які дагэтуль ішоў сваім беларускім шляхам толькі вобмацкам, ня маючы перад сабой ніякіх выразна сформуляваных нацыянальных ідэалаў, зьліваецца з беларускім адраджэнскім рухам, стаецца сьведамай часткай яго, крысталізуе свой нацыянальны ідэал і вызначае сабе свой жыцьцёвы шлях ужо *зусім сьведама.*

Бясспрэчна, што на афармленьне беларускае ідэолёгіі Максіма Багдановіча ўплывала ня толькі сямейная атмасфэра і пагляды й настроі бацькі ягонага, ня толькі беларускія кніжкі, а пазьней — беларуская адраджэнская прэса: вялікую ролю тутака адыгралі і тыя жывыя людзі з вонкавага сьвету, якія ў Яраслаўлі падтрымлівалі зацікаўленьне паэта беларушчынай, ды той высокі культурны ровень наагул, на які ўзьняўся Максім Багдановіч дзякуючы свайму прагавітаму імкненьню да веды. Спасярод жывых людзей вельмі дадатна ўплывалі на паэта перадусім тыя *перадавыя прадстаўнікі расейскае інтэлігенцыі,* якія, дзякуючы сваей дэмакратычнай ідэолёгіі, здолелі зразумець яго і з пашанай ды спачуваньнем аднясьліся да захапленьня ягонага беларушчынай. З другога боку — тыя прыпадкова аселыя на чужыне беларусы, у значнай меры ўтраціўшыя свой вонкавы нацыянальны воблік, але захаваўшыя сваю беларускую душу. Гэткімі былі: малады выкладчык гісторыі ў Ніжнім Ноўгарадзе, Кабанаў, з якім Максім Багдановіч захаваў сувязь і пасьля пераезду ў Яраслаўль, перапісываючыся з ім; і выкладчык літаратуры ў Яраслаўлі, Белавусаў, „типичный гуманист“ (як яго характарызуе Адам Багдановіч). У шырокім кругазоры абодвух беларускае пытаньне знаходзіла для сябе адпаведнае месца, але заўсёды ў сувязі з праблемамі шырэйшага, агульна-людзкага, сусьветнага значэньня. І гэты ўплыў, пэўне-ж, адыграў немалую ролю ў пастаўленьні і Максімам беларускае справы на *шырокім грунце агульналюдзкім.*

Дзеля апошняга галоўнай падставай паслужыла, пэўне-ж, уся сыстэма ўзгадаваньня дзяцей Адамам Багдановічам. Як чалавек высока культурны, Адам Багдановіч стараўся даваць сваім

дзецям усё тое найлепшае, што знаходзіў у сусьветнай літаратуры. Гэтай мэце служыла і ягоная багатая прыватная біблія тэка, аб каторай Максім у гутарцы з адным сваім прыяцелем неяк сказаў:

„Мяне ўзгадоўваў бацька. Я вам неяк паказваў ягоную бібліятэку. У ёй ёсьць усё істотнае, што калі небудзь зьяўлялася ў літаратуры ўсяго сьвету. Бацька пачынаў з таго, з чаго пачынае кожны народ у сваей творчасьці: з эпосу. Мы ўжо дзяцьмі ведалі „Рустэма й Зораба“, „Іліяду“, „Калевалу“, быліны і г. д. Пасьля мы прыступілі да лірыкі і драмы. Ведама, галоўная ўвага зварачалася на славянскія літаратуры“...

Максіма Багдановіча захапляла кніжка,—як навуковая, так і з галіны літаратуры. Ён у меру сваіх сіл і магчымасьцяў знаёміўся з усімі галінамі веды чалавечае: гісторыяй і тэорыяй літаратуры, агульнай гісторыяй, этнографіяй (перадусім славянскіх народаў), філёзофіяй, прыродазнаўствам, соцыяльнымі навукамі. Ён імкнуўся прысвоіць сабе чым больш мастацкіх твораў чалавечага генія — і то прысвоіць не ў перакладах на нейкую чужую мову, а ў орыгіналах. Дык рабіў вялізарныя высілкі, каб аўладаць чужымі мовамі. Чытаў у орыгіналах грэцкіх і лацінскіх клясыкаў, нямецкіх, францускіх і італіянскіх паэтаў. Знамяніта ведаў расейскую мову й літаратуру; паукраінску і чытаў, і даволі добра пісаў; навучыўся польскае мовы; чытаў пачэску і пасэрбску. І вось — пры такім шырокім ахопе сусьветнае літаратуры — захапленьне беларускай народнай творчасьцяй, а пасьля беларускай адраджэнскай ідэяй ня толькі ў яго не слабела, а наадварот, усьцяж крапчэла. Чым больш красы пазнаваў ён у чужых літаратурах, тым больш бачыў яе і ў сваей роднай. І сам захацеў стацца тварцом гэтае красы — у беларускай мове. Максім Багдановіч рана задаўся мэтай гэтак вывучыць беларускую мову, каб мець магчымасьць зусім свабодна пісаць пабеларуску. Здаволіць патрэбу пісаньня паэтыцкіх твораў мог-бы лёгка ў расейскай мове (дый добрую жменю вершаў парасейску напісаў!); але паэт, паводле слоў ягонага бацькі, гэты *лёгкі чужы шлях адкінуў і выбраў больш цяжкі шлях — родны*. Усе перашкоды, усе труднасьці на сваей дарозе Максім Багдановіч перамог. Перамог — дзякуючы сіле сваей волі, аб якой бліскія да яго людзі апавядаюць цікаўныя рэчы. Гэтак, паводле слоў Аркадзя Смоліча, Максім Багдановіч, прыехаўшы ў 1916 годзе ў Менск, не хацеў піць гарбаты з цукрам. Ніякія просьбы гасьцінных людзей не маглі нічога тутака дапяць. Паэт казаў проста, што ня хоча цукру, і ўсё. Але Смолічу расказаў запраўдную прычыну: даведаўшыся, што беларускія сялянскія дзеці зусім не дастаюць цукру, ён пастанавіў гэтак сама яго ня ўжываць, бо яму сорамна было ў такіх варунках піць салодкую гарбату. І свайго зароку ніколі не нарушаў.

Перамагаючы труднасьці языка, Максім Багдановіч тварыў у беларускай мове паэзію, вартасьць каторае выяўлялася *не*



*выключна ў красе вонкавых форм:* ён пашыраў круг тэмаў яе, даваў у мастацкай форме думкі, *вартасныя і незалежна ад хараства формы.* Апошняе — вынік не тэндэнцыі, а рэзультат яго ўласнага духовага багацьця, яго ўласнае высокае духовае культуры. Сваім духовым багацьцем дзяліўся ён з сваім народам і ў гэтым бачыў галоўнае заданьне свайго жыцьця.

У дзіцячыя гады Максім Багдановіч, паводле слоў бацькі ягонага, быў хлопчык вельмі рухавы, жывы. Пазьней, — у меру разьвіцьця ягонага духовага жыцьця,—гэная жывасьць усё больш чэзла. М. Б. пачынае зачыняцца ў сабе, думаць і тварыць насамоце. Гэткім пазнаў і дакладчык нашага паэта. Гэта, аднак, ня значыць, што ён перастаў цікавіцца шырокім грамадзкім жыцьцём. Наадварот: ён далёкі ад „Лермонтовшчыны“, да якое адносіцца вельмі крытычна, і жыве заўсёды інтарэсамі грамадзянства — і тамтэйшага, на чужыне, і свайго беларускага — на Бацькаўшчыне. Але служыць хоча *толькі апошняму.*

Дзеля зразуменьня творчасьці Багдановіча неабходна затрымацца крыху і на яго інтымных перажываньнях.

Як ужо ведаем з „біографічнага пратаколу“, Максім Багдановіч — у меру свайго фізычнага дасьпяваньня — пачынае ўсё часьцей хварэць. Гэта — зачаткі страшнае хваробы, запраўднага біча чалавецтва — тубэркулёзу. Яго лечаць, стараюцца падмацаваць ягоны організм. На нейкі час здаецца, што хвароба прыпынілася. Але ў студэнцкія гады Багдановіч залішне напружвае свае сілы, і організм ягоны губляе адпорнасьць на хваробу. Паэт адчувае гэта і мае поўную сьведамасьць таго, што яму пагражае хуткая сьмерць. „Я бальны бясскрыдлаты паэт“ — гаворыць ён у адным із сваіх раньніх вершаў, — „мая песьня ўжо сьпета“. Гэта мусіць выклікаць у душы ягонай сум, маркотнасьць, якімі ў некаторыя мамэнты ахварбуецца і ягоная паэзія. Але ні хвароба, ні пэрспэктыва хуткае сьмерці ня могуць забіць у ім таго, што неадлучна ад моладасьці: жаданьня кахаць. І ён кахае. Біографы яго адзначаюць некалькі гэткіх глыбейшых перажываньняў, хоць далёка не заўсёды прадмет каханьня быў выбраны ўдачна. За тое заўсёды каханьне яго было нязвычайна чыстае, як быццам сьвятарнае. З вялізарнай пашанай адносіўся ён да жанчыны — маткі, — у раджэньні дзіцяці бачыў найважнейшае яе заданьне. Апошнія гады перад сьмерцяй лятуцеў аб тым, каб мець сваё дзіця. Але лятуценьні яго ў гэтым кірунку асталіся бясплоднымі.

— Ня буду — закончыў першую частку рэфэрату А. Навіна — даўжэй затрымлівацца над гэтак званым менскім пэрыядам жыцьця Максіма Багдановіча — над тым апошнім годам жыцьця паэта, калі ён, скончыўшы ліцэй, прыехаў у Менск, каб тутака працаваць дзеля беларускае справы. Разгляд грамадзкае дзеяльнасьці М. Б. прымусіў-бы мяне адхіліцца ад майго шляху, і я тут адно толькі адзначу, што грамадзкая праца М. Б. ў Менску была шырокая і рознастайная, ды што іменна яна скараціла

жыцьцё паэта. Бо-ж трэба прыпомніць, што гэны час — канец 1916 і пачатак 1917 г. г. — быў час пераломны, час, калі валілася старая царская ўлада ў Расеі, і перад беларусамі паўставалі вялікія магчымасьці. Гэта быў час, калі сярод беларускіх народных масаў пачынаўся магутны *ўздым,* калі радзіўся вялізарны *энтузыязм* на грунце сьведамасьці, што справа беларуская выплывае ўрэшце на шырокія воды, што старыя сны-лятуценьні першых адраджэнцаў мусяць урэшце збыцца. На гэтым грунце вырас, пэўне-ж, энтузыязм і ў Максіма Багдановіча, які астачу сваіх жыцьцёвых сілаў паклаў гэтак ахвярна на аўтар беларускае ідэі. —

Вось у якіх варунках кшталтавалася душа Максіма Багдановіча. Вось па якім шляху ішло разьвіцьцё ягонае беларускае ідэолёгіі. Вось як вырас з яго — беларускі паэт.

---

* * *

Не, я не скажу табе,
як цісьне камянем грудзі
боль... Не скажу,
як крывавяцца раны...
як пякуць мазалі
і як цяжка...
эх!...
не скажу...

Я скажу табе толькі аб зорах
і аб ціхай вясьнянай начы,
аб месяца чарах,
аб руччы...

Ты сьмейся!...
Бо я не скажу табе,
як цісьне камянем грудзі
боль... як пякуць мазалі...
як раны крывавяцца...
і як цяжка...
Эх!...
не скажу...

2.V.37 *А. БЯРОЗКА*



## Ноч каля буды

Умурзаны месяц выпаўз на мутнае неба,
плюнуў агідай на хмары анэмічным, жоўтым сьвятлом...
Сёньня месяц у поўні. Ён сёньня на небе тыранам
самаўладным... Ён зоры топча — круглы, жоўты і горды—
месяцу ў зубы цяжкі бот ня ўдарыць;
пра долю сабачую
месяц ня ведае. Бо дзьве сабачыя долі:
або валачыць ланцуг і аброжу, або лоўка прад панам
хадзіць на задніх лапках...
І хацеў-бы сабака
упіцца зубамі ў халоднае месяца цела —
хай не сьмяецца з сабачай яго закрываўленай морды,
хоць пакуль запячэцца кроў і на ранах струпы закарэюць!..
Але месяц высока... Не таму яго дабываці,
каму цяжкі ланцуг і цяжкі бот долу сагнулі шыю.
І ён не сарвецца, ня блісьне клыкамі...
Ён толькі балюча завые.

29.X.1937. *АНАТОЛЬ БЯРОЗКА*

---

## Падзяліцца хачу...

Падзяліцца хачу з вамі радасьцяй сяньня, лапцюжнай вёскі,
і горам,
расказаць, як растуць, як цьвітуць мазалі, ад працы, ад плуга;
як скрыпела плячо, — ці мо' быльнік з мяжы сьпеў расплёскаў
[над ніўкай нязгоранай...
Шкадаваў, што ўжо хтось больш ня топча шэрай ральлі,—
[нудзіўся глуха...
Радасьць...
яна там, дзе яшчэ хтось спаткаці вясну спадзяец-
[ца з хлебам чорным...
Радасьць —
калі з хворых грудзей сіл апошніх да рэшты
[ня высмактала зьмяёй—ліхагодзьдзе,
калі сьцюжай асеньняй сагрэцца душу прамерз-
[шую горне сьвятло яркіх, цёплых надзей...
Я малюначак дам: —
гэта ў позьнюю восень—ужо мараза-
[мі — патрос сівы госьць,
а ён — бачу — босы... так, босы, валокся за плугам,
[сьледзіў разоры...

Можа зьдзівіцца хтось, а паверце, што сэрца таксама білося там
[— пад кашуляй, дзяругай
змагаючы гора!
Гора сяньня прад сьмехам пужліва бяжыць ад сяла, галоднае
[бродзіць...
Так, я бачу няраз, як сьмяюцца кашулі зрэбным палыновым
[сьмехам!
Сьлёз няма... а ў вачох не пагас, —
ён калыша грудзьмі, ён цьвіце, як зоры срэбныя,
імпат адзіны праменны, з пад саломенных стрэхаў,
адзінае слова:
жыць хочам — і будзем жыць!

## З вясьняных песьняў

Быў абуджан рана я
песьняю зары.
Сонца разсьмеянае
полымям гарыць.
Шалясьцела росамі
маладая рань,
брылянцістым розсыпам
сьмехам серабра.
Пакаціўся нівамі
сьпеў вускіх разор,
птушкамі пужлівымі
абудзіўся бор.
Пяяць песьні хочацца,
хоць душа баліць...
Цені хмарак коцяцца
па грудзёх зямлі.
Эх, чаго-ж, працоўная
Маці Беларусь,
ты ў красу чароўную
сумная чамусь!...
Не гаруй, лапцюжная,
зьменяцца гады, —
звоняць раці дружныя —
маршам маладым;
падрастаюць сокалы, —
як-жа не пяяць! —
далеч сінявокую
хочацца абняць.
Што-ж, хоць боль, а раджу я —
песьню весялей!
Ходзіць голь жабрачая...
ходзіць па сяле...

*М. ВАСІЛЁК*



## З раману „Праз Гады“*)
### (адрывак)

Сыта палуднавалі. Пасьля полудня адпачывалі ў пакоях, а пазьней, напіўшыся кавы, гулялі ў садзе, блукалі па сьцежках, пасыпаных жоўтым пяском і гутарылі.

Прафэсару Пілацеяву ільсьціла, што малады і даволі вядомы прафэсар-хімік Галынскі, вядомы ў Пецярбурзе, як крайні радыкал у сваіх палітычных пераконаньнях, прыехаў да яго на час летніх вакацыяў. У Пілацеява ў сувязі з гэтым былі свае меркаваньні. Ён дэпутат дзяржаўнай думы. Як такі, ён лічыць сябе пераконаным земцам. Слава такая даходзіць і ў гэныя месцы, на ягоную радзіму і Пілацеяву хочацца, каб гэная слава стала больш моцнай. А ўмацаваньню такой славы, як нішто іншае, можа садзейнічаць прысутнасьць Галынскага, ягоныя разважаньні ў прысутнасьці Пілацееўскіх суседзяў і знаёмых.

— Вось сюдэю хадзем, я пакажу вам пітомнік. Гэта справа майго агранома... Нязвычайны чалавек, я вам скажу...

Па-над сьцежкаю плавалі ў цёплым паветры пярэстыя матылі, снавалі ў паветры ўзорыстыя фантастычныя тканіны. Нізка над самай зямлёй гудлі чмялі і пчолы. Сытыя ад мёду пчолы цяжка падалі на пахучыя краскі і калыхаліся на лёгкіх іхніх сьцяблах, упіваючыся салодкім, ліпкім мёдам. А над густым царствам красак, паклаўшы цяжкае ад пладавіны гальлё на арэхавыя падпоркі, стаялі радамі шырокія куртатыя яблыні. З галін спакойна і ўрачыста зьвісалі буйныя яблыкі. Яблыкі загаралі на сонцы, ружавелі, налівал'ся празрыстым вінным сокам і пахлі. Пахла яшчэ скошаная ў ранку, павяўшая трава.

Збоку, паміж бэзавых белых кустоў мільганула і зьнікла чыясь постаць, а яшчэ цераз хвіліну Галынскі ўбачыў агранома. Ён сядзеў на лавачцы побач з жонкай Пілацеява і нешта цікавае апавядаў ёй. Сьведчыла пра гэта тое, як уважліва слухала яна яго, і тое, з якім захапленьнем гаварыў ён, час-ад-часу паказваючы рукамі памеры нейкіх рэчаў.

Паходзіў аграном з сям'і гарадзкіх мяшчан-крамнікаў, але ў гэтай прафэсіі быў няўдачнікам і хутка выбраў другую, не па свайму паходжаньню, і любіў пакпіць над крамнікамі, гэтым самым як-бы помсьцячы ім за тое, што не прынялі яны яго ў сваё асяродзьдзе. Кпіў над імі, друкуючы ў мясцовай павятовай газэце вершаваныя фэльетоны, бо быў акрамя ўсяго іншага і літаратарам. Гэную сваю працу ён больш за ўсё паважаў, а на прафэсію земскага агранома глядзеў, як на крыніцу, што дае яму сродкі для жыцьця.

Зімою аграном часьцей за ўсё жыў у горадзе, а на лета

*) „Праз Гады“, раман. Бач. 395, нлб. 1. Фармат 8⁰. Выданьне другое. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск 1936.

прыязджаў у Пілацеяўскі маёнтак, блукаў па лесе і па полі, зрэдку даючы такія-сякія парады панскаму эканому, і пісаў вершы.

Пілацеяў да агранома неяк прывык і пасябраваў з ім. Падабалася яму аграномава празьмерная ветлівасьць і паслухмянасьць і яшчэ тое, што ўмеў агроном вельмі прыгожа гаварыць. Калі зьбіраліся да Пілацеява паны суседзі, агроном заўжды быў цэнтрам увагі. Ён скрозь патрапляў у пару: там анэкдот раскажа, там усьміхнецца акурат у патрэбную хвіліну, там слова трапнае кіне, а то, як засумуюць госьці, пачне забаўляць іх і развесяліць, прымусіць зарагатаць. Што-ні-што пасьпеў пачуць пра яго і Галынскі і таму не бяз зацікаўленасьці запытаў у Пілацеява, хто такі ягоны агроном.

— Сузон Іванавіч цікавейшы чалавек, карысны чалавек. Дзіўна, але калі-б ён раптам зьнік, мне чагось не хапала-б. Гэта тып інтэлігента з народу, якіх мала, якія дужа патрэбны, без якіх мы шмат у чым як бяз рук. Шмат у чым. Я пра гэта ня раз думаў, назіраючы за студэнтам. Ён мог-бы быць узорам для нашае моладзі.

— Можа быць, можа быць.

— Вы ня верыце? А я пераконаны ў тым, што ён спадабаецца і вам, Міхаіл Палікарпавіч. Прыемны чалавек, скажу я вам.

— Можа быць, я не спрачаюся. Я толькі хачу сказаць, што мы задужа багата ўзораў прыдумваем для нашай моладзі і, выбіраючы іх, кіруемся толькі сваімі густамі. З гэтай прычыны моладзь наша ня ўмее быць падобнай на тых, каго мы раім за ўзор для яе.

— Прабачце, але мне здаецца, што ў вас гэта ў прывычку ўвайшло: абавязкава і ўва ўсім супярэчыць агульна-прынятаму.

— Гм... а пры чым-жа тут агульна-прынятае?

— Я маю на ўвазе нашыя спрэчкі аб дзейнасьці земстваў, паколькі Сузон Іванавіч акурат і зьяўляецца працаўніком земства. Такіх працаўнікоў па ўсёй Расеі тысячы, дзесяткі тысяч. Іхняя роля ў жыцьці рускага народу не маленькая. Па адным, няпрыкметна, яны робяць вялізарную справу насаджэньня сельскагаспадарчай культуры...

— Прабачце, Феакціст Антонавіч, я дужа мала часу ў вас, але мне здаецца, што агроном ваш ня бывае на сялянскім полі.

— Гм... Гэта ня зусім так. І пры тым самае важнае пакзальнае поле, а яно на мяжы з сялянскімі палосамі. Яны маюць магчымасьць бачыць непасрэдную карысьць, якую даюць аграномавы парады. Вы, Міхаіл Палікарпавіч, ня хочаце бачыць маштабу нашае дзейнасьці. Уся Расея ахоплена дзейнасьцю земстваў. Уявіце сабе гэта і вы адчуеце грандыёзнасьць нашае дзейнасьці. Земства — гэта ўцялесьненьне сапраўдных інтарэсаў народу.

— І ўсё-ж гэта толькі крошкі, калі браць Расею з яе патрэбамі. Радзіма наша шмат у чым вінавата перад рускім народам. Нашаму пакаленьню варта-б скінуць са сваіх плеч грахі нашых продкаў. Скінуць іх можна сьмелымі дзеяньнямі, справамі. А ў нашых плянах, Феакціст Антонавіч, мне здаецца, больш меркаваньняў і асьцярожнасьці, чым справы.

— Гэта няпраўда. Няпраўда, Міхаіл Палікарпавіч. У маладосьці рукі задужа вялікія, яны ўсё адразу захапіць хочуць. Маладосьці скрозь цесна, усяго мала. Палітыка за гэта маладосьці і ня любіць, палітыка праз гэта заўжды з маладосьцю ў сварцы.

— Маладосьць — не загана. — Галынскі адкінуўся ў бок і, сагнуўшыся, падняў жменю скошанае травы, паднёс яе да твару. — Чалавецтва тады толькі-б і было шчасьлівым, калі-б ішло да сваіх ідэалаў крокамі маладосьці, а не старасьці, якая баіцца неасьцярожных крокаў, і таму часьцей за ўсё ахватней топчацца на адным месцы, а ня йдзе наперад. Як нідзе гэта шкодна ў Расеі, Феакціст Антонавіч, патрэбна дэмакратыя, шырокая, сапраўдная, чыстая дэмакратыя, якая паставіла-б Расею маральна поплеч з перадавымі эўрапэйскімі дзяржавамі. А то нас хутка абгоніць Кітай. Так, так, нават Кітай. Нам патрэбна такая дэмакратыя, якая мела-б маральнае права гаварыць ад імя ўсяго рускага народу і народаў, якія насяляюць Расею. Дэмакратыя, якая раз і назаўжды скончыць з дэспатыяй. А пакуль што вялікім дакорам для Расеі, для нас стаяць у нас перад вачыма такія падзеі, як пецярбургскія студэнцкія пятага году. У гэтым пракляцьце Расеі, наша ганьба...

— Ну, Міхаіл Палікарпавіч, гэтак нельга. Патрэбна большая цьвярозасьць. У палітыцы цьвярозасьць самая неабходная якасьць. Палітыка ня мае права гарачыцца і, прабачце, хапаць цераз край, як гэта робіце вы, мой малады сябра.

— Вы патрабуеце большай цьвярозасьці? Добра. Я буду разважаць так, як вам хочацца... Расея эканамічна і культурна засталася далёка ззаду ад эўрапэйскіх дзяржаў. Прычына гэтаму — дэспатычны парадак. Дэмакратыя будзе вялізарным стымулам да прагрэсу. Дайце Расеі даподлінную дэмакратыю, і цераз пару дзьве дзесяткаў год, а можа яшчэ і раней, яна стане ў адзін рад з перадавымі цывілізаванымі краінамі Эўропы. Расея ськіне тады з сябе ўсе сьляды азіятчыны. Вось, паважаны Феакціст Антонавіч, мой плян, выкладзены зусім цьвяроза.

— Я разумею вас, Міхаіл Палікарпавіч, але зразумейце-ж і вы мяне. Паспрабуйце зрабіць гэта і вы ўбачыце вялікую крэўнасьць нашых ідэалаў. Хіба-ж мы не таго самага хочам? — Пілацеяў шырока разьвёў рукі. — Толькі мы, Міхаіл Палікарпавіч, з магчымасьцямі лічымся, а вы ня хочаце лічыцца. Земцы ня ворагі дэмакратыі, а яе саюзьнікі. Так, так, самыя блізкія яе саюзьнікі. Нашы ідэалы гэта і ёсьць рэальнае ўвасабненьне тае дэмакратыі, пра якую вы гаворыце. Так, так, так яно і ёсьць і іншай формы для свае дэмакратыі вы ня знойдзеце. Мы робім для народу і ад яго імя.

— Гэта, Феакціст Антонавіч, ня зусім так.

— Не, так, так, Міхаіл Палікарпавіч, толькі так...

Сьцежка павяртала за кусты маліньніку. І адразу на звароце Пілацеяў змоўк і спыніўся, углядаючыся ў прасьцяг саду, дзе купкай стаялі дзеці, а пасьля рашуча пайшоў да іх проста па садзе. Сьледам за ім пайшоў і Галынскі. Калі падыйшлі бліжэй да месца, дзе былі дзеці, Галынскі спалохана спыніўся.

На дрэве, на таўстой галіне сядзеў Пілацеяў, студэнт, і трымаў у руцэ канец вяроўкі, якая была наматана ў некалькі столак на галіну. Каля дрэва паўкругам стаялі дзеці, а пасярод іх на вяроўцы вісеў стары эканомаў сабака. Студэнт то шморгаў вяроўку ўгару і падымаў сабаку над зямлёй, то апускаў яго долу. Вяроўка сьціскала сабаку горла і ад болю сабака, калі яго падцягвалі ўгору, пішчаў, выгінаўся і падкідаў у паветры сваё старое цела, каб гэтым аслабіць вяроўку, якая душыла за горла, і дрыгаў заднімі лапамі, шукаючы, каб у што-кольвеч упёрціся імі. Лапы апоры не знаходзілі і сьмешна дрыгалі ў паветры, а дзеці рагаталі сьледам за студэнтам. Студэнт тузаў за вяроўку, прыцмокваў языком і пакрыкваў на сабаку. Урэшце, акурат, калі Галынскі з Пілацеявым падыйшлі ўжо зусім блізка, сабака павіс нярухома, выставіўшы перад сабою лапы, а потым з адчаем замахаў лапамі, каб учапіцца імі за вяроўку, закруціў галавою, ловячы вяроўку зубамі, але не злавіў яе і, абяссілеўшы, павіс, драпаючы лапамі перад сабою паветра.

— Кіньце! Што вы робіце!

Галынскі кінуўся да дрэва, але яго абагнаў Пілацеяў-бацька. Ён выхапіў з сынавых рук вяроўку, шмаргануў яе ад сябе і цела сабачае паступова, як разматвалася вяроўка, абсунулася на зямлю. Дзеці прыціхлі і адыйшлі ў бок. Студэнт пасядзеў яшчэ хвіліну на дрэве, зьбянтэжана ўсьміхаючыся Галынскаму і, не знайшоўшы ў таго спачуваньня свайму ўчынку, спрытна саскочыў з дрэва на зямлю.

— Вельмі цікава назіраць, як канае сабака,—сказаў ён.

— Сорам! — угневана сказаў да студэнта бацька. — Чорт ведае, чым ты займаешся. Сорам, Адам.

Галынскі разгублена азіраўся наўкола і маўчаў. Было жаданьне падыйсьці да студэнта і з абурэньнем сказаць яму адно толькі кароткае і грубае слова, але ён гэтага не зрабіў і толькі зьдзіўлена павёў плячыма, калі яго запрасілі пайсьці з саду да пакояў. Ён нічога не сказаў студэнту і тады, калі той зноў загаварыў пра сабаку.

— Бачылі, як яна драпала кіпцюрамі паветра? Інстынкт. Шукала, каб за што-кольвеч зачапіцца і выратавацца.

Цяпер ужо хацелася моўчкі падыйсьці і ўдарыць студэнта ў твар. Бацька разгадаў маўчаньне Галынскага і, каб хоць крыху разрадзіць яго, яшчэ раз сказаў да сына.

— Не разумею, як гэта прышло табе ў галаву такое глупства? Сорам... Чорт ведае, што такое. Ты мяне гэтым зусім зьдзівіў, я цябе не разумею... Ідзі, скажы, каб сабаку выкінулі з саду. А вы, Міхаіх Палікарпавіч, — зьвярнуўся ён да Галынскага,



разумеючы, што той хоча застацца адзін, — пэўне пойдзеце адпачыць? Ідзіце, а я займуся зараз гаспадарчымі справамі.

Галынскага Пілацеявы зьмясьцілі ў пакоі сваё хатняе бібліятэкі. Тут ён спаў і тут праводзіў гадзіны, калі хацеў застацца адзін, або хацеў пачытаць. Невялікі ўтульны пакой бібліятэкі мясьціў у сабе цяжкі пісьмовы стол і дзьве шырокія шафы. Да іх цяпер далучыўся яшчэ драўляны, шырокі і нізкі ложак. Усё, і стол, і ложак, і кніжныя шафы былі зроблены цярплівым майстрам, які быў і надзвычай удалым разьбяром. Цяжкі стол упіраўся ў падлогу чатырма моцнымі зьвярынымі лапамі з вылушчанымі кіпцюрамі, а з-пад краёў яго і ва ўсе бакі паглядалі злосныя сабачыя пысы з аскаленымі зубамі. Па дубовых сьпінках ложка віліся кляновыя галіны ўперамежку з дубовымі, з якіх паміж лісьця зьвісалі, выпукляючыся, сытыя жалуды. Але прыгажэй за ўсё былі зроблены шафы для кніжак.

Шафы выстаўляліся сваімі багатымі, ухвечанымі дзівоснай разьбой, краямі, непадобнымі адзін на адзін. То ад самай падлогі віўся ўгару густым вянком сьпелы, пажоўклы хмель, то абвісалі цяжкімі гронкамі сьпелыя, чырвоныя вішні, а то раптам шырока раськідаў сваё веццё пышны ружовы куст. І ва ўсім гэтым пад зашклянымі дзьверцамі мясьціліся ў кружках выразаныя на дубе сілуэты вядомых пісьменьнікаў і паэтаў даўнейшых часоў. За ўсім гэтым панавала спакойная змрочнасьць, хаваючы ў сабе шчыльныя рады дарагіх і рэдкіх кніжак. Галынскі звычайна падоўга выстайваў перад шафай раней, чым адчыніць яе дзьверцы, і з-за шкла ў дзьверцах любаваўся кніжкамі, стараючыся адгадаць іх. У такія хвіліны ён клаў на шкло далонь рукі і слухаў, як ідзе ад шкла да рукі прыемны халадок і з ім спакой. Калі шкло награвалася ад рукі і рука пераставала адчуваць гэты холад, ён адчыняў дзьверцы і зноў стаяў перад кнігамі, выбіраючы якую-б узяць у рукі. Гэты раз ён больш, як звычайна, прастаяў каля шафы ў прасторы паміж яе расчыненымі дзьверцамі Быў тут свой асобны схаваны сьвет. Ад кніг ішоў своеасаблівы пах. Мацаючы вачыма іхныя вокладкі, Галынскі адгадваў назвы кніг, і тады пачыналі ажываць у ягоным уяўленьні даўно знаёмыя вобразы людзей. Некалі яны жылі, блукалі пешшу і ў карэтах па неабдымных прасторах Расеі і эўрапэйскіх дзяржаў, жылі ў сваіх маёнтках, служылі ў дэпартамэнтах і казённых канцылярыях, дзейнічалі, а пасьля, схопленыя пяром аўтараў, паслухмяна ўвайшлі ў кніжны сьвет, каб час-ад-часу ажываючы са старонак кніг, напамінаць аб сабе і сваім часе. І цяпер жывымі бачыў іх Галынскі. Яны выглядалі з цёмнае глыбіні шафы, з-за шчыльных радоў кніг, выскальваліся ў злосных, саркастычных ухмылках, сьмяючыся над ім і яго сучасьнікамі.

„Недалёка ад нас адыйшлі вы“, — гаварылі іхныя вобразы і сьледам за імі гэта-ж паўтараў Галынскі. — „Так, недалёка, зусім недалёка. Расея павінна перажыць часы вялікіх палітыч-

ных і гаспадарчых рэформ, каб адыйсьці ад вашага часу", — казаў ён, зьвяртаючыся да ценяў-вобразаў, якія бачыў за кнігамі. — „Я буду жыць у другой Расеі, ня вашай, не дэспатычнай, а ў Расеі дэмакратычнай, у Расеі, якая будзе ўвасабленьнем панаваньня розуму і справядлівасьці, я буду жыць у Расеі, у якой ня будзе месца такім, як вы, і такім, як вашыя пасьлядоўцы — мае сучасьнікі". Разам абодвума рукамі ён шчыльна прычыніў дзьверцы шафы і адышоўся да стала. На стале ляжаў томік вершаў. Белыя старонкі з калонкамі вершаў заціснуты ў масыўную, цёмнага колеру, вокладку. Кніга такая заклікала абуджаць панурыя пачуцьці. Галынскі падняў кнігу са стала і наўгад разгарнуў яе.

„Уж слишком отрывочна жизнь и вселенная;
К профессору-немцу пойду непременно я;
Наверное жизнь не оставит он так:
Системы придумает, даст им названия...
Надевши халат и ночной свой колпак,
Он штопает дырки всего мироздания".

Галынскі прачытаў верш і, ня стрымаўшыся, раптам голасна зарагатаў.

— Ха-ха! У самы-б раз пачытаць гэта прафэсару-немцу... Ха-ха-ха! — гэтак-жа раптам змоўк. — „А мне?.." — Зноў наўгад разгарнуў кніжку і, шырока ўсьміхаючыся, некалькі раз голасна прачытаў радкі, якія трапілі на вочы.

„Как дивно солнце ни свети,
А все-ж оно должно зайти".

„Ну, ты брат, таго, відаць нарошна парашыў з мяне сягоньня пасьмяяцца... Ладна, сьмейся, калі так",—і яшчэ раз паўтарыў другі радок верша —

„А все-ж оно должно зайти".

І зноў зарагатаў, а тады згарнуў кніжку, паклаў яе на стол і, асьцярожна ступаючы па падлозе, каб не парушыць цішыні, што ўсталявалася ў пакоях, пашоў на вэранду. Парашыў ён пасядзець колькі хвілін на вэрандзе, а пасьля схадзіць на возера пакупацца. Апынуўшыся ў суседнім з вэрандай пакоі, ён спыніўся і застыў на месцы. На вэрандзе Пілацеяў гутарыў з сваім эканомам. Эканом высокі, цяжкі чалавек, цэлыя дні снуе то дзесьці ў полі, то па двары, тупаючы цяжкімі ботамі з высокімі, — аж за калені, халявамі і бесперастанку выцірае вечна ўспацелы свой лоб. Галынскага асабліва зьдзівіла адна эканомава прывычка. Ён ніколі не адзяе на галаву шапку, але абавязкава носіць яе з сабою ў левай руцэ, куды-б ня ішоў, ці далёка, ці блізка. У эканома на галаве лысіна, лысіна заўжды потная, але эканом выцірае пот толькі з ілба: правядзе насовачкай па ілбе раз, другі, сатрэ з ілба пот, і акурат, калі Галынскаму хочацца, каб ён выцер і лысіну, схавае насовачку ў кішэнь. Ад гэтага заўжды назаляе Галынскаму неадчэпнае жаданьне выняць з кішэні сваю насоўку, падыйсьці да эканома і сьцерці з ягонай лысіны пот, які трымаецца на ёй густымі буйнымі кроплямі.



За час, як жыве ў гасьцях у Пілацеява Міхаіл Палікарпавіч, зьмеціў ён шмат чаго новага для сябе ў натуры Пілацеява. Гэтае новае і цікавіла, бо неяк не вязалася яно з агульным, што раней было склалася, уяўленьнем аб прафэсары Пілацеяве, дэпутаце Дзяржаўнай думы.

Зьдзівіла Галынскага ягоная хітрасьць, уменьне прытварацца. Пра што-б ён ні гаварыў у прысутнасьці староньніх, ён заўжды ўмее быць нязвычайна спакойным і добрым. Спакой асабліва ў пальцах рук. Гаворыць ён, паклаўшы тонкія пальцы рукі на край стала і спакойна трымае іх выцягнутымі, нібы на паказ выстаўляе іх. А Галынскі адгадаў, што робіць ён гэта сьвядома, каб па руцэ кантраляваць сябе. Спакой і добрацьу Пілацеява зьнікае, калі ён гаворыць з кім-кольвеч адзін-на-адзін, ці то з эканомам, ці то з жонкай. У такі мамэнт акурат і трапіў цяпер на вэранду Галынскі. Пілацеяў стаяў, перавесіўшыся цераз стол, ушчарэпіўшыся рукамі за край яго і ня крычаў, а злосна шыпеў у бок да эканома. Эканом стаяў перад ім і, спалохана камечачы шапку, зусім, як селянін, апраўдваўся. Калі на вэранду вышаў Галынскі, Пілацеяў хуценька адхінуўся і сеў за стол і, яшчэ не пасьпеўшы схаваць злосьць, з робленай усьмешкай сказаў:

— Патравілі мужыкі сенажаць. Цэлы табун кароў па сенажаці прайшоў, а Ермалай Трыфанавіч,—ён кіўнуў галавой у бок эканома, — празяваў, не забраў табуна, пашкадаваў мужыкоў. А ім спускаць нельга. Чым больш ты ім спусьціш, тымбольш яны табе нашкодзяць.

Эканом змаўчаў, а Галынскі папрасіў прабачэньня, што перашкодзіў ім і пайшоў у сад. Зьявілася думка, што гаворкі пра земцаў і іхныя ідэалы былі для Пілацеява накшталт эканомавай прывычкі насіць з сабою шапку і ніколі не адзяваць яе на галаву. Гэтыя гаворкі былі ў значнай долі модай і былі для знаёмых, для гасьцей і агулам для староньніх. У гэтым быў і адзін з сакрэтаў прывязанасьці да агранома, без якога Пілацеяву не хапала цэльнасьці. Сувязь з аграномам, з гэтым земскім дзеячом, толькі лішні раз падкрэсьлівала перад староньнімі лібэралізм самога Пілацеява.

Перад тым, як пайсьці да возера, Галынскі прысеў на лавачцы каля бурштынавага куста. Хутка мімаходзь па садзе, тупаючы цяжкімі ботамі па нагрэтай сонцам зямлі, прайшоў эканом. Ён ветліва заківаў Галынскаму галавой, махнуў рукою з насоўкай і выцер успацелы лоб, а тады нешта сказаў пра гарачыню. Галынскі сказанае толькі адгадаў, бо слоў не пачуў. І ветліва ўсьміхнуўшыся яму, гэтак-жа нешта нявыразнае сказаў пра надвор'е. З гэтым падняўся з лавачкі і пайшоў да возера.

Над возерным берагам, як і заўжды, шапялявілі лісьцем маладыя асіны. У самым гушчары іхным цырыкалі птушкі, а з краю,

паміж стваламі іхнымі снавалі жоўтыя матылі. Далёка ў лесе за возерам, дзе плыло над верхавінамі дрэў вячэрняе сонца, трубіў пастух. Над возерам лёталі, сьцелючыся па-над самай вадой, ластаўкі, дзесьці ў берагах блізка былі іхныя гнёзды. Ветру зусім ня было і вада ў возеры стаяла спакойна, бяз ніводнае рабінкі. Прахладная глыбіня вазёрная была цёмна-сіняй, а на ёй, як застыглыя, нярухома ляжалі лёгкія пухавыя шматкі белаватых хмар.

У баку, улева ад месца, дзе стаяў Галынскі, бераг вазёрны зарос густым чаротам і асакой. Там, каля чароту, мятусіцца рыба. Час-ад-часу, гуляючы, выскачыць рыба, узаўецца над паверхняй вады, блісьне серабрыстай луской на сонцы і цяжка плёхнецца назад у ваду, парушаючы яе люстэрны спакой. Тады нараджаюцца ў вадзе і бягуць у бакі па возеры, забіраючы ўсё большы прастор, роўныя, як-бы кім разьмераныя кругі. Рыба пойдзе далёка на халоднае вазёрнае дно, а кругі яшчэ доўга жывуць, пакуль не сатруцца з люстэрна-гладкай вады.

На другім боку возера, над самым яго берагам, стаяць высокія, гонкія алешыны, глядзяцца ў вадзяную чыстую прахладу і ўбіраюць яе ў сябе густым лісьцем схіленых да самай вады галін. Захацелася Галынскаму ўвайсьці ў ваду і паплыць аж туды, да тых дрэў.

Не сьпяшаючыся, ськінуў ён з сябе вопратку, і хвіліну стаяў голы над вадою, гледзячыся ў яе празрыстасьць. Пасьля шырака разьвёў рукі, напружыў мускулы і зьвёў іх кулакамі ля плячэй. Дыхаў поўнымі грудзямі і дзівіўся, як высока ўздымаюцца грудзі і як многа раздаюцца яны ў шырыню. З паднятымі да плячэй рукамі, пайшоў у ваду. Вада абдала ногі холадам, і рукі ад нечаканага холаду выцягліся ўздоўж цела. Вада рабілася глыбей, і холад падымаўся па целе вышэй і вышэй. Вось ён пад самымі каленамі і гэта асабліва няпрыемна. Вось і калены ў вадзе і яна шчыкоча халадком бёдры. Вышэй і вышэй. Тады цела раптоўна лягло на ваду, а рука, закінутая далёка наперад, грэбла пад цела празрыстую тугую яе глыбіню. Раз, раз... Рукі адна за другой па чарзе кладуцца на паверхні вады, падмінаючы яе пад цела, а цела, лёгка сьхіляючыся то на адзін, то на другі бок за рукамі, плыве ад берага далей і далей. Галынскі плыў, не азіраючыся назад на пакінуты бераг. Было прыемна слухаць, як абдае цела прахладай вады і як сьцякае яна з плячэй, калі яны ўздымаюцца над вадой. З гары на цела плыла мяккая цяплынь, разбаўленая прахладай возера.

Прахлада падымалася ад вады. Яна лёгкімі подыхамі вецярка кратала твар, калі побач над самай вадою пралятала ластаўка. Ластаўкі цэлым табуном кружыліся, цырыкалі, падлятаючы зусім блізка да яго і пасьля адлятаілі далёка ў бок.

Хутка рукі стаміліся, і Галынскі лёг на ваду плячыма. Ляжаў спакойна, не напружваючы сіл, і ледзь прыкметна час-адчасу пашавельваў плячыма і мускулатурай рук.



Лежачы, дзівіўся на свае грудзі, на пальцы ног, якія тырчэлі з вады і на ўпалы жывот. Жывот то ўздымаўся над вадой, і яна павольна сьцякала з яго, то заплываў вадою, і тады грудзі здаваліся нязвычайна высокімі. Правай рукой чэрпаў ваду і паліваў ёю грудзі і твар. Прыемна было адчуваць сябе дужым і радасным. І ад таго, што адчуў сілу, зноў павярнуўся тварам да вады і паплыў наперад. Быў ён у гэты час на самай сярэдзіне возера. Алешыны з другога берагу ўсе былі далёкімі, недасяжнымі. Праплыўшы яшчэ колькі, Галынскі зноў адчуў стомленасьць у руках і падумаў, што да берагу не даплыве. Зірнуў у ваду. Вочы ўбачылі чорную бездань і тады зьнізу, ад жывата пашло па целе халадком адчуваньне далёкага дна, якога нагамі не дастаць. Нарадзіўся страх і скаваў цела і рукі. Сьпяшаючыся, ён павярнуўся, каб плыць назад. Рукі ўздымаліся над вадой і білі па вадзе часьцей, як трэ' было. Страх, што можна страціць сілы і ўтапіцца, авалодаў Галынскім. І ён адчуў, як твар пакрыўся потам. Абцяжэлі ногі і падалі ў ваду, цягнулі туды за сабою цела. Так здавалася Галынскаму. Спалоханы, ён яшчэ часьцей замахаў рукамі, пачаў, згубіўшы над сабою ўладу, бязмэтна біць па вадзе нагамі. Рукі ўмомант стаміліся і адмаўляліся працаваць. Нагу схапіла сударга. Каб выратавацца, ён паспрабаваў зноў легчы на сьпіну і адпачыць, але, як толькі лёг на сьпіну, адчуў, што цела ня хоча трымацца на вадзе, і тады зноў хутчэй лёг на ваду грудзьмі і ўжо, зусім не валадаючы сабою, плыў наўзгад у напрамку да берагу, плыў пахвілінна акунаючыся ў ваду ледзь ня ўсёй галавой, глытаючы ваду. Вада наплывала ў рот, у нос, у вушы і перамагала, перашкаджаючы дыханьню. Стомленае цела не хацела трымацца на вадзе і ўсё часьцей і часьцей зрывалася, ападаючы ў чорную бездань. Здавалася яшчэ адзін мамэнт і ўсё будзе скончана, бо рукі адмовяцца грэбці. Захацелася крычаць, клікаць кагось на дапамогу, але ня крыкнуў, бо рот заліло вадой.

— А вы спакойна, — сказаў нехта з боку. — Лягайце грудзьмі на маю руку вось так.

Галынскі адчуў, як нешта лягло пад грудзі і прыўзьняло іх і тады-ж убачыў, што побач з ім плыве зусім незнаёмы яму чалавек. Прысутнасьць гэтага другога адразу вярнула ўпэўненасьць у сваіх сілах.

— Прабачце. Я вельмі ўдзячны вам. Бяз вас маё становішча было-б даволі незайздросным. — Ён паспрабаваў усьміхнуцца. — І ўмею добра плаваць і вось неяк здаў, раптам, нечакана... Вельмі ўдзячны. Цяпер я паплыву сам.

— Гэта здараецца. Варта згубіць упэўненасьць, і цела пачынае ісьці на дно.

— Я хацеў даплыць да таго берагу, — Галынскі кіўнуў галавой у напрамку, адкуль плылі. — Пасьля зірнуў пад сябе ў ваду і збаяўся, што не даплыву. А тады і страціў сілы.

Падплылі да берагу. Першым на ногі стаў, палез на бераг

незнаёмец. З берагу ён нагнуўся, каб падаць Галынскаму руку. Падымаючыся за яго рукой з вады, Галынскі цяпер змог разглядзець рослага, шырокага ў плячах, мужчыну. Грудзі ў незнаёмца густа зарасьлі валасамі. Загарэлае цела, яшчэ мокрае з вады, адлівала цёмна-бурым блескам. І мімаволі Галынскі зірнуў на сваю руку, такую белую, параўноўваючы яе з рукой незнаёмца і адчуў сябе зусім слабым і бездапаможным, у параўнаньні з ім.

— Цяпер адпачніце, прафэсар, — запрапанаваў незнаёмец, і Галынскі, зьдзіўлены такім зваротам, уставіўся поглядам у ягоны твар.

— Я сустракаў вас яшчэ ў Пецярбургу, — вытлумачыў незнаёмец.

— З кім-жа я маю гонар гаварыць?

— Я тутэйшы настаўнік. Спрабаваў вучыцца ў Пецярбургскім унівэрсытэце і ў тыя часы часта чуў ваша імя.

— Як разумець вашае „спрабавалі вучыцца"?

— Па раду прычын я вымушан быў пакінуць унівэрсытэт. Гэта ня цікава для вас.

— Наадварот, нават вельмі цікава і, калі можаце, я прасіў-бы назваць прычыны.

— Я быў арыштаваным, а пасьля мяне паслалі сюды жыць.

— Нават так? Вашае прозьвішча дазвольце ведаць?

— Буднік, Павал Андрэевіч.

— Вельмі рад. Буду рад бачыцца з вамі. — Галынскі цяпер яшчэ раз уважліва аглядзеў незнаёмца з ног да галавы. — Вы, пэўне, зможаце багата цікавага расказаць з жыцьця сялян.

— Цікава, уласна кажучы, мала. Жыцьцё тут напоўжабрацкае, галоднае, цяжкае.

— Прафэсар Пілацеяў, тутэйшы абшарнік, гаварыў мне, што суседнія вёскі цяпер выдзяляюць на хутары. Я думаю, што гэта значна палепшыць быт вёскі.

— Думаю, што ня так. Бяда ўся ў зямельным голадзе. А хутары зямлі не прыбавяць.

Гаворачы, настаўнік апрануўся і тады пашоў за Галынскім да месца, дзе ляжала ягоная вопратка. Калі апрануўся і Галынскі, яны селі на ўзгорку, на мураве. Настаўнік сядзеў, шырока расставіўшы ногі і пальцамі выскубаў з зямлі калівы муравы.

— У тутэйшых вёсках процантаў шэсьцьдзесят сялян ня маюць да чаго рук сваіх прыкласьці. Ім няма работы,—сказаў ён.

— Але ўсё-ж рэформа такая, мне здаецца, значна аздаровіць сельскую гаспадарку ў Расеі. Яна ўздыме агульны ўзровень сельска-гаспадарчай культуры. Мне здаецца, што сялянства ў значнай долі галадае таму, што знаходзіцца ў вялікай залежнасьці ад стыхійных сіл: ад пяскоў, ад засухі, ад забалочваньня. Няўзброенае ведамі, яно бездапаможна ў барацьбе са стыхійнымі сіламі прыроды.



— Селяніну перш за ўсё зямля патрэбна, прафэсар, а не рэформа. Зямля і сродкі. Над большасьцю сялянскіх хат вечна вісіць Дамоклаў меч нядоімак. Вечна стаіць здань голаду. Хутары гэтага ня зьнішчаць.

— А ўсё-ж-ткі. Гэта разьвязвае ініцыятыву тых, хто мае зямлю. Да ўсяго карысная дзейнасьць земстваў...

— Хутар разьвязвае ініцыятыву багатага, — перабіў яго настаўнік, а земствы што-ж, яны не для селяніна. Гэта справа дваранская. Аграном земскі сядзіць на панскім двары. Гласныя ад сялян у земстве, пасутнасьці, зусім безгалосныя, там галасоў больш дваранскіх, чым сялянскіх.

— Што-ж, па вашаму, трэба? — Галынскі цяпер адчуў, што ў сваіх развагах ён пачынае апірацца на аргумэнты, якія чуў ад Пілацеява. Хацелася і цяпер загаварыць пра неабходнасьць дэмакратычнага ладу для Расеі, але не ўяўляў, якім канкрэтным зьместам у дадзенай справе, у пытаньні пра зямлю, зможа ён напоўніць гэнае разуменьне дэмакрацыі, і таму маўчаў, слухаючы настаўнікавы развагі.

— Спрабавалі аслабіць зямельны голад перасяленьнем, — гаварыў настаўнік, — але ніхто ня ведае, ці ёсьць патрэбныя для гэтага запасы вольных зямель. Большасьць перасяленцаў, прамучыўшыся ў тайзе некалькі год, варочаюцца жабракамі назад. А хутары? Ну, што за хутар з дзьвёх дзесяцін? На гэты хутар селяніну трэба перанесьці ўсе свае будынкі. Будынкі старыя. На месцы яны стаяць, а крані — рассыплюцца. Такія хутаране стануць сапраўднымі жабракамі...

— Дык што-ж, ідэя аб дадатковым надзяленьні зямлёй?

— Ва ўсякім выпадку такая ідэя жыве ў масах сялян, а падзел на хутары зрабіў яе надзвычай папулярнай.

— Але-ж гэта пагражае новымі непарадкамі?

— Пагроза непарадкаў, пане прафэсар, будзе жыць датуль, пакуль панская зямля не пяройдзе ў рукі сялян.

— Так, можа быць, можа быць. Але справа ўся ў мэтадах. Мне здаецца, што вы ўсё-ж недацэньваеце ролі гэтай рэформы і ролі асьветы. Рост культурнасьці абудзіць ініцыятыву, знойдуцца крыніцы прылажэньня сіл, вырасьце праслойка моцных сялян, падымецца ўзровень ураджайнасьці... — Такі селянін не захоча доўгі час хадзіць пад ферулай урадніка. Ён пачне патрабаваць гарантыі палітычных свабод. Такі перад панам шапкі ськідаць ня стане... на такіх можна будзе абапёрціся ў справе заваяваньня далейшых рэформ...

— Такіх будзе два-тры на вёску, а сотні ўсё-такі застануцца без зямлі і галоднымі. Ім ад усяго гэтага якая карысьць? Зямля патрэбна. Яна пятлёй на шыі ў кожнага селяніна. Пытаньне пра зямлю вырасьце ў страшную сілу і адыграе калі-небудзь у рускіх падзеях не апошнюю ролю. Ну, бывайце, я павінен пайсьці. Буду рад спаткацца з вамі і пагаварыць.

Вельмі рад! Бывайце! Абавязкава прыходзьце сюды, я тут заўжды.

Настаўнік надзеў шапку і пашоў ад возера нацянькі па асіньніку, а Галынскі паволі пашоў у двор, абдумваючы тое, што пачуў ад настаўніка, і тое, што гаварыў сам. І за сябе стала крыўдна, бо ўсё, што гаварыў, цяпер не пераконвала і яго самога.

На вэрандзе ў двары Галынскі застаў агранома, Пілацеява і яшчэ двух незнаёмых. З імі Галынскага пазнаёміў сам Пілацееў.

— Каморнікі, — сказаў ён. — Праводзяць працу ў суседняй вёсцы. Пасьля зірнуў з вэранды ў бок, дзе заходзіла сонца.

— Дзіўна. Я, здаецца, яшчэ ніколі ня бачыў такога сонца.

Галынскі зірнуў на захад. Вялікае сонцава кола палымнеючы каціласа па абрысу палёў за садам і краем сваім ледзь-ледзь краналася зямлі. На зямлі ляжалі доўгія, шырокія цені дрэў і ўзгоркаў. Зямля супроць сонца чарнела і, было падобна, узды малася краем тым угару насустрач сонцу. Яшчэ колькі хвілін і сонца зьнікае, а пакуль яно гульліва кружыцца, павісаючы праменьнем на галінах самых далёкіх у садзе дрэў, на абрыўках хмар, што не пасьпелі сыйсьці за небасхіл. Хмары, апаленыя сонцам, таюць і расплываюцца па небасхіле. Гольле дрэў зьгінаецца да зямлі, а сонцаў круг растае, аплываючы па краях, расьцякаецца па небасхіле над самым краем зямлі густой чырваньню.

— Дзіўны вечар, — сказаў ён і так стаяў, залюбаваўшыся захадам сонца, слухаючы гаспадарову гаворку з каморнікамі.

Водблескамі толькі што адышоўшага дня ярка палымнела яшчэ на захадзе неба. Яшчэ ночныя змрокі нясьмела туляліся ў лесе за рэчкай. Яшчэ толькі ў лагчыне над берагамі і над рэчкай паслаўся шызы туман, а да вэранды падышоў ужо летні вечар і стаяў за вэрандай, дзівячыся на яе з-за парэнч густа абплеценых зялёным хмелем. Вечар адчуваўся ўва ўсім: і ў навакольнай празрыстай цішыні, і ў няспынных, хоць і нясьмелых яшчэ крыках цьвіркуноў; і ў ажыўленым камарыным піску і дзынканьні жукоў. І яшчэ плыў вечар над зямлёю лёгкімі посьвістамі ў крыльлях запозьненых качак, што сьпяшаліся да возера.

На вэранду прынесьлі з пакояў лямпы і вячэру. І адразу за вэрандай змрок стаў гусьцейшым, вечар падышоў яшчэ бліжэй. Большай стала і прахлада.

Галынскі сеў за стол. Ён дзівіўся наўкола сябе на прысутных і ніяк ня мог вызваліцца ад дум пра гутарку з настаўнікам. Кіпеў на стале самавар. Ён слухаў, як булькае ў самавары вада, а перад вачыма паўставалі вобразы, народжаныя словамі настаўніка. Дзесьці далёка ў лесе, у баку ад возера, неспакойна часта рыкала карова. Галынскі стараўся ўявіць, як стаіць яна спуджаная нечакана прышоўшаю цемраю ночы на шырока раськінутых нагах і голасна рыкае, выцягваючы галаву, на кароткай сваёй шыі. Ад каровінага рыканьня ішло па лесе галасістае водгульле. Галынскі ўяўляў, што вось рыкнула карова і маўчыць, аблізваючы языком мясістыя свае ноздры, а водгульле яе голасу доўга



яшчэ жыве ў лясным гушчары, блукаючы ад палянкі да палянкі. Ад гэтага і ад дум нарастаў цяжкі смутак.

— Як-жа жывецца тут, панове, — запытаў Пілацееў, зьвяртаючыся да каморнікаў.

— Нязвычайна добра, — адказаў старэйшы. — Жыцьцё тут нязвычайна добрае.

— Гэта правільна, — пасьпяшыў згадзіцца аграном.

— Гэта чыё-ж жыцьцё такое? — зусім нечакана для самога сябе кінуў словамі Галынскі і, улавіўшы ў словах злосьць, змоўк. Яму не хацелася ў гэты мамэнт спрэчак, бо адчуваў, што будзе ў спрэчках раздражлівы і злосны і таму застаўся задаволеным, калі на ягоныя словы ніхто не азваўся.

— Так, панове, жыць ня дрэнна, жыцьцё — рэч добрая. — Гэта гаварыў Пілацееў. Ён сядзеў, як звычайна, адкінуўшыся да сьпінкі ў крэсьле, так менш прыкметнай была ягоная нізкаросласьць, і павольна гаварыў, трымаючы на стале руку з выцягнутымі на ўсю даўжыню пальцамі. — У сілу сваіх абавязкаў я вымушаны жыць у сталіцы, а я надзвычайна люблю вёску. Хочацца быць блізкім да зямлі. Мяне зямля лечыць. Вы разумееце, панове, зямля — гэта ўвасабленьне сілы і прастаты, добрацi і спакою. Блізкасьць да зямлі робіць людзей добрымі і працавітымі, дадаў-бы яшчэ, робіць іх па-свойму мудрымі. Хіба няпраўда. — Ён дапытліва азірнуўся на прысутных.

Каморнікі нярухома сядзелі, услухоўваючыся ў кожнае яго слова, і старэйшы пахвілінна, ледзь не за кожным словам Пілацеева, згоднаківаў галавою. Аграном сядзеў, трымаючы ў пальцах відэлец, круціў яго, а Галынскі курыў і нэрвова барабаніў пальцамі па стале.

— Вялікая сіла ў зямлі, — гаварыў Пілацееў, — а мы гэтага яшчэ да канца не зразумелі. У Расеі багатая зямля. У Расеі, панове, багата багатай зямлі...

— І на гэтай багатай зямлі ў Расеі багата галодных і беззямельных, — ня ўтрымаўся ад рэплікі Галынскі. — А рускія гарады кішаць безработнымі...

— Але, Міхаіл Палікарпавіч, гэта пакуль што няўхільна...

— Чаму няўхільна? Гэта было-б зразумела ў беднай бясплоднай краіне, але-ж гэта ўсё мае месца ў багацейшай Расеі, у Расеі з яе казачнымі багацьцямі. Бюракратыя руская задушыла ўсякую энэргію, усякую ініцыятыву, і халоднае, галоднае, сьляпое насельніцтва ходзіць па краіне, шукаючы работы, ходзіць па гэтых багацьцях..

Пілацееў уважліва зірнуў на Галынскага, стараючыся разгадаць ягоную раздражлівасьць і заківаў галавою.

— Вы, Міхаіл Палікарпавіч, нешта ня ў гумары сёньня. Вы наўмысьля ня хочаце разумець самых простых рэчаў.

— Што-ж я, Феакціст Антонавіч, вельмі дрэнны палітык.

— Ну, гэта няпраўда.

— Чаму-ж няпраўда? Я зусім напрыклад не разумею, чым

жывуць, якімі ідэаламі жывуць сёньня палітыкі, пачынаючы ад самых крайніх соцыялістаў і канчаючы земцамі...

Гэта было ўжо зусім сьвядомым выпадкам супроць Пілацеява. Пілацееў зразумеў гэта, але, каб не спрачацца, пастараўся загладзіць агульную зьбянтэжанасьць, перавёўшы гутарку на іншае.

— Міхаіл Палікарпавіч дабрэйшы чалавек, — сказаў ён, зьвяртаючыся да агранома. — Вялікі філянтроп і палітык у больш шырокім сэнсе гэтага слова, чым мы. Палітычныя пераконаньні Міхаіла Палікарпавіча можа быць менш практычныя, чым нашы, затое больш агульначалавечыя. — Па твары ў яго прабегла лёгкая, ледзь прыкметная ўсьмешка. Галынскі гэтую ўсьмешку адгадаў, але абмежаваўся тым, што падзякаваў Пілацееву за тлумачэньне ягоных палітычных пераконаньняў. А Пілацееў тымчасам папрасіў прабачэньня і дазволу заняцца з каморнікамі некаторымі гаспадарчымі справамі. Галынскі падняўся, разьвітаўся і пашоў да сябе. Тады ўжо ў сьлед яму, зьвяртаючыся да агранома, Пілацееў сказаў:

— Здольны, надзвычай здольны вучоны, а палітык блытаны, сам ня ведае, чаго хоча. Нейкая сіла супярэчнасьцей сядзіць у ім. Я ўсё-ж ня трачу надзеі, што ён будзе нашым. Гэта было-б надзвычай добра. У яго вялікі аўтарытэт.

Тымчасам, апынуўшыся ў сябе ў пакоі, Галынскі паспрабаваў разабрацца ўва ўсім, што цэлы дзень займала ягоныя мысьлі. Калі гаварыў, усё здавалася ясным, непахісна верным. Але варта было хоць каму запярэчыць яму, як зьнікала гэная непахіснасьць і тады з усёй сілай давала адчуць сябе адсутнасьць цьвёрдае глебы пад нагамі, таго, на што можна было-б абапёрціся. І вось гэтай апоры ня было. Разуменьні, якімі ён аргумэнтаваў свае мысьлі, былі пустымі, ня мелі канкрэтнага рэальнага зьместу. Ён стараўся напоўніць іх гэткім зьместам і, здавалася, што робіць гэта пасьпяхова. За словамі аб дэмакратыі паўставаў, хоць і смутны яшчэ, цень новай Расеі. Але прыходзіў выпадкова чалавек, народны вучыцель і пачынаў гаварыць пра зямлю. Тады цень новай Расеі, створанай ім у выабражэньні засланяўся жабрачымі постацямі галодных сялян. Постаці брылі адна за другой натоўпамі, і вобраз новай Расеі зьнікаў, расчыніўшыся ў струмені галодных людзей, а ён адзін бездапаможны стаяў у баку, ня ўмеючы памагчы гэтым галодным, ня ўмеючы захаваць у памяці вобраза, які стварыў для сябе і Расеі. Так было і на гэты раз. Стомлены гэтымі мысьлямі ён распрануўся і лёг, каб хутчэй заснуць. І тады ўзбрылі на памяць, абудзіўшы ўсьмешку, радкі з верша:

„Как дивно солнце ни свети,
А всё-ж оно должно зайти."

А за гэтым прыйшоў сон.

*Платон Галавач*





# З роднае Сакольшчыны

Хацеў-бы з нагоды кніжкі інж. *Крыштофіка*)* зьвярнуць увагу беларускага грамадзянства на *Сакольшчыну.* Трэба сказаць з сумам, што розныякія ўмовы і абставіны апошніх некалькінаццаці гадоў быццам пакінулі Сакольшчыну, Аўгустоўшчыну, ды адчасьці Беласточчыну за лагвом нашага нацыянальнага жыцьця і змаганьня. Сяньня шмат хто, на'т і з перадавое інтэлігенцыі, заглядаецца на менаваныя тэрыторыі, як на мёртвую пазыцыю нашага нацыянальнага чалавечага, інтэлектуальнага і гаспадарчага білянсу, калі яны якга павінны быць дзейным жывым капіталам.

Да вайны бачылі мы ў Сакольшчыне адныя з першых спробаў масавае акцыі нацыянальнае сярод сялянства. Ці гэта былі паасобныя выезды сяброў Горадзенскага гуртка моладзі на вёску з мэтаю распаўсюджваньня сьведамасьці, ці гэта былі выезды тэатральнае трупы вышменаванае арганізацыі — усё гэта будзіла і клікала народ да новых, лепшых дзён і Сакольшчына шырока адгукнулася. З Сакольшчыны родам, сяньня забыты, хаця жывы яшчэ, аўтар сапраўды філёзофічнае, адначасна вельмі простае і практычнае кніжкі пчалярскае, вядомы пад мянюшкаю *Г. Бярозкі* (Кс. Г. Бэтто). Згэтуль родам *Кс. Фр. Грынкевіч* — пачынальнік вельмі новачасна наладжанае працы паміж моладзьдзю. Сярод Сакольцаў бачым перадавую жанчыну ў нашым грамадзянстве *Л. Войцічыху* ды шмат, шмат яшчэ іншых людзей...

Вайна перабазавала пункты апоры працы беларускае на новых мясцох і Сакольшчына заглохла, казаў-бы нехта—дзірваном парасла. Зрух у пару Грамады скрануў быццам часткова і расьцярушыў нейкую дрымоту. Аднак не надоўга. Глядзельнік сяньня звонку ня бачыць тае руні беларускае, якая буйна паўсходзіла пару дзесяткаў гадоў таму назад.

Аднак і пасьля вайны вёска ў Сакольшчыне змагаецца за свае правы, імкнецца да асьветы ў роднай мове, робіць спробы наладзіць свае школы. Паказальнікам сьведамасьці можа быць адчасьці распаўсюджаньне прэсы. Дзеля арыентацыі зьвярну ўвагу на такі мамэнт, што ў аднэй з валасьцяў на пошту прыходзіла каля 50 экзэмпляраў прэсы палітычнае розных напрамкаў, органаў гаспадарчых і г. д. Колькасьць, бяручы яе ў самой сабе, мо' і невялікая, аднак для нашых умоваў яна многагаворачая. Пасьля ведамае, няслаўнае забароны арцыб. Ялбжыкоўскага, колькасьць чытачоў меншае да 10 прац. Не напалохаліся ксяндзоўскіх праклёнаў толькі праваслаўныя. Усё-ж і на іх знайшліся спосабы, і сяньня беларускі друк рэгулярны ў Сакольшчыне справа ня лішне частая.

*) Inż. Krystofik „Jasienówka—wieś powiatu Sokolskiego". Poznań 1934.

Беларуская арганізаваная работа ідзе там і сяньня, толькі мае йнакшы характар, інакшую тактыку, чымся ў другіх раёнах. Дзеля гэтага і наш падыход і адносіны да людзей і тэрыторыі мусяць быць іншыя. Першым крокам да таго — ведаць народ, ведаць псыхолёгію мясцовую. Сакольшчыну сяньня трэба нам вывучыць, ня трэба аб ёй забывацца.

* * *

Монографія Крыштофіка цікуе аб адной толькі вёсцы, да таго-ж з захадняе часткі павету Сакольскага. Аўтар маніцца прадставіць толькі зямельную праблему ў гістарычным аспэкце, аднак сабраў столькі цікавага матар'ялу гістарычнага, эканамічнага, соцыяльнага, бытавога на шырокай асноведзі псыхолёгічнай, што гэта дае нам магчымасьць пазнаёміцца ня толькі з адною вёскаю, а з цэласьцю гэнае тэрыторыі.

Насельніцтва тутака мае шмат асаблівасьцяў. Да XIV стагодзьдзя зямля тутака заселена Яцьвягамі. Толькі пад канец XIV ст. прыходзяць каляністыя і, наколькі можна судзіць з прозьвішчаў, каляністыя ідуць з усходу. Гэта тэрыторыя экспансіі беларускае. Прозьвішчы сучасныя Клімушко, Цераэшко, Аўсейко, Карпеня, Сапко, Кулак, Крагель, Андрэйчык і г. д. паказываюць на чыста беларускае іх паходжаньне. Прозьвішчы такія, як Ровдэлі, Жымелі, Шыпіто, Сампляс, Кімшало, Шаргяло і г. д. — што шмат іншае крыві — яцьвяскае ды літоўскае — ўлілося і зьмяшалася са славянскаю—беларускаю. Ёсьць магчыма і сьляды татараў. Родная мова насельніцтва, як аўтар лёяльна пацьвярджае, — беларуская. Мова ваколіцаў Ясяноўкі крыху мягчэйшая. Найбольш ярка бачым гэта ў такіх формах, як „сьмяецьця"... бярэцьця" і т. п. Веравызнаньне мяшанае, з большасьцю каталікоў. Суадносіны паміж вернікамі розных веравызнаньняў добрыя, ня гледзячы на ўсякія падзеі ў мінуўшчыне ды сучаснасьці. Яшчэ дасюль прымета канфэсыйная: „вера руская і польская" — зьяўляюцца лініяю падзелу ў шмат якіх галінах грамадзкага жыцьця.

Ясяноўка — характэрны прыклад долі ці лепш нядолі нашага народу. У XVII ст. жыло ў вёсцы 31 сем'яў—каля 255 душ. У XVIII ст. было толькі каля 90 жыхароў. З раней асеўшых людзей мала хто астаўся, сустракаем у сьпісках усё новыя прозьвішчы. Розныя войны дзяржаўныя і „няціхоты" хатнія паміж панамі, розныя пошасьці пакідалі парожнія вёскі, а народ нейдзе прападаў. Сьлед пасьля такіх войнаў быў заўсёды пэўны адзін, што работа на землях каралеўскіх ці панскіх аставалася меншай колькасьці людзей. Галіта прыганятых, культурная адсталасьць— гэта прыметы, без якіх ня можна сабе ўявіць колішняга селяніна беларускага.

Не ўваходзячы ў прычыны, якія выклікалі акт 1861 г., канец паншчыны быў і ў Ясяноўцы пачаткам новае пары. Яшчэ ў 1823 г. на 30 хатаў у вёсцы ў 14-ці жыло больш чымся 5 асобаў, а ў пяці хатах больш чымся 9 людзей. Яшчэ ў 1862 г. толькі дзьве жанчыны маюць больш чымся 60 гадоў, няма ніводнае старэйшае за 70 гадоў. Хаты найчасьцей курныя, халодныя. З лесам у Сакольшчыне скупа ўжо ў пачатку XIX ст. З канцом прыгону—можна сказаць яркая перамена ўва ўсіх галінах жыцьця. Праўда, за апошніх 40 гадоў мала павялічыўся лік насельніцтва ў вёсцы. Шмат народу йшло ў Амэрыку на эміграцыю. Эміграцыя з Сакольшчыны тым вызначалася, што вялікі працэнт эмігрантаў аставаўся назаўсёды ў чужой старане, з прычыны перанаселенасьці свае тэрыторыі. Сяньня на 1 кв. клм. жыве тутака 54 людзей, а сярэдне на адзінку выходзіць 1,85 гэктара зямлі. Пры ніжэй сярэдняй якасьці зямлі, пры ніскай культуры земляробскай цяжка жыць. Эміграцыя не парывае лучнасьці са сваімі. Эмігранты сваім капіталам, ці лепш казаць, апошнімі грашамі, заробленымі на амэрыканскіх фабрыках, спрычыняюцца да амаль поўнае ліквідацыі буйнае ўласнасьці ў Сакольшчыне. Сяньня, можна казаць, панскіх двароў амаль што зусім няма ў Сакольшчыне.

Асьветы публічнае ў раёне Ясяноўкі да канца XIX ст. ня было. Нармальную школьную акцыю бачым пачынаючы толькі з 1900 г. Да вайны дзяўчат у школу хадзіла вельмі мала. Хлапцы, і тыя, лучалі найчасьцей у паваротны анальфабэтызм. Прыватныя „школы" былі лепш наладжаны. Патрэба ўмець маліцца з кніжкі (папольску) вяла да таго, што кожная вёска мела свайго „дарэктара", які вучыў дзяцей. Дырэктарам быў найчасьцей пастыр, які ўлетку ў той самай вёсцы гнаў авечкі ў поле. Ад пары да пары дырэктарам быў чалавек бывалы па сьвеце. Абойм навукі ў такіх прыватных школах быў абмяжованы і вуска „спэцыяльны". Найчасьцей вучань умеў чытаць выключна на сваёй кніжцы да набажэнства. Школьны прымус пасьляваенны паправіў сытуацыю. Сяньня Ясяноўка мае 35,3 прац. анальфабэтаў. Асьвета публічная пасьляваенная даволі аднабокая. Хопіць сказаць, што ў павеце няма ніводнае сельска-гаспадарчае школы, няма школы гандлёвае, няма ўмоваў да таго, каб моладзь магла знайсьці выхад з вёскі. Эміграцыі пасьля вайны няма. Пры комасацыі ўжо зробленай, ці якая сяньня рэалізуецца, няма ніякае гутаркі аб надзеле зямлёю. Няма скуль яе ўзяць. Пэрспэктывы эканамічныя вёскі на будучыню вельмі цяжкія. Перанаселенасьць кліча аб патрэбе шырокіх плянаў і неадкладнае іх рэалізацыі.

Сьведамасьці нацыянальнае беларускае масамае няма. Няма затое ніякае іншае. Няма, можна казаць, і сьведамасьці палітычнае. Ясяноўка, як і ўся Сакольшчына, жджэ, быццам тая зачараваная каралеўна, свае пары і таго слова, якое скране да поўнага жыцьця. Дагэтуль народ жыве з дня на дзень, цікуючы аб вельмі дробных праблемах, ня выходзячы за межы свае вёскі ці парафіі. Народ ня верыць у свае сілы, глядзіць з недаверам на ўсё навакольнае. Змаганьне палітычных партыяў польскіх ня

выклікае рэха. У найбольш гарачую пару калатні соймавых партыяў людзі кінуўшы картачку на адзін са шматлікіх нумароў больш ня цікавіліся, каго выбралі, які лёс сабе яны нарыхтавалі.

Дзівіцца ня будзем з такіх адносінаў. Народ вякамі стагнаўшы ў паняволеньні, прыгоне не паражыў патрэбнага ўздойму пачуцьцёвага, не ўяўляе рэальнасьці сучаснага палітычнага ладу. Аб адносінах да ўлады, аўтар гаворыць даслоўна: „могуць уладзе падпарадкавацца ці проці яе бунтавацца, не разумеюць яе"... (бачына 203).

З дзейнікаў, якія беспасярэдне ўплываюць на перамену такога становішча, аўтар спыняецца над школаю, асьветаю зашкольнаю і прэсаю. Нічога ня кажа аб адным яшчэ магутным дзейніку — касьцёле і царкве. Агулам, аўтар не дацэнівае ролі гэных конфэсыйных установаў. Мы мусім сказаць, што шлях нармальнага разьвіцьця ўсіх чатырох дзейнікаў працуе на першы пагляд проці нас. Будучыня пакажа, наколькі мы будзем жывучы ці на колькі зможам проціставіцца ў плошчы канкрэтнае саліднае работы культурна-асьветнае.

Народ у Ясяноўцы вельмі ашчадны. Ашчаднасьць між іншым праяўляецца ў шмат якіх хатніх абычаях, вопратцы, ежы і г. д. Церазпалосіца ад вякоў прымушае да канкрэтнага ладу жыцьцёвага. Аснаўным пасілкаваньнем будзе не абед, як гэта прынята ўсюды, а сьнеданьне. На абед было-б лішне далёка варочацца з поля да хаты, часта за 4—5 клм., дык гаспадыня варыць адзін раз раніцаю, а палуднуюць у полі. Лета — гэта аснаўны сэзон, сьляды якога наглядаем у агульным ладзе хатнім і гаспадарчым.

Ашчаднасьць дрэва, форма печак — вось яшчэ прычыны такога, а ня іншага ладу. Кухня вельмі скромная і аднабокая. Стравы мала мяняюцца ў розных сэзонах. Кухня багатых гаспадароў (багатым завецца ўласьнік 8—12 гэктараў) аднолькавая з суседзямі бяднейшымі.

Форма гаспадаркі прымітыўная. Можна казаць, што лад заведзены валочнаю ўстановаю з 1557 г. датрываў да нашых дзён. Сучасная комасацыя заводзіць новы лад, які ў шмат у чым розьніцца на лепшае ад таго, што было дагэтуль. Сяньняшні гаспадар розьніцца ад свайго прадзеда, што не гарэ валамі ды сахою, а карыстаецца плугам ды канём, што мае спранжыноўку замест ці побач дзераўлянае бараны ды мо' яшчэ тым, што сее лубін і сэрадэлю. Ясна, што і гэта поступ, толькі што як трохпалёўка заядала 100 і 200 гадоў, гэтак заядае яна і сяньня. Сыстэма гэная раўняла гледзячы на горшых і на горшае, а не на лепшых.

Рабочую вопратку шыюць з самадзелу. Сьвятам маладое пакаленьне апранаецца ў фабрычныя „гарнітары". Хусьця на-цельнае і пасьцельнае сваё кужэльнае. Зьверхняя цёплая вопратка саматканая, са свае воўны, а кажухі са сваіх авечак.



Адным з характэрных рысаў у людзей, паводле аўтара, што быццам кідаецца ў вочы, — гэта малы культ традыцыі, нахіл прымаць усё чужое. Гэная свомасьць праяўляецца ў мове, абычаях, вопратцы ды агулам усюды. Гэтым аўтар хоча паясьніць, чаму Сакольшчына бедная песьнямі. Чужое, хай мала зразумелае, трымаецца, паводле яго, вельмі моцна, яно, думаюць, нейкае лепшае. Побач слоў выказываючых такі пагляд, гаворыць зараз далей, што ў важнейшых мамэнтах — вясельле, хрэсьбіны, памінкі і г. д. — толькі старадаўнія песьні здаволіваюць пачуцьцёвыя патрэбы народу. Новыя ні зьместам, ні рытмам, ні агульным характарам ня могуць знайсьці тых нясьведамых, таёмных шляхоў, што адчыняюць душу і сэрца чалавека.

Лішне мала складаным прыдаецца аўтару характар людзей, калі ён робіць вывад з міралюбівасьці, лагоднасьці аб безхарактарнасьці. Аб прысутнасьці характару гаворыць вельмі красамоўна тое, што гэны народ астаецца верным сабе. Часта гэнае „сваё" яшчэ нявыяўлена, яшчэ не перажыта, агульна аднак стаіць на старожы якга ўсіх найважнейшых традыцыяў. Прысутнасьцю гэнага „нечага" можа паясьніць і „аполітычнасьць" і „грамадзкасьць" і тыя абыякавыя пагляды на навакольнае жыцьцё.

Аўтар гаворыць, што Ясяноўчане не салідарныя, што любяць яны пасьмяяцца адны з адных і г. д. Паклікаецца тутака на рознае этнічнае паходжаньне жыхараў, а адсюль ідзе нейкая расавая варожасьць.

Асабіста ведаю добра іншыя раёны Сакольшчыны, з тым самым складам насельніцтва, што ў Ясяноўцы. Ня мог бы дзеля гэтага падзяліцца з Крыштофікам, каб этнічна розныя элемэнты былі дасюль нечым характэрным для Сакольшчыны. Суседзкія спрэчкі, калатні, часамі суды — гэта выплад абставінаў, у першую чаргу гаспадарчых, між іншым тае самае няшчаснае церазпалосіцы, якая мо' больш як дзе нязносная. Вёскі скамасаваныя, дзе такім чынам „высахлі" крыніцы спрэчак,—доказам добрых суседзкіх суадносінаў.

* * *

Спыніўся я над некаторымі праблемамі з кніжкі інж. Крыштофіка. Як казаў я вышэй, аўтар цікаваў прадусім аб праблеме зямельнай і ў першай чарзе аб комасацыі і ейных сьледамках на зямлі і гаспадарцы. Сам Крыштофік сын вёскі, аб якой піша. Трэба сказаць, што найчасьцей добра ён яе разумее і хаця ўважае сябе за Паляка ўмее шчыра і аб'ектыўна расказаць усё аб сваёй старане ад самае далёкае мінуўшчыны, наколькі дазваляе на гэта гістарычны матарыял. За праф. Шраммам, у якога пісаў сваю працу інж. Крыштофік, трэба згадзіцца, што асабліва беларусам пры складзе нашае нацыянальнае гаспадаркі зьяўляецца небходнасьцю разбудова новае галіны — *соцыёлёгіі сельскае гаспадаркі*. А мы нажаль так вельмі мала ведаем аб сабе.

*Др. Ст. Грынкевіч.*

# У Панарах

Недзе плачуць калёсы за бродам,
нізка зьвіс неба сіні дыван;
праз імглу, на агонь мой, з усходу,
цяжка зморaны йдзе караван.

— Гэй, адкуль, — мо' з далёкага краю,
дзе прастор стэпаў ў сонцы гарыць?!—
Драмадэры нагамі ўзрываюць
ціха жвір падарожнай зары.

І мінаюць оазы сівыя —
каб шлях зорны з вачэй ня згубіць.
І ў даль цягнуцца доўгія шыі,
і калышуцца ветрам гарбы...

— Гэй, за вамі ўжо шлях залаціцца...
ня мінуць вам, да сонца, граніц
беларускіх зямель і крыніцаў!
Ці-ж ня лепш затрымацца, спачыць?..—

Паднялася імгла белай хмарай...
Не вярблюдаў ў далі караван,
а ланцуг ўсхваляваных Панараў
і лясоў залаціцца дыван.
1937.

*Максім Танк*

---

# На далёкіх курганох

Зорныя сыгналы —
яркія агні —
недзе заігралі
ў сіняй шырыні.

Нехта выліў звонка
песьню на траву —
там сасна з сасонкай
хіляць галаву.

І на тых курганах
будуць кветкі ныць,
будуць кожны ранак
гнуцца палыны.

Хіба сонца з касаў
вытча палатно —
на зялёных росах
гурбу дываноў.

Ды на родных гонях
зашуміць быльлё,
ў шэрым пераззвоне,
што за волю лёг.

*Анатоль Іверс*

---



# МІКАЛАЙ РЭРЫХ

Сёлета восеньню ўвесь міжнародны культурны сьвет сьвяткаваў 50-лецьце мастацкае працы Мікалая Канстантынавіча Рэрыха, дзеяча зусім надзвычайнага, — сусьветнага маштабу і размаху. Лічым небезкарысным пазнаёміць нашых чытачоў з гэтай запраўды-ж задзіўляючай, блізу легендарнай ужо за жыцьця асабістасьцю, тымбольш, што некаторымі рысамі сваей дзейнасьці слаўны расейскі, а цяпер міжнародны мастак, датыкаў краіны, жыцьця і душы нашага беларускага народу.

Змалку Рэрых праводзіў вакацыі ў бацькавым маёнтку ў Пецярбурскай губэрні і на ўсё жыцьцё палюбіў сумную, але магутную прыроду паўночнай краіны, якая так падобная да нашай беларускай прыроды. Тут мастак на ўсё жыцьцё атрымаў у дар ад маткі-прыроды тую „цягу зямную", тую неразрыўную сувязь з зямлёю, без якое наагул няма мастака, няма наагул запраўднага творца, дзеяча на зямлі, дый якая так цесна радніць мастака з душою беларускага хлебароба. Гэтая, змалку пакаханая, паўночная прырода і зрабіла з Рэрыха таго мастака *паўночнага краявіду*, які здабыў сабе першае прызнаньне, а неўзабаве і славу ўва ўсім сьвеце.

Далейшы ход разьвіцьця мастака таксама страшэнна цікавы для беларускай сьведамасьці. Малады мастак вучыцца ў Пецярбурскай Акадэміі Мастацтва, запаляецца палкай любоўю да *роднай мінуўшчыны*, якая была ў расейскім сьвеце наагул у паніверцы. Тэмы роднай мінуўшчыны цалком захопліваюць мастака. Ён робіцца археолёгам, гісторыкам, вывучае летапісы, архівы, разрывае курганы, зарываецца ў нетры роднай зямлі, стараючыся з усяго гэтага матарыялу, гэтых абрыўкаў і абломкаў мінулага, ад веку памёршага жыцьця — ўскрасіць яго йзноў, вярнуць да жыцьця, адтварыць яго красу ў сваім мастацтве.

І гэтая *творчая любоў да роднай зямлі і яе мінуўшчыны* зрабіла запраўднае чуда ўскрашэньня памёршага жыцьця. Мастак творыць цэлы рад вялікіх абразоў, ускрашаючых гэтую быццам памёршую мінуўшчыну да новага жыцьця— у *новай вопратцы, пераабражанай мастацкай красой, прыбранай кветкай легенды.*

Праз гэтыя абразы, створаныя геніем і любоўю мастака, ускрошаная мінуўшчына рабілася *жывою сілай, якая ўладна ўваходзіла ў сьведамасьць грамадзтва і народу, робячы з іх адзіны, суцэльны, зьвязаны ня толькі ў прасторы, але і ў часе—арганізм нацыі...* Хто-ж з беларусаў ня чуе, як патрэбна такое-ж мастацтва і для нашага народу. Ёсьць, праўда, і ў нас, але-ж толькі зачаткі, яшчэ вельмі слабыя, такога чудатворнага мастацтва, маючага ад Бога і прыроды ўладу і сілы вызваляць ад сьмерці, вяртаць да жыцьця нашую мінуўшчыну, якая—няпраўда, што быццам памёрла: яна толькі сьпіць, дый сьпіць, зусім жывая, як князёўна у байцы — *у нас самых, у нацыянальнай душы народу, у творстве яго мастакоў, паэтаў, пісьменьнікаў, дый можа прач-*

*нуцца ў кожны мамэнт да новага жыцьця, каб ізноў новымі сіламі прошлага тварыць і сучаснасьць і будучыну народу і яго краіны....*

Ня будзем тутака пералічаць гэтых цыкляў абразоў Рэрыха, даўшых яму славу — ня толькі ў Расеі, але і далёка за яе рубяжамі. Адзначым толькі, ізноў для беларускага чытача спэцыяльна, што тое мінулае жыцьцё, якое ўваскрашаў і адтвараў у сваім мастацтве Рэрых, было зусім ня выключна расейскае, не — яно было ўзначнай меры *агульна-славянскае,* прынамсі — *усходня-славянскае.* Такім чынам, і ў мінуўшчыне гэтай творства Рэрыха закранала беларускі сьвет.

Трэба цяпер асабліва падчыркнуць тую галоўную рысу, якая адзначала творства Рэрыха ў галіне яго *гістарычнай жывапісі.*

Гэтая асаблівая рыса — *позытыўны, багаслаўляючы, узьвялічваючы характар творчага падыходу мастака да адтворанага ім жыцьця, які імкнецца падчыркнуць і адтварыць абсалютную, нясумніўную самацэннасьць гэтага жыцьця, яго „сьвяшчэнную паважнасьць“,* паводле слоў Гётэ.

Зразумела, што ў гэтым узьвялічэньні, павышэньні жыцьця — наагул задача запраўднага мастацтва, якая радніць яго з *рэлігіяй.* Бо-ж якраз гэтае мэтафізычнае падвышэньне, усіленьне і ўзьвялічэньне ўсіх функцыяў нашай разумнай сьведамасьці, нашай душы — праз зблізжэньне яе з надпрыродным зарубежным сьветам — складае асноўную псыхолёгічную ці пэдагогічную задачу рэлігіі, як гэта высьвятліў нямецкі філёзаф Віндэльбанд.

І вось, у Рэрыха гэтае „узьвялічэньне“ адтваранай ім у мастацтве прыроды, гэтая яго „сьвятарная павага,“ гэты яго быццам жрэчэскі падыход да сваіх мастацкіх тэмаў — маюць асабліва „рэлігійны“ характар. Дзеля таго яго абразы маюць такую запраўды-ж „сьвяточную“ вопратку, такі быццам — „богаслужэбны“ характар. Лёгка зразумець, якое вялізарнае *ўзгадаваўчае наагул, асабліва-ж нацыянальна-узгадаваўчае значэньне мае гэтае творства вялікага славянскага мастака,* дый — як такое мастацтва патрэбна і нам, беларусам...

У сувязі з гэтай аснаўной рысай рэрыхаўскага мастацтва вельмі цікаўна прывесьці пару-другую думак мастака з галіны *тэорыі* ці *ідэолёгіі мастацтва,* бо-ж трэба ведаць, што Рэрых быў ня толькі мастак пэндзля, але вельмі сільны, орыгінальны і глыбокі мастак пяра, а цяпер, як даведаемся больш падробна далей, ён стаў адным з самых орыгінальных мысьліцеляў сьвету, прызнаным духоўным правадыром сярод найбольш культурных, асабліва — англа-саскіх народаў сьвету.

— Крыніца творства, піша Рэрых, гэта ёсьць *сэрца.* Сэрца ёсьць сонца ў чалавеку, як сонца ёсьць сэрца сусьвету. І вось якраз роля сэрца ў нас так страшэнна прыніжана, падрэзана нажом аналізуючай навукі. Трэба, каб сэрца творчай любоўю сцаляла тое, што парэзала — дзеля веды — навука. Зтуль плыве творства.— Дух чалавечы шукае яркіх каляровых вопратак,



бо-ж гэтыя „колеры рэчаў памагаюць нашай духовай вопратцы запаліцца ярчэйшым сьвятлом.“ Мастацтва вядзе нас на *„сьвята пашыранай сьведамасьці,“* бо-ж якраз у стане гэтай пашыранай сьведамасьці — натхненьня — творыць мастак свае творы...

26.XI.37. на сьвяткаваньні угодкаў „польска-беларускага“ паэта Сыракомлі шырака ведамы і беларусам, праф. М. Зьдзяхоўскі, дасканалы знаўца сусьветнай, ясна-ж, і польскай літаратуры, паўтарыў сваю лекцыю аб гэтым паэце. Праф. Зьдзяхоўскі, першы з польскіх крытыкаў, угледзіў вялікія вартасьці ў паэзіі Сыракомлі, адзначыўшы ў ім яго *беларускую душу, незразумелую для душы польскай.* Незразумелая яна таму, што *яна сумная,* як сумны і краявід беларускай прыроды. Гадоў больш дзесяці таму, праф. Зьдзяхоўскі выпусьціў сваю першую лекцыю аб Сыракомлі ў асобнай кніжцы. На апошнюю адазваўся адзін з беларускіх крытыкаў, Суліма, які далікатна закінуў паважанаму аўтару, што ён лічыць ня толькі мастацка-пекным, але і ў некаторай меры „нармальным“ гэты глыбокі сум у беларускай душы. . Крытык Суліма даводзіў, што сум наагул атручвае душу, забівае яе творчыя сілы, а ў кожным разе зьяўляецца адбіцьцём *ненармальных варункаў жыцьця народу, з якога выходзіць такі наскрозь сумны паэт...*

Дык трэба ставіць усю справу і глыбей і шырэй, не „статычна“ і эстэтычна, захопліваючыся „красой выражэньня гэтага суму,“ але — *дынамічна, грамадзка, нацыянальна — як праблему198 пэратварэньня тых варункаў народнага жыцьця, якія атручвалі вякамі гэтым сумам жывую творчую душу народу...*

Успамінаем аб гэтым нашым „нацыянальным суме“ у зьязку з тым магутным „тонусам“ сьветлай, бадзёрай радасьці і сілы, які разьліты ў мастацкім творстве Рэрыха — нават у яго адтварэньні краявідаў яшчэ больш сумнай і прыгнятаючай паўночнай прыроды. Рэрых запраўды-ж як быццам пацьвярджае тэзы крытыка Сулімы, які трэбаваў, каб той „дух“, які прыходзіць на помач душы народу, паняволенай сумам роднай прыроды, меў сілу *перамагаць гэты сум, зьністажаць яго атруту, пэратвараць яго ў радасьць перамогі і вызваленьня з „паншчыны прыроды,“* да якой заўсёды далучаецца, як ведама, і паншчына соцыяльная... Мастацтва Рэрыха — запраўды-ж найлепшая школа для нашых мастакоў, якія павінны, праўдзіва адтвараючы нашу родную прыроду, *не паддавацца суму, але якраз сваім мастацтвам пэратвараць яго ў радасьць мастацкай перамогі,* — як гэта патрапіў рабіць Рэрых...

* * *

Другі мамэнт сутычнасьці Рэрыха з беларускім сьветам, які трэба адзначыць нам тутака, датычыць яго працы ў слаўнай у свой час — ня толькі на ўсю Смаленшчыну, але і на ўсю Эўропу — *школе народнага мастацтва ў Талашкіне.* Што-ж гэта Та-

лашкінская школа? Талашкіна—маёнтак княгіні Тэнішавай, у якім яна залажыла і ўтрымлівала гэную школу. Школа мела заданьнем, злучыўшы творства народных мастакоў у галіне рознага роду „кустарнай“ прамысловасьці, ці народнага вырабніцтва з творствам найлепшых мастакоў расейскага культурнага сьвету, *падняць творчую працу народу ў гэтай галіне на вышэйшы ровень— запраўднага прыкладнага мастацтва.*

Рэрых пламенна запаліўся думкай кн. Тэнішавай і шмат папрацаваў у яе школе, у якой вучыў сялянскіх хлапцоў і дзяўчат, рысаваў і маляваў для іх найлепшыя узоры тканін, вышывак, модэлі мэбляў і розных іншых рэчаў дамовага прыбору і ўжытку, укладаючы ў іх мастацкую красу. Гэтая праца добра адказывала яго ўласнай думцы аб тым, што *жыцьцё трэба рабіць харошым — ня толькі ўнутраным зьместам, але і вонкавай формай.* Разам з Рэрыхам у школе Тэнішавай працавалі найвыдатнейшыя мастакі, паміж іншымі і наш віленчук—Бакст, што выводзіцца з тутэйшай купецкай сям'і.

Ажыўляючая гэную дружную сям'ю творчая ідэя — *злучэньня дзеля супольнага творства сялянскай „землянай сілы“ і высокай меставай культуры,* каб разам супольнымі сіламі тварыць *нацыянальную красу і сілу* — была вельмі блізкай Рэрыху, які, як сказана вышэй, ніколі не адрываўся ад *зямлі і ад яе найбліжэйшага да зямлі соцыяльнага слою — земляроба...*

* * *

Трэці раз сутыкнуўся Рэрых з беларускім сьветам у 1904 г. у часе свайго грандыёзнага аб'езду ўсіх галоўных архітэктурных цэнтраў тадышняй Расеі. З гэтага аб'езду Рэрых вывез вялізарную масу „архітэктурных нарысаў,“ зарысовак — пераважна з галіны монумэнтальнага будаўніцтва — царкоўнага і палацовага. Быў ён тады, зразумела, і на беларускай зямлі, і ў беларуска-літоўскіх местах, быў у Вільні, Троках, Горадні, Коўне, Магілеве і інш., адкуль вывез шмат этюдаў. Цяжка пералічыць, колькі „адкрыцьцяў“ для расейскага мастацкага сьвету зрабіў тутака Рэрых, падглядзіўшы сваім вострым зрокам і схапіўшы быстрай рукой мастака несьмяротную красу гэтага будаўніцтва на нашых землях.

* * *

Трэба адзначыць яшчэ раз сутычнасьць творства Рэрыха з беларускім сьветам,—гэта ў яго пазьнейшых абразох, у якіх ён ізноў вяртаецца *да працы земляроба — да сялянства.*

Прадчуваючы ўжо вайну, рэвалюцыю і развал сваей роднай Бацькаўшчыны, чаго мастак даў нязвычайна яркія довады ў сваіх прароча-сымбалічных абразох, Рэрых — таксама прароча, як Лявон Талстой — зьвяртаецца, каб абапёрціся духам і верай, — *да тых аснаўных элемэнтаў і вартасьцяў на зямлі, якіх ня можа зьніштожыць, ні „перавярнуць“ ніякі пераварот, ніякая рэвалюцыя — да селяніна-хрысьціяніна і яго сьвятой працы на зямлі.* Тут перажыўшы ў нетрах свайго прароча-творчага духу глыбокі крызыс, мастак знаходзіць як-быццам *найбольш моцную і трывалую сынтэзу неба і зямлі, непераможную ні для якой руйнуючай сілы ўва ўсім сьвеце.* Стуль — цэлы рад абразоў, узьвялічываючых рэлігійнай верай гэтую, так сказаць, *вечную „богохранимость“ на зямлі працуючага земляроба..* На гэтых, запраўды-ж цудоўных па сваей сьветлай, залатой сьвяточнасьці, абразох мастак адтварае гэты вечны, ідэальны сьвет сялянскай працы на ральлі, у якой чыннае ўчасьце прымаюць... і хрысьціянскія сьвятыя, а нават сам Бог, і Хрыстос, і Божая Матка.. На абразе „Тры Радасьці,“ прыкладам, — у цэнтры шчасьлівы гаспадар-селянін, з яго дваром, а навакол — на нівах і па лугох— сьв. Ільля зажынае жыта, сьв. Мікола пасе кароў, сьв. Юры сьцеражэ коні... Увесь абраз быццам заліты „залатой ласкаю Божаю“, як у царкве, ці ў касьцеле, якая ліецца з неба, з сонца на густое, цяжкае, ядраное жыта, на статкі, што пасуцца навакол, на лугі і нівы, што раськінуліся па ўзгорчатых прасторах наўкруг двара. Краявід блізу цалком беларускі... Мала таго: *беларускім зьяўляецца тут і ўнутраны зьмест абраза, бо-ж ён ёсьць якбыццам адбіцьцём адвечнай „рэальнай, працоўнай рэлігіі“ нашага беларускага хлебароба, які таксама — ў сваіх калядках і шчадроўках „змушае“ ўсіх сьвятых, ня выключаючы і самога Хрыста з яго сьвятою Маткай, працаваць з потам на чале, памагаючы яму ў яго цяжкай працы на зямлі...*

Але, жывапісуючы ярка і глыбака гэтыя „трыумфуючыя сугуччы“ зямлі і неба, усю гэтую „нярукатворную красу“ адвечнага сялянска-славянскага ідэалу, Рэрых не абмежыўся — у сваім сьветапачуцьці — толькі адным бокам—оптымістычнай сьвятарнасьці. Не, яго гэны рэлігійны оптымізм, як сказана, — глыбока-выстраданы, а таму зусім ня робіць уражаньня плыткасьці і лёгкасьці „мастацкага казаньня.“ Довадам гэтага доўгі рад абразоў, у якіх мастак няменш глыбака і ярка адмаляваў другі адваротны бок адвечнай веры славянскай душы: цёмны, жудасны „сьвет цемры,“ які выпаўняе гэтую душу жахамі перад няпераможанымі яшчэ для яе, злымі сіламі славянскай прыроды і сялянскай грамадзкай стыхіі, варожымі да жыцьця, працы і шчасьця чалавека.. І тут ізноў — зазіўляючая блізкасьць да нашага беларускага, нажаль, больш, як толькі казачнага сьвету. Даволі успомніць хаця-б цэлы аддзел у паэтыцкіх творах нашай паэткі Натальлі Арсеньневай, пад загалоўкам „Зачараваны Кут“... Гэная сэрыя абразоў Рэрыха якбыццам дасканальна дапасаваная ілюстрацыя да гэтых твораў Арсеньневай...

—о—

Мы зрабілі вышэй кароткі перагляд усіх тых „стыкаў,“ якія лучылі творства аднаго з найвялікшых расейскіх мастакоў з нашым беларускім сьветам.

На заканчэньне, каб паказаць нашым чытачом, з кім яны тутака мелі да чыненьне, якога маштабу ды размаху — ня толькі мастак, але *чалавек,* стаіць перад імі ў нашым слабым адлюстраваньні, дамо яшчэ кароткі нарыс таго, што зроблена Рэрыхам — пасьля таго, як ён, з болем і сумам пакінуўшы родную Бацькаўшчыну, выехаў на чужыну.

Праз Азію Рэрых едзе ў Амэрыку, якая ўжо поўна была яго славай. У 1921 г. ён закладае ў Нью-Іорку „Міжнародны Мастацкі Цэнтр“ — (*Corona Mundi*), у 1922 г. асновывае там-жа свой знамяніты цяпер „Інстытут Злучаных Мастацтваў“ з „Музэям Рэрыха.“ Наколькі даверу ды энтузыязму выклікае ў Амэрыцы імя Рэрыха, відаць з таго, што, прыкладам, Інстытут і Музэй Рэрыха, які ў 1922 г. мясьціўся ў адным пакоі, *свае дзесятыя ўгодкі сьвяткаваў ужо ў уласным „небаскробе“ — у двццаць дзевяць паверхаў...* У музэі сабраны мастацкія творы *усіх народаў сьвету, а ў першую чаргу, зразумела-ж, родных самому закладчыку славянаў.* Інстытут і Музэй Рэрыха утрымлівае *Цэнтральнае таварыства імя Рэрыха ў Нью-Іорку, якое мае свае аддзелы,* ці ў запраўднасьці блізу што самастойныя Таварыствы ім. Рэрыха, *раскіданыя па ўсім сьвеце.* 4 гады таму назад гэткія таварыствы існавалі ў 26 дзяржавах Эўропы, Амэрыкі, Азіі, нават Аўстраліі — у лічбе 7 дзесяткоў. Агульная і супольная мэта ўсіх гэтых Таварystваў, зьвязаных з імем Рэрыха, пашыраць яго *аснаўную ідэю— аб рэлігійнай сіле і важнасьці мастацкай красы ў жыцьці чалавека.* Калісьці расейскі мастак мысьлі і слова, Дастаеўскі, сказаў, што *„краса спасе сьвет.“* Гэтую думку Рэрых разумее зусім рэальна, як мастак, які якраз рэальна творыць гэтую красу сьвету для нашых вочаў і нашых душаў Таварыствы Рэрыха маюць мэтай *арганізацыю асяродкаў мастацкай культуры, дый захаваньня ўсіх твораў мастацтва, якія ўспадкаваны сучаснымі народамі ад іх мінуўшчыны.*

Але пачын Рэрыха — у справе аховы памятак культуры і мастацтва на ўсім сьвеце пайшоў яшчэ далей. Па яго думцы адбыліся ў 1931 і 1932 гг. спэцыяльныя міжнародныя канфэрэнцыі — дзеля разгляду і прыняцьця апрацаванага Рэрыхам у супрацоўніцтве з найвыдатнейшымі праўнікамі Эўропы *спэцыяльнага міжнароднага „пакту“, ці дагавору, які меў-бы заданьне зрабіць ахову памятак культуры, сусьветна арганізаванай і забясьпечанай у міжнародным парадку.* На гэных канфэрэнцыях прыняты быў аднагалосна гэны „пакт,“ якому дадзены назоў яго ініцыятара — Рэрыха, а таксама была закладзена *Міжнародная Ліга Культуры.* Абедзьве гэтыя інстытуцыі — *і „пакт Рэрыха“ і яго „Ліга Культуры“ — зацьверджаны ўжо Лігай Нацыяў, дый— у цэлым радзе дзяржаў сьвету над усімі будынкамі, дзе зьмяшчаюцца творы мастацкай культуры,* як *музэі, акадэміі, галерэі абразоў, выстаўкі і т. д, — павяваецца ўжо і спэцыяльны „сьцяг міру,“* які ахоўвае іх, так-сама, як у часе вайны ахоўвае шпіталі ды бальніцы з раненымі — сьцяг Чырвонага крыжу...

—o—

Але і на гэтым ня спыніўся яшчэ бязупынны духоўны рост слаўнага славянскага мастака. У 1924 г. Рэрых арганізуе шырокага размаху экспэдыцыю ў Азію. Яго грандыёзны аб'езд „сьвятых месцаў“ усіх азіяцкіх найстарэйшых рэлігіяў трываў звыш 5 гадоў... Апроч нязьлічанай масы рознага роду калекцыяў для свайго музэю, Рэрых прывёз з гэнай падарожы вялізарную колькасьць абразоў, краявідаў, у галіне якіх ён зьяўляецца мастаком над мастакамі. „Сьвятая Азія“ — сваей старасьвецкай душой, незразумелым ужо для заходняга эўрапэйца духам яе рэлігіі і мастацтва, зрабіла на Рэрыха вялізарнае ўражаньне. Ён ужо ня мог адарвацца ад іх асаблівай красы, і даў яе выражэньне ў сваім новым творстве. Мастацкае творства Рэрыха, як і яго ўся творчая душа, паднялося на рубежную вышыню *рэлігійнага духу.* Мастак стаўся *„тэургам,“ які ўладна ператварае — з ласкі Божай — у красу акружаючую прыроду, „збаўляючы красой сьвет,“ а ў ім і чалавечую душу ад усялякага страху і жаху перад цёмнымі сіламі жыцьця.*

Але і на гэтым яшчэ не канец таму, што зрабіў Рэрых. Заехаўшы у Індыю, ён пабачыў там Гімалаі... Гэта-ж ёсьць, як ведама, найвялікшы горны хрыбет на ўсім сьвеце, з найвышэйшымі вяршынамі... Рэрых адразу пачуў, што тут якраз родная яго духу вышыня і ўжо адарвацца ад гэных Гімалаяў ня мог... Тут, у месьце Сіккім зрабіў Рэрых сваю другую пасьля Нью-Іорку сталую сядзібу. Згэтуль большая палавіна яго нявычарпанай энэргіі аддаецца ім на гэтую яго „трэцюю бацькаўшчыну,“ калі лічыць першай Расею, а другой Амэрыку... Тутака, у даліне Пэнджаба — Кулу, бацькаўшчыне найбольш слаўных духоўных павадыроў Індыі, закладае Рэрых у 1928 г. свой новы знамяніты Гімалайскі Інстытут і Гімалайскі Музэй імя Рэрыха, якія ўжо вырасьлі за апошнія гады ў вялізарныя навукова-дасьледчыя і мастацкія установы, з якімі ня можа раўнавацца аніводная з тых, што створаны англійцамі за часы іх блізу ўжо сталетняга панаваньня ў Індыі.

Рэрых — ня толькі мастак, арганізатар, навуковец, архэолёг, няўтомны падарожнік і т. д. *Ён яшчэ і пісьменьнік.* Кнігі Рэрыха выдаюцца адразу ў *пяцёх мовах: англійскай, расейскай, францускай, гішпанскай і японскай,* а пасьля перакладаюцца і на іншыя мовы.

Галоўная ідэя Рэрыха-пісьменьніка—тая-ж самая, як і Рэрыха-мастака. Гэта—*ідэя красы, якая павінна і можа*—паводле слоў Дастаеўскага—*адратаваць сьвет.* Краса мастацтва—ня збытак, ня роскаш багатых і сытых людзей, але—*прадмет першай патрэбы і неабходнасьці для ўсяго народу, як сьвятло, паветра, хлеб і вада...*

**С.**

# ХРОНІКА

— Ліквідацыі. Віленскі ваявода загадам з дня 20.VIII.37 зьліквідаваў Саюз Беларускіх Вучыцялёў, а Міністэрства Унутраных Спраў у кастрычніку месяцы павядоміла ўлады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускай Школы, што ўтрымлівае ў сіле пастановы Віленскага ваяводы аб ліквідацыі гэтых беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў.

— 16-га жніўня Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні выслаў Ураду Польшчы мэморыял у справе адчыненьня з пачаткам школьнага году беларускага ліцэю ў Вільні. Нажаль, гэткага ліцэю Беларусы ня маюць да сяньняшняга дня.

— Віленскае Гарадзкое Стараства 7.IX сканфіскавала новы зборнік вершаў Міхася Машары — „З пад стрэх саламяных".

— Віленскі Акружны Суд 9-га верасьня судзіў аўтара зборніка вершаў „На этапах" Максіма Танка, і выдаўца зборніка гр. Труцьку. Абое апраўданы. — 20.X Віленскі Гарадзкі Суд меў судзіць аўтара сканфіскаванага беларускага лемантара „Zasieйki" гр. С. Пауловіча. Расправа адложана да часу новага, канкрэтнага сфармуляваньня акту абвінавачаньня, бо дасюлешні пракуратура сфармулявала надта агульна, так, што няведама было, што канкрэтна ў лемантары колідуе з кодэксам карным.

— 2.XI адбылася ў Вільні арганізаваная часапісам „Шлях Моладзі" ўрачыстасьць у чэсьць памяці беларускага пісьменьніка і дзеяча Ядвігіна Ш., ад сьмерці якога сёлета мінула 15 год. На віл. магілках Роса адбылося ўрачыстае адкрыцьце памятніка пісьменьніку, пасьля чаго — ў залі БНА (Завальная 1)—вечар-акадэмія.

— Забаранілі сьвяткаваць „Дзень беларускай культуры". Віленскія беларусы рыхтаваліся адсьвяткаваць 28-га лістапада 1937 г. „Дзень беларускай культуры". Праграма сьвяткаваньня ахапляла адпаведны рэфэрат, дэклямацыі вершаў і канцэртную частку— з выступленьнем ведамага саліста, тэнара Міланскай Опэры, Міхала Забэйды-Суміцкага і хору гр. Рыгора Шырмы. Віленскія дзяржаўныя ўлады адміністрацыі агульнай на гэтае сьвяткаваньне не далі дазволу, матывуючы сваю пастанову „względami bezpieczeństwa publicznego". Арганізатары „Дня беларускай культуры" з увагі на такое становішча адміністрацыйных уладаў прасілі выдаць дазвол толькі на канцэрт, які меўся адбыцца таго-ж 28 лістапада. І гэтая просьба спаткалася з адмовай адміністр. уладаў, з тых самых матываў.

— Дзень 12-га сьнежня ў Вільні быў сапраўднай радасьцю для віленскіх беларусаў. У гэты дзень Беларускі Студэнцкі Саюз сарганізаваў у будынку віленскага ўнівэрсытэту канцэрт, з выступленьнем слаўнага сьпевака Міхала Забэйды-Суміцкага і ведамага беларускага хору гр. Р. Шырмы. Вялікая унівэрсытэцкая заля ім. Сьнядэцкіх, напоўненая народам, хвалявала ад артыстычных эмоцыяў, адначасна пазнаючы вяршыні мастацтва і песельна-музычную культуру беларускага народу. Кожны выкананы нумар праграмы сьпеваком і хорам слухачы спатыкалі гучнымі воплескамі; стварылася сытуацыя, што заля была фармальна ў палоне выканаўцаў а выканаўцы — ў палоне залі. Трэба дзівіцца фізычнай вытрымаласьці артысты Забэйды - Суміцкага — ён утомлены да крайнасьці надпраграмна выканаў на жаданьне раз'энтузыязмаванай залі яшчэ некалькі беларускіх народных песень. — З прызнаньнем падчырківаем удачныя гарманізацыі беларускіх народных песень — маладога кампазытара Аўгеня Еўца, Аладава, Чуркіна, Уладзімерскага, заслужаных для беларускага музычнага творства кампазытараў Грэчанінава і Галкоўскага. Гэты апошні на канцэрце акампаніяваў сьпеваку Забэйдзе-Суміцкаму. Згарманізаваныя пералічанымі кампазытарамі беларускія народныя песьні, прадугледжаныя праграмай, былі выкананыя на канцэрце: Галкоўскага — Вее вецер, народная, Вясна сл. М. Васілька, Чумак, нар., Восень, Кукавала зязюлька, Купалёнка, Цераз сад вінаград, нар.; Грэчанінава — То-то то, нар.; Еўца — Там на ролі, на ральлі, нар., Бульба, нар., Уладзімерскага — У чыстым полі каліна стаіць, нар.; Чуркіна — Ты прыйдзі, сл. Я. Купалы; Аладава — Лета, сл. Янкі Купалы.— Беларуская студэнцкая моладзь, выражаючы ўдзячнасьць выканаўцам канцэрту, пад гучныя воплескі залі— схапіла на рукі і высока гойдала на эстрадзе пачародна — Міхала Забэйду-Суміцкага, пасьля гр. Р. Шырму і праф. К. Галкоўскага. Уражаньні з канцэрту — незабыўныя.

— З Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча. Сярод набытых Музэем за апошнія месяцы экспонатаў на асаблівую ўвагу заслугоўвае вялікая ікона — Хрыстос на пасадзе. Ікона намаляваная на палатне, наклееным на дошцы. Ікона намалявана праўдападобна ў XVII стагодзьдзі няведамым беларускім маляром.

Музэй набыў значную колькасьць абломкаў старых віленскіх кахляў, знойдзеных у зямлі ў ваколіцах Вострае Брамы ў Вільні.

За першыя тры кварталы 1937 году лічба адведываючых Беларускі Музэй, ня глезячы на сыстэматычны байкот яго розными „пшэводнікамі", перавысіла 4,000 асоб.

— У польскім часапісе „Arkady", пасьвячаным справам мастацтва, зьмешчаны ў № 8 цікаўны артыкул віленскага кансэрватара д-ра Півоцкага п. з. „Nieznana kolekcja drzeworytów ludowych". Артыкул гаворыць аб калекцыі народных дрэварытаў у Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. Калекцыю гэту аўтар называе запраўдным скарбам народнага мастацтва, якога нідзе не спаткаеш. Артыкул ілюструюць восем адбітак з найцікаўнейшых дрэварытаў Беларускага Музэю.

— З Беларускага Навуковага Т-ва. Урад Бел. Навук. Т-ва паслаў 12 лістапада 1937 году на рукі прэзыдэнта места Вільні мэморыял, у якім дамагаецца, каб пры вызначэньні новых назоваў віленскіх вуліц, над чым працуе адумысная магістрацкая камісія, былі ўведзены назовы, зьвязаныя з асобамі заслужаных для нашага краю і народу дзеячоў. У мэморыяле пададзена дванаццаць імёнаў, якімі Бел. Навук. Т-ва прапануе назваць віленскія вуліцы:

1. Зофіі Гальшанскай, маткі Ягелёнаў.

2. Рыгора Цамблака, першага асобнага мітрапаліты Вялікага Княства Літоўскага, выдатнага дзеяча ў галіне ўзвышэньня духовае культуры краю.

3. Доктара Францішка Скарыны, перакладчыка Бібліі на беларускую мову і выдаўцы яе, закладчыка першае друкарні ў Вільні і наагул на Усходзе Эўропы.

4. Братоў Мамонічаў, заслужаных віленскіх друкароў канца XVI і пачатку XVII ст. ст.

5. Гэтмана Рыгора Хадкевіча, імя каторага залатымі літарамі запісана ў гісторыі краю.

6. Князя Канстанціна Астрожскага, пераможцы Масквы ў бітве пад Оршай.

7. Князя Мікалая Радзівілла Чорнага, выдатнага прадстаўніка роду Радзівіллаў, які вельмі заслужыўся нашаму краю ў часе рэфармацыі.

8. Льва Сапегі, канцлера В. Кн. Літоўскага, абаронцы правоў беларускага народу, найвыдатнейшага гаспадарственнага дзеяча ў нашым краю ў XVI ст.

9. Уніяцкага мітрапаліты Язафата Вэльяміна-Рутскага, 300-летні юбілей якога адбыўся сёлета.

10. Кастуся Каліноўскага, павадыра паўстаньня 1863 году, якога расейцы пакаралі сьмерцяй на Лукішках, гарачага беларускага патрыёты і будзіцеля нашага народу.

11. Яна Чачота, аднаго з „прамяністых", шчырага працаўніка над падняцьцем народнае культуры, беларускага пісьменьніка.

12. Францішка Багушэвіча (Мацея Бурачка), беларускага паэта, чыннага ўчасьніка студнёвага паўстаньня, які прыймаў актыўны ўдзел у культурным жыцьці Вільні ў 80—90 гадох мінулага стагодзьдзя.

Бел. Навуковае Т-ва ўжо год назад падало падобны мэморыял, дагэтуль ня споўнены, якім дамагалася

названьня аднэй з віленскіх вуліц імем д-ра Францішка Скарыны, пры чым гэтае дамаганьне было вычэрпываюча ўматывавана.

—о—

— „У пушчы Палесься" — гэта новая п'еса народнага паэта Якуба Коласа. П'еса аснавана на аповесьці „Дрыгва" гэтага-ж аўтара. Нядаўна п'еса ставілася ў Віцебскім Гарадзкім Тэатры, пры гэтым спэктакль атрымаў высокую ацэну ў савецкіх тэатральных крытыкаў. П'еса мае вялікія сцэнічныя і артыстычныя вартасьці.

— Рэпэртуар беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатру ў Менску ўзбагаціўся ў бягучым зімовым сэзоне дзьвюмя новымі п'есамі: п'есай „Салавей" З. Бядулі (напісанай паводле такога-ж назову аповесьці пісьменьніка аб сялянскіх рухах у Беларусі ў канцы XVIII ст.) і п'есай „Вочная стаўка" Шніна і бр. Тур (на тэму палітычнай барацьбы ў Савецкай Беларусі). Апрача таго беларускія савецкія пісьменьнікі рыхтуюць для пастаноўкі гэтым тэатрам новыя арыгінальныя п'есы: К. Крапіва рыхтуе п'есу „Партызаны", а А. Клімковіч — „Кацярына Жарнасек" (на тэму жыцьця з часоў прыгоньніцтва ў Беларусі).

— Для мастацка-самадзейных і калгасных драматычных гурткоў выданы сёлета зборнік аднаактовых сатырычных п'ес. У зборнік уваходзяць: „Прымакі" Купалы, „Пралічыўся" Глебава і інш. Для гэтых-жа гурткоў выданы ў перакладзе на беларускую мову: „Жаніцьба" — Гогаля, п'есы Астроўскага: — „Бяз віны вінаватыя", „Ня ўсё кату масьляніца", „Гарачае сэрца".

— Першыя канцэрты Беларускай дзяржаўнай фільгарманіі. 29 і 30 кастрычніка мінулага, бо існуючая некалькі месяцаў, Беларуская дзяржаўная фільгарманія ў Менску наладзіла свае першыя канцэрты музычнай творчасьці беларускага народу, адначасна будучыя паказам посьпехаў і дасягненьняў фільгарманіі. Выконывалі праграму складовыя часткі фільгарманіі і запрошаныя артысты. Аркестр беларускіх народных інструмэнтаў выканаў з цыклю музычнай творчасьці беларускага народу творы беларускіх сав. кампазытараў А. Туранкова і Н. Аладава (Капрычыё — скамплікаваны аркестравы твор). Хор фільгарманіі (у складзе 60 чалавек) выканаў шэраг беларускіх народных песень у апрацоўцы кампазытараў Любана, Туранкова, Копасава, Іванова. У канцэртах бралі апроч таго ўчасьце ведамая салістка, артыстка Менскага Тэатру опэры і балету — Ларыса Александроўская і ансамбль беларускай народнай песьні і танцу. Александроўская выканала некалькі беларускіх народных песень, а ансамбль, апроч песень, беларускія народныя танцы: „Юрачку" і „Лявоніху". — Гэтыя першыя канцэрты менскай фільгарманіі спаткаліся з добрай ацэнай. Трэба адзначыць, што ў склад фільгарманіі, апроч вымененых выканаўцаў канцэрту, уваходзіць вялікі сымфанічны аркестр.

— Дэкада музыкі. У Менску, як і ў іншых гарадох СССР, адбылася ў палавіне лістапада дэкада музыкі, з учасьцем Беларускай дзяржаўнай фільгарманіі, салістаў, артыстаў Тэатру опэры і балету, артыстаў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатру, прадстаўнікоў 2-й усебеларускай (Сав. Беларусь) алімпіяды мастацкай самадзейнасьці і інш. Праграма складалася з творчасьці беларускіх сав. кампазытараў Аладава, Залатарова, Любана, Ціцоцкага, Сакалоўскага, Равенскага і інш., беларускіх народных мэлёдый, песень і танцаў.

— У Менску нядаўна адбылася, арганізаваная Домам народнай творчасьці, 2-я Усебеларуская (Сав. Беларусь) алімпіяда народнай мастацкай самадзейнасьці, з учасьцем каля 2000 сьпевакоў, танцораў, музыкантаў, дэкляматараў, што зьехаліся з 45 раёнаў БССР. На алімпіядзе былі паказаныя розныя віды народнага мастацтва — наўперад песьні, музыка, танцы.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*
*Рэдактар-выдавец: Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Фр. Аляхновіч** — У Капцюрох Г.П.У. Вільня 1937 г.
" 7 літ на Соловках. Львоў 1937 г.
**Tadeusz Turkowski** — Materjały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi, t. II, III, Вільня 1937.
**Leokadia Małunowicz** — De ara victoriae in curia romana quomodo certarum sit, Вільня 1937.
**Sophie Abramowicz** — Etudes sur les hymnes homeriques. Вільня 1937.
**Jeronimas Cicenas:** Dvaruos praistos dienos. Вільня 1937.
**Ateneum Wileńskie**, Rocznik XII, Вільня 1937.
**Українська книга**, VII—VIII, IX—X, Львоў 1937.
**Богословія**, кн. 2—3, т. XV, Львоў 1937.
**Вістнік**, кн. 6, 7, 8, 9, 10, Львоў 1937.
**Рідна Мова**, ч.ч. 6—12, Варшава 1937.
**Назустріч**, №№ 12—22, Львоў 1937.
**Katolik**, č.č. 10—19. Прага 1937.
**Der christliche orient**, кн. 3—4. Мюнхен 1937.
**Sygnały**, №№ 34, 35, 36.
**Kuźnica**, №№ 19—24.
**Polityka.**
**Zorze jutra**, № 1.
**Oriens**, сшыток 6.
**Wiadomości Literackie** № 51.

## Ад Рэдакцыі:

Рэдакцыя ня мае ў сябе кніжкі першай „Калосься" з 1936 г. (усе экзэмпляры разышліся), дзеля чаго ня можа яе выслаць патрабуючым. Зварачваемся да В. П. Чытачоў з просьбай: калі хто можа, хай прышле нам першую кніжку „Калосься" з 1936 г. Узамен атрымае адзін экзэмпляр або два (калі захоча) іншай кніжкі — з тых, што выйшлі з друку, ці з тых, што выйдуць.

